УДК 947.67.-21 Горкі
ББК 63.3( 2Б)
Л 55

Рэцэнзент: А.А.Герасімовіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі дзяржавы і права БДСГА

Мастак Т.А.Гаўрыленка
Фотаздымкі з архіва Горацкага раённага гістарычна-этнаграфічнага музея, М.Ляўцова і У.Ліўшыца.

Аўтар шчыра ўдзячны за дапамогу ў выданні кнігі старшыні Горацкага райвыканкама М.М.Анікееву, Дэпутату Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Т.С.Асмалоўскай, кіраўнікам дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў: С.В. Лабанаву, Ю.У. Чаплянскаму, А.І.Федаровічу, А.А. Кастюшкіну, В.М.Еўціховічу, У.Э. Пятровічу, М.В. Юрчанка, В.М. і І.А. Каральковам, У.М.Гнатюку, А.А.Радчанку.

Л55 Ліўшыц У.М. Горкі: старонкі гісторыі. – Мінск: Красіка-прынт. 312 с.:, іл.16 л.

**ISBN 985-405-384-9**

Апавядаецца пра далёкае мінулае, сённяшні дзень і перспектывы развіцця горада Горкі – раённага цэнтра Магілёўская вобласці, дзе знаходзіцца старэйшая вышэйшая навучальная ўстанова Рэспублікі Беларусь – Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія.

Для шырокага кола чытачоў.

ISBN 985-405-384-9
ББК63.3( 2Б)
УДК 947.67.-21 Горкі

# ПРАДМОВА

***Маім бацькам –***
***Маісею Хаймавічу***
***і Саф'і Давыдаўне***
***прысвячаю***

*Гарады нашай краіны... Кожны з іх мае сваю гісторыю, свой выгляд.*

*Мы кажам: "горад шахцёраў", – і ў думках уяўляем будынкі шахт. Мы чуем: "горад хімікаў", – і перад намі выразна паўстаюць высотныя карпусы хімічных камбінатаў. Што ж можна сказать пра Горкі? Бадай, гэта горад студэнтаў, бо значная частка яго жыхароў – студэнты, выкладчыкі і супрацоўнікі Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.*

*Невялікім мястэчкам Копыскага павета былі Горкі да адкрыцця там у 1840 годзе земляробчай школы, потым пераўтворанай у інстытут. У 1861 годзе Горкі атрымалі статут горада і сталі цэнтрам павета.*

*Гісторыя Горак… У ёй часта згадваюцца словы "першы", "упершыню".*

*У 1840 годзе ў Горках была адкрыта першая ў Беларусі земляробчая школа, пераўтвораная ў 1848 годзе ў інстытут – першы інстытут у Расіі, студэнты якога ў 1863 годзе першымі на Магілеўшчыне далучыліся да паўстання К. Каліноўскага.*

*У інстытуце было закладзена першае ў Еўропе доследнае сельскагаспадарчае поле, таксама быў зроблены першы ў Расіі дрэнаж, вынайдзены першы камбайн.*

*16 студзеня 1905 года навучэнцы горацкіх вучэбных устаноў і рамеснікі Горак аднымі з першых у Беларусі выйшлі на палітычную дэманстрацыю.*

*Новую старонку ў гісторыі Горак адкрыла Кастрычніцкая рэвалюцыя. У красавіку 1919 года ў Горках аднавіў работу сельскагаспадарчы інстытут – першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Савецкай Беларусі.*

*На працягу пасляваенных гадоў Горкі ператварыліся ў адзін з прамысловых і культурных цэнтраў Магілёўскай вобласці. З першага студзеня 1983 года яны сталі горадам абласнога падпарадкавання.*

*Гісторыя Горак і раёна вывучаецца з даўніх часоў. Ёй прысвяціў цікавую публікацыю "Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёна і г. Горкі" гісторык Д.М. Васілеўскі, якая была надрукавана ў "Працах навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі" (Горкі, 1927).*

*Шмат цікавых звестак пра гісторыю Горак у перыяд стварэння і існавання Горы-Горацкага інстытута знайшоў і надрукаваў С.Г. Цітовіч, аўтар грунтоўнай працы "Горы-Горецкий земледельческий институт – первая в России высшая сельскохозяйственная школа" (Горки, 1960).*

*Вялікія намаганні прыклалі да вывучэння гісторыі горада і акадэміі (а яе гісторыя – гэта гісторыя Горак) краязнаўцы і даследчыкі Дз. Р. Новікаў, М.А.Шытоў,І.М. Стэльмашонак, М.Р. Дзюбакова, В. Т. Гулевіч і іншыя.*

*Асабліва гэтыя пошукі актывізіраваліся ў час стварэння кнігі "Памяць. Горацкі раён", якая выйшла ў выдавецтве "Вышэйшая школа" у 1996 годзе. Там упершыню былі надрукаваны цікавыя звесткі, знойдзеныя гісторыкамі В.Капыцiным, В.Насевічам і В. Князевай.*

*Першае выданне кнігі "Горки.Историко-экономический очерк" выйшла ў 1984 годзе ў выдавецтве "Беларусь". На жаль, гісторыя да 1917 года ў кнізе была значна скарочана. Больш поўна яна дадзена ў другім выданні, надрукаваным у 1989 годзе ў выдавецтве "Полымя".*

*За прайшоўшы час аўтарам і супрацоўнікамі Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея С.С.Скаромнай, М.М. Студневай, Т.А.Караеўскай, В.В.Белавусавай і Т.В.Поклад было знойдзена шмат новых фактаў з гісторыі Горак, асабліва, калі збіраліся матэрыялы да кнігі "Памяць. Горацкі раён". Гэта дазваляе ў трэцім выданні кнігі больш поўна, грунтоўна і аб'ектыўна напісаць гісторыю горада, у якім аўтар жыве з 1946 года і які стаў для яго родным і любімым.*

*Кніга напісана на беларускай мове, аднак многія дакументы пададзены ў ёй на мове арыгінала – рускай мове. Гэта зроблена для таго, каб чытач змог адчуць каларыт таго часу, калі пісаўся дакумент.*

*Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў выданні кнігі – дацэнту кафедры рускай і беларускай моў БДСГА В.П.Зяньковіч, кандыдату філалагічных навук, дацэнту Л.А.Камко, адказнаму сакратару раённай газеты “Ленінскі шлях” П.І.Дзетліковічу,галоўнаму спецыялісту аддзела культуры Горацкага райвыканкама М.М.Студневай, навуковым супрацоўнікам Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея С.С.Скаромнай, Т.А.Караеўская, С.М. Макеевай, А.А.Агейчык,Л.М.Дзеружковай, настаўніце І.А.Туміловіч.*

*Кніга прызначана для шырокага кола чытачоў. Аўтар будзе ўдзячны за заўвагі, прапановы, якія ён улічыць пры паўторным перавыданні кнігі.*

# З СІВОЙ ДАЎНІНЫ



**Г**історыя Горак, якія некалі ўваходзілі ў Горацкі павет, багата падзеямі, што ідуць з глыбіні вякоў. Вывучэнне далёкага мінулага гэтага краю дазваляе зрабіць вывад, што ў басейне рэк Проні, Капылкі і Парасіцы здаўна жылі старажытныя славяне. Аб гэтым сведчаць археалагічныя помнікі, якія знаходзяцца ў Горацкім раёне.

Стаянка мезалічнага часу была знойдзена ў 1,5 км на паўднёвы захад ад в. Вялікія Шарыпы на першай надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Проня. Дзве невялікія рачулкі Пнеўка і Маханаўка, якія ўпадаюць у Проню, ствараюць мыс, на якім у 1985 годзе В.Ф. Капыцін і В. Е. Кудрашоў на плошчы 40 х 100 м выявілі прадукты расшчаплення крэменю (пласціны, адшчэпы), скрэблападобныя вырабы. Асобныя вырабы з крэменю знойдзены каля в. Пнеўшчына, на правым беразе р. Рамясцянка, пры ўпадзенні ў яе р. Лядня.

У другім тысячагоддзі да н.э. тэрыторыя сучаснай Беларусі ўступіла ў бронзавы век – час адкрыцця і ўжывання металу, прыкметнага прагрэсу ў развіцці вытворчых сіл.

Як сведчаць археолагі, у гэты час дрэва апрацоўвалі бронзавымі і каменнымі свярдзёлкамі і клінападобнымі сякерамі, цясламі і нажамі. Каменныя сякеры свідравалі пустой у сярэдзіне касцяной трубкай з прымяненнем мокрага пяску. Пасля свідравання вырабы паліравалі на паліравальных плітах з пясчаніку. Каменныя прасвідраваныя сякеры – самая частая знаходка на тэрыторыі раёна. Невялікая калекцыя такіх сякер, знойдзеных на тэрыторыі раёна, перададзена ў Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей археолагам В.Ф. Капыціным.

Гэты археолаг лічыць, што ўжо ў першай чвэрці першага тысячагоддзя да н.э. насельніцтва сучаснага Горац-

кага раёна ўжо магло атрымліваць жалеза з мясцовых балотных руд, вырабляла з яго больш складаныя прылады працы. Знаёмства з металам не толькі пераўтварыла ўсю матэрыяльную культуру, яно зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў жыцці чалавека.

Замест ранейшых стаянак па берагах рэк пачалі будаваць умацаваныя гарадзішчы. Іх узводзілі на высокіх пляцоўках на мысах пры зліцці двух яроў або рэк. Прыродная непрыступнасць гарадзішчаў дапаўнялася штучнымі ўмацаваннямі ў выглядзе земляных валоў (часцей за ўсё з частаколам па грэбню), равоў і драўляных агароджаў. Сістэмы ўмацаванняў з земляных валоў і равоў захаваліся да нашых дзён.

Цікавым з'яўляецца гарадзішча "Курганы", што каля вёскі Горы. Яно датуецца раннім жалезным векам і з’яўляецца гарадзішчам мысавага тыпу. Знойдзеныя на ім кавалкі ляпнога посуду, як лічаць археолагі М.Ткачоў і А.Мяцельскі, даюць магчымасць гаварыць аб тым, што людзі жылі тут у трэцім стагоддзі да н. э.

У час раскопак былі знойдзены гліняныя соплы ад горнаў, у якіх выплаўлялася з руды жалеза, а таксама розныя прадметы з яго: нажы, крэсівы, ключы ад замкоў і замкі, косы, сярпы і сякеры.

Навуковую цікавасць маюць даспехі воінаў – наканечнікі стрэлаў і дзідаў, шпоры, абкладкі калчана для стрэлаў.

Шмат было знойдзена і вырабаў з косці – грабяні, пракολкі і “жужалкі”– дзіцячыя цацкі.

Гарадзішча мела трывалыя гандлёвыя сувязі. Аб гэтым сведчаць шалі ад вагаў, сярэбраныя зліткі, грошы тых часоў.

Шмат таго, што было знойдзена археолагамі ў час раскопак, у 1988 годзе было перададзена ў фонд Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея і зараз знаходзіцца ў асноўнай экспазіцыі.

Там жа экспануецца ўнікальная рэч, якую знайшоў у час раскопак археолаг А. Мяцельскі. Гэта каменны абразок вытачаны з мяккага пясчаніка. На правай паверхні яго выразаны крыж, з бакоў літары “ ІС”– Ісус, “Х”– Хрыстос.

Унізе напісана "Госпадзі, помозі рабу сваему се напісаўшему". Ён датуецца XII – XIII стагоддзем.

З 1986 года вядзе раскопкі вельмі цікавага гарадзішча Нікадзімава на рацэ Быстрая археолаг А.Седзін. У культурным слоі, які дасягае больш аднаго метра, было знойдзена шмат розных рэчаў. Яны даюць нагляднае ўяўленне аб матэрыяльнай культуры насельніцтва – гэта фрагменты ляпнога посуду, наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і шпоры, рыбалоўныя кручкі і бранзалеты. Асаблівую цікавасць уяўляюць пальчаткі фібул, якія выкарыстоўваліся ў якасці заплічак і адначасова служылі ўпрыгожваннямі.

Археалагічныя знаходкі паказваюць, што славянскія плямёны, якія спрадвеку жылі на горацкай зямлі, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, паляўніцтвам, вялі бойкі гандаль. Аб апошнім сведчаць знойдзеныя скарбы з манетамі, вырабамі з серабра і золата. Так, скарб з грыўнамі, бранзалетамі, завушніцамі, спражкамі і іншымі ўпрыгожваннямі работы візантыйскіх майстроў, якія датуюцца IX–XI стагоддзямі, быў знойдзены ў часы раскопак гарадзішча каля вёскі Шаўнева. Частка гэтых знаходак захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

Каля вёскі Студзянец археолагі адкапалі злітак серабра з надпісам "Князь Волад".

У 1837 годзе каля в. Пнеўшчына на правым беразе р. Лядня (правы прыток р.Рамясцянкі) быў выяўлены ўнікальны помнік. Гэта пірамідальнай формы гранітны валун, вагой каля 500 кг, даўжынёй да 1м, у шырыню і вышыню да 0,75 м, які знаходзіўся на вяршыні кургана, складзенага з каменю. На паверхні валуна былі нанесены знакі вышынёй 130 - 140 мм, шырынёй 6 мм і глыбінёй 4 - 5 мм на адным баку ў выглядзе суцэльнага надпісу, а з другога боку бязладна раскіданых на паверхні. А. Дандукоў-Корсакаў, уладальнік маёнтка Раманава, які цікавіўся археалагічным мінулым краю і рабіў раскопкі ў Горацкім павеце, лічыў надпіс рунічным, а А. Мюлер (Аўстрыя) – фінікійскім. На валуне было напісана: "Помнік Ваала. Тут мы яго

выдаўблі (высеклі)". На другім баку надпіс застаўся нерасшыфраваным.

На тэрыторыі сучаснага горада Горкі захаваўся, на жаль, толькі адзін помнік археалогіі – гарадзішча. Яно знаходзіцца побач з гарадской паліклінікай. У час археалагічнай разведкі там былі знойдзены кераміка, металічныя вырабы X-XII стагоддзяў.

## *ЗА ДАЛЛЮ ЧАСОЎ*



***П***ершыя пісьмовыя звесткі, якія непасрэдна тычацца тэрыторыі Горацкага раёна, як лічыць гісторык В.Насевіч, паходзяць з XII стагоддзя, калі гэтыя землі ўваходзілі ў склад Смаленскага княства. У той час княствы дзяліліся на воласці, цэнтрамі якіх былі "пагосці", ці замкі. З граматы 1136 года смаленскага князя Расціслава Мсціславіча вядома, што адна воласць была ў вярхоўях ракі Басі і мела назву Басея (знаходзілася недалёка ад сучаснай вёскі Сялец).

Воласць Мярэцічы знаходзілася ў вярхоўях ракі Мярэя (зараз Ленінскі сельскі савет). А цэнтрам яе потым стаў маёнтак Раманава (зараз Леніна).

Вялікая па памеры воласць была ў раёне сучаснай вёскі Горы, дзе ў тыя часы, як сведчаць археалагічныя раскопкі, быў добра ўмацаваны замак. Цікава, што археолаг А. Мяцельскі выказаў меркаванне, што яго можна атаясаміць з горадам Ізяслаўлем, які часта прыгадваецца сярод гарадоў Смаленскага княства.

Аднак у той грамаце Расціслава Мсціславіча гэта воласць не згадваецца. Як лічыць В.Насевіч, відаць, у той час Смаленск не атрымліваў з яе даніны.

На мяжы XII і XIV ст. Смаленскае княства ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага. Кіраваў княствам вялікі

князь Вітаўт, які перадаў большую частку зямель (Басейская і Горская  воласці) ва ўласнасць князю Івану Сямёнавічу Пуцяты з роду князёў Друцкіх. Мярэйская воласць дасталася князю Юрыю Сямёнавічу Гальшанскаму.

З таго часу горацкія землі пачалі ўпамінацца ў "Літоўскай метрыцы" – архіве канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, у якую ўпісвалі звесткі аб набыцці ці падзелах маёнткаў. Так, у 1497 годзе ў метрыцы ўпершыню ўпамінаюцца Горы.

У князя І. С. Пуцяты было чатыры сыны. Адзін з іх, Міхаіл, валодаў Гарамі і часткай Басі, а другі, Васіль, – часткай Гор.

Ад Міхаіла землі дасталіся яго сыну, Юрыю Шышаўскаму. Такую назву ён меў таму, што цэнтр маёнтка быў у Шышаве (зараз вёска каля Горак).

Калі памёр яго адзіны сын Васіль (1480? -1546), то паводле завяшчання, якое ён падпісаў у верасні 1544 года, землі перадаваліся яго жонцы Марыі з роду князёў Заслаўскіх.

Адзначым, што ў гэтым завяшчанні ўпершыню ўзгадваецца вёска Горкі. У той час яна ўваходзіла ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага.

Адкуль пайшла назва Горкі ?

На гэта пытанне доўгі час прыходзілася шукаць адказы ў літаратуры. Так,  прафесар В.Жучкевіч лічыць, што такая назва звязана з гарыстай мясцовасцю, на якой размешчаны Горкі.

Пісьменнік У. Юрэвіч ў кнізе "Слова жывое, роднае, гаваркое..." піша, што назва "Горкі" ад слова "Горы" дало назву паселішчу, размешчанаму на некалькіх горках, гэта значыць "узвышшах". Яно гэтак і звалася – Горы-Горкі.

Больш цікавую версію ў свой час выказаў археолаг Ш. Бікцінееў, які рабіў археалагічныя раскопкі ў вёсцы Горы нашага раёна. Ён лічыў, што ў пачатку XVI стагоддзя частка жыхароў старажытнага горада Горы перасялілася на месца цяперашняга горада Горкі, бо тут было перасячэнне двух гандлёвых шляхоў: Орша – Мсціслаў і

Магілёў – Раманава і далей Смаленск. Спачатку новае паселішча мела назву Горы Малыя, а старое паселішча – Горы Вялікія. С цягам часу Горы Малыя сталі Горкамі, а Горы Вялікія проста Гарамі.

А ці былі якія легенды і паданні наконт гэтых назваў? На жаль, не прыходзілася чуць іх ад жыхароў нашага раёна, ці сустрэць да нядаўняга часу ў літаратуры.

І вось цікавая падзея. У 2002 годзе ў выдавецтве "Беларусь" выйшла кніга "Магілёўшчына. Назвы населеных пунктаў паводле легендаў і паданняў". Яе склаў і запісаў доктар філалагічных навук А.Недаўца. Ёсць там легенды і пра ўзнікненне горада Горкі, рэк Проня і Парасіца, а таксама вёсак Горацкага раёна – Буда, Копцеўка, Пнеўшчына, Студзянец і Ходараўка.

Коратка яе змест такі: на тэрыторыі Горацкай зямлі жыў Князь Гардзей, які меў вельмі прыгожую жонку і двух дачок – Проню і Парасіцу. Жылі вельмі шчасліва і добра, пакуль не здарылася бяда: жонка князя дужа спадабалася валадару падземнага і падводнага царства.

І вось аднойчы, калі князя  Гардзея не было дома, ён захапіў княгіню і яе дачок.

– Будзеш маёй жонкай, – сказаў ён жанчыне-прыгажуні.

Тая адказала коратка:

– Я маю мужа і не здраджу яму.

Раззлаваўся  валадар і шабляй парубіў княгіню, і яе дачок. І там, дзе ўпалі пасечаныя грудзі прыгажуні, выбіліся з зямлі дзве крынічкі, і пабеглі з іх рэчкі. Іх людзі назвалі Проня і Парасіца.

А князь Гардзей адпомсціў за жонку і дачок. Ён пачаў кідаць у раку вялізныя каменні і забіў валадара. З цягам часу тыя камяні абраслі зямлёй і сталі на іх сяліцца людзі, а паселішча назвалі Горы-Горкі.

Але вернемся да гісторыі Горак. Вядома, што, як лічыць гісторык В.Насевіч, у 1554 годзе Марыя, уладальніца маёнтка Шышава, выйшла замуж за Івана Гарнастая (1490 ? – 1558) і землі перайшлі да яго, а потым да яго сына Гаўрылы (1515 ? – 1588). Сын Гаўрылы  – Геранім (1540? – 1600) прадаў маёнтак Льву Сапегу (1557 – 1633). Апошні

з'яўляўся канцлерам Вялікага Княства Літоўскага, ваяводам віленскім.

У гэты час блізкае размяшчэнне да такіх адносна буйных гарадоў, як Смаленск, Магілёў, Орша, дало магчымасць Горкам вырасці ў досыць значны рамесны і гандлёвы цэнтр, вядомы далёка за межамі ваяводства.

У час Лівонскай вайны (1558 –1583 гг.) у 1563 г. Горкі былі заняты рускімі войскамі. Наступленне рускіх войск было такім нечаканым, што, як сведчыць гісторык Д. Васілеўскі ў "Кароткім нарысе гісторыі Горацкага раёну і г. Горак" (Апісанне Горацкага раёну. Праца навуковага таварыства т.3.Горкі,1927), уладальнік Горацкага графства Юрка Друцкі-Горскі са сваім дваром папаў у палон, паспеўшы сваю сям'ю выслаць у глыб Беларусі. У старадаўніх актах, якія былі надрукаваны ў "Археографическом сборнике документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси» т.IУ, ёсць ліст пана Астапа Валовіча, дзё ён паведамляе аб узяцці на выхаванне дзяцей Горскага. З гэтага ліста, як лічыць Д. Васілеўскі, бачна, што Друцкія – Горскія належалі да вельмі багатых панскіх родаў на Беларусі, такіх як Масальскія, Палубенскія, Валовічы і іншыя.

Прайшоў час, і неўзабаве Горкі былі зноў вернуты ў склад ВКЛ.

Па Люблінскай уніі 1569 года Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў адзіную дзяржаву – Рэч Паспалітую. З гэтага часу і да сярэдзіны XVIII стагоддзя Горкі ўваходзілі ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства.

З аднаго боку, магнаты спрабавалі выкарыстаць эканоміку гарадоў і мястэчкаў у мэтах абагачэння. З другога – багатыя гарадскія і местачковыя саслоўі імкнуліся пашыраць свае правы і прывілеі, у выніку чаго многія прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі атрымалі так званае магдэбургскае права, згодна якому яны вызваляліся ад большасці феадальных павіннасцяў і мелі льготы ў вядзенні рамёстваў і гандлю.

У 1619 годзе ўладальнік Горак вялікі канцлер ВКЛ Леў Сапега даў мястэчку "Устав о вольностях" з мэтай іх эка-

намічнага развіцця і перасялення сюды жыхароў з іншых мясцін. Ён уяўляў сабой малое магдэбургскае права. У мястэчках дазвалялася праводзіць кірмашы, гандляваць, было сваё самакіраванне і суд. На рынку быў абсталяваны асобны свіран –“імбарнае месца”, куды прыезджыя купцы і гандляры маглі здаваць свае тавары на захаванне. За такую паслугу бралася плата – 5 грошаў у тыдзень.

Гісторык В. Насевіч у бібліятэцы Віленскага дзяржаўнага універсітэта знайшоў інвентар маёнтка Шышава за 1609 год. З яго бачна, што гэта быў даволі буйны маёнтак, куды ўваходзіла 13 вёсак. З яго ішоў чынш у памеры 1349 коп і 17 грошаў ( капа раўнялася 60 грошаў, і за яе можна было купіць пуд мёду ці бочку пшаніцы).

У першай палове XVII ст. Горкі згадваюцца ўжо як горад. Ён быў буйным гандлёвым цэнтрам. Гэта пацвярджае ліст княгіні Масальскай з Друі да княгіні Друцкай-Горскай (жонцы ўладальніка Горы-Горацкага маёнтка), у якім яна запрашае на вяселле да дачкі і просіць прывезці з Горак каштоўны вэлюм, таму што ў Друі такога вясельнага ўбору для нявесты няма. А Друя між тым стаяла на Дзвіне, дзе праходзіў стары гандлёвы шлях.

Далейшы рост дабрабыту Горацкага краю спыніла вайна Расіі з Рэччу Паспалітай (1654 – 1667 гг.). У гісторыі Беларусі яна атрымала назву–“невядомая вайна”, бо доўгі час у гістарычных даследаваннях пра гэта амаль нічога не гаварылася.

Ужо 26 жніўня 1654 Горкі былі захоплены рускімі войскамі пад кіраўніцтвам Я. Чаркаскага. Потым Горкі знаходзіліся пад кантролем Беларускага палка пад камандваннем К. Паклонскага. У 1654 г. жыхары горада перайшлі на бок рускай дзяржавы.

Зімой 1655 года Горкі былі вызвалены войскамі ВКЛ пад кіраўніцтвам Я. Радзівіла. Аднак вясной гэтага года пачалося новае наступленне і Горкі зноў аказаліся захопленымі рускімі войскамі. І толькі ў 1661 годзе іх адваявалі войскі ВКЛ.

Пасля Андрусаўскага перамір'я (1667 г.) Горкі засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай.Гэтая вайна вельмі падарвала

эканоміку Беларусі. Гісторык К.Тарасаў лічыць, што ў час яе загінула 52% насельніцтва краіны, а ў такіх усходніх валасцях як Горацкая, – да 80%. У архівах захаваліся дакументы аб тым, што пасля вайны горацкія жыхары так збяднелі, што прыйшлося ім прасіць уладальніка Горак аб змяншэнні падаткаў.

Цікава, што якраз у гэты неспакойны час жыхары Горак і навакольных вёсак хавалі свае зберажэнні. Потым, відаць, гінулі ці не змаглі знайсці прыхаванае і таму гэтыя схоўкі станавіліся кладамі. З кнігі “Могилев. Энциклопедический справочник” ( Минск,1990) бачна,што ў Горках у 1858 годзе быў знойдзены клад, схаваны ў 4-ай чвэрці ХУІІ стагоддзя, з 555 манет ( 6-грашовікі, 30-грашовікі Рэчы Паспалітай, 6-грашовікі Прусіі); у 1880 годзе быў знойдзены клад, схаваны ў 1655 годзе. У ім было 30 талераў г. Канстанца, паўталер Іспанскіх Нідэрландаў, талеры Злучаных правінцый.

У вёсках Анікавічы, Горы, Душкі, Іванова, Красуліна, Паляшчыцы, Сава, Хамінічы, Шышава і іншых таксама знаходзілі клады, дзе былі грошы Расіі, Рэчы Паспалітай, Іспаніі, Нідэрландаў, Прусіі, Францыі, Арабскага Халіфата,Чэхіі, Швецыі і іншых краін.

А хто ж валодаў Горацкім графствам у гэты цяжкі час? Вядома, што ўладальнік Горак і маёнтка Леў Сапега (1557 – 1633) меў трох сыноў, аднаму з іх – Казіміру (1609 – 1656) – і дасталіся Горкі. Апошні не меў нашчадкаў і таму завяшчаў маёнтак пляменніцы Ганне і стрыечнай сястры Соф'і Сапежанцы (1595 ? –1657 ?).

Калі Соф’я ўступіла ў шлюб з Канстанцінам Палубінскім (1590 – 1670), ён і стаў уладальнікам маёнтка.

Горы-Горацкае графства ў той час было адным са значных маёнткаў у ВКЛ. Колькасць сялянскіх двароў у ім вагалася ад 1500 да 1700, а сялян было каля 10 тысяч.

В.Насевіч знайшоў інвентар Горы-Горацкага маёнтку 1666 г. Ён складаўся з двух войтаўстваў: Горацкага з 37 вёскамі і Горскага з 39 вёскамі. У ім было 1422 валок зямлі ( каля 30 тыс. га). Цэнтрам першага з іх былі Горкі, у якіх

мелася 470 мяшчанскіх пляцаў і звыш 35 валок зямлі. Горы мелі 210 пляцаў і 33 валокі.

Але відаць весці гаспадарку ў маёнтку было не вельмі выгадна, таму Палубенскі аддаў маёнтак арэндатару – шляхцічу Скрэбеню. У "Археографическом сборнику т.3, с. 204-206" захаваўся і кошт арэнднай платы – 1000 тынфаў. Вядома, што дачка Палубенскага, Ізабэла, таксама падцвердзіла права на арэнду.

У гэты час узмацніўся працэс акаталічвання беларусаў. У процівагу гэтаму ў Горках ствараецца праваслаўнае брацтва, пры якім у 1667 г. пачала дзейнічаць першая ў гісторыі мястэчка школа. Горацкае брацтва і адчыненая ім школа вялі культурна-асветніцкую дзейнасць, змагаліся супраць апалячвання і акаталічвання. Вядома, што ў 1673 годзе ў Горках была пабудавана новая царква і дом для папа. Праўда, у дазволе было адзначана, што будаваць яе можна на такім месцы, каб яна не шкодзіла ўніяцкай царкве.

Паводле інвентара 1683 года ў Горках было 510 дамоў, 2 прадмесці – Зарэчча і Казіміраўская Слабада. У гэты час у горадзе працавалі рамеснікі 28 спецыяльнасцяў, сярод іх ткачы, ганчары, ружэйнікі, вінакуры і інш. Гандаль праходзіў на трох рынках. Прыязджалі сюды купцы са Смаленска, Мсціслаўля, Магілёва, Шклова, Оршы.

У сваю чаргу горацкія купцы, як сведчаць мытныя кнігі Масквы і Смаленска, гандлявалі ў гэтых гарадах сукном, палатном і рыбай. Ёсць звесткі аб тым, што купцы з Горак гандлявалі і ў іншых гарадах ВКЛ і Расіі.

У 1643 годзе ў Горках узнікла яўрэйская абшчына. Яшчэ раней ў гістарычных крыніцах упамінаюцца яўрэйскія абшчыны ў мястэчках Горы і Раманава.

Аднак у час падзей 1648 - 1649 гадоў, а затым вайны 1654 - 1667 гадоў абшчына не існавала і адрадзілася толькі ў 1669 годзе.

На чале абшчыны стаяў кагал – самастойная адміністрацыйная і эканамічная форма самакіравання. Ім кіраваў і быў духоўным лідэрам равін, які падпісваў рашэнні

кагалу, узначальваў яўрэйскі суд, здзяйсняў абрады, наглядаў за школьнай адукацыяй.

Кожная абшчына вяла свой летапіс – пінкас. З яго было бачна, што ў 1686 годзе на чале Горацкага кагала стаяла праўленне з 18 чалавек. Кагал плаціў падаткі: на дамы – 100, пагалоўна – 100, з продажу тытуню – 40 і гарэлкі –300 злотых.

Горацкія яўрэі займаліся дробным гандлем і рознымі відамі рамяства, арэндай млыноў і вінакурань. У 1695 г. Е. Сапега даў яўрэям горада прывілеі на права будаваць сінагогі.

Аднак далейшы рост горада ў перыяд эканамічнага і палітычнага заняпаду Рэчы Паспалітай стрымлівала эксплуатацыя рамеснікаў і сялян польскімі феадаламі. Умацаванне феадальна-прыгоннага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту абвастрала класавыя супярэчнасці, узнымала народныя масы на барацьбу за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Адной з форм барацьбы былі масавыя пабегі ў Расію і на Украіну. Так, у 1676 годзе толькі ў Мяшчанскай Слабадзе горада Масквы выхадцы з Горак валодалі шасцю дамамі. Пражывалі яны таксама і на тэрыторыі Кіева-Пячэрскай лаўры.

Супраць феадалаў Рэчы Паспалітай мясцовыя жыхары змагаліся разам з украінскімі казакамі. Так, з адпіскі палкавога ваяводы Васіля Шарамецьева ў разрадны прыказ ад 13 чэрвеня 1657 бачна, што горацкія сяляне і мяшчане запісваліся ў казацкія атрады.

Аднак ёсць прыклады і барацьбы супраць маскоўскіх войск. Прыкладам антымаскоўскага руху з'яўляюцца ўпамінанні пра казацка-сялянскі атрад палкоўніка Івана Рыдара, які дзейнічаў у 1659 годзе каля Горак і нават учыніў аблогу Горскага замка.

У 1654–1655 гадах у Беларусі ўспыхнулі масавыя сялянскія хваляванні. У маі – ліпені 1655 года атрады паўстанцаў актыўна дзейнічалі ў раёне Горак, а таксама Гор і Раманава ( зараз вёска Леніна Горацкага раёна).

Якімі ж былі Горкі ў канцы XVII стагоддзя? Захаваліся ўспаміны відавочцаў. Так, 24 сакавіка 1678 года Горкі наведаў пасол Рэчы Паспалітай у Маскоўскай дзяржаве Б. Танер. У сваіх запісках ён адзначыў багатае ўбранства праваслаўнай царквы.

Стольнік Пятра Першага П. А.Талстой, які 24 сакавіка 1697 года на шляху ў Італію спыніўся ў горадзе на начлег, у сваім дарожным дзённіку запісаў, што ў горадзе больш за тысячу жыхароў, пабудаваны праваслаўная царква, дзве уніяцкія, касцёл і яўрэйскі малітоўны дом. У 1698 г. сакратар аўстрыйскага пасольства У.Корб адзначыў, што горад вельмі доўгі і густа заселены яўрэямі.

У 1683 і 1685 гадах паміраюць сыны ўладальніка Горы-Горацкага маёнтка Крыштаф і Дамінік і спадчынніцай становіцца іх сястра Ізабэла. Маёнтак стаў яе шлюбным пасагам.

У 1686 годзе яна выйшла замуж за Ежы Станіслава Сапегу, прадстаўніка ўплывовага роду ў ВКЛ. Ён меў тытул "графа на Горы-Горках".

Здавалася б, для жыхароў Горы-Горацкага маёнтка наступіў спакойны час. Аднак яны не ведалі, што існавала і антысапегаўская кааліцыя, якую ўзначаліў Людвіг Пацей. На кароткі час яму і ўдалося захапіць Горы-Горацкі маёнтак.

Прайшоў некаторы час, і Горкі зноў апынуліся ў зоне ваенных дзеянняў.

## *"…ПЕХОТЕ ВСЕЙ ИТИТЬ К ГОРКАМ…"*



***У*** 1700-1721 гадах Расія вяла вайну са Швецыяй за выхад да Балтыйскага мора. У 1708 годзе ваенныя дзеянні адбываліся на Беларусі. Так, 26 студзеня 1708 года шведы занялі Гродна. А ў сярэдзіне чэрвеня 1708 года

шведскія войскі пад кіраўніцтвам Карла XII фарсіравалі раку Беразіну непадалёку ад мястэчка Беразіно і рушылі на Магілёў.

Рускія войскі сустрэлі іх у раёне мястэчка Галоўчын. Тут у ноч з 2 на 3 ліпеня адбыўся бой. З вялікімі стратамі шведы перамаглі.

Пётр І у гэты час спяшаўся ў войска і 5 ліпеня 1708 года заначаваў у Горках, дзе ўжо ў поўным складзе знаходзіўся генералітэт рускай арміі на чале з Б.П. Шарамецьевым.

6 ліпеня 1708 года ў Шклове адбыўся ваенны савет, якім кіраваў Пётр І. На савеце было вырашана: "Понеже неприятель, по ведомости, марширует к Могилёву… пехоте всей иттить к Горкам с артиллерию и с обозами… и смотреть на неприятельские обороты и куды обратиться – к Смоленску или к Украине – трудиться его упреждать".

Як сведчыць у кнізе "Полудержавный властелин" М.Паўленка, у Горкі Пётр І прыбыў 9 ліпеня і тут жа стаў высвятляць падрабязнасці бою пад Галоўчына. Генерал Рэпнін быў аддадзены ваеннаму суду, бо палкі, якімі ён камандаваў "пришли в конфузию", хаатычна адступілі, пакінуўшы гарматы. Генерал быў разжалаваны ў радавыя. Праўда, служба радавым цягнулася нядоўга: у баі пад Лясной ён праявіў храбрасць і зноў атрымаў чын генерала.

У Горках і вёсках Раманава, Кледнявічы, Расна і іншых населеных пунктах было сканцэнтравана 25-тысячнае войска. Для іх прыкрыцця ў раёне Горак па лініі Дняпра ад Магі-лёва да Шклова былі пакінуты атрады конніцы. У раёне Го-рак будаваліся ўмацаванні, вялася разведка за неп-рыяцелем, невялікія атрады нападалі на шведскія часці. Штаб-кватэра Пятра І знаходзілася ў Горках, побач з ваенным лагерам рускіх войск.

У Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеі захоўваецца копія карты-схемы, знойдзенай у Дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве Расіі "Лагерь российской армии под руководством Петра І з 13 июля по 1 августа 1708 года на реке Прони". На ёй і абазначана месца, дзе была стаўка цара.

Дарэчы, рэшткі тых збудаванняў захаваліся да гэтага часу, а ўзгорак яшчэ і зараз завецца Пятровым.

Цікава, што ўзгорак, які знаходзіцца побач з Пятровым, носіць назву – узгорак Мазепы, аднаго з тагачасных дзеячаў Украіны. Зараз тут знаходзіцца дзіцячы садок.

Чым займаўся цар у Горках? Ён часта бываў у палках, правяраў ахоўныя збудаванні і баявую гатоўнасць войск. У Расне ён агледзеў гвардыю і драгунскія палкі.

Будучы ў Горках, цар актыўна займаўся дзяржаўнай дзейнасцю. Аб гэтым сведчаць 70 указаў і лістоў, напісаных ім у горадзе.

У "Походном журнале" адзначалася, што ў гэты час "Его царское величество изволило быть в Горках. И между тем смотрели свое войско и крепили посты: а знатных действий не было, ибо неприятель – король шведский в то время с войском своим стоял у Могилева смирно, без всякого действия".

Вечарам 23 ліпеня 1708 года Горкі асвяціліся феерверкам. Салютам з 87 гармат і стрэльб у стаўцы Пятра I была адзначана перамога над паўстанцамі і гібель кіраўніка сялянскага паўстання К.Булавіна.

1 жніўня 1708 года Пётр I дапытваў у Горках узятага ў палон Каніфера – генерал-ад'ютанта шведскага караля Карла I. Як сведчыць вядомы гісторык Я.В.Тарле ў кнізе “Северная война и шведское нашествие на Россию”, Каніфер даў вельмі каштоўную інфармацыю пра войска шведаў. Цар даведаўся, што ў Карла ўсяго 30 гармат, 15 палкоў пяхоты і 12 палкоў конніцы. На вялікую радасць Пятра I, палонены генерал паведаміў, што "…шведы в Могилеве голод имеют большой".

Вядома, што 5 жніўня ў Горках адбыўся ваенны Савет. Праз некалькі дзён (9 жніўня) Петр I зрабіў агляд пяхотных палкоў, якім было загадана быць гатовымі да паходу. Гэтую падзею вельмі ўдала адлюстраваў мастак А.Ціткоў у карціне "Агляд рускіх войск у Горках", якая знаходзіцца ў Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеі.

Цікава, што аб знаходжанні Пятра І у Горках можна даведацца з кнігі А.С. Пушкіна " Исторические заметки”, навуковых даследаванняў вядомых гісторыкаў Расіі.

Успамінаюцца Горкі і ў цікавай кнізе М.І. Сямёнаўскага "Тайная служба Петра І". Менавіта ў Горках быў узяты на службу ў якасці "валентира" Вілім Монс, будучы фаварыт Пятра І.

Знаходзячыся у Горках, Пётр І уважліва сачыў як за дзеяннем Карла, які знаходзіўся ў Магілеве, так і за шведскім корпусам пад кіраўніцтвам генерала Левенгаўпта, які з абозам выйшаў з Рыгі і ішоў на злучэнне з каралём.

Калі шведскі корпус пераправіўся цераз Днепр у раёне Шклова, Левенгаўпт, як сведчыць гісторык М.Паўленка ў кнізе "Полудержавный властелин", падаслаў у рускі лагер шпіёна. Той павінен быў упэўніць рускае камандаванне, што шведы накіраваліся ў бок  Оршы. Спачатку  яму паверылі, і рускія войскі з Горак накіраваліся ў бок Дняпра і 22 верасня 1708 года пераправіліся цераз раку. І тут беларускія сяляне расказалі аб тым, што шведы  ўжо раней перайшлі праз Днепр. Шпіён быў павешаны, але час быў упушчаны і прыйшлося ўжо спешна даганяць Левенгаўпта.

Цікава, што гісторык Я. В.Тарле ў сваёй кнізе прыводзіць беларускую прымаўку: “Тутэйшая асіна – не шведская павуціна”. Ён лічыць, што яна ўзнікла пасля гэтай падзеі.

Пад вёскай Лясная 28 верасня 1708 года шведскі корпус быў разбіты. Гэта бітва ўвайшла ў гісторыю як маці Палтаўскай перамогі.

Знаходжанне русскіх войск у горацкім краі не вельмі спрыяла развіццю горада. З гісторыі гэтай вайны вядома, што шведы і рускія без усякага дазволу ўваходзілі ў беларускія землі, абкладалі падаткамі мясцовых жыхароў, прымушаючы іх утрымліваць войскі. Шмат жыхароў Горак і сялян навакольных вёсак загінула ў час вайны.

Тым не менш гэтыя падзеі засталіся ў гісторыі Горак. Гэта, як ужо адзначалася, назвы двух пагоркаў, і  яшчэ вядома, што ў час знаходжання ў Горках цар наведаў Горацкую Георгіеўскую царкву ў час паніхіды па загінуўшых.

Цяпер на тым месцы стаіць дом пад нумарам 39 па вуліцы Якубоўскага.

Праз некалькі гадоў Пётр I зноў пабываў у Горках. Гэта было ў 1711 г., калі ён з жонкай накіроўваўся ў Прускі паход. 11 сакавіка цар адсюль адправіў пісьмо А.Д.Меншыкаву.

А ўпершыню цар наведаўся ў Горкі яшчэ да пачатку Паўночнай вайны, у 1698 г., калі вяртаўся з-за мяжы ў Расію.

У час апісання гэтых падзей у Горках часта бываў А.Д. Меншыкаў – спадручнік Пятра I, адзін з тых, пра якога пісалі "птенцы с гнезда Петрова". Відаць, горацкі маёнтак спадабаўся Меншыкаву. З яго ён планаваў мець эканамічную выгоду.

Акрамя гэтага, згодна з меркаваннем гісторыка В.Грыцкевіча, ён хацеў падцвердзіць сваё беларускае паходжанне. Ва ўпамянутай намі кнізе М.Паўленкі ёсць сведчанне, што яшчэ ў снежні 1707 года А.Меншыкаў атрымаў ад з'езда літоўскай шляхты пасведчанне, у якім яна прызнавала Аляксандра Меншыкава "нашей отчизны княжества Литовским сыном".

Цікава, што А.Пушкін у сваёй “ Истории Петра “ пісаў, што “Меньшиков происходил от дворян белорусских. Он отыскал около Орши своё родовое имение. Никогда он не был лакеем и не продавал пирогов. Это шутка бояр, принятая историками за истину”.

У 1717 годзе ўладальнік Горы-Горацкага графства Антоні Казімір разам з сваім бацькам Ежы Сапегам прадаў яго князю Меншыкаву. Аднак поўнасцю грошы ён так і не выплаціў.

Вядома, што панаванне Меншыкава ў Горацкім маёнтку вельмі не спадабалася навакольнай шляхце, і таму яна неаднаразова рабіла набегі на вёскі маёнтка і рабавала сялян. З “Историко-юридических материалов” (том 16, параграф 81-82) вядома, што ўпраўляючы маёнтка Папоў у 1719 годзе падаваў скаргі ў Аршанскі гарадскі суд на 46 асоб з Аршанскай шляхты. Сярод іх былі вядомыя шляхцічы Ван-Лярлялскі, Галіонка і іншыя. Калі Аршанскі суд

заяву не прыняў, то Папоў падаў скаргу ў Віцебскі гарадскі суд і на шляхцічаў, і на Аршанскага маршала і павятовага суддзю.

Вядома, што Меншыкаў хацеў парадніцца з вядомымі беларускімі магнатамі Сапегамі. Па ўзаемнай дамоўленасці староста бабруйскі Я.Сапега ў 1727 годзе прывозіў у Санкт – Пецярбург свайго сына Пятра на заручыны з дачкой Меншыкава Марыяй. У пасаг за дачкой Меншыкаў хацеў даць свае маёнткі і ў першую чаргу Горы і Горкі. Гісторык В. Грыцкевіч сцвярджае, што ў Горкі Меншыкаў спецыяльна ездзіў, каб мець уяўленне аб іх становішчы. Аднак шлюб не адбыўся.

Ды і ўладанне Меншыкава на беларускай зямлі доўжылася нядоўга. У 1737 годзе ён быў сасланы ў Сібір. Як сведчыць гісторык В. Насевіч, на пэўны час графствам завалодалі пляменнікі Ізабэлы Палубенскай.

У зборніку дакументаў "Акты, издаваемые Виленской археологической комиссией" (Вильно,1888.Т.XIII) знаходзіцца "Грамата імператрыцы Ганны Іаанаўны падстолію Міхаілу Патоцкаму на валоданне маёнткамі Горы-Горкі і іншымі", якая датуецца 5 студзеня 1732 года. Згодна з ёй Горы-Горацкае графства было перададзена Міхаілу Патоцкаму. Як адзначаецца ў гэтай грамаце: "… жалуем, отдаём и даруем со всеми податями жилыми и нежилыми, со обретающими ныне на лицо или збеглыми издревле, с женами, детьми и со всеми их сродниками, с дачею скота, с платежем денежного оброку, со всеми пахотными и к тем маетностями принадлежащими посеянными и пустыми полями, садами, сенокосами, реками, ручаями, мельницами, корчмами, лесами, прудами, с рыбною ловлей и звериною и всеми угодии, так как сии маетности в своих межах и околичностях изстари и состояли…"

Але нядоўга карыстаўся маёнткам новы ўладальнік. У 1740 годзе яго набыў віцебскі ваявода Ян Міхаіл Салагуб. Калі ён у 1748 годзе памёр, маёнтак быў падзелены яго сынамі на дзве часткі: Юзафу дасталіся Горкі, Юрыю – Горы.

Прасачыць далейшую гісторыю Горак з 1748 па 1772 гады, на жаль, няма магчымасці з-за адсутнасці дакументаў.

## У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ



***1772*** год – гістарычная веха ў існаванні не толькі горацкай зямлі, але і ўсяго Беларускага краю. У гэты год адбыўся першы падзел суверэннай дзяржавы Рэчы Паспалітай паміж трыма дзяржавамі – Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

Імяннымі ўказамі Кацярыны II, якія датуюцца 1, 12, 21 верасня, было аб'яўлена аб далучэнні да Расійскай імперыі ўсходніх зямель Беларусі, на якіх былі заснаваны дзве губерні – Пскоўская і Магілёўская. Указам сената ад 23 кастрычніка гэтага ж года Магілёўская губерня дзялілася на 4 правінцыі – Магілёўскую, Мсціслаўскую, Рагачоўскую і Аршанскую. Горкі і тэрыторыя вакол іх увайшлі ў Аршанскую правінцыю, а з 1777 года – ў Аршанскі, потым – Копыскі павет. Маёнтак Горы адышоў да Чавускага павета.

Пасля далучэння да Расіі ў Горках быў праведзены перапіс насельніцтва і складзены так званыя "Ревизские сказки". Згодна ім у Горках жыло 2818 чалавек (1458 мужчын і 1360 жанчын). Яўрэі складалі крыху больш за 30% насельніцтва. Праўда, з цягам часу іх колькасць павялічвалася, бо згодна з Указам Кацярыны II ад 23 снежня 1791 года, Горкі апынуліся ў “рысе яўрэйскай аседласці”. Яўрэі пры новай уладзе, як і раней, займаліся рознымі відамі рамёстваў, гандлем і арэндай.

Аднак адносіны паміж імі і ўладальнікам горацкага маёнтка былі не заўсёды добразычлівымі. Вядома, што ў 1805 годзе граф Салагуб выгнаў яўрэяў з лавак і забараніў ім займацца гандлем. Чаму гэта адбылося, дакладна не-

вядома. Можна толькі меркаваць, што яны не дамовіліся з Салагубам наконт арэнднай платы. Праз некалькі год ён адмяніў свой загад.

З “Ревизских сказак” таксама бачна, што ў горадзе было дзве плошчы:Базарная і Сінагогская, вуліцы Базарная, Аршанская, Смаленская, Пілатава, Красінская, Прабойная і два фарштаты – Замясніцкі і Казіміраўскі.

З гэтых “сказак” яшчэ можна даведацца аб прозвішчах усіх жыхароў, што жылі ў Горках. Усіх, акрамя яўрэяў, бо яны ў той час яшчэ не мелі прозвішчаў, а толькі імя.

Далучэнне да Расіі, з аднаго боку, прывяло да таго, што замест павалочнага падатку насельніцтва пачало плаціць больш цяжкі – падушны. Акрамя гэтага плацілі яшчэ земскі збор. З горацкіх вёсак пачалі браць рэкрутаў на службу ў царскую армію. Замест акаталічвання і апалячвання насельніцтва пачаўся працэс русіфікацыі.

Аднак, з другога боку, далучэнне да Расіі садзейнічала развіццю эканомікі, гандлю, рамяства і адукацыі.

У 1790 г. у Горках была заснавана парусінавая, а ў 1795 г. – суконная мануфактура.

У першай палове XIX ст. ішоў працэс заснавання прамысловых прадпрыемстваў на горацкай зямлі: сукнавальні і вінакурні князя А. Дандукова-Корсакава ў мястэчку Раманава (1819 г.), сукнавальні і млына графа Р.Цукаты ў фальварку Маслакі (1830 г.), сукнавальні А. Пракаповіча ў фальварку Стары Сялец (1843 г.).

У 1814 годзе суконная фабрыка графа Л.Салагуба мела тры станкі, там працавалі 25 прыгонных рабочых, выраблялася салдацкага сукна 500 аршын і байкі 150 аршын у год.

У 1809 годзе ў Горы-Горацкім маёнтку (у гэты час, відаць, часткі маёнтка Горкі і Горы зноў аб'ядналіся) была заснавана палатняная мануфактура з фарбавальняй. На чатырох станках працавала 34 рабочыя. Мясцовую сыравіну выкарыстоўвалі гарбарны і вінакурны заводы.

У мястэчку Горы ў 1811 годзе (па іншых даных у 1808 годзе) пачала працаваць палатняна-парусінавая мануфактура, якая выпускала парусіну, рэвендук, брызендук, пала-

тно. Прадпрыемства размяшчалася спачатку ў двух, а з 1828 года – у чатырох драўляных будынках. На 150 станках працавала больш за 200 чалавек. Работа майстроў аплачвалася грашыма або натурай. У 30-ыя гады за 12-гадзінны рабочы дзень ткачы атрымлівалі 85 кап., нітачнікі – 9, вартавыя – 3 кап. У 1837 г. за выбелку 80 пудоў нітак давалі 2 пуды жыта і 2 гарцы ячменных круп, жанчынам за мыццё гэтых нітак – 1 пуд аржаной мукі. За год на мануфактуры выраблялася ў сярэднім каля 150 тысяч аршын прадукцыі. Гэта прадпрыемства было адным з буйнейшых у Беларусі.

У гэты час Горкі былі і вялікім гадлёвым цэнтрам. З 1788 года тут праводзіліся штогод два кірмашы.

Разнастайным было і канфесіянальнае жыццё. З 1776 года існавала Успенская праваслаўная царква, настаяцелем якой быў Г.А.Курганскі, вядомы дзеяч асветы на Магілёўшчыне. Працаваў каталіцкі касцёл (заснаваны ў 1754 г.), дзве ўніяцкія царквы і яўрэйская сінагога.

Якраз у гэтыя часы ў Горках пабываў паэт Г.Р.Дзяржавін. Ён прыехаў па даручэнню Кацярыны ІІ для разбору справы аб супраціўленні ніжняму земскаму суду сялян вёскі Беразетня Мсціслаўскага павета. А ў Горкі папаў са Шклова, дзе таксама разбіраў скаргу шклоўскіх мяшчан на прыгнёт С.Г. Зорыча, былога фаварыта Кацярыны ІІ.

Уладальнік Горы-Горацкага маёнтка граф І.А.Салагуб быў знаёмы Гаўрылы Раманавіча. Ён быў жанаты на дачцэ А.А.Нарышкіна, вядомага вяльможы ХУІІІ ст., папулярнага ў пецярбургскім свеце дзякуючы сваёй дасціпнасці і таварыскасці.

Цікава, што граф І.А.Салагуб быў дзедам вядомага ў першай палове ХІХ ст. пісьменніка В.А.Салагуба. Аб гэтым ён пісаў у сваіх "Воспоминаниях".

Дзяржавін наведаў Горкі 12 чэрвеня 1799 года. Гэта быў дзень нараджэння жонкі А.А.Нарышкіна – Марыны Восіпаўны, якая знаходзілася ў Горках. Паэта ўгаварылі застацца пагасцяваць. І за святочным сталом Гаўрыла Раманавіч прачытаў толькі што складзены верш "Горки":

Сегодня мы твоё рожденье
Пируем в Горках и Горах;
За здравие пьём и в восхищенье
Тебе желаем всяких благ,
А то ж и твоему супругу,
Чтоб долго и приятно жить,
И недругу давать и другу
Пиры, забавы – есть и пить.

Літаратуразнаўца С.У.Букчын піша, што потым Дзяржавін пераязджае ў вёску Горы. Па дарозе ў Горы ён сустракаецца з дзяўчынай-яўрэйкай, якая прапанавала яму купіць некалькі ўпаляваных бекасаў. Дзяржавін пазнаў у пераапранутай дзяўчыне дачку І.А.Салагуба – Кацярыну. Гэты выпадак ён адлюстраваў у вершы "Горы".

Свае ўражанні аб прыгажосці беларускай прыроды Дзяржавін выказаў у вершы "Виши":

Сей день усыпали цветами
Младые девы ложе мне
И тихих песен голосами
Восхитили мой дух во сне.
Казалося, за ними следом
Я по лугам, лесам ходил
И, с лип,златым питаясь мёдом,
Благоуханный воздух пил,
Близ вод жил в поле елисейском,
Весёлостей вкушая тьму;
Но, встав, увидел: в милом сельском
Твоём, Жуковский, я дому.

Гэты верш быў напісаны пасля наведвання памешчыка Жукоўскага, які меў маёнтак у маленькай вёсцы Вішы. Зараз гэтай вёскі няма ў Горацкім раёне. Нічога пакуль што невядома і пра памешчыка Жукоўскага, якога наведаў Дзяржавін.

У 1804 годз Горкі наведаў падарожнік, акадэмік У. М.Севярнін, які ў сваіх запісках адзначаў: «В 13 верстах от Гор встречается прекрасное местечко Горки, откуда идут ровные возвышенные поля, и места безлесные…»

Айчынная вайна ў ліпені 1812 г. апаліла горацкую зямлю. З карты-схемы, якая знаходзіцца ў Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеі, бачна, што 14 ліпеня французскія войскі захапілі Горкі, а рускім войскам на чале з атаманам М.І.Платавым прыйшлося спешна адступаць з горада.

У выніку ваенных дзеянняў і ў час акупацыі французскае войска разрабавала Горацкі замак, Горкі і Горы, фальваркі Наталін, Сенькава, Сава, Рудкаўшчына, Анігоф, шмат вёсак.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца цікавы дакумент "Апісанне ўрону, які панеслі жыхары Горы-Горацкага графства падчас нашэсця напалеонаўскіх войск у 1812 годзе". З яго бачна, што разрабавалі французы і што ўяўляў сабой Горацкі замак. "В Горецком замке, – напісана ў дакуменце,– вмещающем в себе четыре больших дома на каменном фундаменте, из коих один главный на горе у самого саду, с флигелями по обеим сторонам и коридорами, под одной связью выломаны двери, окошки и полы повреждены, фонари выдраны. Имеющаяся в оных домах разного сорта мебель, посуда столовая серебряная, фаянсовая испорчена.

Полотняные и прочие комнатные графские украшения, также и гардероб графа и графини весь разграблен, люстра и зеркала разбиты, печи испорчены, хранившиеся в погребах разные виноградные вина разграблены, ворота и ограда вокруг замка поломаны, в двух деревянных близ ворот домиках окна выбиты, полы и печи попорчены, в двух деревянных погребах печи разломаны, замки испорчены, и разная деревянная посуда побрана, в каменных оранжереях окна выбиты, разные цветы попорчены и ананасы разграблены, в деревянных оранжереях полы и двери выломаны, в саду разные плодоносные деревья попорчены, а плоды с них оторваны с сучьями, в больших конюшнях стойла и потолки выломаны, в кузницах инструменты ограблены и стыки выломаны, а горны разбиты. Все служительские дома на местечке против замка разорены, также разорён кожевенный завод со всеми принад-

лежностями. Состоящая близ оного замка винокурня с медной посудой разорена до основания".

Тут трэба адзначыць, што відаць, рабавалі не толькі французы, але і мясцовыя сяляне, калі ўбачылі, што замак застаўся без гаспадара.

Вядома, што ў Горы-Горацкім маёнтку было забіта і памерла ад пабояў 2070 чалавек, а 34 жыхары былі захоплены ў палон. 303 чалавекі пакінулі свае дамы і збеглі ў лясы, агульная колькасць чалавечых страт у выніку напалеонаўскага нашэсця па Горы-Горацкаму маёнтку склала 2407 чалавек. Матэрыяльныя страты склалі больш за 3 млн. руб. У гэтыя лічбы ўваходзяць і страты жывёлы, збожжа і прадуктаў харчавання. Да таго ж у Горках з ліпеня па лістапад 1812 г. знаходзіўся французскі вайсковы магазін для збору харчавання і фуражу. Зразумела, што рабіўся гэты "збор" сілаю.

Пра гэта і зараз у вёсцы Машкова Горацкага раёна ўспамінаюць легенду аб тым, як французскі афіцэр патрабаваў у сялян правіянт і фураж для коней. А калі сяляне адмовяцца, то абяцаў павесіць самага старога з вёскі дзеда Бяляса. А перад гэтым загадаў яму згатаваць гарбату. Калі вада закіпела, дзед Бяляс выбраў момант і перакуліў чыгун з варам на галаву француза, які яго ахоўваў, а сам сігануў у лес – толькі яго і бачылі. Раз'юшаныя французы запалілі вёску.

Прайшло некалькі месяцаў. Калі французы зімой пабеглі з Масквы, сяляне Машкова ўзялі ў палон некалькі абмарожаных французаў, сярод якіх дзед Бяляс пазнаў колішняга афіцэра.

Яго прывялі на папялішча, засыпанае снегам і вадзілі ад шалаша да шалаша, у якіх туліліся пагарэльцы. Яны хацелі зрабіць самасуд, але дзед заявіў:

– Збірайцеся на сход, судзіць будзем яго па ўсіх законах.

Француза павесілі на тым самым дубовым суку, які ён раней аблюбаваў для дзеда Бяляса.

У пачатку лістапада 1812 г. французскія войскі пачалі адступленне з горацкай зямлі. Вядома, што 8 лістапада

стаўка Галоўнага камандавання на чале з М.І.Кутузавым размясцілася ў мястэчку Раманава. Пасланыя адтуль рускія палкі пад камандаваннем генерала А.П. Ажароўскага вызвалілі Горкі.

"Пустые дома крестьян, умерших от голода, бледные, высохшие лица ещё живущих наполняют душу страхом", – так апісвае Горкі сучаснік пасля вызвалення іх ад французаў.

Цяжкае становішча жыхароў Горак і сялян маёнтка пагаршалася таксама з-за безгаспадарчасці апошняга ўладальніка маёнтка графа Л.Салагуба, які вёў разгульнае жыццё, праводзіў жыццё ў балях і маскарадах. Для гэтага ён меў асабісты тэатр і аркестр.

З "Гісторыі беларускага тэатра" (Мінск, 1983. Т.1) можна даведацца, што толькі музыкантаў было 29 чалавек. Пасля таго, як маёнтак перайшоў дзяржаве, музыкантаў перадалі ў дырэкцыю імператарскіх тэатраў і палкі лейб-гвардыі.

Эканоміка мястэчка Горкі яшчэ больш заняпала, калі ўладальнік маёнтка граф Салагуб вырашыў выгнаць з Горак яўрэйскае насельніцтва. Як пісаў М.М.Сраговіч у артыкуле “Яўрэйскае насельніцтва Горацкага раёну. Мінулае і сучаснае” (Апісанне Горацкага раёну. Праца навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі пры БДСГ з удзелам Горацкага раённага таварыства. Т.3. Горкі, 1927) яго мэтай было павысіць арэндную плату. Аднак яўрэйскаму насельніцтву такія ўмовы былі не пад сілу, і частка з іх з’ехала ў другія мясціны. І толькі ў 1822 годзе граф адмяніў свой загад.

У артыкуле Д.М.Васілеўскага “Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёну і г. Горак”, які змешчаны ў вышэй названым “Апісанні Горацкага раёну...” змешчаны і такі цікавы факт аб тым, што граф Салагуб вырашыў павялічыць рослацсць сваіх сялян і таму прасіў цара, каб у Горкі на зімовыя кватэры быў пастаўлены гвардзейскі батальён.

Што ўяўляла сабой мястэчка ў гэты час? Драўляныя хаткі з саламянымі стрэхамі і маленькімі акенцамі, якія пакасіліся ад часу, на Слабадзе і Зарэччы – вузкія, гразныя вуліцы, па якіх восенню і ўвесну ні праехаць, ні прайсці.

"Хлебных запасов у крестьян почти не было, поэтому из-за бывших неурожаев и общей крайней бедности крестьян большая часть их без хлеба, отчего часть крестьянских полей осталась без обработки и обсеменения", – так характарызаваў становішча горацкіх сялян царскі чыноўнік.

З 850 сялян Горы-Горацкага маёнтка 32 наогул не мелі даху над галавой, 280 тулілася ў хатках, непрыгодных для жылля. Даўгі ж гаспадара – графа Салагуба – з кожным годам павялічваліся. Ён нават не выканаў падрад на дастаўку харчавання ў армію Кутузава, які падпісаў у 1812 годзе.

За гэта ўрад вырашыў канфіскаваць Горы-Горацкі маёнтак у казну (ён уключаў 15 фальваркаў, 2770 прыгонных сялян і 1760 дзес. зямлі), што і было зроблена ў 1829 г. Пасля канфіскацыі маёнтка Магілёўскай казённай палатай быў састаўлены яго падрабязны план.

У 1836 годзе царскі ўрад вырашыў у былым графскім маёнтку адчыніць земляробчую школу. У гісторыі Горак пачаўся новы перыяд.

## *СПАЧАТКУ БЫЛА ШКОЛА*



***У*** першай палове XIX ст. на значнай частцы тэрыторыі царскай Расіі былі частыя неўраджаі, лютаваў голад. Сельская гаспадарка знаходзілася ў бядотным становішчы, айчынных спецыялістаў не хапала. У верасні 1833 года прэзідэнт Пецярбургскага вольнага эканамічнага таварыства М.С. Мардвінаў падаў цару Мікалаю I спецыяльную запіску, у якой, аналізуючы становішча сельскай гаспадаркі ў краіне, пісаў: "…благосостояние народа возникает от плодов, землею произращаемых, но изобилие и качество плодов зависят от степени просвещения и от науки сельского хозяйства; сия же

наука, полезнейшая в составе всех других, мало ещё известна в России...”

У лістападзе 1833 года на пасяджэнні Камітэта Міністраў гэта запіска была разгледжана і было прынята рашэнне стварыць асобы "Камітэт аб удасканаленні земляробства ў Расіі".

Новаўтвораны орган вырашыў выдаваць "Земледельческую газету", друкаваць агранамічную літаратуру і адкрыць земляробчую школу з двума разрадамі – вышэйшым і ніжэйшым.

Узнікла пытанне: дзе будаваць школу? У снежні 1833 года ў Міністэрстве фінансаў была пачата справа "О приискании удобного казённого или конфискованного имения, или оброчной статьи для устройства земледельческой школы с опытной запашкой".

Два гады працягвалася бюракратычная перапіска чыноўнікаў, расла колькасць папер у справе "О приискании…", а месца для школы ўсе яшчэ не знайшлі. Нарэшце летам 1835 года была створана спецыяльная камісія для абследавання і выбару прыдатных для земляробчай школы маёнткаў.

У склад камісіі ўваходзілі калежскі асэсар фон Штэйгер, на якога ўскладаліся агранамічныяназіранні, і калежскі асэсар Завадоўскі, спецыяліст па будаўнічай частцы.

Гісторык Л. Чарняўская знайшла ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь цікавыя дакументы, якія датычаць будаўніцтва ў Горках земляробчай школы. З іх бачна, што па рэкамендацыі міністра фінансаў для размяшчэння земляробчай школы былі абраны Магілёўская і Кіеўская губерні, прычым перавага аддавалася Магілёўскай губерні: "што яна будзе зблiжана з губернямі Беларускімі, Смаленскай, Чарнігаўскай, дзе асабліва патрэбна ўдасканаленне хлебаробства, а таксама не вельмі аддалена ад Палтаўскай.

У Магілёўскай губерні звярнуць асаблівую ўвагу на казённыя маёнткі Горы-Горацкі і Быхаўскі".

Звяртаюць на сябе ўвагу таксама некаторыя рэкамендацыі, дадзеныя членам камісіі па выбары месца: "Збл-

жэнне з вялікай ракой, зручнае месцазнаходжанне, дастатковасць вады,...каб паблізу самой установы не было продажу моцных напояў, які казна не ў стане адмяніць, увогуле надта блізкае суседства яўрэяў не пажадана. Па частцы ўласна агранамічнай трэба мець на ўвазе ці добрая глеба для такой установы і для авечкагадоўлі. ...Патрэбна, каб была суразмерная частка натуральных лугоў і дастаткова добрага лесу. ...каб паблізу самой установы магло быць дастаткова фальваркавай зямлі".

У Магілёўскай губерні былі даследаваны маёнткі Горы-Горацкі, Старабыхаўскі, Барсукі, Бышлякі, Фашчэўка і 5 маёнткаў у Кіеўскай губерні. Цікава, што ў некаторых маёнтках, якія наведалі царскія чыноўнікі, потым былі адкрыты сельскагаспадарчыя вучэбныя ці навукова-даследчыя ўстановы.

Вядома, што з усіх агледжаных камісія спынілася на Горы-Горацкім маёнтку. Чаму? Па- першае, царскі ўрад быў зацікаўлены ў найменшай траце сродкаў на будаўніцтва школы, а казённы маёнтак ужо меў некаторыя гаспадарчыя пабудовы і працоўную сілу. Па-другое, царскія чыноўнікі лічылі, што студэнцкая моладзь, адарваная ад вялікіх прамысловых цэнтраў, у невялікім мястэчку заўсёды будзе пад кантролем паліцыі. А гэта выключыць распаўсюджванне ў яе асяроддзі рэвалюцыйных ідэй.

Па-трэцяе, царскі ўрад хацеў мець школу ў тым месцы, куды было б зручна дабірацца вучням з Прыбалтыкі, Украіны і Расіі. І Горкі адпавядалі гэтаму патрабаванню.

Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што ў гэты час быў зачынены Віленскі універсітэт. А ўлічваючы, што другі разрад Горы-Горацкай земляробчай школы быў вышэйшай навучальнай установай, гэта была кампенсацыя Заходняму краю.

Адзначым, што Горкі адпавядалі амаль усім патрабаванням, якія ставіла перад камісіяй міністэрства фінансаў. Не выканана было толькі адно – у мястэчку, якое было як раз на мяжы аседласці яўрэйскага насельніцтва, жыло ў той час 2528 чалавек, а з іх яўрэяў было 790 чалавек.

24 красавіка 1836 года быў выдадзены ўказ цара Мікалая I Сенату аб адкрыцці Горы-Горацкай школы. Гэты дзень і прынята лічыць датай заснавання навучальнай установы.

Ва Указе цара пісалася: "Шукаючы спосабы да паступовага ўдасканальвання земляробства ў Імперыі Нашай, яко глаўнейшага вытока багацця ўласнага і агульнага, вырашылі Мы, для адкрыцця бліжэйшых да гэтага сродкаў, асобны Камітэт, па заключэнню якога розныя мерапалажэнні прыведзены ўжо ў дзеянне, але ж як галоўнейшы сродак для дасягнення жадаемай мэты заключаецца ў распаўсюджванні патрэбных звестак і падрыхтоўцы практычных людзей, для ўвядзення лепшых метадаў сельскай гаспадаркі, па прадпісанню таго Камітэта загадалі мы міністру фінансаў заняцца земляробчай школай з абразцовай сельскай гаспадаркай і каранной аўчарняй.”

У канцы 1836 года  была створана будаўнічая камісія па ўзвядзенню школьных будынкаў. Узначаліў яе чыноўнік Міністэрства фінансаў калежскі саветнік Кад'ян, членамі былі прызначаны калежскі асэсар барон дэ Рыдэль, аграном калежскі асэсар барон фон Штэйгер, упраўляючы маёнткам калежскі асэсар Станкевіч .

У яе акрамя царскіх чыноўнікаў уваходзіў архітэктар-будаўнік, італьянец, калежскі сакратар Анжэла Кампіоні. З архіўных дакументаў бачна, што ён быў скульптурным майстрам, у 1835 г. прызначаны памочнікам майстра-муляра для завяршэння будынкаў на Біржавай плошчы ў Санкт-Пецярбургу. Выконваў абавязкі майстра-муляра на будаўніцтве дома прысутнасці Санкт-Пецярбургскай мытні. За выдатную працу і стараннасць па заканчэнні будаўніцтва Уваскрасенскага сабора пры Смольным манастыры быў накіраваны  архітэктарам у Горкі. У той час А. Кампіоні было 47 гадоў, быў жанаты і меў 8 сыноў і 5 дачок. 6 снежня 1840 г. за выдатную і старанную службу і асаблівае працалюбства ў Горы-Горацкай будаўнічай камісіі быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава 3 ступені. А. Кампіоні працаваў у якасці школьнага архітэктара да 1846 г., затым атрымаў новае прызначэнне. У Горках выйшлі за-

муж дзве яго дачкі: Наталля – за практычнага агранома Міхельсона, Марыя за школьнага доктара фон Вількена.

У лістападзе 1836 г. ў Горках будаўнічая камісія пачала сваю дзейнасць. Сядзібныя будынкі, якія некалі належалі ўладальніку горацкага маёнтка памешчыку Салагубу, былі старыя і не зусім прыгодныя для школы. Даводзілася асноўныя школьныя будынкі будаваць нанава.

Зімой 1836-1837 года складаўся план будаўніцтва, нарыхтоўваўся будаўнічы матэрыял.

30 мая 1837 года адбылася ўрачыстая закладка падмурка галоўнага вучэбнага корпуса. Была закладзена скрыня з залатымі, сярэбранымі і бронзавымі манетамі і медная дошка з надпісам:"Лета от рождения Христова 1837 года мая 30 дня в 12 год благополучного царствования Николая I по распоряжению министра финансов генерала от инфантерии Егора Францевича Канкрина, под руководством Высочайше утвержденной строительной комиссии, положено основание здания Горы-Горецкой земледельческой школы".

Для будаўніцтва школы былі прыцягнуты сяляне Горы-Горацкага маёнтка, а таксама будаўнікі з многіх губерняў Расіі. Працавалі на будаўніцтве і жыхары мястэчка Горкі. І, відаць, добра зараблялі, бо яшчэ доўгі час месца, дзе вялося будаўніцтва школы, жыхары называлі "будаванні". Аб гэтым успамінае ў кнізе "Шляхам ад пачатку стагоддзя" былы вучань Горацкага земляробчага вучылішча М. Ганчарык, які потым стаў доктарам біялагічных навук, член-карэспандэнтам АН БССР.

Да 1840 года было ўзведзена 35 пабудоў: 3 каменныя трохпавярховыя карпусы, майстэрні, аранжарэя, жылыя дамы для выкладчыкаў, лазарэт, лазня і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Гісторык Л.Чарняўская знайшла ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі падрабязнае апісанне галоўных будынкаў школы. Яно дае ўяўленне аб стане і выглядзе гэтых пабудоў. Галоўны корпус характарызаваўся наступным чынам. "Оный корпус каменный, крытый листовым железом, 3-х – этажный и с одной стороны подвальный

этаж под сводами. Длиною 29 сажень, шириною 10 саж. 1/4 аршина и вышиною 7 саж. Корпусной карниз, фриз, пояски и все оконные впадины и притолки по наружности оштукатурены, поясок покрыт железом и у всякого окна подоконники тоже покрыты листовым железом. Для входа в подвалы имеются два каменные крыльца с 4-мя дубовыми ступеньками. Для входа в кухни тако ж крыльцо с таковыми ж 8-мю дубовыми ступеньками и два крыльца для входа на лестницы, из коих главный с 3-мя, а боковой с 10-ю дубовыми ступеньками...Над сими последними 3-мя крыльцами железные зонтики на кронштейнах, крытые листовым железом и при каждом по две водосточные трубы из листового железа...”

З архіўных матэрыялаў бачна, што на першым паверсе знаходзіліся аўдыторыя,бібліятэка, сталовая, буфет, пакой для назіральнікаў, амунічная, кухня, пякарня. На другім паверсе – рэкрэацыйныя залы 1-га і 2-га разрадаў, 7 класных пакояў і пакой для унтэр-афіцэраў. На трэцім паверсе знаходзіліся 5 спальных пакояў, 3 умывальні. На кожным паверсе былі туалеты. У пакоях меліся галандскія печы, абліцаваныя чырвоным кафлям, падлогі былі драўляныя, столі і сцены атынкаваныя і пафарбаваныя. У калідорах былі венецыянскія вокны.

Правы флігель "каменный, крытый листовым железом, трехэтажный и с одной стороны подвальный этаж. Длиною 15 саж. 10 вершков, шириною 8 саж. 3/4 аршина и вышиною 7 саж. Коронный карниз, фриз, оконные впадины и притолки штукатурные». У падвальным паверсе налічвалася 4 простыя пакоі. На ўваходзе ў флігель быў ганак на 12 дубовых прыступак. Над ганкам жалезны брыль на жалезных кранштэйнах. На першым паверсе размяшчалася кватэра галоўнага назіральніка, кватэра сакратара і кватэра эканома.

На другім паверсе размяшчаліся кватэры геадэзіста, памочніка галоўнага назіральніка і доктара. На трэцім паверсе 2 пакоі займаў лазарэт для рабочых, 5 пакояў было таксама адведзена пад лазарэт, у адным пакоі размяшчалася аптэка, 2 пакоі прызначаліся для фельдшара,

меліся кухня, калідор і агульная прыхожая. На кожным паверсе былі туалеты. У пакоях стаялі галандскія печы з чырвонай кафлі.

Левы флігель «каменный, крытый листовым железом, трехэтажный, длиной 15 саж. 10 вершков, шириной 8 саж. 3/4 арш. и вышиной до 6 саж. 1 арш.». Мяркуючы па апісанню, па архітэктуры, ён быў падобны з правым флігелем. «Для входа во флигель главное крыльцо каменное с дубовыми 6 ступенями... Для входа на лестницу с боковой стороны такое же крыльцо с 5 дубовыми ступенями. Над сими двумя крыльцами железные зонтики на кронштейнах... Лестница и площадка оной на каменных сводах, площадки настланы дубовыми досками. От нижнего до верхнего этажа 52 ступени». На першым паверсе знаходзілася кватэра дырэктара, якая складалася з 7 пакояў, кухні, пярэдняй, калідора.

Тут жа на паверсе была кантора з пакоем для прысутных. На другім паверсе размяшчаліся кватэра для тых, хто прыязджаў у школу, кватэра прафесара аграноміі. Трэці паверх таксама быў жылы. Тут знаходзіліся кватэра ад'юнкта-прафесара і кватэра для двух настаўнікаў. На ўсіх паверхах у пакоях былі драўляныя падлогі, пафарбаваныя жоўтай фарбай, столі і сцены атынкаваныя, галандскія печы з чырвонай кафлі.

Галоўны корпус з двума флігелямі быў злучаны муравана агароджай, даўжынёй з кожнага боку па 15 саж. і 2/3 арш., вышынёй ад 4 да 5 арш. Агароджа была пакрыта жалезам, сцены і слупы з абодвух бакоў атынкаваны, пабелены і пафарбаваны жоўтай фарбай, цокаль шэрай. У агароджы былі зроблены 2 брамы і 4 драўляныя каліткі.

Далей у дакументах апісаны «погребной флигель деревянный (цяпер жылы дом па вул. Ціміразева, 2/1) двухэтажный, из коих нижний каменный, а верхний деревянный, длиной 28 саж. 1 арш., шириной 6 саж. 1 арш., покрытый гонтом, покрашен краской масляной красною. Стены второго этажа обшиты снаружи чисто строганными досками, карнизы и фриз тоже окрашены, карниз белой, а стены желтой красками. Оный флигель с тремя попереч-

ными коридорами, которые имеют на заднем фоне сообщение с необходимыми местами, и перед каждым коридором деревянных крылец 3. В этих трех коридорах лестницы, ведущие на вторые этажи обшиты в роде чуланов досками».

На першым паверсе былі: кватэра для наглядчыцы над малаком, пакой для служанкі, адзін малочны пакой, пакой для трох жанатых сялян, кватэра повара і пекара. На другім паверсе размяшчаліся кватэра практычнага агранома і "людская". У другім пад'ездзе на першым паверсе знаходзіліся 2 пакоі для жанатых сялян, 2 пакоі з кухняй касцяляншы, кладоўка для бялізны, пакой для прасавання бялізны, пакой прачкі. На другім паверсе былі кватэры памочніка па справаводству, практычнага агранома, пакоі для халастых сялян і назіральнікаў. У трэцім пад'ездзе на першым паверсе знаходзілася пральня, на другім - пакоі для 12 назіральнікаў.

З архіўных дакументаў бачна, што былы сядзібны дом быў перанесены і перабудаваны для галоўнага ўпраўляючага маёнткам і эканамічнай канторы. Пад старым сядзібным домам захаваліся мураваныя скляпеністыя сутарэнні на 3 аддзяленні. Вядома, што яны захаваліся да гэтага часу і выкарыстоўваюцца для патрэб паркавай гаспадаркі акадэміі.

Будынкі школы выглядалі далёка не эстэтычна, і якасць работ была нізкая. Захаваліся ўспаміны сучасніка, які сведчыў: "институтские здания, покрашенные в красный цвет, с желтыми карнизами импонируют своей величественностью, но их стиль не свидетельствует про эстетический вкус строителя". Аднак вінаваты быў не будаўнік, а царскі ўрад, які лічыў, што ў маленькім мястэчку Горкі будынкі належыць узводзіць у казарменным стылі і без усялякіх упрыгожванняў. Ён выдзеліў на будаўніцтва ўсяго 296 тысяч рублёў. І ўжо ў першы год існавання школы ў многіх будынках прыйшлося поўнасцю перараблаць печы, перасцілаць і перафарбоўваць падлогі.

15 жніўня 1840 года Горкі выглядалі вельмі святочна. На ўрачыстае адкрыццё школы было запрошана шмат гас-

цей, губернскае і дваранскае начальства, купецтва. Працытуем на мове арыгінала архіўны дакумент з апісаннем урачыстасці, каб лепш перадаць атмасферу свята: "Утром в торжественный праздник Успенья Пресвятой Богородицы директор школы вместе с профессорами, учителями, агрономами и воспитанниками в парадных мундирах собрались в библиотечную залу, оттуда церемониально отправились в церковь Успенья Пресвятой Богородицы, сооруженную в местечке, где в присутствии могилевского гражданского губернатора, вице-губернатора, представителей палат и др. была совершена торжественная литургия ректором Могилевской семинарии.

По окончании литургии все духовенство с крестным ходом, сопровождаемое вышеозначенными лицами и толпою крестьян и торжественным колокольным звоном прибыло в школу. В огромном зале, украшенном разноцветными гирляндами натуральных цветов, величественно красовался портрет Государя императора, и так в присутствии монарха совершено было торжественное молебствие и последовало освящение зданий школы...

За сим царствовала тишина. Все посетители и духовенство заняли в зале сей места. Тогда старшим адьюнктом профессора агрономии Семеном Федоровым с устроенной нарочито кафедры, украшенной цветами, оранжерейными деревьями, зеленью и колосьями всех родов хлеба, над коею возвышались знаменитые вензеля виновников торжества сего и покровителей земледелия их сиятельств господ министров финансов и государственных имуществ, а также непосредственного начальника Горы-Горецкой земледельческой школы директора 3-го Департамента государственных имуществ, действительного статского советника О.Ф. фон Братке произнесена была речь о цели учреждения Горы-Горецкой земледельческой школы.

Избранные из среды крестьян лучшие хозяева с их женами до 300 человек были угощаемы во дворе зданий школы в присутствии всех знаменитых посетителей обедом.

За сим последовал великолепный обед для знаменитых посетителей числом до 100 человек.

В 8 часов вечера уединенное местечко Горки внезапно осветилось великолепной иллюминацией, разноцветные огни повсюду сверкали - и на возвышенном месте с аллей, идущих по саду от главного корпуса, красовался вензель Великого монарха в большой блестящей звезде. Здание главного корпуса, воздвигнутое на горе и освещенное иллюминацией и украшенное вензелем министра финансов и государственных имуществ, представляло величественное зрелище».

Не прысутнічалі тут толькі вучні школы. Іх набралася ўсяго 7 чалавек. Выхадцы з бедных сялянскіх сем'яў былі апрануты так дрэнна, што іх нельга было дапусціць да ўрачыстасцяў.

А прычына недабору ў земляробчую школу – у недаверы сялян да царскага цыркуляра аб накіраванні дзяцей у Горкі, а таксама высокая плата за навучанне (120 рублёў у год). Гэтым і карысталіся царскія чыноўнікі.Пісьменнік П.І. Мельнікаў у апавяданні "Поярков" апісвае, як прыстаў Паяркаў, атрымаўшы царскі Указ "Об отдаче малолетних крестьянских детей в Горы-Горецкую земледельческую школу Могилёвской губернии", запалохваў сялян, тлумачыўшы размяшчэнне і прызначэнне школы:"Эта губерня за Сібір'ю, на самым краі свету. І ўся яна стаіць у магілах. А на тых магілах гара, і на той гары школу завялі. Сялянскіх дзяцей там да ўсякага гора прывучаюць: таму і празвана "на горы Горацкая школа". Зразумела, што сяляне адкуплiваліся як маглі.

У цэлым трэба адзначыць, што царскі ўрад стараўся прыстасаваць сельскагаспадарчую адукацыю і навуку да ўмоў прыгоннага ладу.Таму галоўнай задачай новай навучальнай установы, як адзначалася ў "Палажэнні Горы-Горацкай земляробчай школы", было "…падрыхтаваць людзей для вядзення і распаўсюджвання метадаў сельскай гаспадаркі як у выглядзе распарадчым, так і выканаўчым". Школа складалася з двух разрадаў: першага–ніжэйшага і другога – вышэйшага.

Першы разрад быў прызначаны рыхтаваць "земляробчых вучняў" і даваў ім асновы аграноміі. Камплектаваўся ён у асноўным з дзяцей дзяржаўных і прыгонных сялян 16-20 гадовага ўзросту. Паступаючыя павінны былі ўмець пісаць, чытаць і ведаць чатыры дзеянні арыфметыкі.

На працягу трох гадоў вучні вывучалі падрыхтоўчыя і спецыяльныя сельскагаспадарчыя прадметы, на доследных палях і ферме выконвалі практычныя работы. Паспяхова скончыўшыя першы разрад, за выключэннем сялян, мелі доступ у другі. У штогадовых справаздачах школы неаднаразова адзначалася, што "выпускнікі курсаў першага разряда, як прыгоннага стану людзі, вернуты памешчыку." Ім не выдавалі і дыпломаў.

Другі разрад рыхтаваў аграномаў-практыкаў, і паступаць туды маглі дзеці толькі "свабоднага стану". Прыгонным доступ быў закрыты. Навучэнцы вывучалі хімію, заалогію, батаніку, са спецыяльных сельскагаспадарчых навук – аграномію, лесаводства, гісторыю і статыстыку сельскай гаспадаркі.

Вытворчая практыка ў школе насіла таксама саслоўна-класавы характар. Вучні першага разраду працавалі, як і сяляне школьнага маёнтка, вучні другога – выкарыстоўваліся на лёгкіх работах, каб "падтрымаць свае сілы і здароўе". Было розным і харчаванне вучняў.

Усе навучэнцы жылі ў пансіёне. За імі назіралі інспектары і наглядчыкі з унтэр-афіцэраў. Апошнія пільна сачылі за паводзінамі, не дазвалялі чытаць кнігі "коих чтение могло иметь вредное влияние на нравственность". Усе пісьмы праходзілі праз рукі наглядчыкаў. Навучэнцаў каралі розгамі і саджалі ў карцэр. На працягу трох гадоў не адпускалі дадому, нават на канікулы. Такім чынам, у земляробчай школе ўсталёўваўся аракчэеўскі рэжым, блізкі да рэжыму ваенных пасяленняў.

Некалькі слоў аб выкладчыках школы. Спачатку падбор іх быў не вельмі ўдалы. Так, першым дырэктарам школы быў доктар філасофіі Ф.Ф.Стэндар, выхаванец Дэрптскага універсітэта, які не ведаў рускай мовы і карыстаўся пе-

ракладчыкамі з выкладчыкаў школы. Практычны аграном Р.Р.Штэйнер не меў сельскагаспадарчай адукацыі і таксама дрэнна ведаў рускую мову, а галоўны наглядчык Ф.Ф.Гінтлінг быў не чысты на руку. І праз некалькі месяцаў пасля прыезду ў Горкі супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа аб спагнанні даўгоў, зробленых у час службы гараднічым у горадзе Ізмаіл.

Дарэчы, не паспеў скончыцца першы навучальны год, як школа перайшла ў падпарадкаванне новаму ведамству – Міністэрству дзяржаўнай маёмасці. Яго кіраўніцтва летам 1841 года наведала школу, і ў выніку ўзнікла справа “ О расследовании злоупотреблений по управлению Горы-Горецкой земледельческой школой, об устранении от должности директора школы Стендера, агронома Штейнера и др”. У выніку дырэктар школы і аграном былі вызвалены ад пасад за тое, што займаліся прыпіскамі і эксплуатавалі сялян маёнтка.

19 студзеня 1842 года зацвярджаецца "Дадатковая пастанова" да становішча Горы-Горацкай земляробчай школы 1836 года, мэтай якой было значнае павышэнне ролі другога разраду школы. Ён быў пераўтвораны ў самастойную вышэйшую навучальную ўстанову. Прымалі туды толькі дзяцей дваран і разначынцаў, якія скончылі гімназіі ці вытрымалі ўступныя экзамены.

У вучэбны план дадаткова ўводзілася вывучэнне рускага заканадаўства, механікі, мінералогіі, рускай славеснасці, нямецкай мовы і іншых прадметаў.

У той час у Горкі прыязджаюць і пачынаюць працаваць выкладчыкі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё школы. Гэта – Б.А.Цалінскі, прафесар, вядомы педагог і аграном, які адпрацаваў у Горках 23 гады, у будучым лаўрэат Дзямідаўскай прэміі; П.А.Раздольскі, доктар медыцыны, прафесар заалогіі і ветэрынарыі, адзін з заснавальнікаў ветэрынарыі ў Беларусі; К.Д.Шмідт, ад’юнкт-прафесар хіміі, які, як адзначаецца ў кнізе ”Очерки истории науки и культуры Беларуси”, быў заснавальнікам адной з першых навукова-даследчых хімічных лабараторый у Расіі; Б.А.Міхельсон, ад′юнкт-прафесар, больш за 20 год кіраваў ву-

чэбнай фермай школы, а потым інстытута, адзін з заснавальнікаў часопіса “Журнал сельского хозяйства”; В.І.Краузе, ад′юнкт-прафесар, арганізатар і першы дырэктар доследнай заатэхнічнай станцыі; Э.Ф. Рэга, прафесар батанікі, ў 1847 годзе заснаваў у Горках дэндрарый; Р.Я.Кнюпер, прафесар сельскагаспадарчай тэхналогіі; Ф.М.Каралёў, ад′юнкт-прафесар, вучоны ў галіне сельскагаспадарчага будаўніцтва, сябра Т.Р.Шаўчэнкі, які пісаў яму лісты ў Горкі.

У школе ў першыя гады вучылася не вельмі шмат навучэнцаў: ад 7 ў 1840 да 38 чалавек у 1843 годзе. А вось з 1844 года іх колькасць узрасла да 116 чалавек. Гэта было звязана з тым, што Сінодам Расіі было вырашана рыхтаваць у Горках выхаванцаў духоўных семінарый для таго, каб потым яны выкладалі аграномію ў семінарыях.

Да таго ж у 1844 годзе адкрылася вучэбная ферма, якой былі перададзены зямля і асноўныя гаспадарчыя пабудовы школы. На ферме, дзе набіралі штогод па 40 чалавек, вучылі вядзенню гаспадаркі і рыхтавалі вучняў для паступлення ў ніжэйшы разрад земляробчай школы. Тэрмін навучання складаў 4 гады.

Такім чынам, да 1845 года ў Горках існавалі ўжо тры сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы: вышэйшы і ніжэйшы разрады земляробчай школы і вучэбная ферма.

Акрамя таго дзейнічала невялікая школа аўчароў, дзе штогод навучалася 2 - 4 вучні. З 1841 па 1845 год працавала таксама вучылішча, якое рыхтавала настаўнікаў для сялянскіх школ.

У 1840-1848 гадах на тэрыторыі земляробчай школы працягвалася актыўнае будаўніцтва. Яно было звязана з дзейнасцю камандзіраванага ў 1841 г. у земляробчую школу інжынера-механіка Дзіга (Дыга) "для соображения на месте об устройстве при школе разных механических и технических заведений». Як сведчыць гісторык Л.Чарняўская, меркавалася, што з дапамогай гэтых устаноў выхаванцы азнаёмяцца з усімі галінамі прамысловасці і рамёствамі, звязанымі з сельскай гаспадаркай. У падрыхтаванай запісцы інжынер-механік выказаўся за ства-

рэнне пры школе вадзяного млына, сукнавальні, вінакурні, плаціны, гарбарні па апрацоўцы аўчын і іншых устаноў, якія маглі б быць карыснымі для школы. Да запіскі было прыкладзена абгрунтаванне і неабходныя распараджэнні па іх арганізацыі.

У 1844 г. у адпаведнасці з прадпісаннем Канторы Горы-Горацкай школы архітэктар А. Кампіоні склаў праект механіка-тэхнічнай установы – двухпавярховага мураванага будынка з двума драўлянымі флігелямі. Паводле іншых архіўных дакументаў, праект тэхнічных устаноў пры Горацкай земляробчай школе быў зацверджаны Дэпартаментам сельскай гаспадаркі ў 1849 г. Будынак размяшчаўся ў паўночна-ўсходняй частцы тэрыторыі школы, на беразе ручая. У 1872 г. у ім было арганізавана рамеснае вучылішча. З 1859 г. кіраваў тэхнічнымі установамі, а затым і рамесным вучылішчам баварскі інжынер-механік Георг-Альбрэхт-Вільгельм-Карл Брокі.

За перыяд 1840-1850 гг. пры земляробчай школе былі пабудаваны пральня з сушыльняй (праект зацверджаны ў 1845), млын (1844), пчальнік (1843), лазарэт для сялян (1844), корчмы (1843), дом для чыноўнікаў вучылішча (1844), гасцінны двор, скотны двор, малочнік, плаціны на р. Капылцы (1845), вароты пры ўездзе ў парк, пешаходны мосцік з батанічнага сада ў гадавальнік (1846), шэраг гаспадарчых пабудоў (1844 -1847), у фальварках былі пабудаваны вінакурня (1844), склепы для бульбы (1845, 1847), аўчарня і дом для школы аўчароў (1843), цагельні (1843),імшанік, рыгі, лядоўні,конскі завод,на вучэбнай ферме жылыя дамы і г.д.

У 1840-42 гг. з удзелам А. Кампіоні былі таксама адрамантаваны старыя аранжарэі. А ў 1846-1847 гг. аранжарэі былі ўвогуле перабудаваны, таму што старыя ўжо не адпавядалі сваёй мэце. У 1848 г. была выканана пафарбоўка правага флігеля: "наружные кирпичные стены покрыты цементом, составленным из извести и толченого кирпича с добавкою для цвета мумии. Коронный карниз, поясок и все притолоки с отметками исправлены и выбелены известью».

Яшчэ ў 1839 г., калі будаўнічыя работы па ўзвядзенню школьных будынкаў ужо завяршаліся, паўстала пытанне аб будаўніцтве мураванай царквы ўласна для школы. Некаторыя спрэчкі ўзніклі адносна выбару месца для будучай царквы. Архітэктар А. Кампіоні спачатку прапанаваў узводзіць царкву на рыначнай плошчы на месцы старых драўляных лавак. Дэпартамент дзяржаўных маёмасцей параіў больш уважліва падысці да выбару месца, улічыўшы інтарэсы школы. Тады А. Кампіоні прапанаваў для царквы месца ў садзе на рагу вуліцы насупраць левага флігеля. Выбар месца быў абумоўлены тым, што па плану добраўпарадкавання мястэчка Горкі планавалася пракласці гэту вуліцу прама на плошчу да гасцінага двара. Кантора школы таксама пагадзілася, што гэта месца найбольш выгоднае. У сваю чаргу духоўнае начальства меркавала будаваць царкву на месцы старой уніяцкай Мікалаеўскай царквы ( на жаль устанавіць месца, дзе яна існавала, да гэтага часу не ўдалося–У. Л.), якое, на думку Канторы школы, было цеснае і «не видное». Нарэшце, міністр дзяржаўных маёмасцяў падчас наведвання Горы-Горацкай земляробчай школы вызначыў месца для царквы ў новым парку ( зараз тут акадэмічная бібліятэка).

План школьнай царквы быў распрацаваны ў Галоўным упраўленні шляхоў зносін і грамадскіх будынкаў на аснове тыпавога праекта архітэктара Тона для Заходніх губерняў, быў зацверджаны імператарам 25 лістапада 1843 г. Архітэктарам Кавосам, згодна з планам, быў складзены каштарыс на будаўніцтва. Ён складаў з 74639 рублёў. Спачатку будаўніцтва царквы было запланавана на 1845-46 гг. Пры гэтым хацелася б адзначыць такі факт. Загадзя Кантора земляробчай школы прасіла на час устройства купала камандзіраваць з Санкт-Пецярбурга «искусного архитектора, хотя причин сомневаться в прочном и правильном возведении сей церкви г. Кампиони не находит, но во всяком случае полагало бы полезным» прыслаць яшчэ архітэктара.

Як вядома, з 1844 года рэзка ўзрасла колькасць навучэнцаў  і таму было вырашана перагледзець і план храма.

Пад часовую школьную царкву прыстасавалі два прасторныя пакоі, аб'яднаныя аркай, на ніжнім паверсе галоўнага корпуса. Іканастас быў перанесены з закрытай па старасці драўлянай Мікалаеўскай царквы і пастаўлены да ўсходняй сцяны.

Будаўніцтва новай мураванай царквы планавалася распачаць вясной 1848 г. і завяршыць на працягу трох год. У дагаворах (кандыцыях) на выкананне работ асаблівая ўвага звярталася на якасць: "При кладке стен и столбов каждый кирпич смачивать, для сводов погружать его на некоторое время в воду в ушатах или особых ящиках. Каждый ряд кладки хорошо щебенить и заливать известковым прыском, снаружи известковые швы углублять для лучшей связи штукатурки с кирпичом». Цэгла для царквы выраблялася на цагельні ў фальварку Іванава.

Для царквы планавалася заказаць 5 крыжоў з «сібірскага» чатырохграннага жалеза і 6 званоў ад 1 да 45 пудоў. Вядома, што ў выніку былі ўстаноўлены 6 драўляных крыжоў, акаваных жалезам. Драўляныя іканастас, прастол, ахвярнік і два кліpасы па дагавору пастаўляў маскоўскі купец І.Р. Котаў. 17 абразоў для іканастаса, якія павінны быць скапіраваны з лепшых карцін вядомых мастакоў, браўся выканаць вучань Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Васіль Ягораў.

Закладка падмуркаў будучага храма адбывалася пад наглядам архітэктара Маркава, які неўзабаве быў камандзіраваны ў Кіеў. У 1850 г. для нагляду за будаўніцтвам Дэпартамент сельскай гаспадаркі накіраваў у Горкі архітэктара Бонч-Бруевіча. Аднак у сувязі з яго хваробай абавязкі гэтыя былі ўскладзены на грамадзянскага інжынера Віцебскай палаты дзяржаўных маёмасцяў Івана Восіпава. Трэба сказаць, што будаўніцтва царквы ішло марудна па шматлікіх прычынах: не ў тэрмін нарыхтоўваўся будаўнічы матэрыял, марудна выраблялася цэгла, даводзілася па некалькі разоў аб'яўляць таргі на будаўнічыя работы і пастаўкі матэрыялаў, бо не адразу знаходзіліся зацікаўленыя падрадчыкі, карэкціраваліся праект і каштарыс у адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі.

Будынак царквы ў асноўным быў узведзены ў канцы 1851 г. У наступным годзе працягваліся аддзелачныя работы. Паводле архіўнага дакумента, 12 снежня 1851 г. яшчэ быў заключаны кантракт з селянінам Калужскай губерні П. Крыловым на выкананне тынковачных работ унутры і звонку: гладкай тынкоўкі сцен, тынкоўкі пілястр, пры вокнах і дзвярах выцягванне паяскоў карнізаў і ліштваў, выраб ляпных упрыгожанняў з сандрыкамі. Тынкоўка сцен і купала выконвалася вапнай з пяском без алебастру.

Калі пачала працаваць новая царква, паводле архіўных дадзеных, нельга дакладна ўстанавіць. Хутчэй за ўсё ў 1852 годзе. Ва ўсякім разе, у спісе будынкаў, што належалі Горы-Горацкаму земляробчаму інстытуту, які быў складзены ў 1854 годзе, была пазначана: “Каменная Свято-Николаевская церковь”.

Гэта царква была ўпрыгожаннем Горак. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ёсць дакумент аб нашым горадзе, які датуецца 1894 годам: “…Это крайне бедный, заброшенный город в стороне от рек, железных и шоссейных дорог…Его красит училище с прекрасной церковью…”

З 1840 па 1848 гады Горы-Горацкія навучальныя сельскагаспадарчыя ўстановы закончылі 162 навучэнцы.

Многія з іх сталі славутымі на ўсю Расію. Гэта сябар М.Г.Чарнышэўскага па Саратаўскай гімназіі І.У. Палімпсестаў, які стаў пазней прафесарам Адэскага універсітэта; І.М.Чарнапятаў – прафесар Ляснога інстытута ў Пецярбургу і Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі; Л.І. Сахараў – настаўнік і выхавацель вялікага рэвалюцыянера-дэмакрата М.А.Дабралюбава; М.І.Сібірцаў – выкладчык Архангельскай семінарыі, член-карэспандэнт Вольнага эканамічнага таварыства, пра якога міністр народнай адукацыіі Расіі Д.А.Талстой сказаў: “...вот если бы везде в России были такие преподаватели”; К.А.Чалоўскі, выкладчык Магілеўскай семінарыі, які зрабіў першае апісанне флоры Магілёўскай губерні.

Адначасова з вучэбнымі заняткамі ў Горы-Горацкай земляробчай школе вяліся і навуковыя даследаванні. Для гэтага выкарыстоўвалася асобнае доследнае поле ў двац-

цаць дзесяцін зямлі ў Горацкім фальварку і ўчастак у батанічным садзе. Заснаванае ў 1840 годзе, яно было першым доследным полем у Еўропе.

У галіне раслінаводства вывучаўся ўплыў розных угнаенняў на ўрадлівасць пшаніцы, ячменю, аўса, бульбы, ільну. За 1841-47 гг. было выпрабавана 47 гатункаў бульбы, 23 гатункі пшаніцы, ячменю, аўса і канюшыны.

У жывёлагадоўлі даследавалася эфектыўнасць кармоў розных відаў. Праводзіліся выпрабаванні сельскагаспадарчых машын і прылад, спосабы захоўвання сельскагаспадарчых прадуктаў.

Як правіла, доследы праводзіліся  па ўказанню Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў на працягу 1–2 гадоў. Імі кіравалі прафесар Б.А.Цэлінскі і ад'юнкт-прафесар Б.Г.Міхельсон.

У правядзенні доследаў удзельнічалі не толькі выкладчыкі, але і навучэнцы школы. Так, Х. Гербаноўскім была падрыхтавана навуковая праца “Хозяйственно-ботанический очерк окрестностей Горы-Горецкой земледельческой школы», які быў надрукаваны ў “Журнале Министерства государственных имуществ”.

Прымалі навучэнцы ўдзел і ў такой цікавай навуковадаследчай працы, як агранамічныя падарожжы, калі некалькі навучэнцаў пад кіраўніцтвам выкладчыка ў час летніх канікулаў адпраўляліся ў падарожжа па губернях. Іх мэтай было вывучэнне маёнткаў і сялянскіх гаспадарак. Справаздачы аб гэтых падарожжах друкаваліся ў навуковых часопісах.

Дасягненні школы не засталіся без увагі навуковай грамадскасці і кіраўнікоў міністэрстваў. Так, прафесар Я.А.Ліноўскі ў артыкуле “ Характер и цель учения в разных земледельческих школах, институтах и университетах в Европе”, надрукаваным у часопісе “Московитянин“ в 1845 годзе, пісаў, што ў Горы-Горацкай земляробчай школе сельская гаспадарка выкладаецца лепш і падрабязней, чым ў іншых школах Расіі. А міністр дзяржаўнай маёмасці Расіі П.Д.Кісялёў у сваёй справаздачы за 1845 год адзначыў, што “... земледельческая школа занимает в Рос-

сии первое место среди учреждений по распространению улучшений в сельском хозяйстве».

Такім чынам, дастаткова высокі ўзровень выкладання, навуковая работа, папулярнасць Горы-Горацкіх земляробчых устаноў стварылі перадумовы для пераўтварэння вышэйшага разраду земляробчай школы ў інстытут.

Дададзім да гэтага, што стварэнне ў Горках земляробчай школы з двума разрадамі і фермы вельмі спрыяла развіццю менавіта мястэчка. Узрасла колькасць насельніцтва, бо прыехала шмат выкладчыкаў і служачых школы. Акрамя гэтага 24 снежня 1841 года Дзяржаўны Савет Расійскай імперыіі прыняў пастанову, згодна якой людзі свабоднага саслоўя, якія перасяляліся ў Горкі, карысталіся льготамі, як і ў іншых гарадах Магілеўскай губерні.

У 1844 годзе Міністэрства дзяржаўнай маёмасці прыняло пастанову аб будаўніцтве ў Горках "...ежегодно по 15 новых хат с выдачей для этого селянам взаимообразно строительного леса". Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў 1844 годзе ў Горках было: цэркваў праваслаўных – 3, касцёл – 1, некалькі яўрэйскіх малітоўных дамоў, хат у свабодна пражываючых – 6, хат у сялян – 308, у яўрэяў – 119, ў адстаўных салдат – 12. У гэты час быў перабудаваны і пашыраны сялянскі лазарэт, дзе працавалі дзве павівальныя бабкі.

У справах горацкай будаўнічай камісіі за 1839 год знаходзіцца прашэнне Франца Кноля аб выдзяленні яму месца для будаўніцтва аптэкі і зямлі пад гарод пры ёй "для ботанических растений". Праз год аптэка была адчынена.

У 1841 годзе пачала працаваць у Горках метэастанцыя, якая, як адзначаецца ў кнізе "Очерки истории науки и культуры Беларуси", праводзіла найбольш поўныя і няспынныя назіранні ў Беларусі, якія ўключалі дадзеныя аб атмасферным ціску, тэмпературы і вільготнасці паветра, сіле ветру і колькасці ападкаў.

Як сведчаць архіўныя дакументы Санкт-Пецярбурскага гістарычнага архіва ў маі 1845 года пачалось будаўніцтва новай мураваный царквы Ўшэсця на Казіміраўскай слабадзе. Царква пачала працаваць у 1850 годзе.

У 1846 годзе ў горадзе, а ў 1847 годзе ў Казіміраўскай Слабадзе адкрыліся пачатковыя народныя школы.

Быў капітальна адрамантаваны гасціны двор, адкрылася некалькі новых крам, а ўсяго іх было – 44.

Становчай з'явай, як адзначана ў архіўных дакументах, было і змяншэнне ў Горках піцейных устаноў.

Быў капітальна адрамантаваны шлях з Оршы ў Горкі, на ім было пабудавана некалькі новых мастоў.

Такім чынам, Горкі вельмі выйгралі ад таго, што менавіта тут адкрылася земляробчая школа, якая ў 1848 годзе была пераўтворана ў інстытут. Аб гэтым пойдзе размова ў наступным раздзеле кнігі.

## *ПЕРШЫ Ў РАСІІ*



***П***ераўтварэнне вышэйшага разраду Горы-Горацкай земляробчай школы ў інстытут праходзіла ў той перыяд, калі феадальна-прыгонніцкія адносіны ў Расіі дажывалі свой век, калі пытанні аб спосабе вызвалення сялян, аб адносінах паміж памешчыцкім і сялянскім землеўладаннем пачалі набываць асаблівае значэнне ў грамадска-палітычнай барацьбе.

Гэта барацьба праявілася і ў рашэнні пытання аб адкрыцці ў Горках земляробчага інстытута. Супраць адкрыцця інстытута выступалі царскія чыноўнікі, якія выстаўлялі прычыну аддаленасці Горак ад буйных гарадоў, цяжкасці ў падборы выкладчыкаў і наборы студэнтаў, беднасць сялянскіх гаспадарак Магілёўскай губерні. Асабліва пярэчылі чыноўнікі Міністэрства народнай асветы, якія стаялі на ахове прыгонніцкага ладу. Яны палохалі, што "возрастающее повсюду стремление к образованию может поколебать порядок гражданских сословий".

У той жа час прагрэсіўны дзеяч, прафесар сельскай гаспадаркі Маскоўскага універсітэта Я.А.Ліноўскі лічыў, што "нельзя было выбрать места, более приличного для рассадника улучшенного хозяйства, как Белоруссию, страну, известную у нас своими песками, бесплодностью, лесами и бедностью, страну, где …от распространения между ним (народам –У.Л.) правильного, хорошо обдуманного хозяйства можно было ожидать средств к умножению его довольства и благосостояния".

У рашэнні спрэчкі рашаючую ролю адыгралі эканамічныя фактары. Дырэктар 3-га Дэпартамента Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў А.І. Леўшын лічыў, што "…оба заведения уже существуют там 7 лет; на здания и заведения употреблено более миллиона рублей; профессора есть; лаборатории, кабинеты и прочие пособия учреждены; следовательно теперь не время рассуждать о месте".

У маі 1847 года праект палажэння аб Горы-Горацкім земляробчым інстытуце і яго штаце, які быў падрыхтаваны Вучоным камітэтам, разгледзеў і зацвердзіў міністр дзяржаўных маёмасцей. Але толькі праз год, 30 чэрвеня 1848 года, у выніку процідзеяння бюракратам Міністэрства народнай асветы было зацверджана “Положение о Горы-Горецком земледельчеком институте и состоящих при нем земледельческом училище и учебной ферме”, згодна з якім вышэйшы разрад Горы-Горацкай земляробчай школы пераўтвораны ў земляробчы інстытут – першы ў Расіі "с правом университета".

У земляробчы інстытут прымаліся асобы, якія скончылі курс гімназіі, без экзаменаў, якія не скончылі – здавалі экзамен за гімназічны курс. Студэнты насілі форму, якая была прынята ва універсітэтах, толькі з зялёным аздабленнем па каўнеры і абшлагах.

На працягу чатырох гадоў студэнты вывучалі спецыяльныя прадметы: паляводства, лугаводства, жывёлагадоўлю, лесаводства. Вывучалі таксама  дамаводства, сельскую бухгалтэрыю, сельскагаспадарчую тэхналогію і механіку, архітэктуру і геадэзію. У праграму ўваходзілі і прыкладныя навукі – матэматыка, фізіка з метэаралогіяй,

мінералогія, кліматалогія, хімія, батаніка, заалогія. Адзін раз у тыдзень праводзіліся літаратурныя гутаркі. Апошнія павінны былі знаёміць студэнтаў "с лучшими произведениями отечественной литературы, с духом сих произведений, сравнительными красотами и оборотами русской речи".

Пасля заканчэння інстытута студэнты атрымлівалі дыплом са званнем "агранома" ці "действительного студента агрономии". Першы выдаваўся тым, хто пісаў "развагі" (дыпломную працу – У.Л.) па адной са спецыяльных дысцыплін і здаваў на "выдатна" ўсе экзамены.

У "Палажэнні" адзначалася, што "звание агронома соответствует званию университетского кандидата, а потому и могут агрономы Горы-Горецкого института на одинаковых основаниях быть с кандидатами допущены к выдерживанию экзамена в магистры по сельскому хозяйству и садоводству или по технологии." "Как Горы-Горецкий земледельческий институт, – адзначалася ў "Палажэнні", – составляет ныне единственное в России специальное высшего разряда училище сельскохозяйственных наук, то в институте разрешалось сдавать экзамены экстерном за полный курс на звание "действительного студента". Тых, хто паспяхова скончыў інстытут, узнагароджвалі залатымі і сярэбранымі медалямі. На іх быў адлюстраваны плуг і подпіс "От Горы-Горецкого земледельческого института".

Па новаму палажэнню навучанне працягвала заставацца платным. За вучэбны год студэнты інстытута, якія жылі ў пансіянаце, павінны былі плаціць 125 рублеў. Прычым плату трэба было ўносіць за паўгода наперад. Казённакоштных студэнтаў, г.зн. тых, хто навучаўся за кошт дзяржавы, было 25 чалавек.

Рэформа закранула не толькі вышэйшы, але і ніжэйшы разрад, які быў пераўтвораны ў Горы-Горацкае земляробчае вучылішча з чатырохгадовым тэрмінам навучання. Тыя, хто скончыў яго, атрымлівалі званне вучонага памочніка эканома, а праз шэсць гадоў працы па спецыяльнасці атрымлівалі атэстат на званне вучонага эканома.

У 1858 годзе пры інстытуце была адкрыта новая навучальная ўстанова “Класы прыватных каморнікаў і таксатараў”. У іх прымаліся шаснаццацігадовыя падлеткі “всех свободных состояний», але перавага аддавалася дзецям дваран. Навучанне ў вучылішчы вялося два гады. За гэты час навучэнцы вывучалі ніжэйшую геадэзію, нівеліраванне, таксацыю, чарчэнне і іншыя спецыяльныя навукі.

Вучні класаў былі ў больш прывілеяваным становішчы, чым студэнты інстытута і навучэнцы земляробчага вучылішча, таму што ўсе былі вольнапрыходзячымі, г.зн. жылі на прыватных кватэрах і атрымлівалі стыпендыю, хадзілі без формы. Класамі кіравала ўпраўленне інстытута. У хуткім часе для іх быў пабудаваны спецыяльны будынак.

Калі ацэньваць у цэлым “Палажэнне” аб земляробчым інстытуце,то як лічыў С.Г.Цітовіч, варта прызнаць “...направленность Положения о Горы-Горецком земледельческом институте 1848 года антикрепостнической. Институт по “Положению” должен был подготовить молодежь к умению устраивать хозяйство при раскрепощенном крестьянине“.

У ходзе рэформы Горацкіх земляробчых навучальных установў адбылася змена кіраўніцтва. У красавіку 1848 года дырэктарам Горы-Горацкага земляробчага інстытута быў прызначаны А.А.Война-Курынскі, па адукацыі – доктар медыцыны. У свой час ён перамяніў медыцынскую спецыяльнасць на сельскагаспадарчую. Надрукаваў некалькі работ у “Журнале Министерства государственных имуществ”. У 1842 годзе быў абраны член-карэспандэнтам Вучонага камітэта Міністэрства дзяржаўных маёмасцаў. Дырэктар інстытута з’яўляўся таксама начальнікам земляробчага вучылішча і вучэбнай фермы, а з 1858 года – і каморніцкатаксатарскіх класаў.

Са стварэннем земляробчага інстытута папоўніўся штат выкладчыкаў. Былі прыняты на работу прафесары А.А.Гінцэль, Э.Ф.Рэга, С.С.Касовіч, магістр матэматыкі Ф.Н.Каралеў і інш. У наступныя гады ў інстытуце сталі выкладаць

прафесары, якія былі вырашчаны самім інстытутам. Сярод іх А.М.Бажанаў, Ю.Ю.Жабека, А.М.Казлоўскі, А.В.Саветаў, І.А.Сцебут.

Выпускнік інстытута І.А.Сцебут, калі ўспамінаў прафесароў і выкладчыкаў інстытута, пісаў: “...несомненно самым талантливым был Б.А.Целинский, преподававший земледелие и домоводство (сельскохозяйственную экономию)... Очень добросовестным был преподаватель химии К.Д.Шмидт, усердным и добрым Э.Ф.Рего. Большая польза в моем теоретическом и практическом сельскохозяйственном образовании была в руководстве такого выдающегося практика-теоретика, каким был Б.Г.Михельсон”.

У 50-я гады на тэрыторыі Горы-Горацкіх навучальных установ працягвалася далейшае будаўніцтва. Быў пабудаваны корпус сельскагаспадарчай тэхналогіі, завод па вырабу цэглы і дрэнажных труб, майстэрня сельскагаспадарчых машын, чыгуналіцейны завод, сыраварня і вучэбны пчальнік. Адначасова з будаўніцтвам царквы на тэрыторыі школы ўзводзілася і мураваная лазня. Старая драўляная лазня была ў дрэнным стане, да таго ж знаходзілася яна далёка ад вады, таму Дэпартамент сельскай гаспадаркі палічыў немэтазгодным яе капітальна рамантаваць. Было вырашана будаваць новы мураваны будынак лазні на р. Капылка. У мэтах эканоміі сродкаў рэкамендавалася новую лазню будаваць такіх жа памераў, каб можна было перанесці стары дах. Праект лазні быў зроблены ў Дэпартаменце сельскай гаспадаркі. Будынак быў прамавугольны ў плане, складаўся з двух аддзяленняў. Уваход знаходзіўся ў цэнтры падоўжанага фасада. Справа ад уваходу было вялікае аддзяленне для студэнтаў і чыноўнікаў, якое складалася з распранальні, умывальні і ўласна лазні, злева - для выхаванцаў фермы і земляробчага вучылішча. Будаўніцтва лазні было завершана ў лістападзе 1851 г. Як вядома, яна працуе і зараз.

Калі вышэйшы разрад Горы-Горацкай земляробчай школы быў рэарганізаваны ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут з 4-гадовым тэрмінам навучання, то быў складзены пералік усіх будынкаў, якія належалі інстытуту.

Усіх будынкаў і іншых збудаванняў у рэестры пералічана: 1. Галоўны корпус; 2. Правы флігель; 3. Левы флігель; 4. Флігель на галоўным двары; 5. "Погребной" флігель; 6. Дом Горацкага земляробчага вучылішча (будуецца); 7. Флігель пры вучылішчы; 8. Дом тэхнічных устаноў; 9. Мураваная Свята-Мікалаеўская царква; 10. Дом святара пры ёй; 11.Павець; 12. Вартоўня пры шасейнай дарозе; 13. Вартоўня пры браме інстытута; 14. Мураваная лазня; 15. Кузня; 16. Пральня з сушыльняй; 17. Мураваная павець з пчальнікам; 18. Драўляная павець пры правым флігелі; 19. Драўляная павець са стайняй, кладовай, лядоўняй пры левым флігелі; 20. Домік для адхожых месц; 21. Склепы на галоўным двары; 22. Пажарная павець; 23. Стайні на двары "погребного" флігеля; 24. Агароджа, якая злучае флігелі з галоўным корпусам; 25. Агароджа, якая злучае левы флігель з "погребным"; 26. Рашотчатая агароджа пры смаленскай дарозе з такой жа брамай і каліткамі на чыгунных тумбах; 27. Частаколы, якія з'яўляюцца працягам апошняй агароджы; 28. Частакол пры царкоўнай дарозе; 29. Частакол пры р. Капылка за агародам; 30. Валы ў розных месцах інстытута; 31. Вал пры тэхнічнай установе; 32. Аранжарэя верхняя; 33. Аранжарэя ніжняя; 34. Цяпліца; 35. Пчальнік у садзе; 36. Кітайская альтанка; 37. Альтанка ў дрэўным рассадніку; 38. Альтанка-грыб; 39.Хлеў для глебы; 40. Гімнастычныя гульні з арэлямі і каруселлю; 41. Альтанка з памостам для гульні ў кеглі; 42. Рашотчатыя вароты; 43. Вароты ў батанічны сад. 44. Вароты з мостам пры тэхнічнай установе; 45. Мост на шасейнай дарозе; 46. Мост пешаходны праз Капылку; 47. Дамба пры тэхнічнай установе на левым беразе Капылкі; 48. Мураваная з контфорсамі калітка пры земляробчым вучылішчы; 49.Плаціна праз Капылку; 50. Шасейная дарога паміж інстытутам і царквой з працягам яе за царквой, а таксама розныя дробныя мосцікі і драўляныя трубы ў валах.

З адкрыццём земляробчага вучылішча ўзнікла неабходнасць знайсці месца для яго размяшчэння. Таму інжынеру І.Осіпаву было даручана скласці праект перабудовы правага флігеля. Затым Дэпартамент сельскай гаспадаркі

прызнаў мэтазгодным пабудаваць для вучылішча новы двухпавярховы будынак. Нагляд за будаўніцтвам ажыццяўляў І. Осіпаў. Як вынікае з архіўных дакументаў, у 1854 г. ужо вяліся будаўнічыя работы. Планавалася скончыць будаўніцтва ў жніўні 1855 г.

У архівах ДНГА гісторыкам Л.Чарняўскай быў выяўлены вопіс запраектаванага дома: "Мураваны двухпавярховы з падвалам пад трэцяй часткай будынка, крыты жалезам. На франтоне круглае акно з пераплётам. Пры будынку мураваны тамбур, крыты жалезам. Драўляных тамбураў 2. У падвале пяць пакояў з 2 вокнамі". Паводле архіўнага дакумента, у працэсе будаўніцтва інжынер І. Осіпаў уносіў некаторыя карэктывы ў праект. Так быў павышаны цокаль будынка, столі зроблены падшыўныя на "польскі манер", зроблены ўваход у падвал, які адсутнічаў па праекту, у класе пастаўлены печы, выканана цэментоўка вонкавых сцен». У 1872 годзе ў гэтым будынку размясцілася Горацкае рамеснае вучылішча. У час Вялікай Айчыннай вайны гэты будынак быў разбураны.

Вучэбныя заняткі для студэнтаў інстытута праводзіліся ў галоўным корпусе, дзе былі створаны фізічны, мінералагічны кабінеты, хімічная лабараторыя, “прекрасно устроенная профессором Шмидтом». Пры ёй быў і хімічны кабінет на 50 месц.

Батанічным садам загадваў прафесар Э.Ф.Рэга, калекцыя якога складалася з 3875 раслін. Напрыклад, яравой пшаніцы – 56, азімага жыта – 20, аўса –33, гароху – 25, а ўсяго 749 сартоў. Меліся фруктовы і лясны гадавальнікі. Апошні быў разбіты на 3 ярусы. На першым раслі высокаствольныя дрэвы, на сярэднім – кусты, на трэцім – нізкія кусты. На ўсіх ярусах знаходзілася 254 правільныя чатырохвугольныя ўчасткі, на якіх былі пасаджаны віды драўнінных раслін.

Былі створаны музеі: заалагічны, анатамічны і сельскагаспадарчых машын (141 плуг, 12 сеялак, 16 малатарняў, жняяркі і г.д.).

Інстытуцкая бібліятэка да канца 50-х гадоў налічвала больш 7 тысяч кніг айчыннай і замежнай літаратуры, мела

таксама творы Пушкіна, Грыбаедава, Лермантава, выпісвала “Отечественные записки» і “Современник». Была ў студэнтаў і свая бібліятэка на грамадскіх пачатках.

У 50-я гады значна павялічылася колькасць студэнтаў і навучэнцаў у Горы-Горацкіх навучальных установах. Найвялікшая колькасць студэнтаў прыходзілася на 1852 -1854 гады. Затым у сувязі з Крымскай вайной 1853-1856 гг., колькасць іх пачала падаць.

У інстытуце мелі перавагу выхадцы з дваранства, у вучылішчы – дзеці сялян і мяшчан. Напрыклад, у 1857-1858 навучальным годзе са 153 студэнтаў інстытута 85 былі з дваран і толькі два – выхадцы з сялян, у вучылішчы з 71 навучэнца – 57 выхадцы з сялян і мяшчан і толькі 7 – з дваран.

Як мы бачым, прадстаўнікам сялянства, дробных слаёў горада шлях да вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыі быў фактычна закрыты. Не было сярод студэнтаў і навучэнцаў дзяўчат.

Матэрыяльнае становішча шматлікіх студэнтаў і навучэнцаў, выхадцаў з народных мас было цяжкім. Для іх студэнты арганізоўвалі сталовыя, касы ўзаемадапамогі, а каб зарабіць грошы, давалі канцэрты. Але ж, нягледзячы на гэта, многія кідалі вучобу або вучыліся па 6-7 гадоў. На нізкім узроўні было пастаўлена медыцынскае абслугоўванне. Студэнты і навучэнцы часта хварэлі, а ў 1862 годзе аж 5 чалавек памерла.

Тым не менш, у Горы-Горацкіх земляробчых навучальных установах навучаліся студэнты амаль з усіх губерняў Расіі, а таксама з Германіі і Францыі. Былы студэнт інстытута С.Акуліч, калі ўспамінаў пра гады, якія былі праведзены ў Горках, пісаў: “Попал сразу в тот омут, в ту человеческую суету с разных сторон: из Литвы и Белой Руси, с Королевства и Подолии, с Волыни и Украины – представителей разных краев, разных миров, понятий, суждений, обычаев и привычек и однако сплавленных тут в одну амальгаму, имя которой было: студент Горы-Горецкого института...”.

У вершы “Рэч Старавойтава” так было напісана пра студэнта Горы-Горацкага земляробчага інстытута:

Як пра што стане гаварыць,
Дык быццам які прэзідэнт.
Ужо не патрапіць яго збіць
І Горы-горацкі студэнт.

Выкладанне прадметаў у інстытуце вялося па праграмах і вучэбных дапаможніках, зацверджаных Вучэбным камітэтам Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. Большасць выкладчыкаў пры чытанні лекцый кіравалася выданымі падручнікамі, некаторыя, такія як Рэга, Шмідт, Саветаў, Сцебут, Цалінскі распрацавалі ўласныя курсы. Так, апошні чытаў курс арганізацыі гаспадаркі. У справаздачы за 1855-1856 навучальны год ён пісаў, што навука гэтая ў перавазе “кемлівая”, развівае здольнасць і ўменне меркаваць разнастайныя гаспадарчыя адносіны, што дасягаецца гэта не дагматычным выкладаннем, а практыкаваннямі са студэнтамі па складанню гаспадарчых планаў і падлікаў севазваротаў і г.д.

Па падручніках выкладчыкаў інстытута і яго выхаванцаў С.С.Касовіча (батаніка), К.Д.Шмідта (хімія),Э.Ф.Рэга (садоўніцтва і агародніцтва), А.М.Бажанава (жывёлагадоўля), А.П.Людагоўскага (эканоміка)  навучаліся шматлікія пакаленні студэнтаў земляробчых ВНУ Расіі.

Адной з форм навучання былі “агранамічныя гутаркі”. Іх мэта заключалася ў тым, каб “…доставить возможные средства к развитию способностей учащихся…».  Раз у тыдзень, па пятніцах, студэнты трэцяга і чацвертага курсаў збіраліся па вечарах на кватэры дырэктара на такія гутаркі і разбіралі студэнцкія сачыненні, публікацыі ў сельскагаспадарчых часопісах, прапановы па паляпшэнню сельскай гаспадаркі. Усё гэта спрыяла паляпшэнню падрыхтоўкі будучых спецыялістаў, значна павышала іх інтэлектуальны ўзровень.

Для студэнтаў першых двух курсаў былі “…установлены подобные же беседы по части отечественной словесности, для чтения и разбора образцовых наших писателей“.

У інстытуце практыкаваліся і агранамічныя падарожжы, пачатыя яшчэ ў вышэйшым разрадзе школы. Яны арганізоўваліся кожны год пад кіраўніцтвам выкладчыка пры ўдзеле 5-7 студэнтаў і імкнуліся да азнаямлення з сельскагаспадарчымі ўмовамі ў розных губернях Расіі. Так, у 1849 годзе Б.А.Цалінскі разам з сям'ю студэнтамі, у тым ліку і з будучым прафесарам А.В.Саветавым, зрабілі падарожжа па Кіеўскай, Чарнігаўскай, Палтаўскай і іншых губернях Украіны.

У прыродных палявых умовах будучыя аграномы знаёміліся з прыроднымі зонамі, асаблівасцямі глеб і расліннасці. Усё гэта абуджала творчую думку, пашырала кругагляд. “Теоретическое изучение какой бы то ни было отрасли сельского хозяйства, – пісаў у справаздачы аб вандраванні па дзевяці губернях Расіі ад'юнкт-прафесар Э.Ф. Рэга, – в соединении даже с самыми тщательными опытами, не может принести той пользы, какую приносит наглядное знакомство с образцовыми хозяйствами, столь различными в разных местностях».

Разам з тым будучым спецыялістам кідаліся ў вочы недапушчальныя неадпаведнасці паміж магчымым і рэальным: пры вялікіх пасяўных плошчах Расіі беззямельныя сяляне вялі паўгалоднае існаванне.

За перыяд з 1844 года па 1860 год было праведзена 14 агранамічных падарожжаў. Справаздачы па пяці з іх былі надрукаваны ў “Записках Горы-Горецкого земледельческого института”, іншыя – у “Журнале Министерства государственных имуществ”. Спачатку іх пісалі толькі кіраўнікі, а затым павінны былі прадстаўляць і студэнты.

Цікавай формай навучання і своеасаблівым відам навукова-даследчай працы была пастаноўка перад студэнтамі так званых конкурсных задач, за лепшае рашэнне якіх яны ўзнагароджваліся залатым медалём. На кожны навучальны год Савет інстытута даваў адну задачу. Напрыклад, у 1851-1852 навучальным годзе давалася наступная задача: “Какими выгодами для хозяйства сопровождается травосеяние на полях? Какие по этой части сделаны улучшения в новейшее время? В каком виде и с

помощью каких мер и средств травосеяние могло бы быть введено в русских хозяйствах?” Адказы на конкурсную задачу, зробленыя ананімна ў выглядзе сачыненняў і прадстаўленыя пад дэвізам, былі разгледжаны ў 1852 годзе Саветам інстытута, і залатым медалем быў узнагароджаны студэнт М.Савініч.

Вывучэнне тэарэтычных навук праходзіла ў цеснай сувязі з практычнымі заняткамі. Практыка ў інстытуце праходзіла два летнія месяцы (з 15 чэрвеня па 15 жніўня). У справаздачы па інстытуце за 1853-1854 год адзначана: ”При изложении наук преподаватели наши постоянно руководствуются мыслью и желанием сблизить науку с нуждами и потребностями практической жизни».

Студэнты практыкаваліся на вучэбнай ферме і прымалі ўдзел ва ўсіх сельскагаспадарчых працах. Займаліся прыгатаваннем кампостаў, аралі, сеялі, даглядалі пасевы. На лугах рабілі дрэніраванне забалочаных глеб.

У аранжарэі займаліся вырошчваннем ранняй агародніны, самі гатавалі расаду. На практычных занятках па жывелагадоўлі яны знаёміліся з прыёмамі даення кароў, спосабам утрымання і ўстройства жывёльнага двара. “При всех практических занятиях, – пісалася ў справаздачы за 1854-1855 гады, – молодые поборники науки земледелия с охотой и любовью вникали во все подробности дела и сами искали случаи усвоить себе практические приемы по всем отраслям науки”. Але так ставіліся да практычных заняткаў далека не ўсе. Шмат студэнтаў, выхадцаў з дваран, прыходзілі на заняткі ў белых пальчатках.

У канцы навучальнага года ў інстытуце праходзілі гадавыя выпрабаванні (г.зн. экзамены). Так, у 1852-1853 навучальным годзе ў інстытуце налічвалася на першым курсе 52 студэнты: з іх па асабістаму жаданню шэсць студэнтаў засталося на паўторны курс, а 46 студэнтаў здавалі экзамены.У гадавой справаздачы за гэты навучальны год адзначалася, што чатыры студэнты не здалі экзамены, а астатнія пераводзяцца на другі курс "в следующем по старшинству (г.зн. па поспехах – У.Л.) порядке".

У 1852 - 1853 навучальным годзе інстытут з прысваеннем звання "действительного студента агрономии" скончыла 26 чалавек. У справаздачы адзначаецца, што імя выпускніка Скварцова, які атрымаў на выпускных экзаменах 93/4 балы, было выбіта на мармуровай дошцы. Але ж нічога не ўзгадвалася пра размеркаванне выпускнікоў. Толькі "казённакоштныя" выпускнікі, г.зн. тыя, хто ў час заняткаў атрымлівалі дзяржаўную стыпендыю, мелі магчымасць размеркавацца на працу, астатнія шукалі сабе месца самастойна.

Частка выпускнікоў інстытута абараняла дысертацыйныя работы і атрымлівала "ступень агранома". Вось якія тэмы прапаноўваліся для "разважання", г.зн. для дысертацый: "Об употреблении чернозема в Белоруссии как удобрительного средства", "О возделывании табака", "О возделывании картофеля", "О ближайших мерах, доступных русскому хозяину к улучшению своих лугов", "Дренаж" і г.д.

У першыя гады існавання інстытута са "ступеняй агранома" заканчвалі яго толькі адзінкі студэнтаў. Але ўжо ў 1855-1856 навучальным годзе з 37 выпускнікоў "быў удастоены ступені агранома" 21 чалавек.

Выпускныя экзамены праводзіліся і ў земляробчым вучылішчы, ферме і каморніцка-таксатарскіх класах. Выпускнікам земляробчага вучылішча давалася магчымасць працаваць у якасці "управительских помощников". Імены лепшых выбіваліся на меднай дошцы, іх узнагароджвалі таксама пахвальнымі граматамі, кнігамі, грашыма і нават невялікімі земляробчымі прыладамі, дробнай жывёлай і насеннем. Не атрымоўвалі атэстата і не мелі ніякіх правоў толькі дзеці прыгонных сялян. У справаздачы за 1855-1856 навучальны год адзначалася, што "вернуты ўладальнікам: Абрамаў, Галічанка і Башмачнікаў".

На вучэбнай ферме навучанне вялося чатыры гады. У другую палову дня, са студзеня па красавік і з кастрычніка да снежня, навучэнцы займаліся ў класах. Астатні час быў прысвечаны практычным работам: вырабу розных сельскагаспадарчых прылад, бандарнаму, рымарскаму і цяс-

лярскаму промыслу, вучыліся дубленню аўчын, прыгатаванню сыроў і масла, апрацоўцы льну.

У выглядзе заахвочвання аднаго-двух выпускнікоў фермы прымалі ў земляробчае вучылішча, а астатніх накіроўвалі дадому ў маёнткі памешчыкаў.

У канцы 50-х гадоў Горы-Горацкія навучальныя ўстановы наведалі з рэвізіяй міністр і чыноўнікі Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. У прадстаўленных справаздачах яны адзначылі добрую пастаноўку вучэбнай працы, але выказалі шмат заўваг па арганізацыі практычных заняткаў. Напрыклад, яны лічылі, што задача інстытута павінна складацца "преимущественно в образовании высшего разряда промышленников, которые бы умели с помощью научных соображений и основанных на опыте расчетов дать сельским занятиям выгодное направление и устройство".

8 снежня 1859 года было зацверджана новае “Палажэнне...” аб земляробчым інстытуце. “Палажэннем...” палягчаўся прыем у інстытут і акрамя выпускнікоў гімназіі, прымаліся выпускнікі каморніцка-таксатарскіх класаў. Дазвалялася вучыцца вольным слухачам без усякай платы за навучанне. Была павялічана стыпендыя са 110 да 150 рублеў у год і толькі стыпендыяты павінны былі жыць у пансіянаце, астатнія студэнты маглі жыць на прыватных кватэрах.

Замест чатырохгадовага тэарэтычнага навучання было ўведзена трохгадовае. Чацвёрты год адводзіўся практыцы, але замест практычных заняткаў на ферме інстытута пад кіраўніцтвам выкладчыкаў і прафесараў “Палажэнне...” 1859 года ўвяло правіла, згодна якому студэнты па заканчэнню імі тэарэтычнага курса павінны былі накіроўвацца ў прыватныя гаспадаркі, працаваць там адзін год у якасці практыкантаў і за гэты час скласці апісанне гэтых маёнткаў. Толькі пасля гэтага ім давалі званне, якое раней яны атрымлівалі паводле Статута 1848 года.

Паводле новага “Палажэння...” пасля першага курса студэнт павінен быў выбраць адну з чатырох спецыяльнасцяў: земляробства, жывёлагадоўля, эканоміка і лесаводства. Шэраг такіх прадметаў, як логіка, энцыклапедыя,

камеральныя навукі, механіка і іншыя былі скасаваны. Амаль на 50% скараціліся курсы батанікі, заалогіі і мінералогіі, замежнай мовы, чарчэння і фізікі. Але былі ўведзены два новыя прадметы: практыкаванні па складанню сельскагаспадарчых планаў (праектаў) і палітычная эканомія. Была павялічана колькасць гадзін па вывучэнню вышэйшай матэматыкі. Павялічваўся штат выкладчыкаў інстытута і асігнаванні на яго.

У ходзе рэформы ў маі 1860 года быў прызначаны новы дырэктар інстытута Р.Э. Траўтфеттэр, прафесар батанікі. Ён меў вопыт кіравання вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, так як з 1847 па 1859 гады быў дырэктарам Кіеўскага універсітэта. Змяніўся і склад выкладчыкаў. Быў звольнены прафесар Ф.Н. Каралёў, у Пецярбург пераехаў А.В. Саветаў. У гэты ж час у інстытут былі залічаны новыя прафесары – В.П. Аляксееў, Э.Э. Баліён, І.А. Цютчаў, Ю.Э. Янсан.

У цэлым рэформа 1859 года па сутнасці змяніла ўнутраны строй інстытута – становішча студэнтаў і вучэбны працэс. Навізна “Палажэння...” 1859 года, якая датычылася становішча студэнтаў, адлюстроўвала, з аднаго боку, вызваліцельныя грамадскія настроі, а з другога боку– страх студэнцкага руху.

У пачатку 60-х гадоў значна павялічылася колькасць студэнтаў і навучэнцаў у чатырох Горацкіх земляробчых навучальных установах. Калі ў 1859 годзе іх налічвалася 315, то ўжо ў 1862 – 542 навучэнцы. Гэта тлумачыцца тым, што быў спрошчаны прыём у навучальныя ўстановы, і акрамя гэтага, у сувязі з рэформай 1861 года ўзмацнілася цікавасць да сельскагаспадарчых ведаў. У гадавой справаздачы Горацкіх навучальных устаноў адзначалася: ”Русский земледелец сделался свободным, и вместе с уничтожением крепостного права пала одна из огромных вековых преград к развитию у нас земледелия... интересы земледельческого заведения не могут идти врозь с интересами земледельческого населения».

У гэтыя гады інстытут быў адным з лепшых не толькі Расіі, але і Еўропы. Аб гэтым паведамляў вандроўнік, чые

карэспандэнцыі “Из Могилевской губернии“ былі змешчаны ў газете “Курьер Виленски“ за 1861 год. “Раньше, – адзначаў аўтар, – когда тут царили немцы, преподавание было оторвано от повседневных потребностей края. Теперь пришли молодые, преимущественно местные силы: профессор химии Тютчев, профессор архитектуры и механики Козловский, профессор земледелия Стебут, преподаватель геометрии Лесневский…Они начали исследовать местные почвы, растения и животный мир. Институтская ферма овечек стала одной из лучших в империи и получила первенство на всех прошедших европейских выставках“.

Трэба адзначыць, што значныя поспехі былі дасягнуты ў навуковай дзейнасці. Так, у галіне раслінаводства навуковыя даследаванні актыўна праводзілі К.Д.Шмідт, Э.Ф.Рэга, С.С.Касовіч, Б.А.Цалінскі, А.В.Саветаў, І. А. Сцебут і іншыя. Яны вялі доследы па развядзенню шматстцяблового льну, кітайскай масляністай рэпы, салодкага гарбуза, канюшыны і турнэпсу, куставога жыта і шмат якіх культур. Рабіліся доследы з рознымі ўгнаеннямі, правяралася эфектыўнасць розных тыпаў севазваротаў.

Вялікія поспехі былі дасягнуты ў авечкагадоўлі. Былі праведзены доследы па вывядзенню такой пароды тонкарунных авечак, якія б былі добра прыстасаваны да мясцовых кліматычных умоў і давалі воўну добрай якасці. І такая воўна была атрымана на вучэбнай ферме інстытута. Доказ гэтаму – залатыя медалі ў Маскве (1852г.), Пецярбургу (1860 г.), бронзавыя – на міжнародных выставах у Лондане ( 1857, 1862 г).

У Горках быў пакладзены пачатак навуковай распрацоўкі сельскагаспадарчага машынабудавання. Гэтымі даследаваннямі займаўся ад’юнкт-прафесар Ф.Н.Каралёў. Цікавыя сельскагаспадарчыя машыны былі сканструяваны механікам інстытута К.Адрынскім і яго памагатым М.Усавым.

Пад кіраўніцтвам прафесара А.Н.Казлоўскага ўпершыню ў Беларусі былі праведзены даследванні па вывучэнню закрытага дрэнажу. Спачатку яго заклалі на доследным по-

лі інстытута, а потым на тарфяных лугах фальварка Іванова на 103 гектарах. Для вырабу дрэнажных керамічных трубак быў пабудаваны спецыяльны завод, дзе была ўстаноўлена машына, прывезеная з Англіі.

Б.А.Цалінскі, Б.Г.Міхельсон, І.А.Гінцэль, Ю.Э.Янсон займаліся эканамічнымі даследаваннямі. У сваіх працах яны даказвалі, што баршчынная праца менш эфектыўная, чым праца вольнанаёмных.

Першыя ў Беларусі хімічныя і біяхімічныя даследаванні былі праведзены прафесарам К.Д.Шмідтам  у першай ў краіне хімічнай лабараторыі. Ён зрабіў хімічныя аналізы земляробчай прадукцыі, правёў аграхімічныя даследаванні ўплыву гіпсавання на якасць зямлі.

Асабліва вялікі ўклад у развіццё сельскагаспадарчай навукі належыць выхаванцу інстытута А.В.Саветаву, які быў першым доктарам аграноміі ў Расіі. Яго дысертацыя "О разведении кормовых трав на лугах" была надрукавана ў 1859 годзе і вытрымала 4 перавыданні.

І.А.Сцебут падрыхтаваў у Горках дысертацыю "Известкование почвы", якую абараніў у 1865 годзе. Гэта была першая праца па аграхімічных асновах земляробства.

Пра ўклад другіх выхаванцаў і выкладчыкаў інстытута ў развіццё навукі можна даведацца з кнігі аўтара "Горы-Горецкий земледельческий институт. Выдающиеся учёные и профессора» Горки,1999 (сааўт. А.Р.Цыганаў, В.У.Нямыкін).

У сярэдзіне XIX ст. для распаўсюджвання і папулярызацыі сельскагаспадарчай навукі і адукацыі ўзнікла неабходнасць у стварэнні спецыяльных друкаваных прац сельскагаспадарчай школы. Гэтымі працамі сталі «Записки Горы-Горецкого земледельческого института» – першае ў Расійскай імперыі перыядычнае выданне сельскагаспадарчай школы. У 1850 годзе Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў дазволіла Горы-Горацкаму земляробчаму інстытуту выдаваць свае працы па адной кніжцы ў год, і ў 1852 годзе выйшаў у свет першы том «Записок Горы-Горецкого земледельческого института». Усяго з 1852 па 1857 год выйшла шэсць тамоў «Записок», аднак з 1858

года іх выданне было спынена з-за выдавецкіх цяжкасцяў і прыдзірак цэнзуры.

Нягледзячы на тое, што «Записки» выходзілі шэсць гадоў, яны адыгралі значную ролю ў развіцці тэорыі і практыкі сельскай гаспадаркі, прапагандзе сельскагаспадарчай навукі, паказалі Горы-Горацкі земляробчы інстытут як сапраўды вышэйшую школу. Ва ўмовах царскай цэнзуры яны адлюстравалі перадавыя дэмакратычныя погляды, якія ў 60-х гадах мінулага стагоддзя ярка праявіліся ў дзейнасці Горы-Горацкага земляробчага інстытута.

Кожны том "Записок" складаўся з двух раздзелаў: справаздачнага і спецыяльнага, дзе былі змешчаны навуковыя артыкулы і актавыя прамовы выкладчыкаў інстытута, у ліку якіх былі выдатныя вучоныя А.В.Саветаў і І.А.Сцебут. Справаздачны аддзел складаўся з афіцыйных дакументаў, асноўнай мэтай якіх была прапаганда навукова-педагагічнай дзейнасці інстытута як цэнтра сельскагаспадарчай адукацыі Расійскай імперыі.

Пры Горы-Горацкім інстытуце ў 1853-56 гадах былі праведзены чатыры сельскагаспадарчыя з'езды, першыя на тэрыторыі Расійскай імперыі. У рабоце з'ездаў, якія "имели целью посредством совещаний и обмена мыслей между хозяевами способствовать развитию и улучшению сельского хозяйства", прымалі ўдзел памешчыкі і сельскія гаспадары, у асноўным з Магілёўскай губерні, выкладчыкі і супрацоўнікі Горы-Горацкага інстытута, дзякуючы якім гэтыя з'езды сталі эфектыўным сродкам уздзеяння на мясцовую сельскую гаспадарку. Кола пытанняў, якія абмяркоўваліся на сельскагаспадарчых з'ездах, было разнастайным:земляробства і жывёлагадоўля, меліярацыя і эканоміка, вялікая ўвага ўдзялялася развіццю сялянскіх гаспадарак."Журнал Министерства государственных имуществ" адзначаў, што "в числе 19 вопросов, предложенных членами съезда (1853 г.) на разрешение, многие важны не только для белорусского края, но и для всей средней полосы."

У час з'ездаў адбываліся сельскагаспадарчыя выставы. У 1854 г. у "Записках Горы-Горецкого земледельческого

інстытута" была змешчана справаздача аб выстаўцы сельскіх вырабаў, на якой экспанавалася 1432 экспанаты (у тым ліку з Магілёўскай губерні – 555) сельскагаспадарчай прадукцыі, земляробчых прылад і машын, саматужных вырабаў, сярод якіх значнае месца займалі экспанаты з сельскіх гаспадарак.

У заключэнне трэба адзначыць, што Горы-Горацкі земляробчы інстытут існаваў усяго 16 гадоў, але ён унёс вялікі ўклад у развіццё айчыннай сельскагаспадарчай адукацыі і навукі. Ім было падрыхтавана 499 аграномаў вышэйшай кваліфікацыі. Немалаважную ролю ў станаўленні адукацыі адыгралі і сярэднія сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы Горак, якія за перыяд з 1840 па 1864 год выпусцілі 604 спецыялісты сярэдняй кваліфікацыі. Больш за 600 чалавек закончылі каморніцка-таксатарскія класы, вучэбную ферму і школу аўчароў.

У сярэдзіне 19 стагоддзя гэта навучальная і навуковая ўстанова была цэнтрам айчыннай доследнай аграноміі, дзе распрацоўваліся навуковыя праблемы развіцця земляробства, знаходзіліся метады і шляхі ліквідацыі адсталасці краіны. "Преподаватели института,– пісаў А.В. Саветаў, першы доктар аграноміі ў Расіі, – можна сказать, положили основание научной разработки некоторых отраслей сельского хозяйства в России..."

Многія выпускнікі інстытута пакінулі яркі след у гісторыі рускай сельскагаспадарчай навукі. Сярод іх А.В.Саветаў, І.А.Сцебут, А.М.Бажанаў, А.П. Людагоўскі, І.Н.Чарнапятаў, Е.С.Фалькоў, С.С.Касовіч, М.С.Міцуль. Па падручніках выкладчыкаў інстытута і яго выхаванцаў С.С.Касовіча (батаніка), К.Д.Шмідта (хімія), Э.Ф.Рэго (садаводства і агароднiцтва), А.М. Людагоўскага (эканоміка) займаліся цэлыя пакаленні студэнтаў.

З працамі І.А. Сцебута ў ходзе работы над кнігай "Развитие капитализма в России" знаёміўся У.І.Ленін. Ён не толькі спасылаўся на аўтара, "якому ў пытаннях фактычных нельга адказаць у аўтарытэтнасці", але і ў шэрагу выпадкаў цытаваў яго палажэнні.

"Одай у гонар сахалінскай урадлівасці" назваў працу выпускніка земляробчага інстытута М.С.Міцуля пісьменнік А.П.Чэхаў. Імя Міцуля ў цяперашні час носіць горны хрыбет на захад ад Паўднёва-Сахалінска, перавал і горны пік, дзве вёскі ў Сахалінскай вобласці – Міцулеўка і Міхайлаўка.

Цікава адзначыць, што з 1851 па 1853 год у інстытуце вучыўся П.А.Бахмецьеў – прататып галоўнага героя рамана М.Г. Чарнышэўскага "Што рабіць?".

У 1859-1863 гадах у Горкі пісаў лісты І.С.Тургенеў у сувязі з тым, што там вучыўся яго прыгонны селянін Ф.Бізюкін.

Сярод беларускіх літаратуразнаўцаў існуе версія, што студэнт Горы-Горацкага земляробчага інстытута з'яўляўся аўтарам славутай беларускай паэмы "Тарас на Парнасе".

Інстытут у Горках існаваў бы і далей, каб не падзеі красавіка 1863 года.

## *"За нашу і вашу вольнасць"*



***А***дкрываючы ў невялікім мястэчку земляробчыя навуковыя ўстановы, царскі ўрад разлічваў, што тут будуць выхоўвацца верныя яму чыноўнікі і кіраўнікі памешчыцкіх маёнткаў. Аднак царызм пралічыўся. Асвета моладзі садзейнічала фарміраванню ў студэнтаў прагрэсіўнага светапогляду.

Ужо ў 1851 годзе з Горак высылаецца студэнт А.Ранбінскі, які, па меркаванню інстытуцкай адміністрацыі, аказваў "шкодны ўплыў на моладзь". У 1856 годзе паліцыя перахоплівае пісьмо студэнта П. Зайцэўскага, былога вучня М.Г.Чарнышэўскага, да свайго сябра ў Казань, дзе ён расказваў пра жыццё ў інстытуце і, у прыватнасці, пісаў: "…сустрэчы нашы маюць свой асаблівы характар: у нас

звычайна з'яўляюцца размовы пра свабоду і г.д…мы ўслаўляем вольнасць, свабоду, ганьбуем усё і ўсіх бязлітасна, пачынаючы з М.П. (цара – У.Л.)". Цікава, што на пісьме рукой шэфа III аддзялення Л.В.Дубельта было падкрэслена прозвішча М.Г.Чарнышэўскага і зроблена паметка: "невядомы".

У кастрычніку 1857 года студэнты напалі на кватэру і канцылярыю станавога прыстава. Яны знішчылі ўсе справы і разграмілі канцэлярыю. Следства па гэтай справе не выявіла вінаватых і было спынена.

У гэтым жа годзе на легальных умовах адкрыўся студэнцка-прафесарскі клуб, у дзейнасці якога бралі ўдзел вядучыя выкладчыкі інстытута. У клубе абмяркоўваліся злабадзённыя палітычныя пытанні і будучая аграрная рэформа.

У 1861 годзе з інстытута быў выключаны студэнт П.Ульянаўскі за ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях у Бялынічах і Оршы. У абарону яго больш за 50 чалавек з'явіліся да дырэктара і заявілі аб сваім намеры пакінуць інстытут. Расследаванні, праведзеныя паліцыяй, паказалі, што горацкія навучэнцы мелі перапіску са студэнтамі універсітэтаў іншых гарадоў, збіраліся ў асобныя групы і спявалі рэвалюцыйныя песні.

У канцы 1862 года ў Горках сфарміравалася падпольная студэнцкая арганізацыя, на чале якой стаяў камітэт з 11 чалавек. У яго ўваходзілі С.Віскоўскі, В.Дамарацкі, В.Антановіч, П.Козел, К.Дзяконскі, Д.Кілдаш, С.Маргулец, Р.Чарвінскі, З.Міткевіч, Ф.Чудоўскі, С.Дымкевіч. Кожны член камітэта меў свае абавязкі і даручэнні. Так, Вискоўскі падтрымліваў сувязь з нелегальнымі арганізацыямі ў Пецярбургу, Маскве і Вільні, В.Антановіч займаўся зброяй, а П.Козел – правіянтам, фуражом і транспартам.

Кіраваў камітэтам С.Дымкевіч, вядомы пад мянушкай "Біскуп". Некалькі гадоў ён вучыўся ў інстытуце на правах вольнаслухача, карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод горацкага студэнцтва, кіраваў касай узаемадапамогі, арганізоўваў сталовыя для бедных навучэнцаў. Каб распаўсюдзіць свой уплыў на сялян Горы-Горацкага

маёнтка, С.Дымкевіч разам з іншымі студэнтамі адкрыў беларускую народную школу, дзе выкладанне вялося на беларускай мове па польскіх букварах і кніжках. Школа працавала на працягу чатырох гадоў, а пра яе існаванне ўлады і не падазравалі.

Пасля смерці С.Дымкевіча ў студзені 1863 года камітэт узначаліў С.Віскоўскі. Ён устанавіў сувязь з Літоўскім правінцыяльным камітэтам у Вільні, ездзіў па зброю у Пецярбург і Маскву. Атрымаўшы зброю, студэнты выязджалі за горад і трэніраваліся ў стральбе, рыхтаваліся да будучых баёў…

У сакавіку 1863 года Віленскі камітэт вырашыў пачаць паўстанне на Магілёўшчыне. Кіраўніком яго і ваенным начальнікам Магілёўскага ваяводства быў прызначаны Л.Звяждоўскі. Ураджэнец Віленскай губерні, сын калежскага рэгістратара, ён скончыў Мікалаеўскае ваеннае вучылішча, затым Акадэмію генеральнага штаба, удзельнічаў у Крымскай вайне, узнагароджаны двума ордэнамі. У 1860 - 1862 гадах служыў у Вільні, але выклікаў да сябе "подозрение в неблагонамеренном образе мыслей и участии в сходках с преступной целью" і быў пераведзены ў Маскву, дзе ўзначаліў афіцэрскую падпольную арганізацыю 1-га армейскага корпуса. Будучы перакананым прыхільнікам руска-польскага рэвалюцыйнага саюза, Звяждоўскі на працягу шэрагу гадоў удзельнічаў у рускім рэвалюцыйным руху.

У першых чыслах красавіка 1863 года Л.Звяждоўскі разам са сваімі баявымі саратнікамі – афіцэрамі царскай арміі Я.Жукоўскім, Будзіловічам, С.Дзержаноўскім, З.Міткевічам прыбылі ў маёнтак Літвінавічы Аршанскага павета, затым у вёску Зарубы і сталі рыхтавацца да выступлення.

А ў Горках у навучальных земляробчых установах і не падазравалі аб будучым паўстанні. Дырэктар інстытута Р.Э. Траутфеттэр на запытанне Магілёўскага губернатара заявіў, што "ўласна за навучальныя ўстановы турбавацца няма прычыны, і паўстанне ў Горках будзе толькі тады, калі яно адбудзецца ў Магілёве".

Каля гадзіны ночы 24 красавіка атрад Л.Звяждоўскага ўвайшоў у горад. На Гасцінічнай плошчы да яго далучыліся студэнты, а таксама паўстанцы, якія прыбылі з Магілёва.

Кіраўніку Горацкага падпольнага камітэта была ўручана пастанова ад 13 сакавіка 1863 года аб тым, што "нацыянальны ўрад назначае грамадзяніна Станіслава Віскоўскага начальнікам горада Горы-Горкі".

Удзельнікі паўстання раздзяліліся на пяць груп і адначасова напалі на кватэру начальніка ўнутранай аховы, казарму, цэхгауз, пошту і казначэйства. Паміж паўстанцамі і салдатамі воінскай каманды завязаўся бой, у якім загінулі В.Дамарацкі і К.Пржэбольскі, трое паўстанцаў атрымалі раненні. У горадзе згарэла некалькі дамоў. Горкі апынуліся ў руках паўстанцаў.

Раніцай 24 красавіка паўстанцы і жыхары горада сабраліся на плошчы і Л.Звяждоўскі выступіў з прамовай, у якой пераконваў, што яны ваююць за мужыкоў і хочуць даць народу свабоду. Ён заклікаў сялян не плаціць падаткі і ўступаць у паўстанцкі атрад. Пацярпеўшым ад пажару была выдзелена грашовая дапамога.

Мітынг прайшоў таксама на вучэбнай ферме. Звяртаючыся да рабочых і навучэнцаў, Д.Кілдыш казаў, што “хопіць жыць пад бізуном,…навучэнцаў і работнікаў збіваюць, абыходзяцца з імі, як са скацінай…паўстанцы ідуць за справу справядлівасці“.

На тэрыторыі дэндрапарку інстытута з воінскімі ўшанаваннямі быў пахаваны загінуўшы В. Дамарацкі, і атрад стаў рыхтавацца да адыходу. Л.Звяждоўскі планаваў падняць паўстанне ва ўсходняй частцы Магілёўскай губерні, затым перайсці на Смаленшчыну і рухацца далей – у Паволжжа.

Днём 24 красавіка паўстанцы, колькасць якіх даходзіла ўжо да 200 чалавек, рэквізаваўшы ў вучэбнай ферме частку коней і ў казначэйстве грошы, спешна накіраваліся ў бок Крычава.

Як сцвярджаецца ў кнізе "Опыт описания Могилёвской губернии","... в ночь с 23 на 24 апреля мятежники разгра-

били казначейство, сожгли 52 обывательских дома и убили 12 человек солдат местной команды. При грабеже казначейства взят железный сундук, в котором хранилось около 15 000 руб. казённых денег. По выходе мятежников из города, сундук, который они не умели разломать и оставили на берегу р. Поросицы, найден и доставлен с деньгами в казначейство".

Аднак далейшы рух атрада працягваўся ў неспрыяльных умовах. Л.Звяждоўскаму не ўдалося прыцягнуць шырокія масы беларускага сялянства, якое, паддаўшыся на правакацыю царскіх улад і праваслаўнага духавенства, успрымала паўстанне як барацьбу памешчыкаў за вяртанне прыгонніцтва.

Калі паўстанцаў узялі ў акружэнне царскія салдаты, Л.Звяждоўскі 30 красавіка прыняў рашэнне распусціць атрад і прабівацца на захад невялікімі групамі. Зрабіць гэта ўдалося толькі невялікай групе на чале з Л.Звяждоўскім. 145 чалавек былі захоплены і пасаджаны ў магілёўскую турму.

У чэрвені 1863 года пачалося следства па справе паўстанцаў. Да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты 61 навучэнец і 5 выкладчыкаў. Царскі суд, які адбыўся ў сакавіку 1864, жорстка расправіўся з арыштаванымі: 26 студэнтаў былі асуджаны на катаргу, 33 адпраўлены ў ссылку. Выкладчыкаў выслалі за межы Беларусі, ва ўсходнія губерні.

Горацкія паўстанцы на судзе трымаліся незалежна і адважна. Так, А.Кушалеўскі не прыняў царскую прысягу і на судзе заявіў: “...Я желаю добра России и Польше как двум соседним народам, в тесной их дружбе…». Прысуд па яго справе абвяшчаў: 12 год катаржных работ.

Большасць катаржан і ссыльных загінула ў турэмных засценках. Вядомы толькі лёсы некаторых. Так, М. Янкоўскі пасля 8 год катаржных работ быў накіраваны ў ссылку ў Прыамур’е. Там актыўна займаўся навуковай дзейнасцю, знайшоў каля ста новых відаў матылькоў. Ім упершыню быў апісаны новы від птушкі аўсянкі. Зараз яна носіць імя “аўсянка Янкоўскага”.

Удзел студэнтаў у рэвалюцыйным руху 1863 года, як адзначае гісторык С.Г. Цітовіч, быў "…спачувальным водгукам на польскае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, выказваннем салідарнасці з рэвалюцыйна-дэмакратычным бокам гэтага руху…, садзейнічаў таксама збліжэнню палякаў, рускіх, беларусаў і іншых навучэнцаў у сумеснай рэвалюцыйна-дэмакратычнай барацьбе".

Царскаму ж ураду выступленне вучняў горацкіх навучальных устаноў паслужыла прычынай для адмены ў 1863 годзе прыёму ў земляробчы інстытут. Летам 1864 года пытанне аб лёсе гэтай навучальнай установы абмяркоўвалася ў Міністэрстве дзяржаўных маёмасцей, і 24 ліпеня было прынята рашэнне аб яго пераводзе ў Пецярбург, у будынак Ляснога інстытута.

Адзначым, што некаторыя жыхары Горак прымалі актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. Сярод іх П.І.Чарвінскі (псеўданім "Сава"). Ён нарадзіўся ў Горках ў 1841 годзе. У пачатку 1860-х гадоў вучыўся ў Інстытуце горных інжынераў і Тэхналагічным інстытуце ў Пецярбургу, быў звязаны з арганізацыяй "Зямля і воля", удзельнічаў ў падрыхтоўцы паўстання. Вясной 1863 года пасаджаны ў Дынабурскую крэпасць, 19 чэрвеня 1863 года быў асуджаны на 4 гады катаргі. 1 ліпеня таго ж года ўцёк з-пад варты і далучыўся да паўстанцаў. У кастрычніку 1863 года ўзначаліў асобны атрад ў Вількамірскім павеце. За мужнасць і адвагу К. Каліноўскі даў яму званне паручніка. 3 студзеня 1864 года яго атрад быў разбіты. Паранены, ён быў узяты ў палон і павешаны ў мястэчку Ушполь.

Як ужо адзначалася, наяўнасць такіх буйных у той час навучальных устаноў унесла вялікія перамены ў жыццё саміх Горак. Прыкметна пашырыўся гандаль. У 1856 годзе быў пабудаваны завод для вытворчасці дрэнажных труб, а у 1859 – чыгуналіцейны, дзе было занята 27 чалавек і выраблялася ад 700 да 1000 пудоў металу ў год. Пры земляробчым інстытуце дзейнічала механічная майстэрня, якая выпускала невялікія сельскагаспадарчыя машыны.

У горадзе былі адкрыты дзве царкоўнапрыхадскія школы. У іх дзяцей вучылі рускаму пісьму і чытанню, закону

божаму, царкоўнаславянскаму чытанню і пачаткам арыфметыкі.

Значна вырасла і колькасць жыхароў. Так, калі ў 1836 годзе было 2528 чалавек, то ў 1856 годзе – 3830. З іх мужчынскага полу – 2415, жаночага – 1415 чалавек. Па веравызнанню жыхары падраздзяляліся наступным чынам: праваслаўных 1328 мужчын і 1213 жанчын, католікаў 239 мужчын і 40 жанчын, лютэранаў 34 мужчыны і 12 жанчын. Іудзеяў было 845 мужчын і 811 жанчын. У Горках было драўляных дамоў 496 і адзін мураваны, дзве мураваныя і тры драўляныя царквы, адзін драўляны касцёл, чатыры драўляныя яўрэйскія малітоўныя дамы.

Напярэдадні адмены прыгоннага права ў Горках жыло 4462 жыхары.

26 снежня 1861 года царскі ўрад прыняў рашэнне казённае мястэчка Горкі перавесці ў стан павятовага горада і ўтварыць з частак Аршанскага, Магілёўскага і скасаванага Копыскага паветаў Горацкі павет. Плошча новаўтворанага павета складала 2487 кв. вёрст, насельніцтва каля 80 тыс. чалавек.

Дзяржаўныя сяляне, якія жылі ў Горках, мелі права застацца ў ранейшым званні або перайсці ў мяшчане, але зямля іх павінна была перайсці ў Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў.

Для вядзення гарадской гаспадаркі, грамадскіх і судовых спраў у Горках была заснавана гарадская дума. У наступным годзе ў Горкі з Копысі былі пераведзены павятовы суд з дваранскай апекай, павятовае казначэйства, паштовая кантора, гарадская бальніца, інвалідная каманда, канцылярыя, маршалак дваранства і страпчага, іншыя ўстановы.

Аднак да сямідзесятых гадоў XIX ст. цэнтр павета заставаўся няўтульным, брудным. Не было водаправода, вуліцы не асвятляліся.

У 1868 г. у горадзе было 4908 жыхароў, з якіх толькі 857 чалавек пісьменных (17,5%), працавалі рамеснікі: хлебапёкаў – 13, булачнікаў – 6, маслабойшчыкаў – 4, краўцоў – 39, шаўцоў – 46, башмачнікаў – 1, мадзістак – 4, пальча-

тачнікаў – 1, шапачнікаў – 4, кушняроў – 5, печнікоў – 7, сталяроў – 12, меднікаў – 1, шорнікаў – 1, бондараў – 1, кавалёў – 19, шкляроў – 3, цырульнікаў – 2, фарбавальшчыкаў – 7, золатасярэбранікаў – 1, цесляроў – 15, таксама было 2 музыканты, 41 чорнарабочы, 12 прыказчыкаў.

Як сведчыць кніга “Прибавление к статистическим таблицам Могилевской губернии за 1867 год» (Могилев, 1868) буйнейшымі прадпрыемствамі ў Горках былі: піваварany завод віцебскага мешчаніна І.Цехера, на якім выраблялася на 1500 рублёў піва, крупадзёрка Б. Амнуэля, сячны і маслабойныя заводы А.Вальтэра, скураныя заводы А.Мініна і А. Любмана.

У жніўні 1867 г. было зацверджана палажэнне аб гербе горада: "…изобразить в сем гербе, как главную эмблему города Горки, три горы, средняя выше других, а чтобы указать на занятие земледелием жителей города – вырастающие из гор колосья, в вольной части щита поместить герб Могилёвской губернии. Щит украсить башней с тремя зубцами".

## *НА РУБЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ*



***У*** канцы XIX – пачатку XX ст. Горкі мала чым адрозніваліся ад іншых павятовых цэнтраў Беларусі. Праўда, у ім працавалі тры сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы: земляробчае і рамеснае вучылішчы, каморніцка-таксатарскія класы.

Насельніцтва горада працягвала расці. Як паказаў першы ўсерасійскі перапіс насельніцтва 1897 года, тут пражы-

вала 6735 чалавек, а ў 1904 годзе – ужо 7173. Як і ва ўсіх павятовых гарадах і мястэчках, якія знаходзіліся ў так званай рысе "аседласці" яўрэйскага насельніцтва, ў Горках жыло шмат яўрэяў – 4659 чалавек, што складала амаль 65 працэнтаў насельніцтва.

Прамысловасць Горак у гэты час складалася з дробных прадпрыемстваў раменнага тыпу. Аднак колькасць іх пастаянна павялічвалася.Так, калі ў 1879 г. дзейнічала 7 паўкустарных прадпрыемстваў (гарбарскіх, па вырабу масла і перапрацоўкі зерня), то ў 1900 г.– ужо 29, а ў 1904 г. – 34. На іх працавала ўсяго 160 чалавек, якія выраблялі ў год на 90 -100 тыс. руб. прадукцыі.

Найбольш буйнымі раменнымі прадпрыемствамі ў Горках былі: маслабойні М.Вільнера, Л.Муравіна, В.Любізера,І.Пеўзнера; крупадзёркі П.Гаўрылава, Я.Лейкіна, С.Гурэвіча, С.Амнуэля; друкарня Н.Хайкіна.

Праўда, некаторыя раменныя прадпрыемствы былі вядомыя на ўвесь свет. Як сведчыць наш зямляк, ураджэнец Горак, доктар гістарычных навук, прафесар, член-карэспандэнт АПН СССР Л.С Абэцэдарскі, у 1900 годзе ў майстэрні пры аптэцы, якая належала Падзерскаму, быў вынайдзены крэм "Казімі-метамарфоза", які дазваляў выводзіць вяснушкі. Уладальнік аптэкі за гэты крэм у 1900 годзе на сусветнай выстаўцы ў Парыжы атрымаў залаты медаль.

Пісьменнік Л.Разгон у кнізе "Позавчера и сегодня" аб прадпрыемстве К. Падзерскага ўспамінаў: "Читатели русских газет и журналов начала нашего века на всю жизнь, наверное, запомнили назойливо вбиваемое в голову название "Крем Казими-метаморфоза". На каждой последней странице большинства газет и журналов – от "Вестника Европы" до "Сатирикона"– среди объявлений и реклам обязательно бросались в глаза эти слова над изображением бассейна в котором резвились полуобнажённые одалискообразные женщины и мужчина, лицо которых было аккуратно разделено пополам.Одна половина блистала свежестью и чистотой, другая – от множества веснушек – напоминала кукушечье яйцо.Эта была реклама

крема против веснушек...То ли крем действительно был ”единственным”,то ли реклама его была мастерски поставлена,но крем “Казими-метаморфоза” был чрезвычайно популярен в предреволюционной России.

И мало кто знал, что эти тщательно упакованные нарядные баночки с необыкновенно приятным своеобразным запахом изготавливались в незаметном городке Могилевской губернии. Разорившийся польский шляхтич Казимир Падзерский, вынужденный стать провизором в маленьком и грязном белорусском городке, благодаря изобретению крема против веснушек, составил себе большое состояние и приобрёл громкую славу среди ревнителей белой, не тронутой загаром и веснушками кожей. Он построил в Горках прекрасный большой каменный дом, украсил его фламандскими картинами, редким фарфором, музейными коврами...Позади дома он разбил огромный сад с редкими сортами фруктовых деревьев, цветниками, фонтанами, золочёными клетками, в которых разгуливали павлины.

Все эти блага добывали для него люди, работавшие в длинной полуподвальной мастерской во дворе дома. На рекламных объявлениях была нарисована “Парфюмерная фабрика “Казими-метаморфоза”– многоэтажная, с длинной тонкой трубой, из которой шёл игривый завиток дыма. Всё это было неправдой. В действительности “фабрика” была кустарной мастерской. В ней трудилось всего несколько десятков рабочих...”

Самым буйным прамысловым прадпрыемствам Горак былі майстэрні пры Горацкіх сельскагаспадарчых установах. З архіўных спраў бачна, што ў 1878 годзе майстэрні мелі назву – “чыгунно-литейные заведения“. Кіраваў імі механік В.Ф.Бронь з Нямеччыны. Захаваліся і пасведчанні, што ў 1902 годзе майстэрнямі пры сельскагаспадарчых установах было зроблена: плугоў – 1326 штук, баронакучнікаў – 119, веялак і сарціровак – 60, малатарняў – 5.

На прадпрыемствах горада і павета рабочы дзень быў 12-14 гадзін, адсутнічала элементарная ахова працы, што прызнавалі нават царскія чыноўнікі. Шырока прымянялася жаночая і дзіцячая праца. Заробак быў мізэрны. Так, чор-

нарабочыя мужчыны атрымлівалі 48 руб., а жанчыны – 36 руб. у год.

Увесь час раслі цэны на прадукты харчавання. "Ввиду страшной дороговизны предметов первой необходимости мы, рабочие, нуждаемся часто в куске хлеба, потому что наш заработок ограничен, а цены на хлеб всё дорожают", – пісалі рабочыя Горацкага павета Магілёўскаму губернатару.

Горкі былі і буйнейшым гандлёвым цэнтрам.Тут працавалі 93 гандлёвыя ўстановы з гадавым абаротам 115 тысяч рублёў, штогод праводзілася ў горадзе і павеце 13 ярмарак. Гадавы абарот іх складаў 122 000 рублёў.

Горад як і раней заставаўся драўляным: з 821 хаты толькі 22 былі каменнымі. Будаўніцтва вялося без адзінай планіроўкі. Тут было дзе разгуляцца агню.

Праўда, існавала ў Горках пажарная частка. У архіве захаваўся “Табель состояния пожарной части“. У гэтай установе было 6 коней, яшчэ 3 павінны былі пастаўляць жыхары города па нараду. Яны маглі везці 3 бочкі, 12 вёдзер, 1 лесвіцу. З тэхнічных сродкаў былі адна ручная помпа і два рукавы да яе. На год гэтай установе выдзялялася 320 рублёў. Відаць, што гэтых сродкаў было мала. Бо толькі вясной 1882 года адбылося тры пажары, у выніку якіх згарэлі 92 дамы, паштовая станцыя, будынак народнага вучылішча, тры малітоўных школы, вайсковая казарма. Страты ад пажараў склалі 128 тысяч рублёў.

У сувязі з гэтымі падзеямі 31 мая 1882 года з’явіўся цікавы дакумент: ”Горецкий уездный исправник объявляет, что курение на улицах и площадях г. Горки табаку в трубках и папиросах обязательно воспрещается для всех сословий - жителей города, при неисполнении же сего, виновные будут привлечены к ответственности…”

Яшчэ больш страшным быў пажар 12 мая 1891 года. Тады згарэлі 205 дамоў, у тым ліку павятовае паліцэйскае ўпраўленне. Страты склалі 330 842 рублі.

Менавіта ў ліпені гэтага года быў зацверджаны Статут пажарнага таварыства і дружыны ў Горках. Кожны тыдзень дружына праводзіла парад і вучэнне. Гэта мела назву “по-

жарная репетиция». Якое гэта было свята для Горак, і асабліва для дзяцей, можна даведацца з кнігі нашага земляка, славутага пісьменніка Л.Разгона "Позавчера и сегодня". Дарэчы, творы яго перакладзены амаль на ўсе еўрапейскія мовы. І ён, да сённяшняга часу,адзіны пісьменнік - ураджэнец Беларусі, імем якога названа зорка ў сузор'і Авен. Вось што ён пісаў: «Пожарная репетиция ... Чтобы понять, что это такое, надо представить себе роль добровольной пожарной дружины в небольшом провинциальном городке. Созданная молодым Падзерским вкупе с несколькими либеральствующими земцами дружина по тушению пожаров имела значение гораздо более широкое, выходящее за рамки ее обязанностей. В пожарной дружине соблюдалось внешнее демократическое равенство, и отважный, беспутный топорник Б. Лейб – сапожник и последний бедняк – стоял в ней выше владельца мануфактурной лавчонки, пребывающего в дружине на скромном положении качальщика пожарного насоса. Ежегодные «пожарные праздники» с гулянием, морем разливанным водки и пива, еженедельные репетиции, наконец, сами пожары являлись одним из самых значительных развлечений горожан и представляли очень важный вид общественной деятельности.

Такое значение пожарная дружина имела для взрослого населения города. Для детей же она была источником неизъяснимых наслаждений, доставляемых еженедельными «репетициями» – так назывались учения пожарной дружины, проводимые почти регулярно по четвергам. Всю неделю мы считали дни, отделявшие нас от очередной репетиции. Уже  накануне, в среду, начинались пытки ожидания. Ведь существовало огромное количество злосчастных факторов, которые могли сорвать завтрашний праздник: может уехать Падзерский; может случиться ненастная погода: мать может придраться к тому, что я объелся сливами и не отпустить меня на улицу...

И вот оно настает – утро четверга. Все так, как хотелось: безоблачное небо и обильная роса обещают жаркий и сухой день. Я выбегаю на улицу, залезаю на высокое

крыльцо соседнего дома и с надеждой смотрю на торчащую вдали вышку каланчи. На ней колышется флажок, а сбоку висит черный шар – значит, репетиция состоится, и не простая, а «водяная».

К пяти часам вечера почти все мальчишки Горок и значительная часть взрослых любителей зрелищ собираются на Базарной площади. Возле каланчи идут последние приготовления: запрягают в брички с бочками и пожарными насосами раскормленных лошадей, выводят из конюшни знаменитого на всю округу жеребца-першерона – единственного способного в одиночку тянуть длинный и тяжелый пожарный ход. К каланче группами и по одному подходят пожарники – они неузнаваемы, эти приказчики и мастеровые, которых мы привыкли видеть всю неделю в оборванных и заскорузлых фартуках. Теперь на них мундиры с блестящими пуговицами, ослепительные медные шлемы, широкие пояса с крючками и кольцами неизвестного назначения. У пожарной аристократии – топорников – на боку в чехле висит пожарный топор – кирка. Дружинники выстраиваются, равняют строй, на правом фланге музыканты выдувают из труб пробные трели, и дядя Гиля на всю площадь кричит кому-то из них: «Фа. Ты слышишь, босяк, фа надо!».

Глаза у всех устремлены к краю площади, где должен появиться начальник пожарной дружины Антон, или, как его зовут все в городе, Тонька Падзерский. Клубы пыли, несущиеся по улице, ведущей к дому Падзерского, предшествуют появлению начальства. В этой пыли возникают фигуры мальчишек, бегущих к площади. За этим авангардом, в окружении эскорта таких же мальчишек, идет сам молодой Падзерский. Как солнце горит его никелированный шлем, на нем парадный мундир, на цветном офицерском кушаке висит маленький топорик, о котором нам точно известно, что он сделан из чистого серебра. Все подтягиваются, раздаётся команда "Смирно! ", дядя Гиля взмахивает одновременно головой и трубой, и оркестр гремит встречным маршем. Прикусывая от волнения язык, мы следим за дальнейшим развитием церемонии: обход

строя, громкая команда, перестроение. Под марш «Старый егерь» дружина колонной выходит на Оршанскую улицу. Впереди и по бокам колонны – сотни мальчишек и взрослых, позади  тарахтит пожарный обоз.

На одной из окраинных улиц начинается учение. На какой – нибудь выбранный заранее дом со страстью и ожесточением бросаются пожарники. Топорники лезут по длинным лестницам на крышу, струи бьют в окна, визжат мальчишки, старающиеся попасть под теплую струю нагретой в бочках воды... Уже темнеет, когда в том же порядке процессия возвращается назад...”

Праўда, пасля стварэння Горацкага павятовага земства назіраліся некаторыя змены ў эканамічным развіцці павятовага цэнтра, паляпшэнні яго знешняга выгляду. Былі правільна распланаваны вуліцы, засыпаны ямы і пагорачкі, зроблены тратуары з дошак часткаю на сродкі домаўладальнікаў, часткаю на грошы, якія былі сабраны па падпісцы, на галоўных вуліцах на гарадскія сродкі ўстаноўлены 30 ліхтароў. У 1881 годзе на земскія сродкі былі пабудаваны два масты праз рэкі Проня і Парасіца. У гэтым жа годзе ў горадзе была адкрыта тэлеграфная станцыя. Было пабудавана каля 100 прыватных дамоў, у тым ліку і тыя, дзе крыху пазней размясціліся гарадская паліцыя і турма. Аднак будаўніцтва і змяненні да лепшага праходзілі марудна і з цяжкасцямі, таму што гарадская дума мела вельмі мала сродкаў .

Да таго ж горад не меў уласнай зямлі: уся зямля, на якой ён знаходзіўся, належыла казне, усе выкупныя за зямлю грошы таксама паступалі ў казну.

Не палепшылася эканамічнае становішча, справы ў адукацыі і медыцынскім абслугоўванні насельніцтва ў павеце і ў павятовым цэнтры ў апошнія гады XIX ст. і ў пачатку XX ст. Напрыклад, у 1901 годзе бюджэт горада складаў усяго 6617 рублёў 40 капеек. З гэтых грошай толькі 522 рублі адпускалася на асвятленне вуліц і рамонт дарог. Усё астатняе ішло на ўтрыманне царскіх чыноўнікаў. У той час даўгі горада складалі больш за 5 тысяч рублёў.

Разам з тым у 1904 годзе ў горадзе знаходзіліся 10 гасцініц і нумароў, 7 заезных дамоў, 5 шынкоў, харчэўняў і чайных. Вуліцы асвятлялі 45 ліхтароў. Колькасць жылых пабудоў у павятовым цэнтры складала 821, у тым ліку мураваных – 22, драўляных – 799. На адзін дом прыходзілася 8,7 чалавек.

Асноўная маса насельніцтва была пазбаўлена медыцынскай дапамогі. Не хапала грошай  нават на прышчэпкі. У 1900 годзе ў павеце прышчэплівалася ад воспы ўсяго 108 чалавек – менш, чым ва ўсіх іншых паветах губерні. З прычыны частых эпідэмій, адсутнасці медыцынскай дапамогі ў павеце была высокая смяротнасць. Людзі паміралі ад дызентэрыі, сібірскай язвы, тыфу. У 1904 годзе Горкі абслугоўвалі 4 урачы, а гарадская бальніца мела ўсяго 13 месц.

Для большасці працоўных людзей практычна быў закрыты шлях да адукацыі. У 1883 годзе ў Горацкім павеце было 15 пачатковых народных школ, у якіх навучаліся 662 хлопчыкі і 44 дзяўчынкі. Дадзеныя перапісу 1897 года сведчаць аб тым, што толькі 19,4 %  насельніцтва павета было пісьменным, у павятовым цэнтры – 41,3%. Аб агульнай адукацыі моладзі сведчыць і той факт, што сярод прызыўнікоў у 1894-98 гг. непісьменных было 51%.

Тым не менш, на рубяжы стагоддзяў у павеце ўжо налічвалася 17 школ Міністэрства народнай адукацыі, 29 – царкоўнапрыходскіх, 126 школ граматы. Аднак толькі 30% дзяцей школьнага ўзросту мелі магчымасць вучыцца.

Але ж у гэты час у павеце і горадзе працавала больш за 100 піцейных устаноў.

Аднак, дзякуючы энтузіястам, развівалася і духоўнае жыццё. Газета "Могилёвские губернские ведомости" в 1870 годзе ў артыкуле "Общественные удовольствия в Могилёвской губернии" пісала: "…В Горках был один из спектаклей с благотворительной целью 6 января. Сыграны были водевили: "Иван Иванович Иванов", "Смесь языков", "Школьный учитель" и "Ямщики". Театр был полон: первые ряды были заняты горецкими чиновниками и их семействами, а дальнейшие ряды гражданами и больше граж-

данками города Горки. Оркестр музыкантов состоял из 7 евреев. Публики собралось до 200 особ, и в кассу собрано до 60 руб. Играли ученики земледельческого училища, один гимназист и один бывший студент института до того удовлетворительно, что публика с видимым удовольствием пробыла во время спектакля с 6 до 11 часов".

У 1897 годзе ў сувязі са 100-годдзем А.С.Пушкіна ў Горках адбыўся літаратурны вечар, а на тэрыторыі навучальных сельскагаспадарчых установ быў устаноўлены бюст паэту.

У фондах Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея знаходзіцца цікавы экспанат: праграма канцэрта, які даваў у Горках 25 чэрвеня 1905 года вядомы барытон С.І.Мігай у памяшканні Горацкага грамадскага сходу.

У горадзе працавалі чатыры царквы – Свята-Троіцкая, Успенская, Вазнясенская і Мікалаеўская, а пры іх царкоўна-прыходскія школы. Існавалі дзве сінагогі.

Некалькі слоў трэба сказаць і аб Горацкім павеце – адным з самых вялікіх у Беларусі. Плошча яго складала 2487 кв. вёрст, насельніцтва – 153 000 жыхароў. Асноўным заняткам жыхароў была сельская гаспадарка. Саматужнымі промысламі ў 1881 годзе займаліся 4946 жыхароў павета, у 1889 г. на яго тэрыторыі працавалі 22 фабрыкі і заводы.

У Горацкім павеце было 6 мястэчак: Баева, Дуброўна, Ляды, Расасна, Зарэчны Шклоў, Раманава і заштатны г.Копысь. Зараз гэта населеныя пункты, акрамя Раманава ( Леніна) Аршанскага, Дубровенскага і Шклоўскага раёнаў.

Становішча сялян было цяжкім. Каля 4% двароў былі беззямельнымі, а 13,6% – не мелі коней. Павет быў аграрна перанаселены. Агульная плошча пасеваў у павеце ў 1890 г. складала 53 078 дзес. Каб яе апрацоўваць, было неабходна 22 749 чал. Лішак працоўных у сельскай гаспадарцы складаў 18 719 чалавек, або да 50% ад колькасці ўсіх занятых у гэтай галіне вытворчасці. Не знаходзячы прымянення сваёй працы, горацкія сяляне ў пошуках крыніц існавання накіроўваліся ў іншыя раёны царскай Расіі і нават за мяжу. Аб перасяленні ў Сібір, напрыклад, у 1898 г. хадатайнічалі сяляне вёсак: Шышава Горацкай

воласці, Юркава і Ульяшына Саўскай воласці і іншыя. Хадайніцтва аб перасяленні ў Сібір і ў Чарнаморскую губерню і на Каўказ сяляне падавалі і ў першае дзесяцігоддзе XX ст.

Як мы бачым, з аднаго боку, зямлі не хапала, а з другога – царскі ўрад у гэты час вырашыў арганізаваць у Горацкім павеце яўрэйскія земляробчыя калоніі. Такія калоніі былі арганізаваны ў вёсках Сава, Рудкаўшчына, Напраснаўка, Пічаўка і Верашчакі.Самая вялікая калонія была ў Верашчаках. Яна мела 126 дзесяцін зямлі, 14 коней і 15 кароў. Працавалі гэтыя калоніі не вельмі эфектыўна, бо не былі забяспечаны належнымі крэдытамі і інвентаром. У вёсцы Напраснаўка ў той час існавала паданне, што калі прыехаў царскі чыноўнік для кантролю працы земляробаў, то каб ашукаць яго, адзін плуг перадавалі з адной сядзібы ў другую праз парканы.

Аб цяжкім становішчы працоўных у тыя гады сведчаць не толькі архіўныя і статыстычныя матэрыялы, але і лісты да Л.М.Талстога.150 тысяч іх захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Л.М.Талстога ў Маскве. Сярод іх карэспандэнцыі з Горак і павета.Так, некалькі разоў звяртаўся па дапамогу да пісьменніка жыхар Горак С.Папоў. Сялянка з Горацкага павета А.Цішкова напісала ліст на 40 старонках, дзе вельмі яскрава і вобразна расказала аб сваім цяжкім жыцці. Яна прасіла парады, як зарабіць 80 рублёў на швейную машынку. Пісьменнік прапанаваў сялянцы аддаць яе жыццяпіс у друк. Яна згадзілася. Ліст А.Цішковай з прадмовай Л.М.Талстога быў перададзены ў рэдакцыю газеты "Рускае слова". Надрукаваць яго рэдакцыя пабаялася, але ганарар у суме 80 рублёў А.Цішковай быў выплачаны. Пісьменнік Сямён Букчын у 1980 годзе адшукаў дзевяностатрохгадовую Агаф'ю Пятроўну Цішкову. Пасля Кастрычніка 1917 года яна працавала на маскоўскіх прадпрыемствах. Знаходзілася на партыйнай і прафсаюзнай рабоце.

Завяршаючы апавяданне аб Горках на рубяжы стагоддзяў, трэба адзначыць, што яго жыхары ў складзе рус-

кіх войск удзельнічалі ў руска-турэцкай вайне 1877-1878 гадоў, руска-японскай вайне 1904-1905 гадоў.

З "Именного списка низших чинов, убитых в сражениях с неприятелем", апублікаваных у газеце "Могилёвские губернские ведомости", бачна, што ў першую вайну загінула 5 салдат, у другую – 49. Іх імёны можна прачытаць у кнізе "Памяць. Горацкі раён" (Мінск, 1996).

## *Горацкія навучальныя сельскагаспадарчыя ўстановы*



***Н***ягледзечы на закрыццё ў 1864 годзе земляробчага інстытута, Горкі як цэнтр сельскагаспадарчай адукацыі Расіі і Беларусі захаваў сваё значэнне. Як вядома, значная частка вучэбнага абсталя-вання і бібліятэка былі пераведзены ў Пецярбург.

Аднак у Горках застаўся комплекс вучэбных будынкаў, ферма, кабінеты, лабараторыі, механічны завод, сад з гадавальнікам, батанічны сад і іншае.

Асноўнай навучальнай установай у Горках у гэты час стала земляробчае вучылішча. Да 1864 года яно знаходзілася ў падпарадкаванні інстытута і ўзначальвалася яго дырэктарам. Выкладчыкамі вучылішча былі прафесары інстытута. Пасля закрыцця інстытута вучылішчу быў нададзены асобны штат. Зацверджаны пасады дырэктара, шасці настаўнікаў, інспектара, законавучыцеля і двух наглядчыкаў. У вучылішча прымалі юнакоў усіх саслоўяў ва ўзросце 16-20 гадоў, якія вытрымалі ўступныя экзамены. Пры паступленні ў вучылішча таксама ўлічвалася класавая і рэлігійная прыналежнасць. Перавагай карысталіся дзеці, бацькі якіх належалі да маёмых класаў, і праваслаўныя.

Цікава, што да 1863 года амаль 30% навучэнцаў складалі палякі. Аднак пасля паўстання 1863 года царскі ўрад

22 мая 1864 года ўвёў норму для палякаў – 10% ад ліку прыёму. Такая ж норма была і для яўрэяў.

Захаваліся дадзеныя аб сацыяльным паходжанні навучэнцаў за 1864 год. Тады навучалася з дваран – 11 навучэнцаў, з обер-афіцэрскіх дзяцей – 7, з духавенства – 4, з купцоў і мяшчан – 29, з сялян – 28, разначынцаў – 6.

Плата за навучанне была высокай – 150 рублёў у год. Гэтую суму складаў сярэдні гадавы заробак кваліфікаванага рабочага. Акрамя гэтага, з кожнага паступаўшага бралі залог у памеры 25 рублёў. Не здзіўляе, што кожны год многія дзеці рабочых і сялян кідалі вучобу. Некаторым навучэнцам выдавалася стыпендыя, але на гэтыя месцы быў вялікі конкурс – да 10-12 чалавек. Тыя, хто атрымліваў стыпендыю, быў павінен "…прослужить в подведомственных Министерству государственных имуществ учреждениях не менее того числа лет, в течение которого они пользовались казённым содержанием в училище".

Акрамя казённых навучэнцаў у вучылішчы навучаліся прыватныя. Яны атрымлівалі ад вучылішча кватэру, ежу і адзенне. Іх колькасць у розныя гады вагалася ад 14 да 30 чалавек.

Астатнія навучэнцы былі вольнапрыходзячымі, яны жылі на прыватных кватэрах і навучаліся за свой кошт.

Навучэнцы вучылішча жылі па правілах, зацверджаных Міністэрствам дзяржаўнай маёмасці: "ученик должен вставать ото сна летом в пять, а зимой и в праздничные дни – в шесть часов утра; завтракать в 7 часов утра, обедать летом в полдень, а зимой в половине второго часа; полдничать – в пять, ужинать в восемь, ложиться спать в десять часов вечера.

…Утром, вечером, перед обедом и после него вслух одним учеником по очереди читаются положенные молитвы при общем собрании всех учеников…"

Парушэнне раскладу дня і правілаў паводзін строга каралася кіраўніцтвам вучылішча.

Тым не менш вучылішча ў Горках карысталася вялікай папулярнасцю ў Расіі і Беларусі. У 1863-1877 гады тут

навучалася ад 69 да 227 навучэнцаў. У гэтыя гады яно было адным з самых буйных у Расіі.

У Беларусі яно было першай сярэдняй спецыяльнай установай аграрнага профілю.

Тэрмін навучання ў вучылішчы быў чатыры гады, а з 1870 года – пяць.Пры пераходзе з аднаго класа ў другі вучні павінны былі здаваць экзамены па ўсіх прадметах, якія вывучалі ў адпаведным класе, акрамя гэтага, у ліпені і жніўні вучні старэйшых класаў экзаменаваліся ў час праходжання імі сельскагаспадарчай практыкі. У канцы навучання праводзіліся выніковыя экзамены, пасля чаго вучні размяркоўваліся на практыку ў прыватныя маёнткі або казённыя фермы ў розныя губерні Расіі, часцей за ўсё Магілёўскую, Смаленскую, Мінскую, Палтаўскую, Віцебскую, Чарнігаўскую, Пецярбургскую.

Пасля заканчэння практыкі кожны вучань быў павінен зрабіць справаздачу педагагічнаму савету аб сваёй рабоце.

Выпускнікі вучылішча атрымлівалі званне "учебного управительского помощника", а праз шэсць гадоў працы ў сельскай гаспадарцы – атэстат на званне "учёного управителя". Большасць былых вучняў працавала ў якасці эканомаў у прыватных маёнтках.

Выпускнікі вучылішча з адзнакай маглі паступаць адразу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У 1878 годзе было зацверджана новае палажэнне і штаты. Згодна з ім быў значна пашыраны курс навук, павышаны патрабаванні да абітурыентаў. Замест пяці з паловай сталі навучацца шэсць гадоў.

Пашыраны былі і правы выхаванцаў, якія скончылі курс у вучылішчы.Тыя, хто атрымліваў атэстат першага разраду, мелі магчымасць атрымаць "…звание личных почётных граждан". Усе астатнія такое званне маглі атрымаць толькі праз тры гады.

Як і раней, былі казённыя, прыватныя і вольнаправходзячыя навучэнцы.

У вучылішчах практыкавалася ўстанаўленне прыватных імянных стыпендый, памер якіх раўняўся ўтрыманню

казённакоштнага навучэнца. У Горацкім земляробчым вучылішчы за кошт завешчаных капіталаў былі ўстаноўлены тры стыпендыі: з 1899 года – М.П. Багалюбава (былога дырэктара вучылішча), з 1904 года – Д.П. Маўро (двараніна, былога навучэнца вучылішча) і з 1906 года – М.П. Шастакова (буйнога цукразаводчыка – былога навучэнца вучылішча).

У Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца справа "О завещальном капитале имени М.П. Шестакова". Згодна з ім імянная стыпендыя была зацверджана 7 жніўня 1906 года, калі супрацоўнікі заводаў Ф.А. Цярэшчанка да юбілею службы М.П. Шастакова назбіралі 6 тысяч рублёў і палажылі іх у банк для выплаты стыпендыі з працэнтаў на гэтую суму.

Сам М.П. Шастакоў распрацаваў палажэнне аб стыпендыі, згодна з якім яна выплачвалася навучэнцу, бацька якога працаваў на заводах, у маёнтках або ў іншых установах, што належалі нашчадкам Ф.А. Цярэшчанкі – вядомага рускага цукразаводчыка і капіталіста. У палажэнні агаворвалася, што прадстаўляе стыпендыятаў дырэкцыя вучылішча, а рашэнне аб прызначэнні стыпендыі прымае М.П. Шастакоў. З архіўных дакументаў было выяўлена, што першым стыпендыятам стаў вучань К. Майданнік. Апошняя згода М.П. Шастакова была атрымана ў 1915 годзе.

У 1887 годзе Міністэрства дзяржаўнай маёмасці выдала прадпісанне пад назвай "О наблюдении за воспитанниками", а ў 1892 годзе – "Правила для учащихся".

Не ўсе навучэнцы маглі іх вытрымаць. Аб гэтым сведчыць факт з біяграфіі вядомага металурга-доменшчыка М.К. Куракі, які ў 1887 годзе збег з вучылішча. Аб гэтым можна дазнацца з кнігі І. Александрава і Г. Грыгор’ева "Курако", што выйшла ў вядомай серыі "Жизнь замечательных людей".

А ў кнізе В.Д. Елагіна "Цель жизни", дзе апавядаецца пра вядомага вучонага акадэміка М. Ф. Іванова, можна даведацца, як некаторыя выкладчыкі вучылішча здзекваліся з навучэнцаў.

У 1911 годзе ў вучылішчы адбылася чарговая рэформа. Шасцігадовы курс навучання быў скарочаны да чатырох гадоў. Праўда, выхаванцы цяпер атрымлівалі званне агранома.

Быў прыняты новы вучэбны план, па якому больш увагі ўдзялялася выкладанню спецыяльных дысцыплін. Штогод да 20 тыдняў было адведзена на практычныя заняткі.

Дырэктарамі Горацкага земляробчага вучылішча працавалі М.П. Багалюбаў, М.М. Арнольд, І.І. Барсукоў і С.С. Мянчынскі.

М.М. Арнольд з'яўляўся аўтарам дапаможніка "Каталог насекомых Могилёвской губернии", выдадзенага ім пасля пераезду ў Пецярбург. М.П. Багалюбаў быў унукам А.Н. Радзішчава. Скончыў марскі кадэтскі корпус і служыў афіцэрам на флоце, а потым быў на дзяржаўнай службе пры губернатары ў г. Віцебску і Пецярбурзе. Аўтар успамінаў у рукапісе "Об виденном, услышанном, испытанном" (напісанным у 1891-1892 гадах і не надрукаваным. Ён зараз знаходзіцца ў рукапісным аддзеле Расійскай публічнай дзяржаўнай бібліятэкі). Яму належыць таксама рад кніг па гісторыі рускага флота. Некаторыя яго кнігі былі ілюстраваны яго братам А.П. Багалюбавым, вядомым мастаком, які неаднаразова бываў у Горках.

Выкладчыкамі ў вучылішчы ў канцы XIX-пачатку XX стагоддзя працавалі: А.Б. Ман, выкладчык сельскагаспадарчай эканоміі і рахункаводства; М.Е. Паляшчук, які выкладаў раслінаводства; Ю.А. Вейс, кіраўнік курсаў будаўнічага мастацтва і вучэння аб сельскагаспадарчых машынах і прыладах.

Сярод выкладчыкаў Горацкага земляробчага вучылішча было шмат таленавітых педагогаў. Адным з такіх быў Міхаіл Васільевіч Рытаў (1846-1920). Ён нарадзіўся ў г. Наваміргарад Кіраваградскай вобласці. Член-карэспандэнт Расійскага таварыства пладаводства (1896), член-карэспандэнт Вучонага Камітэта Міністэрства земляробства і дзяржаўных маёмасцяў (1896). Скончыў юрыдычны факультэт (1871) і прыродазнаўчае аддзяленне фізічна-матэматычнага факультэта (1878) Маскоўскага універсітэта.

Пад кіраўніцтвам вядомага рускага вучонага прафесара І.М. Гаражанкіна ён абараніў магістарскую дысертацыю "Органография цветковых растений". З 1879 па 1920 год працаваў у Горацкіх сярэдніх навучальных установах і ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Адзін з заснавальнікаў навуковага агародніцтва і пладаводства ў Беларусі. Арганізаваў першы пладовы гадавальнік, памалагічны сад і доследнае поле для вывучэння агароднінных культур, якое на сённяшні дзень у г. Горкі носіць назву "Рытовские огороды".

У 1887 годзе складзеная вучнямі земляробчага вучылішча пад кіраўніцтвам М.В. Рытава калекцыя "Ботанический огород" была адзначана на выставе ў Маскве залатым медалем. У 1918 годзе М.В. Рытаў быў выбраны прафесарам Петраградскага агранамічнага інстытута, а затым і Варонежскага сельскагаспадарчага інстытута, аднак ён застаецца ў Горках і з 1919 года кіруе кафедрай батанікі ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Аўтар больш за 1000 навуковых прац. Сярод іх – "Огородничество", "Плодоводство", "Ягодники", "Русские лекарственные растения" і г.д. М.В.Рытаву каля 4-га корпуса акадэміі ўстаноўлены помнік.

Выкладчык А.К. Краўзе нарадзіўся ў 1847 годзе. У 1869 годзе скончыў Пецярбургскі земляробчы інстытут з атрыманнем ступені кандыдата сельскай гаспадаркі і лесаводства. З 1871 года працаваў у Горацкім вучылішчы.З 1876 да 1893 гг. – дацэнт і прафесар кафедры лесаабустройства і лясной таксацыі Нова-Аляксандраўскага інстытута сельскай гаспадаркі. Аўтар навуковых прац па даследаванню біяхімічнага складу клубняў бульбы, у лесаводстве, і арганізацыі рацыянальнага выкарыстання лясных пасадак, лугоў і пашаў.

У 1880-90-х гг. выкладчыкам Горацкіх вучылішчаў працаваў Н.Курдзякоў, які надрукаваў у "Трудах Вольного экономического общества" (СПб., 1879) апісанне аднаго з найлепшых маёнткаў А.Д. Мянжынскага – узорнай гаспадаркі ў Магілёўскай губерні. Спачатку кіраўніком, а за-

тым гаспадаром гэтага маёнтка быў выпускнік Горы-Горацкага земляробчага інстытута І.А. Мянжынскі.

Выкладчыкам рускай мовы Горацкіх навучальных устаноў перад рэвалюцыяй 1917 г. быў Я.Н. Кцітараў, аўтар кнігі "Вопросы религии и морали в русской художественной литературе" (Горкі, тып. В.А. Хейнкіна, 1909).

Сярод выпускнікоў гэтага вучылішча значацца шматлікія вядомыя вучоныя. Так, М.Ф. Іваноў скончыў вучылішча ў 1893 годзе. Затым вучыўся ў Харкаўскім ветэрынарным інстытуце, у якім потым чытаў курс лекцый па жывёлагадоўлі.

У 1903 годзе ён абараніў магістарскую дысертацыю на тэму "К вопросам об изменении азотистых веществ в плесневых кормах", што паслужыла асновай для зацверджання яго загадчыкам кафедры жывёлагадоўлі інстытута. Потым ён працаваў у Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, Маскоўскім заатэхнічным інстытуце і Камуністычным універсітэце. Ён жа арганізаваў у дзяржаўным запаведніку "Аскания-Нова" племянную заатэхнічную станцыю. У 1919 годзе яму прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі РСФСР. У 1934 годзе без абароны дысертацыі яму прысуджана вучоная ступень доктара сельскагаспадарчых навук. Уклад гэтага вучонага ў аграрную навуку даволі значны. Яму каля 4-га корпуса акадэміі ўстаноўлены помнік.

Э.К. Безайс – вядомы рускі даследчык флоры і фауны Камчаткі і Сахаліна. Пасля заканчэння вучылішча выкладаў у школах Чарапаўца, а затым больш за 10 гадоў працаваў на Сахаліне аграномам турэмнага ведамства і кіраваў устройствам ссыльных пасяленцаў. У перыяд акупацыі Сахаліна японцамі быў прыгавораны імі да расстрэлу, аднак прыгавор не быў выкананы. Замест гэтага ён быў вывезены ў Японію. Пасля вяртання ў Расію скончыў Пецярбургскі універсітэт і зрабіў рад паездак і экспедыцый па пабярэжжу Белага мора і Камчаткі. З 1911 года жыў у Амурскай губерні і кіраваў доследным полем Гош. Аўтар шэрагу навуковых прац па клімату, флоры і вырошчванню сельскагаспадарчых культур у розных раёнах Камчаткі і

Сахаліна. Сярод іх "О водном режиме участков Гош и Стан в Амурскай губернии" (1918), "Новый способ определения объёмной влажности и запаса воды в почве" (журнал "Болотоведение", 1917, вып.1) і інш.

Н.І. Кічуноў скончыў вучылішча ў 1887 г., а затым да 1892 г. працаваў выкладчыкам садаводства ў Бабруйскай школе садаводства. Доктар сельскагаспадарчых навук (1934), заслужаны дзеяч навук РСФСР (1936), аўтар значнай колькасці кніг, манаграфій і падручнікаў па садаводству, агародніцтву і дэкаратыўнаму садаводству.

У 1890 г. Горацкае земляробчае вучылішча адсвяткавала свой 50-гадовы юбілей. Выдатны вучоны-аграрнік А.В. Саветаў, выпускнік Горы-Горацкага земляробчага інстытута, прыслаў з Пецярбурга прывітанне ўдзельнікам юбілейных свят са словамі: "Да воскреснет в лице Горецкого училища незабвенный Горы-Горецкий институт – моя альма-матер!" На жаль, гэтым прарочым словам не хутка было наканавана збыцца.

Другой па значэнню навучальнай установай Горак былі земляробча-каморніцкія класы, якія былі адкрыты ў 1859 годзе. Яны рыхтавалі каморнікаў. Як і земляробчае вучылішча, яны пасля закрыцця інстытута былі пакінуты ў Горках і працавалі па старых вучэбных планах. І толькі ў 1876 годзе іх пачалі змяняць. Сталі выкладаць матэматыку, фізіку, хімію і рускую мову.

Вучыліся ў класах усяго два гады. Зімой вывучалі тэарэтычныя прадметы, а летам групамі па 7-8 чалавек займаліся геадэзічнымі здымкамі.

Усе вучні жылі на прыватных кватэрах і вучыліся за свой кошт. Лепшым навучэнцам дазвалялася выдаваць стыпендыю ў памеры 120 рублёў у год.

Выхаванцы класаў атрымлівалі атэстат на званне прыватнага каморніка.

У красавіку 1909 года класы былі пераутвораны ў каморніцка-агранамічнае вучылішча з шасцігадовым тэрмінам навучання. У новым палажэнні было запісана: "Горецкое землемерно-агрономическое училище есть сред-

нее учебное заведение, имеющее целью образования межевых техников, сведущих в сельском хозяйстве…"

Была ўстаноўлена плата за навучанне: ад 10 да 30 рублёў у год. Праўда, было і 60 казённых стыпендый.На гэтыя месцы быў вялікі конкурс. Вучань вучылішча Максім Гарэцкі (у далейшым класік беларускай літаратуры) расказваў у газеце "Наша ніва": "Можна сказаць, што вучні з'язджаюцца з усіх куткоў Расіі, бо бедакоў прымушае шукаць асветы тое, што вучылішча мае шэсцьдзесят 180-рублёвых стыпендый".

Вучэбны план вучылішча ўключаў 26 прадметаў. Сярод іх, акрамя спецыяльных, былі і такія, як руская мова, гісторыя, геаграфія, "отечествоведение", "законоведение и межевой закон", сельскагаспадарчая эканоміка і інш.

Выкладчыкамі вучылішча былі І.І. Красікаў (хімія), С.Г. Цітовіч (руская мова, гісторыя і геаграфія), М.В. Рытаў (прыродазнаўства), М.М. Высоцкі (мінералогія) і інш.

М.М.Ганчарык, доктар біялагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР у сваёй кнізе “Шлях ад пачатку стагоддзя” аб тым, якое ўражанне пакідала тэрыторыя школы на вучняў, якія ўпершыню прыязджалі ў Горкі пісаў: “А сама школа мяне проста зачаравала. Дзівосны стары парк, сярод якога раскінуты трохпавярховыя будынкі школы, далей будынкі каморніцка-агранамічнай школы, а затым рамесніцкай школы – усё гэта, разам з рознымі службамі, хавалася ў зеляніне прысад, кветнікаў, паркаў. Усе гэтыя школы мясціліся збоку самога гарадка, схаваныя ў глыбіні цудоўнага парка – новага і старога, бярозавага гаю, у аздобах зараслі бэзу, язміну, іншых хмызнякоў і дрэў. Гэтае, нібы нейкае царства ў гарадку, насіла назву “будаванні”, што захавалася на працягу амаль ста гадоў...”

Аб арганізацыі навучальнага працэсу ў вучылішчы ён успамінаў: “ Жыць вучням на прыватных кватэрах у горадзе ці на Слабадзе і Зарэччы не дазвалялася, і ў выключных выпадках магло быць толькі з дазволу Дэпартамента Міністэрства земляробства...

Пасля пад’ёму ў 7 гадзін да 8 гадзін мы павінны быць у сталоўцы – гэта на першым паверсе гэтага ж будынка і пасля агульнай малітвы снедалі, заняўшы кожнаму вызначанае месца за сталом. У 9 гадзін павінны былі быць у класе на занятках згодна раскладу. Пасля трох урокаў, у 12 гадзін у сталовай давалася невялікая закуска, з 1-й гадзіны да 3-й зноў заняткі ў класе, і ў 4 гадзіны полудзень, пасля якога даваўся адпачынак да 18 гадзін. Два разы на тыдзень з 18 да 20 гадзін праводзіліся практычныя заняткі ў лабараторыях па хіміі, мінералогіі і інш. У 20 гадзін адбывалася вячэра, пасля якой да 22 гадзін ішла падрыхтоўка ўрокаў у сваім жа класе пад наглядам наглядчыка... З 22 гадзін давалася падрыхтоўка да сну. Можна было крыху прайсціся па сядзібе ці парку, а ў 23 гадзіны ўсе павінны былі быць у пасцелі.

Кожную суботу на ложках мянялася бялізна і клаліся чыстыя кашулі і парткі, каб з іміісці ў лазню. Верхняе адзенне, як і living рознае другое, у тым ліку і пасцельная і нацельная бялізна, замацоўваліся за вучнямі. Лазні меліся дзве. Адна, цагельная, знаходзілася недалека за жылымі будынкамі і прызначалася для настаўніцкага персанала і іншых працаўнікоў, якія абслугоўвалі школу. Для вучняў мелася другая, драўляная, лазня, якая знаходзілася крыху ніжэй за першую...

Склад вучняў майго класа быў вельмі пярэсты. Каго толькі тут ні было! З Прыбалтыкі – латышы і эстонцы, палякі, украінцы, адзін данскі казак, яўрэй,адзін карэл,беларусы і рускія...”

Некаторыя выхаванцы ўстановы, такія як Г.І. Гарэцкі, А.І. Агросін, С.Г. Колясняў, А.Г. Мядведзеў, К.А. Сакс, М.М.Ганчарык сталі буйнымі вучонымі краіны, а Максім Гарэцкі – класікам беларускай літаратуры.

Выхаванцам вучылішча быў і наш зямляк Дз.Р. Новікаў, заслужаны дзеяч культуры БССР, з 1919 па 1976 гг. ён працаваў дырэктарам бібліятэкі акадэміі.

Неабходнасць падрыхтоўкі майстроў па вырабу, абслугоўванню, рамонту сельскагаспадарчых машын і прылад выклікала адкрыццё пры Горацкім земляробчым ву-

чылішчы на базе механічнага завода раменснага вучылішча. Палажэнне аб рамесным вучылішчы было зацверджана 18 лютага 1872 г., а заняткі пачаліся з першага верасня гэтага ж года. У гэта вучылішча прымалі юнакоў ва ўзросце 16 гадоў, моцнага целаскладу, якія маглі пісаць, чытаць, ведалі тры дзеянні арыфметыкі. Курс навучання ў вучылішчы працягваўся пяць гадоў. Два дні ў тыдзень вучні праходзілі тэарэтычны курс, чатыры дні – практычныя заняткі па 8-10 гадзін у дзень.

У пачатку ХХ ст. Горацкае раменсае вучылішча мела вялікае значэнне ў сістэме сельскагаспадарчай адукацыі Расіі, бо было першай і адзінай спецыяльнай навучальнай установай для сельскагаспадарчага машынабудавання.

Аднак у пачатку стагоддзя ўзнікла неабходнасць прывесці навучанне ў вучылішчы ў большую адпаведнасць з патрабаваннямі тэхнічнай адукацыі таго часу. У сувязі з гэтым 12 сакавіка 1901 г. Дзяржаўны савет прыняў рашэнне аб пераўтварэнні раменснага вучылішча, згодна з якім былі дакладна акрэслены ўмовы прыёму вучняў, тэрмін і аб'ём навучання, правы і абавязкі асоб, якія скончылі вучылішча, зацверджаны штат вучылішча, дадзены вядомыя правы яго служачым.

У той жа год вучылішча наведаў адказны чыноўнік дэпартамента земляробства В.Эндэр, які ў дакладной запісцы адзначаў: "Мне было особенно отрадно воочию убедиться, что расширение в 1900-1901 гг. мастерских училища и преподавание в нём улучшило подготовку мастеров. Приятно было видеть, как кипела работа на заводе. Более сотни учеников принимали непосредственное участие под наблюдением мастеров в разнообразных столярных, слесарных, литейных, кузнечных работах, направленных исключительно к изготовлению машин или сельскохозяйст-венных орудий или частей к ним, а также установку станков для собственных мастерских".

У вучылішчы стала абавязковым патрабаванне, каб кожны вучань папрацаваў практычна ў кожным аддзеле па ўсіх відах рамёстваў і работ. Кожны месяц праца вучняў ацэньвалася спецыяльнай камісіяй у складзе кіраўніка ву-

чылішча, старшага механіка і майстра адпаведнай спецыяльнасці, які праводзіў вучэбную практыку. Для больш дэталёвага вывучэння спецыфікі сваёй спецыяльнасці лепшыя вучні накіроўваліся на буйныя машынабудаўнічыя заводы Расіі.

Вучэбны курс навучання ў вучылішчы быў разлічаны на 5 гадоў і падзяляўся на пяць класаў. Паводле “Палажэння” 1901 года праводзіліся перавадныя і выпускныя экзамены. Перавадныя экзамены здавалі толькі тыя вучні, якія мелі за год нездавальняючыя адзнакі. Калі ў вучняў былі нездавальняючыя адзнакі больш чым па двух прадметах, то яны не дапускаліся да экзаменаў і рашэннем педагагічнага савета выключаліся з вучылішча або заставаліся на паўторны курс у тым жа класе.

Вучні, якія паспяхова скончылі поўны курс навучання, атрымлівалі званне сельскага майстра-механіка і пасля выканання воінскай павіннасці карысталіся правамі выпускнікоў навучальных устаноў другога разраду.

У 1911 г. Горацкае рамеснае вучылішча было пераўтворана ў сельскагаспадарчае рамеснае вучылішча. Тэрмін навучання быў скарочаны да трох гадоў. У 1912-17 гг. у вучылішчы набывалі веды ад 66 да 92 чалавек у год.

У гэты час дырэктарам вучылішча быў вядомы беларускі вучоны ў галіне машынабудавання для сельскай гаспадаркі Ю.А.Вейс. Ён скончыў у 1899 годзе Новааляксандраўскі інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, дзе працаваў некаторы час выкладчыкам. Будучы студэнтам, падрыхтаваў і выдаў у 1900 годзе кнігу "Описание устройства косилок, жаток и сноповязалок". З 1909 года працаваў у Бюро сельскагаспадарчай механікі Вучонага камітэта дэпартамента земляробства Расіі і адначасова выкладаў на Стэбутаўскіх курсах. Акадэмік АН БССР з 1940 года, доктар тэхнічных навук (1937), прафесар (1909), заслужаны дзеяч навукі БССР (1940). З 1920 да 1941 год – загадчык кафедрай механізацыі сельскай гаспадаркі, дэкан факультэта меліярацыі і машынабудавання, прарэктар інстытута. У 1946-1947 гадах узначальваў аддзяленне прыродазнаўчых і сельскагаспадарчых навук АН БССР, а затым

працаваў загадчыкам лабараторыі па вывучэнню фізіка-механічных уласцівасцяў раслін Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі АН БССР. Ю.А. Вейс з'яўляецца адным з асноўных ініцыятараў адкрыцця Мінскай машына-выпрабавальнай станцыі, якая была пераўтворана ў ЦНІІМЭСГ Нечарназёмнай зоны СССР.

Вядомым выкладчыкам быў і Н.В. Найдзёнаў, які ў 1911 годзе скончыў Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут. Член-карэспандэнт АН БССР (1940), доктар сельскагаспадарчых навук (1938) і прафесар (1922). З 1911 да 1919 года працаваў выкладчыкам заалогіі, анатоміі і фізіялогіі жывёл у вучылішчы. З 1920 па 1938 год працаваў спачатку ў Беларускім сельскагаспадарчым інстытуце, а затым у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. З 1938 года працаваў у Смаленскім, Чувашскім і Кішынёўскім сельскагаспадарчых інстытутах загадчыкам кафедрай.

У гонар Ю.А. Вейса і Н.В.Найдзёнава ў 10 корпусе Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі.

Усе тры сярэднія сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы існавалі да 1919 года, калі яны ўвайшлі ў адроджаны Горацкі сельскагаспадарчы інстытут.

## *ЗА СВАБОДУ НАРОДА*



***П***алітычнае бяспраўе, эксплуатацыя і прыгнёт будзілі да барацьбы супраць самаўладдзя. У 70-ыя гады ў горадзе дзейнічалі некалькі народніцкіх гурткоў, якія былі аб'яднаны ў цэнтральны. Гэта пацвярджае заклік "Русскому студенчеству от Горецкого центрального кружка", які быў знойдзены ў Яраслаўлі. У ім горацкія рэвалюцыянеры заклікалі

студэнтаў усёй Расіі "сойти с почвы своих интересов и стать в строй борцов за дело народа".

У рэвалюцыйным руху Горак канца 70-ых – пачатку 80-х гадоў удзельнічаў вядомы народнік, ураджэнец Горак В.І.Бычкоў. Актыўную рэвалюцыйную работу праводзілі навучэнцы М.Ражкоўскі, Э.Акушка, М.Снесарэўскі, якія падтрымлівалі сувязь са студэнтамі Пецярбургскага універсітэта В.Івановым і М.Русанавым.

Некалькі разоў у Горкі да гурткоўцаў прыязджаў вядомы народнік, член выканаўчага камітэта "Народнай волі" Г.П.Ісаеў. Разам з сястрой і братам М. і Ф.Паповымі і С.Чалоўскім, жыхарамі Горацкага павета, ён спрабаваў арганізаваць тут народніцкае пасяленне. Як лічыць гісторык С.М. Самбук, гэта была адна з нешматлікіх вядомых у Беларусі спроб арганізаваць пасяленне накшталт землявольных. Хаця вядома, што сам Г.П.Ісаеў адмаўляў свой удзел у агітацыі сялян Горацкага павета, так як лічыў гэта на Магілёўшчыне справай безнадзейнай, таму што "положение народа так ужасно, что никакая пропаганда там невозможна, немыслима даже".

У рэвалюцыйным руху Расіі канца 70-х – пачатку 80-х гадоў прымалі актыўны ўдзел браты Я.І. і У.І. Бычковы, А.С.Бяляўскі.

Як адзначаецца ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", Я. І. Бычкоў нарадзіўся ў 1858 г. у Горках. Вучыўся ў Горным інстытуце і Кіеўскім пяхотным вучылішчы, арганізоўваў ваенныя гурткі народавольцаў. 30 сакавіка 1881 года арыштаваны і сасланы пад нагляд паліцыі ў Падольскую губерню, адкуль падтрымліваў сувязь з ваеннай арганізацыяй "Народная воля". У студзені 1884 года прыцягнуты да следства па справе забойства жандарма Судзейкіна – фактычнага кіраўніка тайнага палітычнага вышуку ў Расіі. Памёр у Жытоміры.

У.І.Бычкоў нарадзіўся ў 1861 годзе ў Горках. У час вучобы ў Кіеўскім універсітэце ён быў арганізатарам тэрарыстычнага гуртка, які прыняў праграму "Народнай волі", вёў прапаганду сярод вучнёўскай моладзі. У 1880 годзе Бычкоў таксама ўдзельнічаў у падрыхтоўцы замаху на

Судзейкіна. 30 сакавіка 1881 года быў сасланы на 5 гадоў ва Усходнюю Сібір. 19 снежня 1882 года ўцёк з турмы і працягваў рэвалюцыйную дзейнасць пад кіраўніцтвам В.М.Фігнер у Харкаве, а пасля яе арышту ў лютым 1883 года ўзначаліў харкаўскую групу народавольцаў. У жніўні 1883 года з дакументам на чужое імя ён паехаў у Томск, каб арганізаваць там уцёкі зняволеных, але быў выданы правакатарам і 18 жніўня 1883 года застрэліўся ў час арышту.

У расійскіх дарэвалюцыйных газетах і часопісах даволі часта можна было сустрэць матэрыялы з подпісам "Белорусов". Гэта псеўданім нашага земляка А.С.Бялеўскага.

Нарадзіўся А.С.Бялеўскі ў вёсцы Шэды Горацкага павета 17 сакавіка 1859 года. У 1869-76 гг. вучыўся ў гімназіі спачатку ў Магілёве, затым у Полацку.

У 1876 годзе стаў студэнтам Пятроўска-Разумоўскай земляробчай і лясной акадэміі. Удзень ён старанна вывучаў земляробчую справу, а па вечарах разам з сябрамі прысутнічаў на сходках народніцкага гуртка, займаўся распаўсюджваннем рэвалюцыйнай літаратуры. У 1879 годзе ім зацікавілася царская паліцыя. Вынік гэтага інтарэсу – ссылка пад галосны нагляд у Валагодскую губерню.

Там Бялеўскі шмат працаваў над сваёй самаадукацыяй, вывучаў сельскагаспадарчыя навукі і ў 1886 г. экстэрнам здаў экзамены ў Пятроўска-Разумоўскай акадэміі і абараніў працу на ступень магістра сельскагаспадарчых навук. Не застаецца А.С.Бялеўскі ў баку і ад рэвалюцыйнай дзейнасці. Вядома, што ў 1887 г. ён актыўна працаваў у маскоўскай групе "сацыялістаў-фэдэралістаў", быў рэдактарам двух нумароў газеты "Самоуправление", якія ўбачылі свет у Жэневе.

У красавіку 1889 года царская жандармерыя зноў прыцягвае яго да адказнасці па справе газеты "Самоуправление". Яму было забаронена жыць у Маскве. Аляксей Сцяпанавіч вяртаецца на радзіму, працуе некаторы час выкладчыкам батанікі і садаводства ў Горацкім земляробчым вучылішчы.

З 1894 г. А.С.Бялеўскі зноў працуе ў Пецярбургу і ўваходзіць у групу народавольцаў. Як адзначаецца ў кнізе "Деятели революционного движения в России" (т.III, вып. I. М., 1933 г.), "з'яўляўся галоўным тэарэтыкам і галоўнай літаратурнай сілай, вёў барацьбу з тэрарыстычнымі тэндэнцыямі, меў схільнасць да марксізму". У гэты час ён рэдактар і аўтар галоўных артыкулаў "Летучего листка группы народовольцев".

У 1896 годзе ён быў арыштаваны і сасланы ў Якуцію. Памёр у 1919 годзе ў Іркуцку.

Рост рэвалюцыйнага руху садзейнічаў арганізацыі ў Горках гурткоў сацыял-дэмакратычнага кірунку. У 1901 годзе ў павеце на кафляных заводах узнікла іскраўская група. У студзені 1902 года была арганізавана група сацыял-дэмакратаў іскраўцаў, членамі якой сталі вучні каморніцка-таксатарскіх класаў. Яе ўзначалілі рэпетытар А.Крэер і навучэнец П.Папоў.

У маі 1902 года адбылася першая маёўка. У Зарэцкім лесе сабралася невялікая група рэвалюцыянераў, якія абмеркавалі метады далейшай работы, пытанне аб распаўсюджванні газеты "Іскра".

Праз год, 1 мая 1903 года, ужо 90 навучэнцаў і рабочых сустрэліся ў лесе. Перад пачаткам маёўкі была распаўсюджана лістоўка арганізацыйнага камітэта II з'езда РСДРП, якая называлася "Першага Мая".

На наступны дзень вучні рамеснага вучылішча арганізавалі забастоўку, прад'явіўшы палітычныя і эканамічныя патрабаванні. На чале яе стаялі П.Папоў, А.Крэер, А. і С.Фабрыставы, Т.Гоманаў.

Становішча навучэнцаў было некалькі палепшана, але 18 чалавек – найбольш актыўных удзельнікаў забастоўкі – выключылі з вучылішча без права паступаць у іншыя навучальныя ўстановы. Частка з іх была саслана ў Сібір.

Аднак барацьба працягвалася,выкарыстоўваліся розныя метады. Так, навучэнец Д.Белкін 24 мая 1903 года вывесіў з акна земляробчага вучылішча ліхтар з надпісам "Далоў самадзяржаўе!"

22 чэрвеня 1903 года ў Горках адбылася першая палітычная дэманстрацыя. Прычынай паслужыла пахаванне М.Клявіна, вучня рамеснага вучылішча. На другі дзень у бацькоў нябожчыка паліцыя адабрала і далучыла да справы чырвоную стужку з вянка, на якой быў надпіс: "Вечная памяць таварышу! Барацьбіту за роўнасць і свабоду ад аднадумцаў!"

Аднадумцы – гэта С. Фабрыстаў, Ф.Смірноў, Д.Ратнер, С.Быкаў, З. і Е. Канавалавы, Г.Муравін, П.Зіноўеў, І.Дзям'янаў, Л.Ліпкінд і інш.

У 1903 годзе горацкія рэвалюцыянеры ўжо мелі сваю друкарню (гектограф), якая знаходзілася на кватэры навучэнцаў земляробчага вучылішча С.Радзікоўскага і Д.Мандрыкава. На працягу 1903 года былі надрукаваны і распаўсюджаны лістоўкі і пракламацыі: "Праект праграмы РСДРП", "Да навабранцаў", "Народ і цар", "Найбліжэйшыя палітычныя патрабаванні РСДРП" і інш.

У канцы 1903 года ў Горкі прыехала 15 навучэнцаў, пераведзеных з Казанскага земляробчага вучылішча за ўдзел у рэвалюцыйным руху. Сярод іх былі А.Лепін, К.Розенбек, Ф.Галавізнікаў, А. Ларыёнаў, І.Шышкін і інш. Іх перавод садзейнічаў умацаванню работы сацыял-дэмакратычнай групы, якая ў канцы 1903 года – пачатку 1904 года вырасла ў арганізацыю РСДРП. Як успамінаў актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнай барацьбы Я.А. Аболін, арганізацыю ў гэты перыяд узначаліў вучань земляробчага вучылішча К.Коранеў, які стаў пасля прафесійным рэвалюцыянерам.

Акрамя іскраўцаў у Горках у 1902-1903 гг. у Горках дзейнічаў рэвалюцыйна-прапагандысцкі гурток эсэраўскага кірунку пад назвай "Вечавы звон".У яго ўваходзілі 5 навучэнцаў земляробчай школы: І.П.Папоў, які ў 1901 г. быў выключаны са школы за атрыманне з-за мяжы забароненай брашуры Л.Талстога, В.К.Пятроў, А.Я.Іпатаў, Ф.К.Кірсанаў і В.Н.Тамараў, якія вучыліся ў школе пасля выключэння за ўдзел у палітычных хваляваннях з Казанскага земляробчага вучылішча. Гурткоўцы склалі і надрукавалі літаграфічным спосабам пракламацыю "Да ўсяго

сялянскага люду", якую разам з іншымі друкаванымі матэрыяламі эсэраў распаўсюджвалі ў лютым і красавіку 1903 года па вёсках Горацкага і Чавускага паветаў. Неўзабаве гурток разграміла паліцыя. Папоў быў высланы на 5 гадоў ва Усходнюю Сібір, Пятроў і Іпатаў – на 3 гады ў Архангельскую губерню, Тамараў і Кірсанаў на 3 гады аддадзены пад нагляд паліцыі па месцы жыхарства бацькоў.

У канцы 1904-1905 гг. ў Горках узнікла арганізацыя Бунда. У яе кіруючае ядро ўваходзілі Эстрын, Нехамкін, Двоскін, браты Маклеры. Усяго яна налічвала каля 30 чалавек.

У канцы 1904 года, калі па ўсёй краіне прайшла хваля стачак і забастовак, горацкія рэвалюцыянеры рыхтаваліся са зброяй у руках сустрэць будучую рэвалюцыю. "Моладзь, якая належыць да сацыял-дэмакратычнай партыі, практыкавалася ў стральбе з рэвальвераў", – такія паведамленні паступалі з Горак у канцылярыю магілёўскага губернатара.

У студзені 1905 года царскі ўрад расстраляў мірную дэманстрацыю працоўных у Пецярбургу. Пачалася першая руская рэвалюцыя. Яе хвалі дакаціліся і да Горак. Вестка аб "Крывавай нядзелі" ўскалыхнула горацкую моладзь.

На сумесным пасяджэнні мясцовых арганізацый РСДРП, Бунда і сацыялістаў-рэвалюцыянераў быў абмеркаваны і аднадушна прыняты план правядзення дэманстрацыі пратэсту.

"Хто панясе сцяг?" – спытаў кіраўнік арганізацыі РСДРП. Падняліся два навучэнцы – Фама Ерафееў і Пётр Бруцар. "Мы панясём!" – з хваляваннем сказалі яны.

Ніхто не пярэчыў. Усе ведалі іх па сумеснай рэвалюцыйнай барацьбе.

Фама Ерафееў нарадзіўся ў вёсцы Аўсянка Горацкага павета. Пасля заканчэння царкоўнапрыходскай школы пайшоў працаваць на лесапільны завод. Браў удзел у забастоўках, распаўсюджваў нелегальную літаратуру. Паліцыя "заметила" хлопца. Таму, вырашыўшы паступіць у рамеснае вучылішча, ён змяніў сваё сапраўднае прозвішча Далжанкоў і назваўся Ерафеевым, па імені дзеда.

На працягу некалькіх гадоў у яго доме Горацкая арганізацыя бальшавікоў захоўвала нелегальную літаратуру.

Пётр Бруцар, ураджэнец мястэчка Віястэне ў Латвіі, вучыўся ў земляробчым вучылішчы. Ён таксама быў актыўным членам падпольнай арганізацыі бальшавікоў.

Увечары 16 студзеня 1905 года шыфраванай тэлеграмай магілёўскі губернатар паведаміў міністру ўнутраных спраў: "Зараз атрымана паведамленне аб беспарадках у Гомелі і ў Горках; у апошнім горадзе забіты два, паранены адзін дэманстрант…" Скупыя радкі звычайнага паведамлення. У царскага чыноўніка няма прычын для хвалявання: натоўп парушаў спакой, двое забітых, адзін паранены – вось і ўсё. Да таго ж тэлеграма шыфраваная. Гэта ўжо для таго, каб ніхто не ведаў аб зверствах паліцыі. Аднак праз некалькі дзён пра расстрэл мірнай дэманстрацыі навучэнцаў стала шырока вядома ў Расіі.

Архіўныя дакументы дазваляюць нам узнавіць тыя драматычныя падзеі.

У той дзень у Мар'іным гаі сабралася каля 250 чалавек, большасць у вучнёўскай форме. Раскідваліся лістоўкі "Правда об войне". Калі калона рушыла ў горад, у першым радзе ішоў Пётр Бруцар са сцягам, на якім было вышыта: "Далоў самадзяржаўе! Няхай жыве рэвалюцыя!"

Раптам густая сцяна паліцэйскіх устала перад дэманстрантамі. Тады загучала "Марсельеза". Яшчэ некалькі крокаў – і зусім вузкай стала паласа белага снегу паміж паліцэйскімі і дэманстрантамі. Калона спынілася. Наперад выйшлі Бруцар і Ерафееў. Са сцягам у руках яны рушылі на заслон. Паліцыя адкрыла агонь. Упаў смяротна паранены Бруцар. Сцяг падхапіў Фама Ерафееў. Яшчэ адзін ружэйны залп. Упаў Фама. Цяжка быў паранены, і Янкель Рызаў, малады рабочы, які спрабаваў абараніць сцяг. Яго тройчы ўдарыў шабляй памочнік спраўніка.

Што адбывалася ў Горках пасля гэтай падзеі, можна даведацца з ліста аднаго з вучняў вучылішча, якое было надрукавана ў газеце "Искра" (1905, №88): "Спачатку хаваць іх адкрыта не дазвалялася, бо яны палітычныя злачынцы, але ж вучні ўсіх нашых вучылішч, каля 500 чалавек, накі-

раваліся ў паліцыю, каб забраць адтуль целы і пахаваць іх самастойна. Паліцыя, зразумела ж, уся пахавалася, а з паліцэйскага дома выйшаў наш дырэктар і сказаў, што ў Магілёў ужо адпраўлена тэлеграма з просьбай дазволіць пахаваць целы адкрыта. Вучні пачалі назіраць за целамі па чарзе, каб забітых не пахавалі як-небудзь у ноч.

Дазвол ад магілёўскага губернатара прыйшоў, і сёння целы забітых адпраўлены па дамах пры вялікім скопішчы людзей. Была падпіска сярод вучняў і інтэлігенцыі на траты на перавозку цел: у землеробчым вучылішчы было сабрана 100 рублёў, у таксатарскім – 65 і горацкія жыхары ахвяравалі 45 рублёў. Цяпер усе навучэнцы ў глыбокай жалобе, а паліцыя, штат якой павялічаны да 30 чалавек, хаваецца па завулках, адкрыта не паказваецца. Памочніку спраўніка адпраўлена пісьмо з паведамленнем аб скорай яго канчыне, бо ён забіў Бруцэра, і таварышы забітага далі клятву хутка адпомсціць. Цяпер усе вучні – сацыял-дэмакраты."

У фондзе Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея захоўваецца фотаздымак: забітыя П.Бруцэр і Ф. Ерафееў у турэмнай бальніцы. Вядома, што здымак зрабіў вучань В. Станкевіч. Потым гэты здымак рэвалюцыянеры распаўсюджвалі ў Горках. У памяць аб героях вуліца Смаленская, дзе загінулі рэвалюцыянеры, у 1917 годзе была перайменавана ў Бруцэра-Ерафееўскую.

Расстрэл дэманстрацыі выклікаў абурэнне рэвалюцыянераў, моладзі. Забойства двух навучэнцаў прымусіла магілёўскага акруговага пракурора зрабіць дадатковае расследаванне. У выніку было высветлена, што першы выстрал зрабіў паліцэйскі і што пры разгоне дэманстрацыі паліцыя прымяняла недазволеныя прыёмы. Аб гэтым ён 12 красавіка паведаміў Кіеўскаму пракурору і прапанаваў узбудзіць крымінальную справу супраць шэрагу чыноў горацкай паліцыі. Аднак гэта прапанова не мела ніякіх вынікаў. Наадварот, 11 кастрычніка 1905 года ў г. Магілёве выязная сесія Кіеўскай судовай палаты судзіла арганізатараў дэманстрацыі. А.Н. Карунчыкаў быў асуджаны на два гады турмы, а астатнія – на 1 год 4 месяцы. Суд

прызнаў іх вінаватымі ў арганізацыі антыўрадавай дэманстрацыі.

Трагічныя студзеньскія падзеі ў Горках не спынілі рэвалюцыйны рух у павеце.

Архіўныя матэрыялы сведчаць, што 18 красавіка 1905 г. у 10 гадзін вечара на Аршанскай вуліцы адбылася дэманстрацыя. У ёй удзельнічала больш за 50 чалавек. З воклічамі "Ура!", "Далоў самадзяржаўе!" дэманстранты рушылі ў парк навучальных устаноў. Па дарозе колькасць дэманстрантаў вырасла да 200 чалавек. У цёмнай алеі парку нехта выступіў з прамовай, якая суправаджалася заклікамі "Далоў царскіх слуг-сабак!", "Далоў самадзяржаўе!". 1 мая ў парку навучальных устаноў быў праведзены мітынг, а затым дэманстрацыя. 21 мая дэманстрацыя паўтарылася.

У канцы мая 1905 г. адбыўся I з'езд арганізацый РСДРП Палескага камітэта, які прызнаў Горацкую арганізацыю членам Палескага камітэта.

На падаўленне рэвалюцыйнага руху ў Горках і павеце былі пасланы казакі Іркуцкага палка і дзве роты пяхотнага Аляксандраўскага палка. Горацкія арганізацыі РСДРП і эсэраў праводзілі сярод салдат агітацыйную работу. У 1905 годзе за агітацыю сярод салдат былі прыцягнуты да адказнасці навучэнцы А.Р. Ларыёнаў і Ф. Крызанковіч.

Падчас вобыску на кватэры, дзе жылі вучні землеробчага вучылішча Сцяпан Радзікоўскі і Дзмітрый Мандрыкаў, паліцыя знайшла гектограф, лістоўку "Таварышы сяляне", фарбу, паперу. У тайніку было знойдзена 190 экзэмпляраў розных лістовак і пракламацый. Паліцыя зрабіла засаду. Праз некалькі гадзін туды зайшоў і быў схоплены паліцыяй навучэнец Сцяпан Александровіч. Пры вобыску ў яго знайшлі скрутак з лістоўкамі "Таварышы сяляне", "Да сялян і рабочага народа","Пісьмо да рабочых і сялян", "За што мы змагаемся",“Таварышы салдаты","Чаго хочуць людзі, якія ходзяць з чырвоным сцягам", песні "Варшавянка" і іншыя.

Большасць лістовак была перадрукавана з лістовак, выдадзеных ЦК РСДРП, Палескім і Магілёўскім камітэтамі РСДРП. Частка тэкстаў лістовак была складзена горацкай

арганізацыяй РСДРП. У горадзе раскідваліся лістоўкі "Праўда аб вайне".

4 ліпеня ў Горках прайшла агульная забастоўка. Паліцыя скарыстала зброю, адзін чалавек быў цяжка паранены. За ўдзел у забастоўцы нямала рабочых паштова-тэлеграфнай станцыі звольнілі з работы.

Летам 1905 года ў Горацкім павеце адбываліся і масавыя выступленні сялян, якія выліліся ў парубкі памешчыцкага лесу, патраву сенажацей і пасеваў, арганізацыю забастовак батракоў, пагромы і падпалы маёнткаў.

Магутная хваля рэвалюцыйнай барацьбы працоўных, якая ахапіла ўсю краіну, прымусіла цара 17 кастрычніка 1905 года выдаць маніфест, дзе ён абяцаў народу дэмакратычныя свабоды. Працоўныя Горак сустрэлі царскі маніфест з недаверам. Ужо 18 кастрычніка ў горадзе, паводле паведамленняў паліцыі, "ночью и весь день происходят демонстрации со стрельбой".

26 кастрычніка сабраліся навучэнцы Горацкага земляробчага вучылішча і прынялі пастанову: "Мы, учащиеся Горецкого земледельческого училища, находя себя вполне солидарными с мнением прогрессивных сил от общества, требуем: Созыва учредительного собрания на основании всеобщего для всех, достигших 20-летнего возраста независимо от пола и национальности, равного, прямого и тайного голосования, скорейшего проведения в жизнь полной гражданской свободы, свободы слова, печати, собраний и союзов, свободы совести, неприкосновенности личности и жилищ, свободы стачек, передвижения и промыслов.

Полной амнистии всем пострадавшим за политические и религиозные убеждения.

Но кроме нашего желания быть истинными гражданами своей родины, мы, как ученики подавленной бюрократическим режимом школы, наиболее сильно чувствуем на своей спине гнет старого порядка и обращаемся к обществу с требованием обратить внимание на неестественное положение Русской средней школы, совершенно несоответствующее своему назначению.

Имея в виду как пример нашу среднюю сельскохозяйственную школу, мы находим неотложным: введение автономии училища и отделение такового от церкви.

Коренную переделку всей системы преподавания как теоретических, так и практических знаний.

Находя неосновательными привилегии некоторых типов перед другими касательно приема в высшие учебные заведения путем свободного доступа всем окончившим среднюю школу в высшую независимо от типа последних.

Желая сделать среднюю школу действительно народной, на средства которого она содержится, мы требуем свободного доступа в среднюю школу всем желающим, независимо от максимума возраста, пола и национальности, а также допущения вольнослушателей.

В частности для наших с.-х. школ требуем уничтожения экзаменов при приёме окончивших низшие сельскохозяйственные школы.

Ввиду невозможности, живя в обновленной России, продолжать занятия в старой школе, режим которой умерщвляет все светлое, живое, коверкает и ломает наши души, готовя из нас сухих, односторонних чиновников, слепых слуг капитала, – мы решили употребить все усилия, чтобы способствовать скорейшей замене его новым, и ввиду этого на нашей ученической сходке постановили (большинством 128 против 21) объявить забастовку. Просим солидарных с нами товарищей к нам присоединиться".

У перыяд снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве з мэтай аказання дапамогі маскоўскім рабочым у Горках была сфарміравана баявая дружына колькасцю 100 чалавек. На жаль, прабіцца ў Маскву яна не здолела з прычыны забастоўкі чыгуначнікаў.

На пачатку 1906 года эсэры Горацкага павета арганізавалі "Сялянскі саюз" і правялі некалькі нелегальных сялянскіх з'ездаў.

Рэвалюцыйныя выступленні працягваліся і ў 1906 - 07 гг. Вось пералік некаторых з іх. 27 ліпеня 1906 г. быў асуджаны жыхар Горак Іван Кажанаў. Яго затрымала паліцыя ў мястэчку Чэрэч Сенненскага павета. У ходзе след-

ства высветлілася, што ён працаваў служачым горацкай пошты. У Горках уступіў у арганізацыю РСДРП. Яму было прад'яўлена абвінавачванне, што ён 4 чэрвеня 1906 г. на рыначнай плошчы ў мяст. Крычаў на сходзе, на якім прысутнічалі 200 чалавек, заклікаў да зварження цара. Суд асудзіў яго на 8 месяцаў турэмнага зняволення.

У гэты час быў асуджаны слесар горацкага рамеснага вучылішча Лейба Іофе, ураджэнец мяст. Горы. Як сведчаць архіўныя матэрыялы, 20 лістапада 1905 г. у мяст. Горы быў скліканы сход жыхароў мястэчка і воласці для чытання царскага маніфеста. Аднак Іофе перабіў прамоўцу і заявіў, што цар усіх ашуквае. Пасля мітынгу ён быў арыштаваны, у час вобыску ў яго былі знойдзены 17 экзэмпляраў лістовак, выдадзеных горацкай арганізацыяй РСДРП. За распаўсюджванне лістовак і пракламацый летам 1906 г. былі таксама асуджаны сяляне Горацкага павета Іван Малах і Іван Ратнікаў.

Восенню 1906 г. быў асуджаны вучань IV класа земляробчага вучылішча Харытон Еркулёў, які спрабаваў сярод салдат распаўсюджваць лістоўку "Салдат салдату", выдадзеную горацкай арганізацыяй РСДРП.

Цікава, што навучэнцы горацкіх навучальных устаноў распаўсюджвалі лістоўкі і пракламацыі і за межамі павета. Так, летам 1906 г. паліцыяй былі арыштаваны браты Леанід і Міхаіл Харкевічы, якія распаўсюджвалі пракламацыі сярод пасажыраў парахода, які ішоў з Магілёва ў Оршу.

30 красавіка 1907 года за горадам у лесе адбылася сходка навучэнцаў і рабочых г. Горкі. Аб гэтым даведалася паліцыя. Атрад паліцэйскіх спрабаваў акружыць сходку, але выстралам двух ракет рэвалюцыянеры былі папярэджаны і паспелі схавацца. Паліцыі ўдалося затрымаць толькі аднаго вучня Мацвея Ермашкевіча. У яго было знойдзена 6 экзэмпляраў лістоўкі "1 Мая", у якой гаварылася, што свята 1 Мая з'яўляецца святам будучага, святам сацыялізму. Лістоўка заклікала пакінуць у гэты дзень работу, каб пралетарыят меў магчымасць паказаць сваім ворагам, што сілы яго не паслаблі і на месцы загінуўшых і арыштаваных змагароў з'явяцца тысячы новых.

Лістоўка заканчвалася заклікамі "Далоў самадзяржаўе!", "Няхай жыве сацыялізм!"

Многія жыхары Горак удзельнічалі ў рэвалюцыйным руху ў Расіі. Аб адным з іх, І.І. Стаўскім, У.І. Ленін у пісьме да Р.В.Пляханава 19 студзеня 1902 года пісаў:"У Берне зараз Стаўскі, – рабочы-прамоўца з Растова… Ён іскрак. Трэба б яго прыцягнуць бліжэй". А днём раней у пісьме да Л.І.Аксельрод Уладзімір Ільіч паведаміў: "Атрымаў зараз Ваша пісьмо і спяшаюся адказаць, каб павіншаваць з такой велізарнай находкай, як Стаўскі". Так высока ацэньваў У.І.Ленін рэвалюцыйную дзейнасць І.І.Стаўскага, ураджэнца вёскі Аршані Горацкага павета. З 1893 года ён працаваў у чыгуначных майстэрнях у Растове-на-Доне, уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу і ў 1898 годзе ўступіў у РСДРП. Вёў перапіску з рэдакцыяй "Искры", друкаваўся ў газеце пад псеўданімам "Иван". Увосень 1902 г. Стаўскі ўзначаліў 23-дзённую забастоўку растоўскага пралетарыяту, якую высока ацаніў У.І.Ленін. Пасля актыўна займаўся рэвалюцыйнай барацьбой, а пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў на кіруючых пасадах у Маскве. За выдатныя заслугі перад рэвалюцыяй у дзень 30-годдзя растоўскай стачкі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр у 1957 годзе ў Маскве, крыху не дажыўшы да свайго васьмідзесяцігоддзя. У Растове-на-Доне яго іменем названа адна з вуліц горада.

Цікавы лёс і братоў Муравіных. Рыгор Майсеевіч нарадзіўся ў Горках. Член Горацкай арганізацыі РСДРП, за удзел у дэманстрацыі 16 студзеня 1905 года быў выключаны з рамеснага вучылішча. У кастрычніку 1905 года ваяваў у барыкадных баях екацярынаслаўскіх рабочых з паліцыяй і казакамі, удзельнічаў у арганізацыі пабегу Арцёма.

Пасля пераезду ў Самару ў 1906 годзе выбіраўся сакратаром Самарскага камітэта РСДРП. Затым быў прызваны ў царскую армію і ў 1908 годзе па працэсу 32 салдат Выбаргскай крэпасці за прыналежнасць да ваеннай арганізацыі РСДРП і рэвалюцыйную прапаганду прыгавораны да 10 гадоў катаржных работ. Адбываў тэрмін у турмах

Пскова, Пецярбурга і Шлісельбурга. У Шлісельбургскім цэнтрале сустракаўся з Г.К. Арджанікідзе. Аб гэтым Г.М. Муравін расказаў ва ўспамінах "Пять лет в Шлиссельбургском централе", надрукаваных у кнізе "На катаржным востраве" (Л., Лениздат, 1967). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзіўся на савецкай і прафсаюзнай рабоце ў Архангельску, Волагдзе і Маскве.

Муравін Саламон Майсеевіч нарадзіўся ў Горках у 1888 годзе. Пасля заканчэння пачатковай школы Саламон быў вучнем пераплётнай майстэрні. Тут ён прыахвоціўся да літаратуры, што ўпотай ад гаспадара друкавала Горацкая падпольная арганізацыя бальшавікоў. У 15 гадоў яго прымаюць у арганізацыю РСДРП. Спачатку ён удзельнічаў у друкаванні на гектографе лістовак і пракламацый, распаўсюджваў іх у Горках і бліжэйшых вёсках, а ў канцы 1904 года ўступіў у баявую групу.

У 1905 годзе працаваў у падпольнай друкарні, уступіў у рабочую баявую дружыну ў Самары.

Увосень 1906 г. вымушаны быў вярнуцца ў Горкі, дзе працягваў рэвалюцыйную дзейнасць да 1910 года. Затым тры гады служыў у царскай арміі, а пасля службы жыў у Архангельску. Там працягваў рэвалюцыйную работу сярод чыгуначнікаў. З восені 1917 г.– на Доне. Арганізоўваў рэвалюцыйныя атрады па барацьбе з Каледзіным і атрады па нарыхтоўцы прадуктаў.

Пасля заняцця Растова Чырвонай Арміяй быў выкліканы туды і па даручэнню рэўкома арганізоўваў інтэрнацыянальныя атрады. З утварэннем БССР партыя накіравала яго ў Горкі, адкуль ён на чале камуністычнага атрада едзе на ўсходні фронт супраць Калчака. Потым ЦК партыі бальшавікоў паслаў Муравіна ў Архангельск, дзе ён быў загадчыкам агітацыйна-прапагандысцкага аддзелу губкома РКП(б), затым рэдактарам газеты. У наступныя гады працаваў у савецкім друку. У 1938 г. быў неабгрунтавана рэпрэсіраваны і загінуў. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Пасля паражэння рускай рэвалюцыі 1905-1907 гадоў у Горках паступова аднаўлялася дзейнасць падпольнай

арганізацыі. Вядома, што ў 1908 годзе тут актыўна працавала Магілёўская арганізацыя РСДРП. У гады рэакцыі існавалі маладзёжныя сацыял-дэмакратычныя гурткі ў земляробчым вучылішчы.

## ГОРКІ Ў ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯ



***1913*** год. Апошні год перад пачаткам Першай сусветнай вайны. У савецкія часы яго часта бралі для параўнання, каб паказаць, чаго дасягнула савецкая дзяржава.

Што ж уяўлялі сабой Горкі ў гэты час? Згодна статыстыкі тут жыло 7574 жыхары (4410 праваслаўных, 3125 яўрэяў, 32 каталікі, 7 пратэстантаў).

Горадам і паветам кіравалі павятовы з’езд (старшыня – маршалак дваранства), павятовая па воінскай павіннасці канцылярыя, упраўленне павятовага воінскага начальніка, павятовая камісія па ацэнцы нерухомай маёмасці, павятовы камітэт па справах земскай гаспадаркі, павятовая ўправа па справах земскай гаспадаркі, урачэбная часць, сельска-ўрачэбная часць, павятовае паліцэйскае ўпраўленне, паштова-тэлеграфная кантора, гарадское спрошчанае ўпраўленне, казначэйства, падатковая інспекцыя, гарадская па кватэрнаму падатку канцылярыя, павятовы распарадчы камітэт, камітэт аб народнай цвярозасці, павятовы суд, сіроцкі суд, турма, горацкае прыватнае жаночае аднакласнае вучылішча, земляробчае вучылішча, рамеснае вучылішча, каморніцка-таксатарскія класы, сельскагаспадарчая ферма, горацкая землеўпарадкавальная камісія, камітэт Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжа, таварыства дапамогі вучням Горацкіх вучэбных устаноў, таварыства дапамогі бедным хрысціянам, таварыства дапамогі бедным яўрэям, горацкае дабрачыннае

пажарнае таварыства, праўленне пазыка-ашчаднай касы Горацкіх вучэбных устаноў.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваліся «Ведомости о фабриках, заводах и других промышленных заведениях». Згодна з імі, у Горках працавала: 13 булачных, дзе было 29 рабочых і выраблялася прадукцыі на 25000 рублёў; 2 вытворчасці фруктовых вод і ліманаду (4 рабочыя, 2000 рублёў); 1 вытворчасць цэглы і чарапіцы (1 рабочы, 50000 рублёў); дзве крупадзёркі (4 рабочыя, 1000 руб.); 1 лесапілка (4 рабочыя, 2500 руб.); 2 маслабойкі (5 рабочых, 1400 руб.); 2 паравыя млыны (4 чалавекі, 3300 руб.); 2 друкарні (12 чалавек, 30000 руб.); 2 фатаграфіі (4 чалавекі, 2000 руб.); 1 майстэрня па вырабу панчох (5 чалавек, 1100 руб.).

У павеце працавала 75 рамесных прадпрыемстваў. Самае буйное прадпрыемства – суконная фабрыка барона Корфа, дзе працавала 57 рабочых і выраблялася 83 000 аршын сукна і 1200 штук коўдраў. У мястэчку Раманава працаваў вінаробчы завод (13 чалавек, 16100 руб.).

На жаль, у архіўных справах чамусьці няма пасведчанняў пра славутую парфумную фабрыку, што працавала пры аптэцы Падзёрскага. Затое нядаўна стала вядома пра іншыя славутыя рамесныя прадпрыемствы. Напрыклад, пра фатаграфію Б.Арыеля. На адной з фатаграфій, што прыслала аўтару былая жыхарка Горак Ф.І.Цырліна з Санкт-Пецярбурга, бачна, што у 1905 годзе гэты фатограф атрымаў залаты медаль на Парыжскай сусветнай выстаўцы.

Дарэчы, дзякуючы гэтаму фатографу мы маем гістарычныя фотаздымкі дарэвалюцыйных Горак, здымкі Я.Коласа, М. і Г.Гарэцкіх. На жаль, гэты таленавіты фатограф загінуў у 1938 годзе.

Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў Горках і павеце ў гэты час працавала, акрамя Горацкіх сельскагаспадарчых навучальных устаноў, 17 школ Міністэрства народнай адукацыі (1439 навучэнцаў), 29 царкоўна-прыходскіх (1488 навучэнцаў), 126 школ граматы (2575 навучэнцаў).

Менавіта ў Горках працавалі: Казіміраўская пачатковая народная школа і Горацкая пачатковая народная школа.

Працавала дзяржаўная гімназія і прыватная жаночая. Аб апошняй мы даведаліся, калі ў Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей даслаў адзін цікавы фотаздымак наш зямляк, доктар геаграфічных навук, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта А.С.Слука. На здымку – заснавальніца прыватнай жаночай гімназіі Н.М.Успенская.

У павеце жыло больш за 126 тысяч жыхароў. Навучаннем было ахоплена ўсяго 30% дзяцей школьнага ўзросту. З усіх навучэнцаў дзяўчаты складалі ўсяго 15%.

Цікава, што ўскосным паказчыкам агульнага ўзроўню асветы па Горацкаму павету з’яўляецца такі факт, што калі сярод навабранцаў у Аршанскім павеце было 70,5% непісьменных, то ў Горацкім павеце – 51%.

Яўрэйскія дзеці вучыліся ў “хэдарах”, прыватных школах, дзе вывучалі мову “іўрыт” і Тору. Больш здольныя маглі вучыцца ў “талмуд-торы”, якую падтрымлівалі багатыя яўрэі Горак. Як ва ўсёй Беларусі, у Горках існавала яўрэйская гуманітарная арганізацыя ”ОПЕ”, пры дапамозе якой былі створаны спецыяльныя класы, дзе вучні вывучалі слясарную справу.

У гэтыя гады актыўна працавала павятовае земства. Яго доўгі час узначальваў ураджэнец горада Мурама, урач К.М. Рабынін. І.І. Савосіна знайшла цікавыя звесткі аб яго дзейнасці на гэтай пасадзе.Так, на пасяджэнні 3-га чарговага Магілёўскага губернскага земскага сходу, які адбыўся ў снежні 1913 года ў Магілёве, ён прапанаваў адчыніць у Горках настаўніцкую семінарыю. На жаль, гэта прапанова не была падтрымана. У 1914 годзе ён разам з гласным земскай управы Г.Краузе прасіў дапамогі ў арганізацыі ў Горках тэлефоннай станцыі і бальніцы. На будаўніцтва бальніцы было выдзелена 10 тыс. рублёў.

Цікава, што К.М. Рабынін быў знаёмы з М.К.Рэрыхам, вядомым мастаком і грамадскім дзеячам і разам з ім у 1927 годзе ўдзельнічаў у Цэнтральна-Азіяцкай экспедыцыі, якая прайшла Манголію, Цібет і Гімалаі.

Як выглядалі Горкі ў гэты час, бачна з “Плана города Горки Могилёвской губернии (1887 г.)”, які з’яўляўся выпускной працай вучня Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча М.Чарнова.

Галоўнай вуліцай была Вялікая Аршанская, якая пачыналася каля рэчкі Капылкі, а ў канцы горада пераходзіла ў дарогу аршанскага накірунку. На вуліцы размяшчаліся гарадская лазня, пошта і казначэйства, гімназія, царква, гарадская ўправа. У канцы вуліцы былі праваслаўныя могілкі.

Раён могілак раней быў асобнай часткай горада і меў назву – Шаманоўка. У пачатку XX стагоддзя гэты раён ужо зліўся з горадам.

У цэнтры вуліцы была базарная плошча, дзе стаялі адзіныя ў горадзе, не лічачы тэрыторыі навучальных устаноў, двухпавярховыя дамы.Тут знаходзіліся Дваранскі сход, цырульня, некалькі магазінаў, гасцініца “Пецярбургская” на некалькі нумароў. Акрамя яе працавалі яшчэ гасцініцы “Тульская” і “Еўрапейская”.На самой плошчы злева былі рады гандлёвых лавак, справа – дзве царквы.

Да гэтага трэба дадаць, што спачатку да вуліцы Вялікая Аршанская прымыкала вуліца Сталярная.Там у падвале аптэкі К.Падзёрскага і была славутая на ўвесь свет майстэрня па вырабу крэма «Казими-метаморфоза». Зараз гэта вуліца Крупскай, у былым будынку аптэкі доўгі час знаходзіўся аддзел унутраных спраў Горацкага райвыканкама.

Яшчэ трэба адзначыць адну вуліцу, якая перасякала Вялікую Аршанскую – гэта вуліца Інстытуцкая. Відаць, атрымала назву ад таго, што вяла да галоўнага ўваходу ў Горацкія сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы. Зараз гэта вуліца імя Ф.А.Сурганава. А былая Вялікая Аршанская носіць імя двойчы Героя Савецкага Саюза І.І.Якубоўскага.

Побач з галоўнай вуліцай ішла вуліца Малая Аршанская, бо таксама вяла на аршанскі шлях. З 1993 года яна носіць імя класіка беларускай літаратуры Максіма Га-

рэцкага, які перад паступленнем у землямерна-аграномічнае вучылішча амаль год жыў на гэтай вуліцы.

Паралельна Вялікай Аршанскай ішла вуліца Дваранская. Як успамінае Леў Разгон, жылі там у асноўным багатыя яўрэі. Зараз на вуліцы захаваліся два дамы той пары. Гэта будынак былой пажарнай часткі (зараз жылы дом) і дом сямейства Вінакуравых (зараз Цэнтр эстэтычнага выхавання ўпраўлення адукацыі райвыканкама). У той час на гэтай вуліцы знаходзіўся кінематограф «Иллюзион».

З вуліцы Дваранскай вяла дарога на Салдацкую слабодку, дзе была турма. Там жылі ў асноўным ахоўнікі турмы і адстаўныя салдаты. Зараз гэта вуліца Сацыялістычная. А ў будынку былой турмы зараз знаходзіцца раённы Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

Вуліца Дваранская ўпіралася ў вуліцу Смаленскую. Адсюль ішоў шлях на мястэчка Раманава, а потым у Смаленск. Сённяшняя назва вуліцы звязана з падзеямі 1905 года, калі на ёй была расстраляна вучнёўская дэманстрацыя і загінулі двое навучэнцаў Горацкіх сельскагаспадарчых устаноў – Пётр Бруцар і Фама Ерафееў.

З абазначаных на старадаўняй карце горада захавалася ўсяго некалькі вуліц. Гэта вуліца Школьная (зараз зав.Якубоўскага), вуліца Гарыстая (зараз імя А.Кашавога).

Гістарычныя назвы захавалі толькі вуліца Красінская (тут з даўніх часоў жылі красільшчыкі сукнавальні графа Л.Салагуба, уладальніка Горацкага маёнтка) і Азёрная.

Вуліцы і завулкі Зарэчча і Слабады наогул назваў у пачатку XX стагоддзя не мелі.

Усяго ў горадзе было 2 плошчы, 48 вуліц і завулкаў, 875 дамоў, з іх каменных 23, крытых жалезам – 23, дрэвам – 425, саломай – 377.

У горадзе дзейнічала гарадская бальніца на 30 ложкаў і бальніца для навучэнцаў сельскагаспадарчых вучылішчаў на 20 ложкаў, 1 аптэка і 5 аптэкарскіх магазінаў. Працавала ўсяго 3 урачы, 1 ветэрынар, 3 акушэркі, 5 фельчараў. Была тэлефонная станцыя на 12 нумароў.

У горадзе мелася бібліятэка, 4 праваслаўныя царквы, 4 малітоўных яўрэйскіх дамы.

10 кастрычніка 1910 года споўнілася 50 год служэння ў Горацкай Троіцкай царкве пратаіерэя Пятра Шымкевіча. За добрасумленную працу прыхаджане ўручылі яму залаты крыж.

З архіўных спраў Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі вядома, што ў Горках быў створаны літаратурна-музычна-драматычны гурток. Яго старшынёй быў І.І.Казакоў, сакратаром А.Ф.Бакшэвіч, казначэем Д.В.Цітовіч. Гуртком быў наладжаны паказ спектакляў у Горках і павеце, а грошы ад збораў ішлі на падтрыманне багадзельні.

Грамадскі парадак у горадзе і павеце падтрымлівалі адзін паліцэйскі наглядчык і 17 гарадавых.

Цікава, што ў Горках і павеце працавала аж чатыры страхавыя таварыствы: "Саламандра", "Российское", "Варшавское", "Северное".

Усё, аб чым пісалася пра Горкі вышэй, удалося даведацца, вывучаючы архіўныя і музейныя матэрыялы, падшыўкі газет.

Захаваліся і цікавыя ўспаміны аб Горках тых часоў Л. Разгона: "Большая Оршанская имела все отличительные черты главных улиц российских уездных городов. Большинство домов на ней было обшито тесом и имело высокие крылечки с обязательными лавочками. Чем ближе к городской площади, тем улица становилась наряднее и приобретала все более городской вид. Деревянные тротуары делались шире, изредка появлялись кирпичные дома, принадлежащие богатым еврейским купцам, и, наконец, улица переходила в городскую площадь – центр всех материальных и духовных интересов горожан, в особенности мальчишеского населения города. Напротив Базарной площади стоял длинный каменный дом – единственное двухэтажное здание в городе, если не считать тюрьмы и института. В этом доме помещались Дворянское собрание, городской ресторан, библиотека, местный театр – словом, почти все культурно-увесе-

лительные учреждения. На Рождество в зале Дворянского собрания устраивалась ёлка, в один из дней сюда приглашали детей мелких служащих, приказчиков, даже рабочих немногочисленных предприятий города...

От Дворянского собрания начиналась Базарная площадь – самое веселое и интересное место в нашем городе. Правую часть площади занимали две большие деревянные церкви, стоящие рядом и обнесенные узорчатой кирпичной оградой. Налево от церквей – пожарная с вышкой и большим флагштоком, на котором вывешивались пожарные сигналы. Различать эти сигналы в обязательном порядке должны были все мальчишки, начиная с четырех лет.

Вдоль всей площади тянулись несколькими линиями торговые ряды. В бесчисленных мелких лавчонках продавались, главным образом, бублики, сладкие лепешки – кухоны и разнообразная, неопределенная мелочь, именуемая бакалеей…

Между пожарной и богадельней, приткнувшись к углу Базарной площади, проходит узенький и короткий переулок. Стоит лишь войти в него – и сразу стихает базарный гомон. Через несколько домов переулок кончается, и перед глазами возникает большая пустынная площадь. Всего несколько десятков шагов отделяют ее от базара, но она настолько другая, что кажется перенесенной с чужой планеты, даже почва иная – не мягкая пыль или чавкающая под ногами грязь базара, а жесткий, крупный песок с булыжниками и валунами. Площадь окружена длинными, почерневшими от времени деревянными зданиями. Над широкими окнами, над нарядными крыльцами укреплены ажурные, вырезанные из дерева шестиконечные звезды – Могендовиды. Это – синагоги. И песчаный пустырь называется Синагогальной площадью. Прямо от неё круто катится вниз улица. Деревянные тротуары здесь сломаны, проезжая незамощенная часть улицы напоминает дно оврага, размытого потоками, с ревом несущимися после каждого дождя. Почти на всех домах этой улицы висит заржавленная вывеска, гласящая о том,

что в доме живут "варшавские" портные, хотя они родились и безвыездно прожили всю жизнь в Горках…

Но портные, жившие на этой улице, были аристократами среди других ремесленников города. Внизу, у самой Поросицы, на её вязких илистых берегах примостилось множество домов, не пытавшихся даже сгруппироваться в подобие улиц. Это место называлось Глинище. Жила здесь самая отчаянная городская беднота – сапожники, жестянщики, люди со странными и печальными профессиями – обмывальщики мертвецов, плакальщицы, городские нищие, городские сумасшедшие. Последнее занятие считалось в городе тоже профессией – почти ничем не хуже любой другой. Бугристая, никогда не просыхающая почва Глинища была завалена обрывками кожи, вываренными костями, внутренностями животных, дохлыми кошками – всё это раскисало, разлагалось, распространяло какую-то особую вонь, которой настолько пропахли все жители Глиница, что их легко было опознать по одному этому запаху.

От моста через Поросицу начиналась Слобода. Вместе с другим предместьем – Заречьем – она составляла русскую часть города.

В Горках были и другие места и улицы – разные по своему характеру, назначению и населению. Была обычная в каждом уездном городе Дворянская улица, заселенная не столько дворянами, сколько состоятельными евреями; была Солдатская слободка у маленькой каменной тюрьмы; был городской бульвар с кинематографом. И, наконец, украшение и гордость города – старинный сельскохозяйственный институт, стоявший в глубине огромного красивого парка. Много интересного было в этом городе, который я открывал постепенно, шаг за шагом, с каждым месяцем и годом моей жизни…"

М.Ганчарык пакінуў цікавыя ўспаміны аб тым, як дабіраліся ў Горкі з Оршы. ”Прыехаўшы ў Оршу, пісаў ён,- я адшукаў так званы Горацкі заезд на Зялёнай вуліцы. Там, у заезджай, звычайна збіраліся ўсе, каму патрэбна было ехаць да Горак. У той час ні чыгункі, ні аўтобусных зносін

ад Оршы да Горак не было. Адзін спосаб дабрацца да Горак – альбо пехатой, а гэта добрых 45 вёрстаў ад чыгуначнай станцыі, альбо наняць падводу... Былі сярод іх звычайныя балаголы, а былі і заможныя, якія мелі некалькі пар добрых коней і адмысловыя фаэтоны на рысорах...Найбольш заможныя ездакі, вядома, ездзілі толькі з рамізнікам Чарняком на фаэтонах, а ў каго грошай было малавата, тыя мералі дарогу пехатой..."

У гэты час не спыніўся рэвалюцыйны рух. Вядома, што ў 1912 годзе горацкія бальшавікі распаўсюджвалі газету "Правда", аказвалі ёй матэрыяльную дапамогу.

У 1911 - 1914 гадах у горадзе актыўна дзейнічала падпольная партыйная арганізацыя. У яе ўваходзілі А. і С. Фабрыстаў, С.Пагодзін, П.Максімаў і іншыя.

У 1914 годзе пачалася Першая сусветная вайна, якая прынесла народным масам пагібель, пакуты і галечу. Як бачна з «Именного списка убитых, раненых и без вести пропавших нижних членов Могилёвской губернии», надрукаванага на старонках «Могилёвских губернских ведомостей», толькі ў 1915 годзе загінула і прапала без вестак 53 салдаты з Горацкага павету. Іх імёны змешчаны ў кнізе "Памяць. Горацкі раён".

А праз Горкі пацягнуліся фурманкі з эвакуіраванымі. З архіўных даных бачна, што больш 200 бежанцаў было расселена ў Горках. Для іх Горацкая павятовая земская ўправа выдзяліла 500 рублёў, а ў Дваранскім сходзе 22 снежня 1914 года быў наладжаны дабрачынны канцэрт і збор – 165 рублёў 85 капеек – быў аддадзены бежанцам.

У Горках і павеце закрываліся прадпрыемствы, раслі цэны на харчовыя тавары і прадметы першай неабходнасці. Гэта прыводзіла да абвастрэння класавых супярэчнасцей.

У красавіку 1916 года адбылася забастоўка рабочых суконнай фабрыкі барона Корфа, на якой выраблялася сукно для царскай арміі. Рабочыя патрабавалі павышэння заработнай платы.

Жыхары Горак і павета прымалі актыўны ўдзел у забастоўцы на будаўніцтве чыгункі Орша-Варажба. Сярод арга-

нізатараў яе быў вучань 2-га класа Горацкага рамеснага вучылішча А.Мартулеў.

Непатрэбная народу вайна выклікала рост антываеннага настрою сярод салдат царскай арміі, у тым ліку і ўраджэнцаў Горак і павета. Салдаты самавольна пакідалі армію і вярталіся дадому. Горацкі павятовы спраўнік у рапарце на імя магілёўскага губернатара дакладваў, што толькі ў снежні 1916 года затрымана ў горадзе і павеце 8 ніжэйшых чыноў.

З 10 чэрвеня па 15 ліпеня 1916 года ў Магілёўскай губерні праводзіўся сельскагаспадарчы перапіс. Паводле яго вынікаў стала вядома, што насельніцтва Горацкага павета складала 109 803 чалавекі – 47 116 мужчынскага і 62 627 жаночага полу, на 100 мужчын у павеце прыходзілася 133 жанчыны. Змяншэнне насельніцтва было звязана з вайной, а таксама з тым, што частка насельніцтва павета перасялілася ў другія рэгіёны Расіі. Яўрэйскае насельніцтва пасля вядомых пагромаў, якія адбыліся ў Расіі, перасялася ў Еўропу, ЗША і Палесціну.

Імперыялістычная вайна, якая прынесла незлічонае гора і пакуты народным масам, па выказванню У.І.Леніна, з’явілася ўсясільным “рэжысёрам”, магутным паскаральнікам рэвалюцыйнай буры.

І яна грымнула.

## *ПАДЗЕІ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ Ў ГОРКАХ*



***А***б тым, як праходзілі ў Горках падзеі Лютаўскай рэвалюцыі, нельга даведацца з архіўных дакументаў, бо значная іх частка, на жаль, загінула ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Аднак 16 ліпеня 1917 года пачала выходзіць першая ў горадзе газета "Горецкий

вестник". І калі споўнілася паўгода тым падзеям, газета пачала друкаваць цікавы матэрыял "Першыя дні лютаўскай рэвалюцыі ў Горках (1917, №№23, 27, 30,33).

З іх і можна падрабязна даведацца аб гэтых падзеях.

Так, 4 сакавіка 1917 года ў Горках стала вядома аб тым, што царызм паў. У цэхі рамеснікаў, на рабочыя ўскраіны і ў студэнцкія аўдыторыі ўварвалася слова "рэвалюцыя".

5 сакавіка ў клубе сельскагаспадарчых установаў быў сабраны сход пад кіраўніцтвам старшыні Казімірскага. Сход адкрыў прамовай Белільнікаў, які запрасіў усіх ушанаваць стоячы загінуўшых барцоў за свабоду. У разгар сходу была атрымана газета "Русское слово" за 3 сакавіка 1917 года. Выкладчыкам вучылішча Цітовічам быў зачытаны склад Часовага ўрада і яго дэкларацыя. Затым быў абраны выканаўчы камітэт з 15 асоб. Было падана 95 кандыдатур. З іх абралі: Цітовіча, Крэера, Мечынскага, Казімірскага, Розэнвальда, Вераб'ёва, Масленага, Гінзбурга, Ашэнбрэнера, Белільнікава, Пуйдэ і Красікава. Трох асоб уключылі па пасадзе: старшыню земскай управы, гарадскога старасту і воінскага начальніка.

На другі дзень, 6 сакавіка, выканаўчы камітэт абраў старшынёй выканкама Цітовіча, яго сябрам (намеснікам) Гінзбурга, сакратарамі – Валчкова і Розенвальда. На гэта пасяджэнне прыйшлі прадстаўнікі ад горацкіх навучальных установаў і патрабавалі, каб у склад выканкама былі ўключаны 6 чалавек (па два ад кожнага вучылішча). Нечакана такую прапанову падтрымаў воінскі начальнік Лейтнер, і камітэт быў сфарміраваны з 21 чалавека.

На гэтым жа пасяджэнні быў адхілены ад пасады паліцэйскі спраўнік Лорчанкаў, паліцыя распушчана.Замест яе была створана міліцыя на чале з членам выканкама Ашэнбрэнерам. Першымі міліцыянерамі былі вучні сельскагаспадарчых установаў.

Каб умацаваць сваю ўладу, Часовы ўрад увёў новую пасаду павятовага камісара, 8 сакавіка ў Горкі камісарам прызначаецца А. Кржывіцкі. А ўжо 9 сакавіка па гораду быў расклеены яго зварот, у якім ён заклікаў прыйсці “на помощь новому правительству”.

10 сакавіка ў Мар'іным гаі адбылася вялікая маніфестацыя, дзе выступіў Я.В.Гарбачоў, вызвалены з арлоўскай катаржнай турмы. Дзякуючы гісторыку Э.Карніловічу можна даведацца аб тым, што Яфім Васільевіч нарадзіўся ў Горках у 1889 годзе. Член РСДРП з 1907 г., эсэр. Вучыўся ў рамесным вучылішчы. У 1907 г. быў у баявой дружыне партыі эсэраў у Смаленску, захоўваў і распаўсюджваў нелегальную літаратуру, арыштаваны і пасаджаны ў турму. 12 лістапада 1909 года зрабіў замах на забойства магілёўскага паліцмайстра Радзіёнава. За гэта Я.В.Гарбачова прыгаварылі да пакарання смерцю. Але потым замянілі гэты прыгавор на 20 гадоў катаргі. Пакаранне адбываў у Арлоўскім цэнтрале. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся ў Горкі. Дэлегат Усерасійскага з'езда Саветаў ад Горацкага павета (ліпень 1918). Далейшы лёс яго невядомы.

Пасля маніфестацыі былі сабраны грошы ў суме 1238 рублёў. Частку з іх паслалі бацькам Фамы Ерафеева і Пятра Бруцара, якія загінулі ў час дэманстрацыі 16 студзеня 1905 года, аказалі дапамогу Я.В.Гарбачову і амнісціраванаму Коцікаву. Астатнія грошы перадалі ў выканкам.

У той жа дзень у 16 гадзін шматлюдны мітынг адбыўся ў актавай зале каморніцка-земляробчага вучылішча. Даклад на тэму "Дзяржаўны пераварот і вайна" зрабіў старшыня выканкама С.Г.Цітовіч. Выступіў на сходзе і актыўны ўдзельнік падзей 1905 года Каласкоў. Пасля мітынгу было сабрана 112 рублёў, якія былі адпраўлены ва Усерасійскі саюз гарадоў, які пасылаў падарункі салдатам.

11 сакавіка зноў адбылася маніфестацыя, на якой выкладчык земляробчага вучылішча І. Красікаў выступіў з прамовай аб рэвалюцыйнай дзейнасці М.Г. Чарнышэўскага. Затым хор вучняў сельскагаспадарчых устаноў выканаў “Марсельезу”.

20 сакавіка 1917 года на чарговым пасяджэнні выканаўчага камітэта быў абраны новы старшыня Арыстаў і начальнік міліцыі Красікаў.

22 сакавіка ў Горках былі праведзены выбары камісара. На гэтыя выбары ў Горкі прыехаў С.М.Пракаповіч (будучы міністр Часовага ўрада). Камісарам Часовага ўрада быў выбраны выкладчык земляробчага вучылішча І. Красікаў, у будучым прафесар Горацкага сельскагаспадарчага інстытута.

Прайшоў месяц, і міліцыя з навучэнцаў была распушчана. Не праводзіліся ў жыццё і іншыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні. Газета "Известия Петроградского Совета" 15 красавіка 1917 г. паведамляла, што ў Горацкім павеце прыхільнікі старога рэжыму вядуць контррэвалюцыйную агітацыю супраць устанаўлення новых парадкаў.

Тады працоўныя Горак і павета сталі дзейнічаць самастойна. 29 сакавіка 1917 г. забаставалі рабочыя маёнтка Раманава, яны патрабавалі павялічэння заработнай платы.

Вясной і летам 1917 г. сяляне павета дзялілі землі памешчыкаў і захоплівалі сядзібы, нават салдаты царскай арміі адкрыта выказвалі сваё незадавальненне. Яны расказвалі сялянам і рабочым аб становішчы на фронце і патрабавалі міру. Так, у вёсцы Кастрыца па закліку франтавікоў жыхары ўзнялі бунт, каб уціхамірыць яго, прыбыў узброены атрад з Магілёва.

З некаторых мясцовасцяў Горацкага павета, якія былі побач з Аршанскім, паступаюць весткі аб пачатку сярод сялян “аграрных хваляванняў”, такія паведамленні друкавала газета “ Аршанскі веснік”.

У пачатку чэрвеня 1917 года Горацкая гарадская ўправа з-за цяжкага фінансавага становішча не магла выдаць заработную плату рабочым і служачым. Таму забаставалі рабочыя Горацкіх механічных майстэрняў па рамонту сельскагаспадарчых машын і пракатных пунктаў, служачыя пошты і бальніцы.

У гэты час у Горках актыўна дзейнічалі павятовыя арганізацыі партыі бальшавікоў, эсэраў і кадэтаў (канстытуцыйных дэмакратаў). Апошняя налічвала больш за 150 членаў. На чале яе стаяў выкладчык земляробчага вучылішча С.Г.Цітовіч (у 1960 годзе ён, кандыдат педагагічных

навук, выдаў у Горках кнігу ”Горы-Горецкий земледельческий институт”).

13 жніўня 1917 года, калі адбыліся выбары ў гарадскую Думу горада Горкі, кадеты атрымалі 7 месц ( усяго было абрана 23 чалавекі ), і С.Г.Цітовіч быў абраны старшынёй Думы.

У час выбараў ва Усерасійскі Установчы сход, горацкія кадэты зрабілі спробу прыцягнуць на свой бок горацкіх настаўнікаў. Так, на павятовым настаўніцкім з’ездзе, які адбыўся 22 кастрычніка 1917 года, С.Г. Цітовіч казаў, што партыя кадэтаў не сацыялістычная, але сацыялізм для іх з’яўляецца вялікай марай.

Выступаў на з’ездзе і прадстаўнік эсэраў ( партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў) Л.А. Хрысаненкаў, які абвінаваціў кадэтаў, якія на яго думку, хочуць рэстаўрыраваць манархію і абараняюць памешчыкаў. Настаўніцкі з’езд прыняў пастанову, што настаўнікі могуць свабодна галасаваць на выбарах ва Установчы сход.

Летам 1917 г. ў Горках пачала выходзіць яшчэ адна газета "Свободное слово". З яе можна даведацца, што 23 ліпеня 1917 года адбыліся выбары новай гарадской думы. Гарадскім галавой быў абраны А.І.Крэер, членамі – Іваноў і Зільберман, сакратаром Кажура.

31 жніўня адбылося пасяджэнне выканкама Горацкага Савета рабочых дэпутатаў разам з камісарам Часовага ўрада і прадстаўнікамі рэвалюцыйных арганізацый. Абмеркаваўшы бягучы момант, дэпутаты прынялі рэзалюцыю аб падтрымцы Часовага ўрада, аб барацьбе з мяцежнікамі на чале з генералам Карнілавым.

У гэты цяжкі час новыя ўлады, грамадскія арганізацыі займаліся не толькі палітычнымі справамі. Так, 26 верасня прадстаўнікі палітычных, грамадскіх і прафесійных арганізацый вырашылі стварыць у Горках "Народны універсітэт". На 15 кастрычніка планавалі сабраць агульны сход для разгляду Статута таварыства.

Аднак з гісторыі Горак вядома, што такі універсітэт так і не быў адкрыты.

# *ДА НОВАГА ЖЫЦЦЯ*



***26*** кастрычніка 1917 года ў Горках і павеце стала вядома аб перамозе ўзброенага паўстання ў Петраградзе. Але Горацкі Савет доўгі час не прызнаваў перамогу бальшавікоў у Петраградзе.

Прайшло два месяцы. І вось, як паведамляла газета "Горецкий вестник", 28 снежня пад кіраўніцтвам старшыні Горацкага выканкама Л.А.Хрысаненкава адбылося пасяджанне прадстаўнікоў 26 горацкіх арганізацый. Аднак перамогу савецкай улады яны так і не прызналі.

Дарэчы, на старонках гэтай газеты мы знаходзім біяграфічныя звесткі Лук'яна Афанасьевіча Хрысаненкава. Ён нарадзіўся ў Раманаўскай воласці Горацкага павета. Скончыў Горацкія землябробча-каморніцкія класы, вучыўся ў Кіеўскім камерцыйным інстытуце. Працаваў каморнікам у Мінскай і Смаленскай губернях. У 1905 годзе уступіў у партыю эсэраў. Чатыры разы быў арыштаваны, быў сасланы ў Валагодскую губерню. Вярнуўшыся з ссылкі, быў абраны старшынёй Горацкага выканкама. У час выбараў ва Устаноўчы сход быў абраны ад Горацкага павета. Далейшы яго лёс невядомы.

Як вядома, у Горацкім Савеце бальшавікі былі ў меншасці. Таму яны даручылі былому салдату царскай арміі С. Д. Пагодзіну арганізаваць чырвонагвардзейскі атрад, у які ў першыя дні ўступіла больш за 80 чалавек. Улічваючы перавагу ў ваеннай сіле, Горацкі Савет вымушаны быў прызначыць С. Д. Пагодзіна ваенным камісарам, а намеснікамі – бальшавікоў А.Ф. Фабрыстава і С.Н. Шчура.

С.Д. Пагодзін нарадзіўся ў 1890 г. у в. Гушчына Горацкага павета Магілёўскай губерні. Рэвалюцыйную дзейнасць пачаў у Данбасе, удзельнік дэманстрацый і забастовак шахцёраў Юзаўкі. У першую сусветную вайну ў арміі вёў рэвалюцыйную прапаганду. Пасля Кастрычніцкай

рэвалюцыі ў Горках – адзін з арганізатараў атрада Чырвонай гвардыі, які ўстанаўліваў Савецкую ўладу ў павеце, павятовы ваенком. У сакавіку 1918 г. у час барацьбы з контррэвалюцыяй у Горках забіты. Пахаваны на радзіме. Яго імем названы чыгуначная станцыя і вуліца ў Горках.

Фабрыстаў Антон Фёдаравіч, нарадзіўся ў 1892 г. у Горках, у 1915 г. на фронце, з 1919 г. зноў на фронце ў Чырвонай Арміі. Працаваў на гаспадарчай рабоце. З 1930 г.у Горацкім Асаавіяхіме.Быў рэпрэсіраваны, рэабілітаваны ў 1958 г.

На жаль, пра лёс С.Н. Шчура нічога не вядома.

Абапіраючыся на чырвонагвардзейскі атрад, бальшавіцкая арганізацыя, якую падтрымлівалі рабочыя мясцовых майстэрняў і будаўнікі, рэвалюцыйна настроеныя навучэнцы горацкіх земляробчых установ, дабілася палітычнай перамогі. У пачатку 1918 г. на першым павятовым з'ездзе Саветаў рабочых, чырвонагвардзейскіх і сялянскіх дэпутатаў большасць атрымалі бальшавікі.

У студзені 1918 г. быў створаны новы апарат савецкай улады, пачаліся першыя пераўтварэнні. Ажыццяўляўся Дэкрэт савецкага ўрада ад 17 лістапада аб нацыяналізацыі суконнай фабрыкі "Якаўлевічы" Маслакоўскай воласці Горацкага павета. Пачалася рэалізацыя Дэкрэта аб зямлі.

Але мірнае будаўніцтва было спынена нападам войск кайзераўскай Германіі. Калі фронт прыблізіўся да мяжы Горацкага павета, савецкія органы з горада былі эвакуіраваны ў вёску Баева. Ваенны аддзел выканкама і чырвонагвардзейскі атрад пад камандаваннем С.Д. Пагодзіна перадыслацыраваўся ў вёску Собалева, бліжэй да лініі фронту. У Горках застаўся Камітэт абароны.

14 сакавіка 1918 г. апазіцыі ўдалося арыштаваць членаў Камітэта абароны і захапіць уладу ў Горках.

Удзельнікі гэтых падзей успаміналі, што 15 сакавіка 1918 года не па-веснавому разгулялася завея. Але С.Д.Пагодзін і яго сябры гэтага быццам і не заўважалі. У думках яны былі там, у Горках, сярод арыштаваных таварышаў.

Вось і Горкі. Атрад коннікаў спыніўся. Паслалі ў разведку двух чырвонагвардзейцаў. Хутка яны вярнуліся і па-

ведамілі, што турму ахоўвае ўсяго некалькі контррэвалюцыянераў. Асноўныя ж сілы – конны атрад, паехаў па вёсках павета.

Пагодзін вырашае нанесці нечаканы ўдар. Атрад урываецца ў горад і накіроўваецца да турмы. Ахова разбеглася. Чырвонагвардзейцы сарвалі з дзвярэй замкі і вызвалілі арыштаваных.

Ворагі, не маючы перавагі ў сіле, не рызыкнулі выступіць адкрыта супраць пагодзінцаў, а вырашылі нанесці ўдар з-за вугла. Калі атрад вяртаўся, здрадніцкім выстралам быў смяротна паранены і хутка памёр С.Д. Пагодзін.

З воінскімі ўшанаваннямі пахавалі чырвонагвардзейцы свайго камандзіра ў яго роднай вёсцы Гушчына. У памяць аб загінуўшым атрад быў названы імем С. Д. Пагодзіна.

У гэты час, як адзначаецца ў архіўных дакументах, Горкі былі цэнтрам абароны Магілёўскай губерні. 30 сакавіка 1918 года Горацкае інфармацыйнае бюро паведамляла галоўнакамандуючаму арміямі Заходняга фронту:"С занятием Могилёва немцами губернский исполнительный комитет фактически не существует.

Руководство местной жизнью перешло в руки местных уездных Советов. Горецкий Совет организует оборону Могилёвской губ., собирает оставшиеся силы и закрепляет связь с ближайшими местностями."

У гэты час у Горках ішло фарміраванне атрадаў Чырвонай Арміі. Так, да 1 красавіка 1918 года ў Чырвоную Армію ў горадзе запісалася больш за тысячу чалавек.

У дапамогу Чырвонай Арміі рэўком сфарміраваў спецыяльны ўзброены атрад – вартавую роту. Яна складалася з 210 чалавек.

10 чэрвеня 1918 года працоўныя Горак далі адпор спробе ўкраінскіх буржуазных нацыяналістаў далучыць Беларусь да гетманаўскай Украіны. У рэзалюцыі, прынятай на агульным сходзе жыхароў горада, зазначалася, што прапанова ўкраінскіх нацыяналістаў ёсць замаскіраванае імкненне Германіі анексіраваць Беларусь.

19 ліпеня 1918 года адбылася першая партыйная канферэнцыя РКП (б) Горацкага павета, у якой удзельнічалі 217 камуністаў. У прынятай на ёй рэзалюцыі дэлегаты асудзілі левых эсэраў, падняўшых мяцеж супраць Савецкай улады. Было вырашана прыняць неадкладна меры па арганізацыі камітэтаў беднаты.

У канцы 1918 года ў павеце налічвалася ўжо 340 камбедаў. Яны займаліся размеркаваннем хлеба і сельскагаспадарчых прылад, адкрывалі школы і клубы, стваралі камуны, арцелі і саўгасы.

Першай савецкай гаспадаркай у павеце быў саўгас у маёнтку Раманава. Ён меў 949 дзесяцін зямлі, дзве сукнавальні, вінакурны і цагельны заводы. Узначальваў саўгас П.К.Пінчук.

Да канца 1918 года, дзякуючы дзейнасці створанай пры зямельным аддзеле павятовага выканкама “асобай камісіі па культурных гаспадарках” на чале з І.С.Анюхоўскім і Б.К.Чахоўскім, было арганізавана 7 саўгасаў, 9 камун і арцеляў.

У жніўні 1918 года поўнасцю сфарміраваўся бальшавіцкі выканкам Горацкага павета, старшынёй якога стаў І.Д.Караблёў, яго намеснікам – Булаво, сакратаром – К.А.Сакс. У надзвычайную камісію ўвайшлі І.Д.Караблёў, М.І. Булаво і Ф.І.Цыркуноў.

Вядомы лёс К.А.Сакса, які ўступіў у РКП у канцы 1917 года і быў першым бальшавіком сярод вучняў горацкіх навучальных устаноў. З жніўня 1918 года па красавік 1919 ваяваў у Чырвонай Арміі. Затым скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, аспірантуру і абараніў доктарскую дысертацыю. Быў міністрам лясной гаспадаркі Латвійскай ССР.

Ф.І.Цыркуноў – ураджэнец Горацкага павета. У лютым 1917 года ў Петраградзе стаў членам партыі бальшавікоў. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі пераехаў у Горкі. Разам з С.Д.Пагодзіным актыўна ўдзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады, быў ваенным камісарам Горацкага павета. У чэрвені 1919 года Магілёўскі губкам партыі рэкамендаваў яго на работу ў Чавускі выканкам. Калі

пачалася белапольская інтэрвенцыя, Ф.І. Цыркуноў дабраахвотнікам уступіў у Чырвоную Армію. 8 чэрвеня 1920 года ў баі пад мястэчкам Далгінава загінуў смерцю героя.

На жаль, пра лёс астатніх членаў Горацкага выканкама нічога невядома.

Усе сацыялістычныя пераўтварэнні ў горацкім краі праходзілі ў вострай класавай барацьбе. 9 ліпеня 1918 года ў вёсцы Чапялінка паднялі мяцеж кулакі. У той час у Горках адкрыўся пяты павятовы з'езд. Улічваючы сітуацыю, Магілёўскі губкам партыі сумесна з павятовай партыйнай арганізацыяй распусцілі контррэвалюцыйны з'езд. У Горкі палітычным камісарам быў прызначаны бальшавік І.Н.Камароў

Наступіў 1919 год. Маладая Савецкая Рэспубліка змагалася ў агнявым кальцы франтоў. У гэты складаны і цяжкі перыяд павятовая партыйная канферэнцыя ў Горках пастанавіла мабілізаваць членаў, кандыдатаў у члены РКП(б) для стварэння камуністычнага кавалерыйскага атрада. Больш за 50 працэнтаў камуністаў павятовай арганізацыі пайшлі на фронт.

Мужна змагаліся жыхары Горак з унутранай контррэвалюцыяй, калі буржуазія імкнулася задушыць Савецкую ўладу голадам. Каб забяспечыць рабочых і Чырвоную Армію харчаваннем, у вёскі ішлі харчатрады.

У маі 1919 года з Горак быў пасланы харчатрад пад кіраўніцтвам І.М.Хліманкова, які ў першыя дні канфіскаваў некалькі сот пудоў зерня і іншых лішкаў прадуктаў харчавання. Аднак кулакі люта супраціўляліся. Глыбокай ноччу ў вёсцы Шэды харчатрадаўцаў акружыла кулацкая банда. Нянавісць да Савецкай улады ворагі выплеснулі на рабочых і сялян, захопленых знянацку. Бандыты па-зверску скалечылі байцоў: адрэзалі вушы, выкалалі вочы, штыкамі ўспаролі жываты і насыпалі туды зерне, на грудзях у кожнага выразалі зорку.

З Горак падаспеў атрад Д.К. Міронава і ліквідаваў банду. Міронаў Дзмітрый Кірылавіч нарадзіўся 23.9.1895 г. у в. Ардаць Горацкага павета. З 1914 г. у арміі. З 1916 г. вёў рэвалюцыйную работу сярод студэнтаў у Горках, у 1917 г.–

адзін з кіраўнікоў устанаўлення Савецкай улады ў Горацкім павеце. У 1918 г. удзельнік падаўлення контррэвалюцыйнага мяцежу ў Горках, потым старшыня Горацкага павятовага выканкама. З 1922 г. старшыня Гомельскага губернскага саюза спажывецкай кааперацыі і член губкома РКП(б). Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і Горках.

Загінуўшых байцоў перавезлі ў Горкі і пахавалі ў гарадскім скверы. На магіле быў устаноўлены помнік. Высокая калона заканчваецца сярпом і молатам – сімвалам саюза рабочых і сялян. На мармуровай дошцы выбіты словы: "Вечная память героям, погибшим в борьбе за Советскую власть 26 мая 1919 года. Орефьев Владимир, Стрепетов Михаил, Шумилов Григорий, Гобриков Артём, Миркинд Залман, Хлиманков Иван, Либкинд Ошер, Дымшиц Иона, Чуба Максим, Плотников".

У 1920 годзе ў сувязі з наступленнем белапалякаў Горкі зноў апынуліся ў прыфрантавой паласе. У павеце быў арганізаваны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, падпарадкаваны Рэўваенсавету 16-й арміі. Старшынёй рэўкома прызначылі М.С.Новікава.

Разам са старэйшымі таварышамі абараняла Савецкую ўладу і ўстанаўлівала новае жыццё і моладзь. Яшчэ ў ліпені 1917 года вучні навучальных установ і маладыя рабочыя ў Горках стварылі Саюз сацыялістычнай моладзі, члены якога актыўна змагаліся за ўсталяванне новага ладу.

18 лютага 1919 года ў Горках адбыўся сход Саюза камуністычнай моладзі, які выбраў камітэт з 9 чалавек. Газета "Бедняк" у артыкуле "Моладзь арганізуецца" тады пісала: "У лютым у Горках з былога Саюза сацыялістычнай моладзі арганізаваны Саюз камуністычнай моладзі. Многія непатрэбныя элементы былі выключаны з Саюза. Агітацыйны атрад звярнуўся да працоўнай моладзі з заклікам стварыць баявыя атрады для вывучэння ваеннай справы. Пры Саюзе пачаў выходзіць двухтыднёвы часопіс”.

Калі ў маі 1919 года партыя кінула заклік: "Усе на фронт!",19 горацкіх камсамольцаў пайшлі абараняць маладую Савецкую Рэспубліку.

З гэтых 19 адважных вядомы імёны толькі двух. Гэта А.С.Новікаў ( жыхар горада Масты Гродненскай вобласці) і Я.С.Шмідт (жыве ў Пецярбургу). Абодва ўдзельнічалі потым у грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнах, мелі шмат узнагарод.

Летам 1919 года з Петраграда пасля заканчэння курсаў агітатараў у Горкі прыбыў член партыі бальшавікоў з 1918 года А.В.Лівак. Ён працаваў у павятовым ваенным камісарыяце, а затым сакратаром павятовага камітэта камсамола. Доўгі час знаходзіўся на партыйнай і выкладчыцкай рабоце.

У гады грамадзянскай вайны многія ўраджэнцы Горак і павета праявілі мужнасць і гераізм у барацьбе з контррэвалюцыяй і замежнай інтэрвенцыяй. Сярод іх М.С.Мандрыкаў, чыё імя вядома далёка за межамі Беларусі.

Міхаіл Сяргеевіч Мандрыкаў ураджэнец вёскі Горы Горацкага павета, старшыня першага Рэўкома, абвясціўшага перамогу Савецкай улады на Чукотцы. У пачатку 1920 года трагічна загінуў у барацьбе з контррэвалюцыяй. Аб ім складзены песні, вершы, паэмы. Ён – галоўны герой кінафільма “Начальник Чукотки“, рамана Ю.Рытхэу "Канец вечнай мерзлаты" і кніг А.Вахова "Ураган ідзе з поўдня", "Ранішні брыз". Яго імя носіць адна з вуліц сталіцы Чукоцкай нацыянальнай акругі – Анадыра, а таксама вуліца ў Горках. У 1984 годзе М.С.Мандрыкаву ўстаноўлены помнік у вёсцы Горы.

На франтах грамадзянскай вайны мужна змагаўся наш зямляк Ф.І.Кузняцоў. Летам 1918 года ён дабраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. У грамадзянскую камандаваў спачатку батальёнам, затым – палком. У баях з ворагам малады камандзір быў двойчы паранены і кантужаны. У 1920 – 1921 гадах змагаўся з бандытызмам у Слуцкім і Бабруйскім паветах Беларусі. За прыкладнае выкананне заданняў камандавання ўзнагароджаны двума ордэнамі Чырвонага Сцяга. Генерал-палкоўнік Ф.І.Кузняцоў – удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Яго імем названа адна з вуліц Горак.

Ураджэнец гэтых месц і І.Ф.Ленчыкаў,член партыі бальшавікоў з 1917 года, у 1919-м камандаваў аддзяленнем Самарскага палка Чапаеўскай дывізіі. За мужнасць і гераізм першым з жыхароў Горак узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Гэтая ўзнагарода, гадзіннік і іншыя рэчы адважнага байца знаходзяцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі Беларусі.

Нягледзячы на грамадзянскую вайну, у павеце і горадзе працягвалася будаўніцтва новага жыцця.

Па ініцыятыве павятовай партыйнай арганізацыі ў верасні 1919 г. у Горках прайшоў першы камуністычны суботнік, у якім удзельнічала 35 камуністаў. Працавалі на аднаўленні Горацкага завода сельскагаспадарчых машын.

Высокі працоўны ўздым адрозніваў і Усерасійскі суботнік, які адбыўся 1 мая 1920 г. У Горках працавала ўсё дарослае насельніцтва.

Але ж менавіта ў гэты час ішло ўзмацненне палітычнага рэжыму, парушэнне правоў чалавека. На аснове дэкрэта аб працоўнай павіннасці ўсё працаздольнае насельніцтва павета прыцягвалася да бясплатнай абавязковай працы.

Так, газета "Звезда" ў артыкуле "Буржуазія на рабоце " у той час пісала: "Аддзел гарадской гаспадаркі прыступіў да збудавання водаправода. Выдана пастанова аб прыцягненні да работы ўсёй мясцовай буржуазіі. Усе багацеі, купцы, а таксама рабочыя, якія не жадалі запісвацца ў рабочыя арганізацыі, павінны былі адпрацаваць 5 дзён, больш багатыя – без усялякай аплаты. З болем у сэрцы, праклінаючы дэкрэт аб працапавіннасці, ідуць буржуі "на чорную", не звыклую для іх работу па рыццю канавы для водаправодных труб".

На жаль, былі і парушэнні законнасці. Нават такія паважаныя людзі, як выкладчык земляробчага вучылішча М.В.Рытаў, не былі застрахаваны ад іх. Так спачатку ў яго двухпавярховы дом былі ўселены павятовыя арганізацыі, а 9 снежня 1919 года ён атрымаў ліст, які зараз захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі:

"Гражданину Рытову!

По приказанию уполномоченного чрезвычайной тройки предлагаем Вам в 2-дневный срок освободить занимаемое Вами помещение в здании уездвоенкома, т.к. частная квартира не может быть совместима с военными учреждениями и занимаемое Вами помещение предлагается очистить без всяческих в дальнейшем оговорок".

Невядома, ці быў выселены М.В.Рытаў са свайго дома. Але ў заяве яго жонка пісала, што памёр ён у чужым куце.

Л.Разгон ў вышэйназванай кнізе ўспамінаў, што ў яго бацькі незаконна чыноўнікі павятовага выканкама канфіскавалі скуру, якую ён набыў для таго, каб пашыць дзецям чаравікі. І зрабілі з той скуры сабе курткі. І толькі пасля таго, як бацька патэлефанаваў свайму стрыечнаму брату, буйному военачальніку, супрацоўнік выканкама прынёс дамоў дзве пары чаравікаў.

У першыя гады савецкай улады раз'яднаныя навучальныя ўстановы былі рэарганізаваны ў адзіную працоўную школу. У школах горада і павета ў 1920 годзе займалася амаль 20 тысяч дзяцей. Для дарослых працавала 20 курсаў па ліквідацыі непісьменнасці. Для дзяцей, якія засталіся без бацькоў, у павеце адчынілі 5 дзіцячых дамоў. Дзейнічала 43 хаты-чытальні, 2 клубы.

Пры павятовым камітэце РКП(б) быў арганізаваны жансавет пад кіраўніцтвам В.Гольберг, які адкрыў чытальню, дзіцячыя яслі, курсы па ліквідацыі непісьменнасці. Для жанчын чыталіся лекцыі на палітычныя, эканамічныя і бытавыя тэмы.

7 красавіка 1919 года ў Горках быў адноўлены сельскагаспадарчы інстытут. Аб гісторыі адноўленага ВНУ мы раскажам у наступным раздзеле.

# УЗНАЎЛЕННЕ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАГА ІНСТЫТУТА



***У*** цяжкія гады грамадзянскай вайны калектыў выкладчыкаў і навучэнцаў Горацкіх сельскагаспадарчых навучальных устаноў падняў пытанне аб аднаўленні дзейнасці Горы-Горацкага земляробчага інстытута.

Ініцыятыва была падтрымана Часовым рабоча-сялян-скім урадам БССР, які ў сваім звароце ў Народны Камі-сарыят асветы РСФСР пісаў: "Урад Беларускай рэспублікі лічыць, што адкрыццё названай вышэйшай установы з'яўляецца крайняй неабходнасцю і сустракае падтрымку мясцовых культурных работнікаў".

Рашэннем калегіі Наркамасветы РСФСР ад 7 красавіка 1919 года сельскагаспадарчы інстытут у Горках быў адноўлены. Горацкія сярэднія сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы былі аб'яднаны і пераўтвораны ў вышэйшую навучальную ўстанову – Горацкі сельскагаспадарчы інстытут.

На першым арганізацыйным сходзе, які адбыўся 25 красавіка 1919 г., тайным галасаваннем быў створаны аргкамітэт інстытута з 25 чалавек. Старшынёй быў абраны У.І. Кіркор, намеснікам старшыні – І.К.Хрысценка, сакратаром – Ф.І. Шэкіна, намеснікам сакратара – В.М. Лубяка. Першымі выкладчыкамі былі У.І.Кіркор, І.К. Хрысценка, С.М. Басаў, І.І. Красікаў, Л.В. Горскі, С.П. Міхайлаў, Б.У. Чапкевіч, М.В. Высоцкі, М.В. Найдзёнаў, Л.П. Розанаў, А.І. Турышчын, А.І. Чараповіч, Ю.А. Вейс, А.Д. Дубах, А.І.Кайгарадаў, А.К. Кедраў-Зіхман, П.А.Хадаровіч і Л.І. Яшноў.

Потым былі запрошаны прафесары М.В.Рытаў, М.Я. Якабсон і І.К. Богаяўленскі.

М.М.Ганчарык, які стаў студэнтам першага набору, успамінаў, што “...у Ціміразеўскай акадэміі крыху пакрыўдзілі прафесара Дз. М. Пранішнікава і ён прыехаў да нашага інстытута ў Горкі з перспектывай перайсці сюды на працу. Але студэнты Ціміразеўкі хутка апамятаваліся і сваю віну перад Дз. М. Пранішнікавым  хуценька выправілі”. Але вядома, што Дз. М. Пранішнікаў быў абраны прафесарам-кансультантам інстытута. Бюст гэтаму вядомаму вучонаму-аграхіміку ўстаноўлены каля корпуса №3 на тэрыторыі акадэміі.

У канцы 1919 г. часовы Савет інстытута завяршыў падрыхтоўчую работу па стварэнню пастаяннага Савета. У яго ўвайшлі прадстаўнікі ад прафесарска-выкладчыцкага складу (16 чалавек), ад партыйных і савецкіх арганізацый і ўстаноў павета і губерні (5 чалавек) і студэнтаў (11 чалавек). На першым пасяджэнні Савета (12 верасня 1919 г.) рэктарам быў абраны У.І. Кіркор, прарэктарам – М.Я. Якабсон, сакратаром – А.А. Веялка.

На гэтым жа пасяджэнні быў абраны прэзідыум Савета інстытута ў складзе рэктара, прарэктара і сакратара. Было вырашана залічыць студэнтамі інстытута 75 выпускнікоў 1919 г. – былых сельскагаспадарчага і каморніцка-агранамічнага вучылішчаў. Як вядома, яны перад залічэннем прайшлі праз падрыхтоўчыя курсы. Савет прыняў рашэнне запрасіць прафесара У.У. Вінера для арганізацыі пры інстытуце даследчай станцыі

18 снежня 1919 г. Савет абраў прарэктарам інстытута прафесара Р.П. Спарро, культурна-тэхнічны факультэт быў перайменаваны ў інжынерна-меліярацыйны. Былі створаны курсы па паляводству і сельскагаспадарчаму машынабудаванню.

У ліпені 1920 г. пры інстытуце быў адкрыты рабфак з трохгадовым тэрмінам навучання (65 чалавек). Улетку студэнты першага і другога курсаў усіх факультэтаў праходзілі абавязковую практыку па кожнаму прадмету.

У пачатку 1921 г. інстытуту быў перададзены фальварак у Дрыбіне, дзе было створана трэцяе доследнае поле. На вучэбнай ферме ў Горках і ў фальварках Іванова і Дрыбін

вырошчвалі сартавыя зерневыя культуры, бульбу і шматгадовыя травы, быў уведзены шматпольны севазварот, вырошчвалі племянную жывёлу – кароў, свіней, коней. Іх колькасць да 1924 г. дасягнула 365 галоў. У фальварку Іванова зямлю апрацоўвалі трактарам, які інстытут атрымаў па распараджэнню Наркамзема РСФСР у пачатку 1921 года. Ферма і фальваркі былі вучэбнай базай для студэнтаў, шырока выкарыстоўваліся ўсімі спецыяльнымі кафедрамі інстытута, забяспечвалі сельскую гаспадарку раёнаў сартавым насеннем, пародзістай жывёлай, з'яўляліся ўзорнымі гаспадаркамі для сялян.

На двух лясных дачах – Горацкай і Дрыбінскай налічвалася больш за 19 тыс. дзесяцін лесу, частка якога выкарыстоўвалася для вучэбна-даследчай справы.

Побач з Горацкім лясніцтвам на тарфяным балоце пад кіраўніцтвам прафесараў А.Д. Дубаха і Р.П. Спарро была закладзена трохкіламетровая асушальная магістраль, а ў верасні 1922 г. была створана буйнейшая ў Заходняй зоне краіны доследна-меліярацыйная арганізацыя (станцыя), якая стала базай навукова-даследчых работ па розных галінах меліярацыйнай навукі.

У 1922-23 навучальным годзе замест чатырох факультэтаў было створана два: сельскагаспадарчы з аддзяленнямі: раслінаводства і прамысловых культур і лясной гаспадаркі; інжынерна-агранамічны з аддзяленнямі: сельскагаспадарчай меліярацыі і сельскагаспадарчага машынабудавання. Працягваў сваю дзейнасць рабочы факультэт.

У гэты час у інстытуце на кафедрах, у аддзелах і ўстановах працавала 26 прафесараў, 13 выкладчыкаў, 16 асістэнтаў і 21 навуковы супрацоўнік.

1 чэрвеня 1923 г. была створана кафедра грамадска-палітычных навук. Узначаліў яе прафесар А.Н. Грыгор'еў. Пры кафедры былі адкрыты вучэбны кабінет і бібліятэка. Курс палітэканоміі чытаў А.Н. Грыгор'еў, гістарычны матэрыялізм – А.І. Кайгарадаў, асновы Савецкай канстытуцыі – З.Х. Ошэраў, капіталізм і пралетарская рэвалюцыя – А.К. Кедраў-Зіхман.

У інстытуце штогод праходзілі з'езды і нарады па даследчай справе, распаўсюджванні сельскагаспадарчых ведаў, агранаміі, глебазнаўству, меліярацыі і інш., працавалі розныя курсы.

З 1921 г. працавала навуковае таварыства. У маі 1925 г. было створана навуковае таварыства па вывучэнню Беларусі.

Актыўныя даследаванні ў глебавай лабараторыі праводзіліся пад кіраўніцтвам прафесара Я.І. Афанасьева па класіфікацыі глебаў у Горках, Гомельскай і Бранскай губернях.

Аддзел жывёлагадоўлі сельскагаспадарчай доследнай станцыі, які ўзначальваў М.В. Найдзёнаў, вывучаў кармавыя нормы для цялят, што было звязана з ростам маладняку, кармленнем малочных кароў і іншым.

Работнікі аддзела садоўніцтва доследнай станцыі на чале з М.І.Бурштэйнам абследавалі сады Беларусі і сумежных абласцей РСФСР, выявілі перспектыўныя гатункі яблынь народнай селекцыі, якія пазней увайшлі ў асартымент памалагічнага саду інстытута.

На базе аддзела машынавыпрабавання доследнай станцыі вывучаліся пад кіраўніцтвам прафесара Ю.А.Вейса розныя тыпы і канструкцыі плугоў, сеялак і іншыя машыны. Вывучалася дэфармацыя глебы пад уздзеяннем адвалаў розных тыпаў, вызначаліся структура і фізічныя ўласцівасці глебы, розныя прынцыпы сарціроўкі зерня і інш. Вынікі дэманстраваліся на УСГВ.

Аграхімічная лабараторыя разам з кафедрай аграхіміі пад кіраўніцтвам А.К. Кедрава-Зіхмана вяла навукова-даследчыя работы па пяці тэмах. Сістэматычна вялася навукова-даследчая работа балотнай доследнай станцыі разам з кафедрай меліярацыі пад кіраўніцтвам прафесара А.Д. Дубаха.

З 1920 па 1924 г. было апублікавана 135 значных работ. У 1923 і 1924 гг. інстытут выпусціў першы і другі тамы "Записок Горецкого сельскохозяйственного института", "Труды Горецкой сельскохозяйственной опытной станции". Выдавецтва інстытута мела сваю друкарню і літаграфію.

У 1919 годзе была створана інстытуцкая бібліятэка. З гэтага часу ёю кіраваў выхаванец горацкага земляробчага вучылішча Дзям'ян Раманавіч Новікаў.

Аб студэнцкім жыцці таго часу засталіся цікавыя ўспаміны былога студэнта М.М.Ганчарыка. У іх ён пісаў:”У тыя часы ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце, як і ў іншых ВНУ краіны, панавала поўная студэнцкая вольніца. Наведванне лекцый было добраахвотнае. Кожны студэнт хадзіў на тыя лекцыі, якія яму найбольш падабаліся, што вызначалася як яго схільнасцю да прадмета лекцыі, гэтак і якасцю чытання лектарам матэрыялу.

Але большасць студэнтаў адносілася сур’ёзна да авалодвання ведамі, і многія з іх вялі запісы найбольш цікавых лекцый. Нават і лекцыі, што чыталіся нецікава, але па важным прадмеце, вымушаны былі запісваць па чарзе таварыскімі калектывамі. Такія калектывы ствараліся пражываннем у адным пакоі інтэрната. Здаваць залікі ці, па-цяперашняму, экзамены можна было без якой-колечы паслядоўнасці. Можна было здаваць залікі па прадметах апошніх курсаў на першым, а першага – на апошнім.Толькі практычныя заняткі трэба было выконваць у парадку, зробленым кафедрай. Але і ў гэтым пэўнага парадку не было і, прапусціўшы сваю чаргу, можна было ўладкавацца ў далейшым у іншую групу, калі ў ёй меліся свабодныя месцы...

Але сама вучоба, наведванне лекцый, выкананне практычных заняткаў далёка не запаўнялі ўвесь час студэнтаў. Маладыя сілы патрабавалі дзейнасці. Вялікі прастор адкрываўся для заняткаў і працы ў гуртках...Заставалася шмат часу і для куралесяння па дарожках старога і новага паркаў, па аколічных палях, пералесках, сасонніках. Наяўнасць значнай праслойкі студэнтак дазваляла вольны час праводзіць больш цікава і больш змястоўна, з’яўляліся і пачуцці ўзаемных сімпатый...Часта ў парку вячэрнюю цішыню будзілі шматгалосыя спевы, шумлівыя студэнцкія чародкі гоманам і смехам запаўнялі алеі, парнасаўскія горкі і ўтульныя закуткі парка.”

7 красавіка  1925 г. інстытут адзначаў пяцігадовы юбілей сваёй дзейнасці пры Савецкай уладзе. Гэтаму быў прысвечаны спецыяльны нумар часопіса "Голос революционного студенчества".

## *АДНАЎЛЯЮЧЫ РАЗБУРАНУЮ ГАСПАДАРКУ*



***З***акончылася грамадзянская вайна. Краіна Саветаў прыступіла да мірнага будаўніцтва, аднаўлення разбуранай гаспадаркі.

У Горках за тыя гады зменшылася колькасць рамесных прадпрыемстваў, ў павеце рэзка скараціліся пасяўныя плошчы, упала ўрадлівасць, знізілася пагалоўе рабочай і прадук-цыйнай жывёлы.

Улічваючы стан, які ўсталяваўся ў горадзе і павеце, павятовы камітэт РКП(б), павятовы выканкам ставіў задачу барацьбы з разрухай.

10 верасня 1921 года агульнагарадская, а  13 верасня канферэнцыя беспартыйных рабочых, сялян і чырвонагвардзейцаў Горацкага павета адобрылі "…лінію, узятую Савецкай уладай у галіне эканамічнай і напрамку рэарганізацыі ўсёй народнай гаспадаркі".

У гэты перыяд Горацкая партыйная арганізацыя была адной з самых буйных павятовых партыйных арганізацый Магілёўскай губерні. У 52 ячэйках яна аб'ядноўвала 242 члены партыі. Сакратаром павяткома з 1 сакавіка 1923 года з'яўляўся Я.С.Цэнцыпер.

За гады грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі састаў партыйнай арганізацыі змяніўся. Найбольш загартаваныя камуністы пайшлі ў рады Чырвонай Арміі, некаторыя загінулі на франтах. Для падрыхтоўкі новых кадраў Горацкі павятком прыняў рашэнне адкрыць павятовую

партыйную школу. У 1921 годзе ў ёй вучылася ўжо 20 чалавек – будучых партыйных, савецкіх і гаспадарчых работнікаў.

Каб падняць палітычны ўзровень камуністаў, у горадзе быў адкрыты партыйны клуб, дзе камуністы займаліся ў гуртках па вывучэнню палітычнай эканоміі і гістарычнага матэрыялізму. У кожнай воласці дзейнічалі хаты-чытальні.

У пачатку лістапада 1921 года старшынёй Горацкага павятовага выканаўчага камітэта выбіраецца М.М.Галадзед, які стаў пасля сакратаром ЦК КПБ і Старшынёй Савета Народных Камісараў БССР. Ён адразу ставіць задачу рэарганізаваць павятовы выканкам, "…зрабіць яго больш гібкім, менш шматлікім і больш працаздольным".

У гэты час змянілася і роля прафсаюзаў як масавых арганізацый працоўных. У Горках ствараюцца прафсаюзы харчавікоў, будаўнікоў, работнікаў дзяржаўных органаў асветы і аховы здароўя.

У 1921 - 1922 гадах партыйныя і савецкія органы ўдзялялі асобую ўвагу справе аказання дапамогі галадаючаму насельніцтву Паволжа. Як адзначыў на нарадзе савецкіх работнікаў Горацкага павета 30 мая 1922 года М.М.Галадзед, "пытанне дапамогі галадаючым пабівае ўсе пытанні."

Арганізоўваліся зборы грошай і каштоўнасцей, праводзіліся суботнікі і нядзельнікі, а заробак адлічваўся ў фонд галадаючых. Некалькі дзесяткаў дзяцей з Паволжа былі прыняты ў дзіцячыя дамы Горак і павета.

Горацкі павятовы камітэт РКСМ звярнуўся да камсамольцаў і моладзі горада і павета з заклікам сабраць сродкі для галадаючых. Пры кожнай камсамольскай ячэйцы была арганізавана камісія па кіраўніцтву юнацтвам у аказанні актыўнай дапамогі галадаючым Паволжа.

Павятовы камітэт РКСМ у гэты перыяд узначальваў Мацвей Паўлючкоў, ураджэнец вёскі Валынцава. У 1920 годзе пасля заканчэння школы 2 ступені (так называлася сярэдняя агульнаадукацыйная школа ў першыя гады пасля рэвалюцыі) ён стаў студэнтам Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У час вучобы рэгулярна дзяжурыў у

атрадзе ЧАН (часцей асобнага назначэння), неаднаразова ўдзельнічаў у пошуках бандытаў.

М.М.Ганчарык, член-карэспандэнт АН БССР, былы сакурснік Паўлючкова, у сваіх успамінах пісаў пра яго: "Нейкае ўнутранае гарэнне і бязмежная адданасць рэвалюцыі кіравалі яго дзеяннямі. Рэвалюцыйны доўг ён ставіў вышэй за ўсё, вышэй асабістага жыцця. Без перабольшвання можна сказаць, што Мацвей не жыў, а гарэў яркім полымем сваёй чыстай і гарачай натуры. Гэта быў своеасаблівы Паўка Карчагін..."

У канцы 1921 года Паўлючкоў захварэў на сухоты. Незвычайнае напружанне сіл падарвала яго здароўе. Не дапамаглі ні лячэнне, ні клапатлівы догляд, ні курорт Крыма. У 1924 года Мацвея Паўлючкова не стала.

У гэтыя гады актыўнымі камсамольцамі былі Зіновій Гольберг ( да 1991 года член Саюза журналістаў СССР), працаваў рэдактарам часопіса "За безопасность в горной промышленности") і Генадзь Церахаў. Ён пачынаў работу ў Горацкай пракуратуры на пасадзе сакратара, закончыў юрыдычную ВНУ. Быў членам калегіі Пракуратуры СССР, старшым памочнікам Генеральнага пракурора СССР.

Вяртаючыся думкамі да свайго камсамольскага юнацтва, Г.Т.Церахаў успамінаў: "Камсамольцы 1923 года ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях ЧАН (часцей асобага назначэння) супраць банд, якія скрываліся ў лясах. Пазней ЧАНы былі пераўтвораны ў БЗК (баявыя злучэнні камунараў).

Мы выязджалі на тушэнне лясных пажараў. Выступалі з дакладамі і гутаркамі ў вёсках і сельскіх камсамольскіх ячэйках. Не думалі аб нашым знешнім выглядзе, не думалі аб тым, што ў жалудку пуставата. Мы ў той час былі ахоплены імкненнем наладзіць жыццё ў нашай краіне ".

Дзякуючы арганізатарскай рабоце партыйных і савецкіх органаў, у канцы 1923 года ў горадзе і павеце ўдалося аднавіць 186 прамысловых і рамесных прадпрыемстваў, дзе працавала 886 чалавек.

Праз два гады колькасць іх значна ўзрасла. У згаданай намі кнізе “ Апісанне Горацкага раёна...” ёсць даведка, што

ў 1925 годзе ў павеце працавала 2998 рабочых. З іх: краўцоў – 27, металістаў – 77, работнікаў харчавання – 107, будаўнікоў – 174, дрэваапрацоўшчыкаў – 60, скурнікаў – 24, камунальных рабочых – 48, сувязістаў – 33, харчавікоў – 87, транспартнікаў – 13, работнікаў культуры – 13, работнікаў адукацыі – 174 і чыгуначнікаў – 77.

Адзначым, што колькасць будаўнікоў значна ўзрасла, бо на тэрыторыі сельскагаспадарчай акадэміі ў гэты час вялося будаўніцтва карпусоў, студэнцкіх інтэрнатаў і жылых дамоў для выкладчыкаў.

У фондзе Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея ёсць цікавая карта, на якой пазначаны месцы Горацкага павета, дзе ў гэты час насельніцтва займалася рамяством. З яе бачна, што 28 прадметаў з дрэва ( бочкі, шафы, сталы і нават кухонныя шафы) выраблялі ў вёсках Палёнка, Гулідаўка, Любіж, Рэкатка, Добрая, Каралёўка, Тушкава, Рэкта і Сава. І гэта не выпадкова, бо яны былі блізка да лесу. Ганчарнымі промысламі займаліся ў Горках (Слабада і Зарэчча).

На жаль, зараз ў большасці вёсак раёна ўжо не займаюцца промысламі, і перад Горацкім раённым Домам рамёстваў стаіць задача іх адрадзіць.

Пастунова выцясняўся і прыватны гандаль. У горадзе і павеце было створана больш за 100 гандлёвых кааператываў. Кожную нядзелю працавалі базары ў Горках, мястэчках Леніна і Горы, а 5 разоў ў год тут адбываліся кірмашы.

Па выніках першага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 года ў Горках жыло 8527 чалавек, у павеце – 56829. З кнігі “ Апісанне Горацкага раёна...” бачна, што ў Горках амаль 30% насельніцтва састаўлялі яўрэі.Сярод краўцоў іх было 92,6%, скурнікаў – 62%, друкароў – 88,4%, работнікаў мастацтва – 61,5%, харчавікоў – 33,3%, медыцынскіх работнікаў – 41%. Прадстаўлены былі яўрэі і ў кіраўніцтве павета. Там іх працавала 28,6%.

Трэба адзначыць, што ў гэтыя гады многія маладыя жыхары Горак і павета, якія не хацелі вучыцца ў сельскагаспадарчым інстытуце, паехалі на вучобу в Мінск,

Маскву, Ленінград і іншыя буйныя гарады краіны. Некаторыя з іх сталі вядомымі дзеячамі. Так, Я.С.Гугель нарадзіўся ў Горках у 1895 годзе. У 1926 быў прызначаны дырэктарам Марыупальскага металургічнага завода. З 1931 года працаваў начальнікам будаўніцтва Магнітагорскага металургічнага камбінату, потым працаваў намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення Наркамата металургічнай прамысловасці СССР. У 1937 годзе быў рэпрэсіраваны.

Развіццю эканомікі Горак садзейнічала заканчэнне будаўніцтва чыгуначнай лініі Орша – Унеча. У трох кіламетрах ад горада была пабудавана чыгуначная станцыя Беларускія Горкі, якой потым прысвоілі імя С.Д.Пагодзіна.

У павеце працавала 236 школ 1-й ступені і 13 – 2-й (усяго навучалася каля 17 тысяч вучняў), 3 дзіцячыя садкі на 150 месц і 5 дзіцячых дамоў на 127 чалавек.

У Горках працавала 4 школы 1-й ступені ( у адной з іх вяліся заняткі на яўрэйскай мове), і 2 школы 2-й ступені, 3 дзіцячыя дамы, 1 садок, 1 прафшкола. Для дарослых былі адкрыты 2 вячэрнія школы ( адна была ў м. Леніна), 2 пункты па ліквідацыі непісьменнасці, 2 бібліятэкі, у якіх налічвалася 52 тысячы кніг і было запісана 2845 чытачоў.

Л.Разгон у вышэй згаданай кнізе пра гарадскую бібліятэку пісаў: ”Горецкая городская библиотека была большой и богатой, какой редко бывает библиотека в таком маленьком городе. Да это и не удивительно: в основном она состояла из книг князей Дондуковых-Корсаковых. Неподалёку от Горок, в восемнадцати километрах, находилось большое родовое имение этой княжеской фамилии – Романово. Я туда однажды ездил и впервые увидел настоящий дворец – великолепное огромное здание в большом парке. Однако дворец был пуст. Всё убранство, мебель и книги были вывезены. На моё счастье, вся княжеская библиотека вместе с роскошными шкафами красного дерева, бюстами писателей и резными латинскими афоризмами очутилась в горецкой городской библиотеке. Дондуковы – Корсаковы издавна претендовали на влиятельное положение в русской науке и литературе. Это

про одного из них написал свою знаменитую эпиграмму Пушкин: “В академии наук заседает князь Дундук...” В библиотеке князей были собраны все книги русских писателей и почти всех иностранных писателей в русских переводах”.

Як успамінае Л.Разгон, у гэты час быў створаны першы ў павеце музей. Першыя яго экспанаты – гэта рэчы з калекцыі князя Дандукова-Корсакава.

Стварэнню музея садзейнічала раённае краязнаўчае таварыства, устаноўчы сход якога адбыўся 7 снежня 1924 года ў аўдыторыі імя М.В.Фрунзе сельскагаспадарчага інстытута.

Новае жыццё наладжвалася і ў вёсцы. Для сялян адкрыліся аграпункты з шасцю доследнымі ўчасткамі і 14 пракатных станцый. Працавала 28 камун і арцеляў, 10 саўгасаў.

Пасля Кастрычніка 1917 года ў яўрэйскага насельніцтва з’явілася магчымасць займацца земляробствам. Ім займаліся яўрэі – земляробы з горада Горак, вёсак – Леніна, Гор, Верaщак, Рудкаўшчыны і Пічаўкі. Самым вядомым быў яўрэй-земляроб Тамаркін з в.Леніна, які працаваў на гаспадарцы яшчэ з 1907 года і які ўдзельнічаў ва ўсіх павятовых сельскагаспадарчых выставах. У 1923 і 1926 гадах ён удзельнічаў на выставе яўрэйскіх земляробаў у Маскве, дзе атрымаў дыпломы.

Адным з першых у павеце арганізаваўся саўгас "Ленино". Першыя гады яго існавання паказалі, што сумеснае вядзенне гаспадаркі – адзін са шляхоў для сялянства.

8 лістапада 1922 года працаўнікі саўгаса сабраліся ў памяшканні школы. З увагай слухалі яны даклад аб пятай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, затым удзельнікі мітынгу паслалі тэлеграму Леніну, у якой гаварылася:

"…Рабочыя і служачыя саўгаса "Ленино" віншуюць Вас з выздараўленнем і вялікім святам Кастрычніцкай рэвалюцыі і просяць Вас быць шэфам саўгаса "Ленино". Пры Вашым ідэйным кіраўніцтве, нашай прыкладнай рабоце росквіт саўгаса будзе забяспечаны. Падрабязныя звесткі аб саўгасе вышлем поштай".

Вясной 1923 года па распараджэнню Леніна саўгас "Ленино" атрымаў трактар "Фордзон". Ён быў першым у Горацкім павеце, адным з тых 100 тысяч трактараў, аб чым так марыў У.І.Ленін.

21 студзеня 1924 года памёр Уладзімір Ільіч. Вестку аб смерці правадыра працоўныя ўспрынялі з пачуццём глыбокага смутку. У жалобным нумары "Горецких известий" былі надрукаваны звароты Горацкага павятовага камітэта партыі і выканкама павятовага Савета да насельніцтва.

26 студзеня 1926 года адбыўся мітынг у саўгасе "Ленино". Больш за 300 чалавек аднадушна прынялі рэзалюцыю наступнага зместу: "Паслухаўшы паведамленне пра смерць дарагога настаўніка Уладзіміра Ільіча Леніна, іменем якога названы наш саўгас, мы, сельскагаспадарчыя рабочыя, з пачуццём глыбокага смутку адзначаем гэтую незамянімую страту для Савецкай улады…

Ідучы па яго запаветах… прыложым усе сілы і веды да таго, каб саўгас абслугоўваў патрэбы сялянскай гаспадаркі, чаму вучыў нас Ленін".

Рабочыя Горак і сяляне вёсак у дні ленінскага прызыву ўступалі ў рады партыі. Так, у Горках і павеце ўступілі 52 чалавекі з рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі. Больш за 200 маладых людзей сталі камсамольцамі.

Калі з ліпеня 1922 года Горкі і павет уваходзілі ў склад Смаленскай губерні, то з сакавіка 1924 года на аснове дэкрэта УЦВК адышлі да БССР. У гэты час большасць насельніцтва горада і павета складалі беларусы.

Пасля ўвядзення новага адміністрацыйнага дзялення Горацкі раён увайшоў у склад Аршанскай акругі ( яна была арганізавана 17 ліпеня 1924 года).

Да таго часу працоўныя Горак дабіліся значных поспехаў у аднаўленні народнай гаспадаркі. Стала даваць ток пабудаваная электрастанцыя, а ў дамах загарэліся лямпачкі Ільіча. Уступіў у строй цэглавы завод, прадукцыя якога была вельмі патрэбна гораду.

Па пуцёўцы камсамола на гэты завод прыйшоў працаваць Іван Якубоўскі – будучы маршал, двойчы Герой

Савецкага Саюза. (Аб гэтым перыядзе свайго жыцця ён успамінаў у кнізе "Земля в огне").

У чэрвені 1925 года ў Горкі прыязджаў Я.Купала. У газеце "Савецкая Беларусь" за 17 чэрвеня надрукавана нататка "Янка Купала ў Горы-Горках". У ёй пісалася: "Дні 6 і 7 чэрвеня былі святам для Горацкіх школ. 6 чэрвеня прыехалі ў Горы-Горкі Янка Купала і таварышы з Аршанскага акруговага камітэта партыі.

Перш-наперш госці з'явіліся на ўрачысты сход, прысвечаны выпуску студэнтаў Горацкага рабфака. Сход горача вітаў пачэсных гасцей.

Пасля ўрачыстай часткі госці прысутнічалі на вечары рабфакаўцаў, дзе Янка Купала чытаў свае вершы.

7 чэрвеня амаль цэлы дзень госці знаёміліся са славутасцямі інстытута: наведалі батанічны сад, разам з рабфакаўцамі гулялі па старому парку, прымалі ўдзел у гульнях. Сюды у парк вітаць Янку Купалу з'явіліся ўдзельнікі канферэнцыі настаўнікаў Горацкага раёна, якая праходзіла ў гэтыя дні. Прыйшлі і вучні горацкіх сямігодак - беларускай і яўрэйскай. Дзяўчынкі ў нацыянальных касцюмах паднеслі Я.Купалу два прыгожых букеты руж і румянку (эмблема творчасці Я.Купалы). Хутка з'явіліся і піянеры з чырвонымі сцягамі. Усе размясціліся на ўзгорку каля гары "Парнас", сярод зялёных дубоў і ліп. Прывітальныя прамовы, беларускія народныя песні, вершы выконваліся з нейкім дзіўным натхненнем.

Увечары 7 чэрвеня ў прысутнасці гасцей адбылося паседжанне таварыства па вывучэнню Беларусі і секцый навуковых супрацоўнікаў сельскагаспадарчага інстытута. Госці азнаёміліся з працамі гэтага таварыства і выказалі свае думкі. Таварышы Луцэвіч (Янка Купала), Стасевіч і Акуліч залічаны ганаровымі сябрамі таварыства".

Аб гэтай сустрэчы засталіся цікавыя ўспаміны былога выкладчыка акадэміі Ігара Аляксеевіча Лебедзева. Ён быў тады вучнем выпускнога класа мясцовай сямігодкі, прымаў непасрэдны ўдзел у наладжванні літаратурнага свята і ўрачыстасцей.

"Самая важная частка іх адбылася на гары "Парнас", -

успамінаў Лебедзеў, - я вельмі добра памятаю, як шмат было выступленняў, песень, віншаванняў, вянкоў, як бясконца гучалі вершы, прывітанні. Знешне Янка Купала выглядаў стрыманым і маўклівым, сканцэнтраваным, відаць, на нейкіх сваіх думках. Скупы на словы і ўсмешку, ён вельмі ветліва і проста абыходзіўся з людзьмі. Без артыстычных жэстаў, але пранікнёна і з нейкім незвычайным уздымам чытаў ён свае вершы, адказваў на пытанні. Па-ранейшаму даступным і звычайным паэт заставаўся і пасля выступлення перад шматлікай аўдыторыяй. Па ўсім яго знешнім выглядзе адчувалася, што ў душы ён перажываў вельмі вялікую радасць ад такой святочна-урачыстай і шчаслівай сустрэчы, шчыра, па-сяброўску дзякаваў усім за прывітанні і добрыя пажаданні (М. Няхай. Сустрэчы на Магілеўшчыне.//“Полымя”, 1982, N 8. С.210).

У 1925 годзе ў Горках быў арганізаваны камбінат, які аб'яднаў электрастанцыю, жывёлабойню і млын. Працавалі таксама 2 лесапільныя і адзін гарбарны завод. На тэрыторыі раёна дзейнічала суконная фабрыка, тады адзіная ў БССР.

У горадзе адраджаліся традыцыйныя промыслы: шавецкі, сталярны, ганчарны. У 1925 годзе тут працавала ўжо 83 прадпрыемствы. Вырабы горацкіх рамеснікаў экспанаваліся на Усебеларускай саматужнай сельскагаспадарчай выставе 1925 года, у якой бралі ўдзел саюзы саматужнікаў і 435 сялянскіх гаспадарак Беларусі.

Горкі раслі і будаваліся ...

# *І СТАЎ ІНСТЫТУТ АКАДЭМІЯЙ*



***5*** жніўня 1925 г. СНК БССР прыняў пастанову аб зліцці Беларускага інстытута сельскай гаспадаркі і Горацкага сельскагаспадарчага інстытута і ўтварэнні ў Горках Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі.* На ўрачыстасцях з гэтай нагоды прысутнічалі народныя паэты Беларусі Янка Купала і Якуб Колас, якія выступілі перад будучымі спецыялістамі сельскай гаспадаркі.

"Няхай закрасуецца акадэмія багатым, пышным лугам, садам, – гаварыў Якуб Колас.– Няхай гаспадары гэтай зямлі высока нясуць Чырвоны сцяг працы і культуры…

Няхай жыве акадэмія з яе традыцыямі, якія склаліся ў Горках!"

У час стварэння акадэміі была дыскусія аб тым, дзе размясціць новую ВНУ. Некаторыя выкладчыкі Горацкага інстытута, работнікі СНК БССР лічылі, што яе трэба арганізаваць у Мінску, а ў Горках пакінуць сярэднія сельскагаспадарчыя ўстановы. І тут вялікае значэнне меў артыкул былога выхаванца Горацкага каморніцказемляробчага вучылішча Г.І. Гарэцкага, які быў змешчаны ў газеце "Савецкая Беларусь" пад назвай "Дзе быць Беларускай Сел.-Гас. Акадэміі?"

Ва ўтворанай акадэміі, якая аб'яднала Горацкі і Мінскі сельскагаспадарчыя інстытуты, спачатку было чатыры факультэты: агранамічны з трыма аддзяленнямі: раслінаводчым, эканамічным і жывёлагадоўчым; землеўпарадкавальны, льняны і меліярацыйны. Але ужо ў 1927

---

* Пасля 1933 года акадэмія стала называцца Беларускім сельскагаспадарчым інстытутам. Апошні ў 1948 годзе канчаткова перайменаваны ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію.

годзе на меліярацыйным было створана культурна-тэхнічнае аддзяленне, а ў 1928 годзе на базе эканамічнага аддзялення – факультэт арганізацыі буйной гаспадаркі, потым гэта быў эканамічны факультэт.

Першым рэктарам акадэміі быў прызначаны прафесар М.Ц. Козараў, потым рэктарамі былі П.У. Саевіч, П.І.Пінчук.

Быў створаны аб’яднаны штат супрацоўнікаў. Ён складаўся са 134 выкладчыкаў, у тым ліку было 34 прафесары, 24 дацэнты, 49 асістэнтаў і 27 навуковых супрацоўнікаў. Сярод выкладчыкаў былі вядомыя вучоныя прафесары Ю.А.Вейс, А.К.Кедраў-Зіхман, К.Г. Рэнард, П.Ф.Салаўёў, Я.Н.Афанасьеў і інш.

З 1936 года пачала працаваць аспірантура, дзе вучыліся 24 аспіранты. З ліку першых аспірантаў потым выйшлі вядомыя вучоныя М.А.Дарожкін, акадэмік АН БССР, прафесар П.А.Кучынскі і іншыя.

У аб’яднанай ВНУ рэзка ўзрасла колькасць студэнтаў. Так, калі ў Горацкім інстытуце ў 1925 годзе вучыліся 610 студэнтаў, то ў акадэміі ў 1926 годзе – 1278, а ў 1929 – 1517.

У сувязі з ростам колькасці студэнтаў узрасла неабходнасць у вучэбных аўдыторыях і жылых дамах для выкладчыкаў.

Як сведчаць архіўныя матэрыялы, знойдзеныя Л. Чарняўскай ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, работы тады вяліся ”… на трох участках: а) выконваўся рамонт трох трохпавярховых карпусоў (унутраная перацірка сцен з патынкоўкай, пабелка, перакладка печаў, пафарбоўка вокнаў і дзвярэй, рамонт даху, падлогі); б) адбудова згарэўшага будынка механічнага завода; в) завяршэнне будаўніцтва драўлянага жылога дома (унутраныя работы) і будаўніцтва новага двухпавярховага жылога дома.

У чэрвені 1925 г. на будаўніцтве працавала 120 чалавек (арцель аршанскіх маляроў, арцель магілёўскіх і дубровенскіх пячнікоў, арцель чэрыкаўскіх муляраў, столяры і цесляры былі мясцовыя). У жніўні на работах было задзейнічана 200 чалавек і яшчэ планавалася ў

Смаленскай губерні наняць 20 чалавек цесляроў і 10 быхаўскіх столяраў”.

У выніку ў 1925-26 гг. былі пабудаваны драўляны, часткова мураваны, двухпавярховы інтэрнат № 1 для студэнтаў, драўляны двухпавярховы дом з верандай на калонах і 2-ма вонкавымі ганкамі для прафесараў, клуб-тэатр, інтэрнат для студэнтаў з былой сушыльні, аднапавярховы жылы дом; капітальна адрамантаваны з устройствам вадаправода і каналізацыі фізіка-хімічны корпус, галоўны корпус, таксатарскі корпус; механічны завод, канцылярскі корпус, бальнічны корпус, лазня, машыназнаўчы корпус, "погребной" флігель, будынак друкарні і мясцкома, прафесарскі корпус, электрастанцыя, інтэрнаты па вул. Інтэрнацыянальнай, Бруцэра-Ерафееўскай, Мсціслаўскай, Пралетарскай, Малой Аршанскай, Ленінскай...”

Як вядома, да нашага часу захаваліся двухпавярховыя драўляныя на каменным падмурку жылыя дамы па вул. Ціміразева, 8 і Агранамічнай, 3, абліцаваныя ў цяперашні час звонку сілікатнай цэглай. І зусім нядаўна быў знесены двухпавярховы драўляны будынак былога інтэрната на вул. Ціміразева, прыстасаваны пасля Вялікай Айчыннай вайны пад школу, затым доследную станцыю. Будынак быў двухпавярховы драўляны з мураваным у цэнтры рызалітам.

Выкладчыкі акадэміі ў гэтыя гады актыўна праводзілі навуковыя даследаванні. Так, прафесарам Я.М.Афанасьевым былі складзены глебавыя карты свету. Ён удзельнічаў у рабоце Першага сусветнага кангрэсу глебазнаўцаў у ЗША, дзе выступіў з дакладам “Классификационная проблема в русском почвоведении”.

На кафедры глебазнаўства пад кіраўніцтвам прафесара В.В.Вінера распрацавалі рэкамендацыі па вапнаванню кіслай глебы. Яны былі выкладзены ў манаграфіі “Известкование почв в новом освещении“.

Прафесар кафедры А.У. Ключараў вывучаў магчымасці вырошчвання цукровых буракоў ва ўмовах БССР.

Вельмі каштоўныя даследаванні па аграхіміі вяліся пад кіраўніцтвам прафесара А.К.Кедрава-Зіхмана. Ім была даказана неабходнасць і магчымасць прымянення торфу як угнаення, а таксама выкарыстання беларускіх фасфарытаў.

Галоўнымі тэмамі даследаванняў у галіне заатэхнічнай навукі былі: развіццё маладняку буйной рагатай жывёлы і хімічны аналіз мясцовых кармоў. Загадчыкам кафедры анатоміі і фізіялогіі сельскагаспадарчых жывёл А.С.Саноцкім быў напісаны падручнік, які перавыдаваўся 5 разоў.

Вучоныя – меліяратары А.Д.Дубах, Р.П.Спарро і іншыя праводзілі разнастайныя даследаванні па распрацоўцы меліярацыйных пытанняў. Імі было напісана 6 падручнікаў для студэнтаў меліярацыйнага і агранамічнага факультэтаў.

Пад кіраўніцтвам прафесара Ю.А.Вейса вяліся выпрабаванні новых сельскагаспадарчых машын. Дзеля гэтага ён сканструяваў шырынаметр і вібраграф.

Вынікі даследаванняў, якія праводзіліся ў акадэміі, друкаваліся ў навуковых працах пад назвай "Записки Белорусской сельскохозяйственной академии". Да 1931 г. выйшла 12 тамоў, дзе было надрукавана звыш 200 работ. Выходзілі таксама "Труды научного общества по изучению Белоруссии" (7 тамоў), "Труды Горецкой сельскохозяйственной опытной станции" (4 тамы), "Труды лесной опытной станции " (4 тамы) і інш.

У акадэміі з 4 кастрычніка 1929 года пачала выходзіць шматтыражная газета "За пролетарские кадры".

Цэнтрам культурна-асветніцкай работы быў клуб-тэатр акадэміі.Тут працавалі розныя гурткі мастацкай самадзейнасці.

З 1925 па 1930 г. актыўна працаваў літаратурны гурток – філіял “Аршанскага маладняка”, у які ўваходзілі пісьменнік Ю.П.Гаўрук, заслужаная дзеячка культуры БССР П.В.Мядзёлка, пісьменнік Васіль Каваль, студэнт А. Вечар, выкладчык М.Ганчарык і інш. М.Ганчарык і А.Вечар потым сталі вядомымі вучонымі Беларусі і актыўна займаліся

літаратурнай працай.Так, А.Вечар, акадэмік АН БССР, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР у 1978 годзе быў прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У гэтыя гады ў акадэміі хуткімі тэмпамі ішла беларусізацыя навучальнага працесу. На чале яе была кафедра беларускай мовы, літаратуры і гісторыі. У той час ёй кіраваў пісьменнік Максім Гарэцкі. Як адзначалася ў юбілейным зборніку, які выйшаў у акадэміі да 10-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыіі значная частка выкладчыкаў акадэміі, нават тыя, што прыехалі з Расіі, выкладалі свае прадметы на беларускай мове.На беларускую мову было пераведзена ўсё справаводства ВНУ.

На жаль, праз некаторы час кафедра была ліквідавана і працэс беларусізацыі ў акадэміі быў спынены. Як вядома, усе супрацоўнікі кафедры былі рэпрэсіраваны.

24 красавіка 1927 года ў Горкі прыязджаў Якуб Колас. Да гэтага прыезду адносяцца два лісты, што ён прыслаў сюды. Яны былі адрасаваны Леаніле Чарняўскай, жонцы М.І.Гарэцкага.

Першы ліст Я.Колас даслаў 17 красавіка 1927 года, дзе ён паведамляў, што прыедзе ў Горкі. У лісце ён адзначаў, што хацеў бы прыехаць якраз тады, калі распусцяцца бярозавыя лісточкі. Відаць, вельмі любіў вядомы пісьменнік горацкія гаі і сады. Перадае прыветанне і дзядзьку Максіму, так пачціва называў ён М.І.Гарэцкага. І гэта пры тым, што Я.Колас быў на 10 годоў старэйшы, чым М.І.Гарэцкі.

– Калі мы пераехалі ў Горкі, - расказвала аўтару гэта кнігі Галіна Максімаўна Гарэцкая, дачка пісьменніка, - бацька часам бываў у Мінску і ў адну з сустрэч з Якубам Коласам запрасіў яго да сябе ў госці. У клубе сельскагаспадарчай акадэміі яму была наладжана цёплая сустрэча, а вечарам ён гасцяваў у выкладчыка М.Ганчарыка.

Ад гэтай сустрэчы засталася цікавая фотакартка: Якуб Колас сярод жанчын у беларускіх нацыянальных касцюмах. Сярод іх Л.У.Чарняўская, П.В.Мядзёлка, У.Ганчарык.

Другі ліст у Горкі да Л.У.Чарняўскай датуецца 9 ліста-

пада 1927 года. У ім Якуб Колас піша: “Я не знаходжу адпаведных слоў, каб выказаць Вам, мілыя жанчыны - беларускі, маю радасць і маю падзяку за віншаванне, а таксама не магу звярнуцца да Вас, як бы гэта трэба было. Назаву хіба Вас гэтак: “Цвет і краса жанчын Беларускай зямлі!”

Так пісьменнік выказвае падзяку сваім знаёмым за віншаванне, дасланае з Горак да 45-годдзя з дня нараджэння. Пісаў ён аб сваіх літаратурных планах, аб тым, што “...з новага году засяду за сваю паэму” (маецца на ўвазе паэма “На шляхах волі”). Паведамляў таксама і аб тым, што ён чакае выхаду з друку кнігі “У глыбі Палесся”. “Тады кожнай з Вас прышлю па кнізе, - піша Я.Колас, - бо Вы такія мілыя, слаўныя, што калі толькі пачнеш аб Вас думаць, дык весялей і святлей робіцца на сэрцы...”

З ліста відаць, што ўжо дужа спадабалася Я.Коласу красавіцкая сустрэча ў Горках і што на каляды ён зноў плануе прыехаць у Горкі. Перадае прывітанне М.Гарэцкаму і Ю.Гаўруку.

У сваіх успамінах “Мудрасць паэта”, якія былі надрукаваны ў кнізе “Ступень адказнасці”, Ю.Гаўрук апісвае прыезд Я.Коласа ў Горкі ў 1930 годзе:

“Незабыўным для мяне прыезд Я.Коласа ў Горкі, ў сельскагаспадарчую акадэмію вясной 1930 года. Ён прыехаў неафіцыйна, проста так, па запрашэнню мясцовай секцыі навуковых працаўнікоў. Спыніўся ў мяне. Вечарам у клубе секцыі ў яго гонар наладжвалася сустрэча. Было холадна, яшчэ ляжаў снег, і Колас прыехаў у валёнках. Аднак на вечар палічыў нязручным з’яўляцца абутым па-зімоваму, і яму дасталі чаравікі. Прыйшоўшы з лекцыі, я ўбачыў зборы Коласа. На табурэтцы стаялі чорныя кругланосыя чаравікі, уласнаручна ім адглянцаваныя. Адзежа была вычышчана, адпрасавана. Ён не хацеў прыходзіць абыяк. Акуратнасць, пунктуальнасць, вернасць дадзенаму слову - тыповыя рысы характару Коласа. Ён не абяцаў таго, чаго не мог зрабіць, не пазніўся, не спяшаўся з вывадамі. Шчодры душой, Колас, як кажуць, трымаў сябе ў руках, не раскідваўся марна, з ранніх дзён падпарадкоўваў

свае ўчынкі галоўнай мэце - змагацца за праўду, за прагрэс, за правы працоўных.

Свежы, іншы вецер вее,
Хоць ён вее ціха.
А хто зло-няпраўду сее,
Той зжынае ліха.

Гэтыя словы з паэмы “Сымон-музыка” - дакладна сфармуліраваны прынцып Коласавых адносін да рэчаіснасці. Яго аптымізм грунтаваўся на глыбокім веданні законаў развіцця грамадства. Чалавек не пацерпіць несправядлівасці; тое, што пабудавана на гвалце і хлусні, зверстве не мае пад сабой трывалага фундамента і з цягам часу абавязкова разваліцца. Ва ўсякай справе неабходна вытрымка, і тое, што Колас меў, магчыма, з’яўляецца прычанай многіх яго творчых і жыццёвых удач.

У клубе народу сабралася шмат, дарагога госця сустрэлі воплескамі і неўзабаве папрасілі што-небудзь прачытаць. Колас не лічыў сябе майстрам мастацкага чытання, але ў вузкім коле прыхільна настроеных людзей выступаў ахвотна.

Ён прачытаў нам некалькі вершаў з нізкі “Калгаснае”, толькі што тады напісанай…

Чытаў ён па рукапісу, стоячы каля стала, спакойна, без лішніх рухаў. Ніякай рыторыкі, пераўвасаблення, нічога акцёрскага. Хутчэй ён нагадваў настаўніка альбо вучонага, які з унутраным перакананнем горача расказвае аб тым, што важна для ўсіх. Мілагучны, трошкі глухаваты голас, выразнае вымаўленне кожнага слова - так, каб нічога не страчвалася - усё гэта надавала непаўторны, своеасаблівы каларыт… Яшчэ і цяпер у маіх вушах гучаць інтанацыі заклапочанага роздуму ў вершы “Серадняк”, які вельмі ўсім спадабаўся.

Па чыну мне паложана,
Як ёсць я серадняк,
Глядзець на ўсё ўстрывожана
І думаць так і сяк...

Нельга абмінуць і коласаўскі гумар - здаровы смех вясёлага, шчырага чалавека. Поспех Коласа ў навуковых

супрацоўнікоў сельскагаспадарчай акадэміі быў выключны. Яго акружылі, віншавалі. Завязалася шчырая гутарка.

Праводзілі мы Коласа ўрачыста. Паклалі ў яго малюсенькі чамаданчык тры бутэлькі лепшых ягадных він лабараторнага вырабу - прадукцыю кафедры садоўніцтва. Тады гэта была навінка. Пажадалі яму здароўя і творчых поспехаў"… (Успаміны пра Якуба Коласа. Мн., 1982. С. 206-208).

Значнае месца ў дзейнасці акадэміі заняла шэфская дапамога сялянам. 1 мая 1927 г. тут быў адкрыты першы ў СССР нядзельны ўніверсітэт з двухгадовым курсам навучання. Яго слухачамі сталі батракі, беднякі, былыя чырвонаармейцы і працоўныя саўгасаў.

У пачатку 30-х гадоў у СССР была праведзена рэформа вышэйшай адукацыі. ВНУ станавіліся ўстановамі з вузкім профілем падрыхтоўкі спецыялістаў. Лічылася, што дзякуючы гэтаму можна будзе скараціць тэрміны падрыхтоўкі спецыялістаў. У сувязі з гэтым у 1930 г. на базе ляснога факультэта БСГА быў створаны і пераведзены ў Гомель лесатэхнічны інстытут. Праз год было створана яшчэ 10 асобных інстытутаў. Асноўныя з іх (аграхіміі і глебазнаўства, буйной рагатай жывёлы, меліярацыі, прадзільных культур, аэрафотагеадэзічны камбінат, кармавых культур) засталіся ў Горках. Іншыя інстытуты былі пераведзены ў Мінск, Віцебск і Лошыцу.

Раздзяленне БСГА прывяло да ліквідацыі адзінага выкладчыцкага калектыву. Былі раздроблены вучэбная і вытворчая базы акадэміі. У яе памяшканнях размясціліся 7 навучальных устаноў, якія не мела неабходнай матэрыяльнай базы. Частка абсталявання і літаратура былі вывезены новымі інстытутамі ў іншыя гарады. З Горак выехала ў іншыя навучальныя ўстановы значная частка прафесарска-выкладчыцкага саставу, у тым ліку прафесары В.В.Даленіна-Іванскі, В.М.Лубяка, К.К.Кісялёў і інш.

Пасля рэарганізацыі ў Горках засталіся прафесары Ю.А. Вейс, А.К. Кедраў-Зіхман, І.І. Красікаў, Ц.М. Годнеў.

Аднак рэарганізацыя, як у хуткім часе паказаў вопыт, знізіла ўзровень вучэбнай работы.

У жніўні 1933 г. СНК БССР прыняў пастанову аб аб'яднанні ўсіх Горацкіх інстытутаў у адзін – Беларускі сельскагаспадарчы інстытут.

У гэтыя часы ў інстытуце пачалося актыўнае будаўніцтва. Вядома, што ў пачатку 1930-х гадоў на тэрыторыі акадэміі былі ўзведзены новыя мураваныя будынкі вучэбных карпусоў №1 і гідрамеліярацыйнага факультэта (зараз корпус № 5), электрастанцыі, тыпаграфіі, інтэрната № 1, жылыя дамы у характэрным для таго часу стылі канструктывізму. Гэтым будынкам характэрна геаметрычнасць аб'ёмаў, кантраст глухіх паверхняў сцен з вялікімі плошчамі зашклення, плоскія дахі. Вядома, што праекты інтэрната і вучэбных карпусоў распрацаваў архітэктар Г. Лаўроў у 1929-1933 гг. Будынкі маюць блізкае падабенства з іншымі работамі Г. Лаўрова, асабліва карпусамі БДУ і гарадка медыцынскага інстытута ў Мінску.

Пабудаваныя ў Горках будынкі характарызуюцца складанай формай плана, асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, утворанай з некалькіх аб'ёмаў. Фасады будынкаў пазбаўлены архітэктурнага дэкору, гладкія сцены члянёны прамавугольнымі living рознавялікімі аконнымі праёмамі. Жылыя дамы для выкладчыкаў па вул. Мічурына, 3, 11 таксама маюць рысы канструктывізму.

У 1930-я гг. была рэканструявана бібліятэка, у выніку яна таксама набыла рысы канструктывізму. У 1930 годзе ў ёй было больш за 134 тысячы кніг.

Адмоўна адбілася на дзейнасці інстытута частая змена кіраўніцтва. З 1933 па 1941 г. змянілася пяць рэктараў. Акрамя таго, тры чалавекі прызначаліся часова выконваючымі абавязкі. На пасадзе рэктара працавалі Г.З.Пелікан, П.С.Шастапал, С.І.Цішкоў і інш.

У 1933 годзе ў БСГІ было створана пяць асноўных факультэтаў: раслінаводства (пазней стаў называцца агранамічным), заатэхнічны, арганізацыі тэрыторыі (землеўпарадкавальны), аграхіміі і глебазнаўства, эканамічнай палітыкі і планавання (эканамічны).

У снежні 1933 г. дэканамі факультэтаў былі прызначаны

прафесары Ц.М.Годнеў, Ю.З.Уман, В.В.Папоў, І.І.Красікаў.

У 1934 годзе з Лошыцы зноў у Горкі быў пераведзены садоўніцка-агародніцкі інстытут. Ён стаў аддзяленнем, а потым пладова- агароднінным факультэтам інстытута.

Да канца 1933/34 навучальнага года прафесарска-выкладчыцкі калектыў налічваў каля 100 чалавек. У іх ліку 20 прафесараў, 29 дацэнтаў. Вучыліся ў інстытуце 745 студэнтаў. Сярод іх рабочыя і сяляне састаўлялі 69%.

У гэты час працавалі 24 кафедры, пры іх 67 лабараторый і вучэбных кабінетаў. У 1934-36 гг. БСГІ выпусціў 576 спецыялістаў.

У 1938/39 навучальным годзе інстытут па паспяховасці заняў першае месца сярод сельскагаспадарчых ВНУ краіны.

У 1941 годзе ў кніжным фондзе бібліятэкі налічвалася больш за 600 тыс. тамоў.

Па выніках навуковых даследаванняў кафедры БСГІ давалі рэкамендацыі вытворчасці, дзяржаўным органам БССР.Навуковыя супрацоўнікі інстытута пастаянна ўдзельнічалі ў рабоце Дзяржплана, наркамата земляробства, АН БССР, прадстаўлялі даклады і даведкі па пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі ў ЦК КП(б)Б і іншыя ўстановы.

З 1931 па 1941 гады было выдадзена больш за 20 тамоў навуковых прац і запісак інстытута, апублікавана каля 600 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. На навуковых канферэнцыях зроблена 220 дакладаў. Навуковыя супрацоўнікі БСГІ сканструявалі 20 і выпрабавалі 89 розных сельскагаспадарчых машын і прылад працы, склалі 613 глебавых карт для калгасаў, саўгасаў і раёнаў БССР.

У інстытуце вялася ваенная падрыхтоўка студэнтаў. Жадаючым было дазволена паступаць у ваенныя вучылішчы. Былі арганізаваны курсы падрыхтоўкі медсясцёр (70 чалавек). У сакавіку 1941 года курсы скончылі 32 дзяўчыны: Д.Бярозкіна, Н.Бондарава, Г.Гульбіс, Л.Зуева, А.Канавалава, Т.Кісялёва, А.Савянкова, Н.Лазарэнка, М.Лядава,

В.Семяненка скончылі курсы з адзнакай. Усе яны пайшлі на фронт у першыя дні вайны.

Разгарнулася спаборніцтва за лепшую пастаноўку абаронна-масавай работы. Працавала школа падрыхтоўкі авіятараў.У першым корпусе быў устаноўлены вучэбны самалёт, мелася неабходная літаратура. Заняткі вялі лётчыкі-інструктары Аршанскага аэраклуба. Школу наведвалі 45 чалавек. У 1940 г. яе скончылі 20 студэнтаў. У інстытуце ішла актыўная падрыхтоўка планерыстаў, вадзіцеляў аўтамашын, матацыклістаў.

Мастацкую самадзейнасць інстытута ўзначальваў артыст К.Я.Рэкала, якому ўдалося паставіць на сцэне інстытута оперу “Запорожец за Дунаем”. Тры дні гэта опера ставілася на сцэне рускага тэатра ў Мінску.

Трагічная з'ява ў жыцці грамадства ў 30-ыя гады не абышла і калектыў БСГІ. У выніку беспадстаўных паклёпаў былі рэпрэсіраваны 17 прафесараў і дацэнтаў. У іх ліку першы рэктар інстытута У.І.Кіркор, прафесары, загадчыкі кафедрамі Я.М.Афанасьеў, М.М.Ганчарык, У.У.Вінер, К.Г.Рэнард і інш. Усе яны ў 50-ыя гады былі рэабілітаваны.

Вясной 1935 года НКУС былі арыштаваны шэсць студэнтаў аграхімфака сельгасінстытута. Яны абвінавачваліся ва ўдзеле ў віктарыне, пераказах палітычных анекдотаў, амаральных учынках.

4 лістапада 1993 года рэспубліканская газета «Народная газета” надрукавала матэрыял М.Янушэвіча, які быў сведкай падзей 7 лістапада 1938 года ў Горках, калі студэнты інстытута, рабфака і землеўпарадчага тэхнікума выйшлі на дэманстрацыю з нагоды 21-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Перад выхадам на дэманстрацыю камендант інтэрната Фруза Гайдаманава ўручыла студэнтам партрэты кіраўнікоў партыі і ўрада, транспаранты і іншую нагляднасць.

Раптам перад калонай з'явіўся маладзенькі лейтэнант.

–Узняць транспаранты ! – звонкім голасам скамандаваў ён.

Угару ўзняліся сцягі і партрэты. Глянуўшы ўверх, лейтэнант падскочыў да аднаго з юнакоў і ударыў яго

кулаком па твары, злосна прагаварыў.

– Ты каго гэта, контра, прынёс?

Лейтэнант вырваў з рук юнака дрэўка з партрэтам маршала Блюхера, бразнуў яго на мокрую зямлю і прыняўся таптаць нагамі. Гэта быў стараста нашай групы Башлыкоў.

– Марш адсюль! — злосна пракрычаў лейтэнант.

З таго дня мы больш не бачылі свайго старасту. Бясследна знікла за ім і камендант.

Маршал Блюхер быў расстраляны роўна праз два дні пасля выпадку з яго партрэтам у Горках – 9 лістапада 1938 г.

У снежні 1940 года інстытут адзначыў 100-гадовы юбілей. Гісторыя яго развіцця і дзейнасці была прадстаўлена на юбілейнай выставе ў чатырох залах бібліятэкі.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў БСГІ ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ордэны і медалі былі ўручаны старэйшым работнікам ВНУ.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў 14 работнікаў інстытута Ганаровымі граматамі, 17 – граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Быў выраблены юбілейны значок інстытута. На святкаванні прысутнічала больш за 100 гасцей.

Адбылася юбілейная навуковая сесія. Было заслухана 20 дакладаў аб перспектывах развіцця сельскай гаспадаркі, яе механізацыі, асваенні новых зямель. У юбілейным зборніку прац БСГІ былі апублікаваны артыкулы 30 вядучых навуковых супрацоўнікаў.

За перадваенны час БСГІ даў краіне больш за 2 тыс. спецыялістаў. Сярод іх партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, вядомыя вучоныя, вядучыя спецыялісты сельскай гаспадаркі Беларусі: Ф.А. Сурганаў, У.Е. Лабанок, П.П. Кабека, С.Г. Скарапанаў, С.Н. Іваноў, М.Дз. Мухін, П.Я. Пракопаў, Я.К. Дубоўскі, І.А. Лебедзеў, А.Т. Цяглоў, С.Р. Хомчанка і інш.

Сельскагаспадарчы інстытут у гэты час быў шырока вядомы не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі.

# ГОРКІ Ў ДАВАЕННЫ ЧАС



***Я***к вядома, XIV з'езда РКП(б) ўзяў курс на індустрыялізацыю краіны. У Горках пачалося будаўніцтва прамкамбіната, адчыняліся новыя прамыслова-рамесныя арцелі.

У гэты час у раёне жыло 94752 чалавекі, нацыянальны склад якога ў працэнтах састаўляў: беларусаў – 94,4, яўрэяў – 2,2, рускіх – 1,2, палякаў – 1,1, астатнія літоўцы і латышы.

Па тытульнаму спісу 1931 года ў горадзе і раёне налічвалася 54 прадпрыемствы. дзе працавала 748 рабочых. Сярод буйнейшых прадпрыемстваў былі электрастанцыя (працавала 23 рабочых), тарфяны завод у вёсцы Чапялінка ( 64 рабочыя), два цагельныя заводы ( 119 рабочых), лесазавод ”Зорька” ( 25 рабочых), майстэрні пры Горацкай МТС (43 рабочыя), воўначоска ( 48 рабочых), швейная арцель “Праграэс” ( 56 рабочых), абутковая арцель “Камінтэрн”( 38 рабочых), тыпаграфія (16 рабочых).

Асобна раскажам аб самым буйным прадпрыемстве Горак – ільнозаводзе, якому ў 2006 годзе споўнілася 75 год. Як вядома, у пачатку 30-х гадоў у БССР было вырашана пабудаваць 78 новых льнозаводаў, у тым ліку адзін у Горках. Гэта месца было выбрана не выпадкова. З даўніх часоў тут вырошчвалі добры лён. Аб гэтым сведчаць экспанаты Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея. Было улічана і тое, што ўсе калгасы раёна вырошчвалі лён.

З матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі бачна, што яго вырошчвалі на 6000 га і валавы збор складаў 12000 тон валакна. У разлік бралася і тая акалічнасць, што ў сельскагаспадарчай акадэміі на агранамічным факультэце меліся спецыялісты па вырошчванні і перапрацоўцы ільну.

Месца пад будаўніцтва было выбрана каля чыгуначнай станцыі, бо сюды было зручна падвозіць будматэрыялы і, калі завод пачне працаваць, вывазіць гатовую прадукцыю.

Планавалася пабудаваць да 1 снежня 1931 года 10 аб’ектаў. Гэта вытворчыя карпусы, склады, лазню, жылыя дамы.

У канцы снежня 1931 года завод пачаў працаваць. Ён атрымаў № 22. Акрамя яго на тэрыторыі раёна працавала яшчэ два льнопрадпрыемствы. Нарошчвалі магутнасць раённы прамкамбінат і хлебазавод.

У гады першай пяцігодкі быў пабудаваны новы цагельны завод. Гарадская электрастанцыя дала ток прамысловым прадпрыемствам. Да 1934 года ў раёне дзейнічала 8 заводаў і 6 прамысловых арцелей, дзе працавала 5700 чалавек.

У 1940 годзе гэтымі прадпрыемствамі было выраблена 2,5 мільёна штук цэглы, 27 тон торфу, 7130 пар абутку, 53, 9 тон хлебабулачных вырабаў.

Значную ролю ў развіцці эканомікі горада адыграла сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне пяцігадовых планаў. Яно ахапіла ўсе прадпрыемствы, прамысловыя арцелі і ўстановы. Раённая газета "Ленінскі шлях" у кожным нумары друкавала імёны ўдарнікаў працы. Увесь раён ведаў І.А.Вярбіцкага – рабочага буравой вышкі, Н.Ф. Зеляноўскага – рабочага фармовачнага цэха цагельнага завода, А.В.Котава – лесаруба, М.Н. Кунцакову – работніцу швейнай арцелі, Н.В.Бальцава – рабочага хлебазавода.

Пасля XV з'езда партыі краіна ўступіла на шлях калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Вядома, што яшчэ раней у Горацкім раёне былі створаны першыя таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі. Напрыклад, такое таварыства яшчэ ў 1924 годзе было створана ў в. Горы. Кіраваў ім спачатку Л.Гурэвіч, а потым Н. Альтшулер.У 1928 годе з гэтага таварыства быў створаны яўрэйскі калгас на чале з Н.Альтшулерам. Потым ён аб’яднаўся з другім калгасам, што існаваў у вёсцы.

З архіўных дакументах, успамінаў ветэранаў паўстае перад намі гэты цяжкі час.

Як вядома, у час калектывізаціі, былі парушаны прынцыпы добраахвотнасці, калі сяляне былі падвергнуты раскулачванню незаконна. У час раскулачвання, пад якое часта траплялі серадннякі і нават беднякі, забіраўся жывы і мёртвы інвентар, да новых калгасаў пераходзіла жыллё і вытворчыя пабудовы.Так, ў кастрычніку 1933 года, як сведчаць дакументы, што зна-ходзяцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Бела-русі,Горацкая райтройка (у складзе намесніка старшыні райвыканкама, начальніка ГПУ, райпракурора) прыняла рашэнне аб раскулачванні 88 кулацкіх сямей, 25-ці серад-няцкіх і нават адной бядняцкай.

У ходзе калектывізацыі змянялася сялянская псіхалогія, фарміраваліся прынцыпова новыя адносіны да працы, але і пачаўся працэс адчужэння сялян ад зямлі, ад сялянскай працы.

Разам з тым неабходна адзначыць, што ў Горацкім раёне арганізацыя калгасаў праходзіла ва ўпартай барацьбе з тымі, хто імкнуўся зрываць пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў і сыравіны, забіваў сельскіх актывістаў.

Вядомы такі факт. У калгас вёскі Ярмолаўка ўступіла спачатку 10 чалавек, старшынёй выбралі 25-гадовага Ігната Лосева. За чатыры гады сяляне стварылі калгас, які быў адным з перадавых. Ігнат вучыў грамаце непісьменных сялян. Аднак у 1935 годзе ён і яго жонка Алена былі пазверскі забіты сякерай. Выпадкова засталіся жывымі дзеці – сядзелі пад сталом.

Тым не менш нішто не змагло спыніць калектывізацыю. І калі да мая 1931 года ў раёне налічвалася 106 калгасаў, то ў 1934 годзе колькасць складала ўжо 250. Фактычна калгас быў арганізаваны ў кожнай вёсцы раёна.

В.Серафімаў, член партыі з 1918 года, які працаваў у той час першым сакратаром Горацкага райкама КП(б) Беларусі, успамінаў: "У перыяд нялёгкай барацьбы за ўздым сельскай гаспадаркі хутарскія калгасы раёна правялі важ-

нае мерапрыемства: сцягнулі пабудовы ў вёскі. Народ працаваў начамі.Тут былі свае цяжкасці. Не хапала цвікоў. За дапамогай звярталіся ў ЦК КПБ. Пераадольваючы цяжкасці,калгасы мацнелі арганізацыйна і эканамічна, рос дабрабыт працоўных".

Разам з калектывізацыяй на горацкія палі прыйшлі трактары. У лістападзе 1930 года ў Горках была створана МТС. Да лютага 1931 года ў ёй было 40 трактараў і шмат іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. На курсах маладых рулявых вучылася 114 калгаснікаў, 16 працэнтаў складалі жанчыны. Пры МТС працавалі таксама курсы  па падрыхтоўцы брыгадзіраў. Палітаддзел станцыі выпускаў газету "За бальшавіцкія калгасы".

У наступныя гады  МТС былі створаны ў вёсках Леніна, Горы і Палёнка.

З першых гадоў існавання калгасы даказалі сваю перавагу перад аднаасобнымі гаспадаркамі. Напрыклад, гадавы даход бедняка да ўступлення ў калгас "Товарищ" вёскі Жаўлачоўка складаў 175 рублёў, серадняка – 350, а калі была арганізавана гаспадарка, даход калгасніка складаў 437 рублёў.

10 чэрвеня 1933 года адбыўся першы раённы злёт калгаснікаў-ударнікаў, які падвёў вынікі сацыялістычнага спаборніцтва і намеціў шляхі яго далейшага развіцця. Пасланцы Горацкага раёна бралі ўдзел у рэспубліканскім з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў у Мінску.

У той час на ўвесь раён грымела імя Д.С.Каравосавай, якая ўстанавіла ў 1934 годзе рэспубліканскі рэкорд па церабленню льну. Першай у раёне яна была ўзнагароджана ордэнам "Знак почёта".

Смела сцвярджала новае жыццё горацкая моладзь. 20 членаў ЛКСМБ сталі старшынямі калгасаў, 96 – брыгадзірамі, 46 – загадчыкамі малочнатаварных ферм. Камсамольцы былі ініцыятарамі стварэння калгасаў "Красная смена" у вёсцы Асінаўка і "Колхозник Белоруссии" ў Міхайлавічах. Былы сакратар камсамольскай ячэйкі гэтай вёскі Ф.Д.Мядзведскі ўспамінаў: "На адным з камсамольскіх сходаў вялася дзелавая размова аб арганізацыі калгаса ў

нашай вёсцы. У прынятай пастанове запісалі: " Лічыць наспелым пытанне аб арганізацыі калгаса ў вёсцы Міхайлавічы. Усім камсамольцам запісацца першымі і пераканаць уступіць у калгас свае сем'і".

У лютым 1929 адбыўся пашыраны пленум ЦК камсамола Беларусі, які разгледзеў пытанне аб правядзенні паходу за ўраджай і калектывізацыю. Было вырашана правесці канферэнцыі моладзі, паслаць з горада і сельскагаспадарчай акадэміі ў дапамогу сельскім ячэйкам чалавек 100 камсамольскага актыву. У сакавіку 1929 года Аршанскі акружком камсамола правёў у Горках канферэнцыю сельскай інтэлігенцыі па растлумачэнню задач камсамола ў правядзенні калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Вясной 1931 года ў горадзе была адкрыта маладзёжная доследная сельскагаспадарчая станцыя. Яна садзейнічала прыцягненню моладзі да арганізацыі калгасаў, асваенню новых зямель і пашырэнню пасяўных плошчаў, павышэнню ўрадлівасці глебы і ўраджайнасці палёў. У 1931 годзе станцыя заклала ў калгасах 8 доследных участкаў пад яравыя культуры.

Камсамолец з Горацкага раёна Максім Путнікаў адным з першых у Беларусі арганізаваў вучняў абараняць ураджай і збіраць каласы. Аб сваёй ініцыятыве ён дакладваў на нарадзе ў ЦК ЛКСМБ, дзе сустракаўся і гутарыў з М.І.Калініным. Цэнтральны камітэт ЛКСМБ прэміраваў яго бібліятэчкай і радыёпрыёмнікам.

Сацыялістычныя пераўтварэнні ў гады новых пяцігодак значна змянілі аблічча Горак. Добрыя пабудовы ўставалі на месцы старых хатак. Гораду стала цесна ў старых межах, і ён пачаў разрастацца ў бок чыгуначнай станцыі. Амаль усе дамы былі электрафікаваны і радыёфікаваны. Працавалі дзве сярэднія школы, тры бібліятэкі, Дом культуры, Дом калгасніка. Адкрыліся дзіцячыя амбулаторыя, яслі і садкі.

У гэтыя гады далейшае развіццё атрымала ахова здароўя. Горацкая раённая бальніца лічылася адной з лепшых у Магілёўскай вобласці. У 1940 годзе галоўнаму ўрачу

раёна А.І.Татарскай адной з першых у рэспубліцы было прысвоена ганаровае званне "Заслужаны ўрач БССР".

30-я гады. З аднаго боку – поспехі ў эканоміцы, культуры, з другога – бюракратызацыя грамадска-палітычнага жыцця, масавыя рэпрэсіі. Пад іх колы трапілі многія жыхары Горак і раёна. Сярод іх былы рэвалюцыянер Р.М.Муравін, рабочы М.Гладкі, пісьменнік В.Каваль, прафесар Я.М.Афанасьеў, студэнтка М.Некрашэвіч, святар Ф.Глінскі, калгаснік М.Цельпухоўскі і інш.

На жаль, ніхто не адчуваў сябе ў поўнай бяспецы. Ніхто, кладучыся спаць, не ведаў, ці можна пазбегнуць начнога арышту. Нікому не было літасці. Парушэнне норм закона, на жаль, было звычайнай з'явай. Так, летам 1937 года была раскрыта "контррэвалюцыйная трацкістская арганізацыя", у якую ўваходзілі восем жыхароў раёна. У віну ім ставілася тое, што яны ў размове паміж сабой шкадавалі аб расстрэле "ворагаў народа" Тухачэўскага і Убарэвіча. Траім гэта размова каштавала жыцця, пяцёра былі пазбаўлены волі на 10 год кожны.

Калі пачытаць спісы рэпрэсіраваных у кнізе "Памяць. Горацкі раён", то бачна, што каля ста чалавек з Горак і каля 1000 з раёна былі рэпрэсіраваны ў тыя гады і многія з іх загінулі.

… Ішоў 1941 год. Матэрыялы раённай газеты "Ленінскі шлях" ад 22 чэрвеня адлюстроўвалі мірную стваральную працу калгаснікаў і служачых. Перадавы артыкул заклікаў арганізавана і своечасова правесці падрыхтоўку да новага навучальнага года ў школах. Газета расказвала аб поспехах меліяратараў раёна, аб калгасе "Шлях сацыялізму".

А ў дзень 22 чэрвеня жыхары горада і раёна даведаліся аб тым, што пачалася вайна.

# *НЕПАКОРАНАЯ ЗЯМЛЯ*



***22*** чэрвеня 1941 года на плошчы, размешчанай супраць клуба сельскагаспадарчага інстытута, адбыўся мітынг. Рабочыя і служачыя горада, выкладчыкі і студэнты заявілі аб сваёй рашучасці стаць на абарону Радзімы. Многія ўдзельнікі мітынгу адразу ж накіраваліся ў райваенкамат з просьбай адправіць іх на фронт.

У Горацкім раённым гістарычна-этнаграфічным музеі захавалася газета “Ленінскі шлях” ад 25 чэрвеня 1941 года. У артыкуле “Палкі патрыятызм” выкладчык сельскагаспадарчага інстытута Р.Е.Круцько ў сваёй заяве ў ваенкамат пісаў: ”...з глыбокай свядомасцю і выкананнем абавязкаў перад краінай Саветаў і з нянавісцю да ворагаў жадаю быць у перадавых радах на фронце вайны...” Заявы для паступлення ў рады Чырвонай Арміі падавалі не толькі мужчыны, але і жанчыны. Тэлефаністка-марзістка станцыі Пагодзіна Н.М. Міхасёва ў сваёй заяве пісала:”Прашу залічыць мяне ў рады Чырвонай Арміі, так як я з усёй аддансцю жадаю абараняць сваю Радзіму”. Цікава, што нумар гэтай газеты захоўвала больш 50 гадоў і перадала ў музей былая настаўніца з Санкт-Пецярбурга Р.М.Шэфтэр, якая ў чэрвені 1941 года прыехала да родных у Горкі і разам з вучнямі ўдзельнічала ў праполцы ў прыгарадным калгасе “Шлях сацыялізму”. Аб іх працы таксама пісалася ў тым нумары газеты.

У першыя дні вайны пайшлі ў дзеючую армію афіцэры запасу, тыя, хто меў мабілізацыйнае прадпісанне. Правадзілі на фронт 27 студэнтак, якія атрымалі ў інстытуце кваліфікацыю медыцынскіх сясцёр.

У гэтыя дні жыхары Горак адчулі на сабе варварства захопнікаў. Як вядома, у Горках не было буйных прадпры-

емстваў, тым не менш, пачынаючы з 27 чэрвеня, горад падвяргаўся налёту фашысцкай авіяцыі.

Пасля гэтых бамбёжак гарэлі жылыя дамы, цэлыя вуліцы, гарадок механізацыі сельскай гаспадаркі на тэрыторыі акадэміі.

Раённыя ўстановы, прадпрыемствы, інстытут падрыхтавалі больш каштоўнае абсталяванне і маёмасць да эвакуацыі. Аднак многае вывезці не ўдалося: транспарт быў перагружаны перавозкай войск. Толькі 3 і 6 ліпеня 1941 года ўдалося адправіць са станцыі Пагодзіна два чыгуначныя эшалоны. У асноўным арганізавана эвакуіраваліся студэнты і выкладчыкі інстытута і некаторыя установы – усяго каля 2 тысяч жыхароў. Астатнія, хто рабіў спробу эвакуіравацца, шукалі месца на аўтамабілях, ехалі на конях, многія ішлі пешшу.

30 чэрвеня 1941 года Горкі наведаў паэт Янка Купала. Вядома, што кожнае лета з 1935 па 1941 год ён праводзіў у Ляўках, на дачы, пабудаванай яму ўрадам Беларускай рэспублікі, непадалёку ад Оршы. Як успамінаў Дзям'ян Раманавіч Новікаў, былы дырэктар акадэмічнай бібліятэкі, заслужаны дзеяч культуры БССР, паэт тады амаль штогод прыязджаў у Горкі, заходзіў да яго. Яны пазнаёміліся яшчэ ў 1925 годзе ў першае наведванне паэтам акадэміі. Новікаў бываў у паэта ў Мінску, у Ляўках. Да вайны ён займаўся вывядзеннем новых гатункаў вяргіняў. І адзін з гатункаў назваў "Купала", у гонар паэта.

Янка Купала прысвяціў Новікаву верш "Сярод дубоў і ліп адвечных". На жаль, верш і кветкі загінулі ў час вайны, разам з фотаздымкамі і кнігамі з аўтографамі паэта.

У Горках Янка Купала разам з жонкай Уладзіслявай Францаўнай зрабілі кароткі перапынак. Паэт зайшоў да Новікава ў бібліятэку. Як успамінаў Дзям'ян Раманавіч, з'яўленне паэта было нечаканым і выклікала трывогу. Ён запрасіў Купалу на абед. За сталом разгаварыліся аб вайне. І на запытанне, ці стрымаюць немцаў на Дняпры, паэт выказаў думку, што хутка немцы будуць у Горках і трэба ратаваць бібліятэку.

На жаль, гэтыя словы хутка пацвердзіліся. Праз два

тыдні фашысты захапілі Горкі, абрабавалі бібліятэку і спалілі яе.

Пасля абеду Новікаў прапанаваў гасцям начлег, але Купала спаслаўся на тое, што трэба ехаць у вёску Горы...(Міхась Няхай. Сустрэчы на Магілёўшчыне.//“Полымя”, 1982, N 8. С.213).

Праз некаторы час машына ўжо пад’язджала да вёскі Горы. Вядома, што каля маста праз рэчку Быстрая шафёр спыніў аўтамабіль, каб даліць вады ў радыятар. Паэт выйшаў разам з жонкай, каб крыху адпачыць.

Ён падышоў да рэчкі, якая была каля шашы. Якраз у гэты час хлапчукі гулялі на лузе ў мяч. Сярод іх быў і дзевяцігадовы Марк Фрэйдзін, які разам з бацькамі прыехаў у Горы, бо Горкі ўжо некалькі разоў бамбілі фашысты.

Зараз Марк Залманавіч – прафесар, заслужаны эканаміст БССР, загадчык кафедры аграбізнесу Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён добра памятае, як хлапчукі акружылі машыну. Яна тады была яшчэ ўнавінку. Уладзіслава Францаўна спытала ў хлапчукоў: “Ці пазналі гэтага дзядзю?” – “Янка Купала”, - сказаў адзін з хлапчукоў.

- А вершы яго ведаеце?

- Вядома ж, - хорам адказалі яны.

- А ці можна пракаціцца? - спытаў самы маленькі.

- Сядай, ды пакажы хату Гутмана, - адказаў Я.Купала.

Машына паехала, а мы пабеглі за машынай. Усім хацелася расказаць, што паэт прыехаў у Горы.

Начаваў паэт у хаце Гутмана, дырэктара Гарскога льнозавода.

Назаўтра, досвіткам, машына адправілася ў дарогу. І на мяжы Беларусі Я.Купала папрасіў шафёра спыніць машыну. Уладзіслава Францаўна ўспамінала: “Ля дарогі раскінулася сенажаць, трава была высокая, шмат кветак, непадалёку быў лес, Купала захацеў спыніцца тут. Стомлены, ён выйшаў з машыны, лёг на траву і доўга глядзеў удалячынь - на вачах яго былі слёзы. Гэта было апошняе развітанне з роднай Беларуссю”.

З набліжэннем лініі фронту Горкі сталі рыхтавацца да абароны. У сельскагаспадарчым інстытуце быў створаны знішчальны батальён. Пачалося ўзвядзенне ўмацаванай паласы.

У першыя дні ліпеня баі ішлі ўжо каля самага горада. Горкі абараняли часці 57-й танкавай дывізіі пад камандаваннем палкоўніка В.А.Мішуліна. У бязлітасных баях чырвонаармейцы вывелі са строю і знішчылі нямала варожых танкаў і бронетранспарцёраў.

Былы камандзір танкавага ўзвода Ю.Н.Пограбаў успамінае, што за горад мужна змагаліся мотастралковы полк пад камандаваннем маёра Н.Р.Асокіна, а таксама прыкамандзіраваныя да яго танкавыя падраздзяленні. Асабліва праславіўся экіпаж баявой машыны старшага сяржанта В.Н.Полазава і лейтэнанта В.І.Краўца, якія падпалілі некалькі фашысцкіх танкаў і штабную радыёстанцыю. Нават параненыя, байцы не пакідалі акопаў. Камсамолец Фёдар Міхайлаў, паранены ў руку, працягваў касіць фашыстаў з кулямёта, пакуль куля не трапіла яму ў сэрца. А калі фашысцкі танк прарваўся ў тыл, насустрач яму са звязкай гранат падняўся старшыня роты П.Н.Давыдзенка. Кулямётная чарга скасіла яго, але фашысцкі танк быў падарваны.

Гераічна абараняла горацкую зямлю 161-я дывізія пад камандаваннем палкоўніка А.І. Міхайлава. У раёне вёсак Сахараўка і Міхайлаўка воіны знішчылі 48 танкаў, 30 бронетранспарцёраў, каля 130 аўтамашын і матацыклаў, 350 салдат і афіцэраў праціўніка. Гэтай падзеі прысвечана дыярама “Бой пад Сахараўкай” (аўтар А.С.Шкляр), якая знаходзіцца ў Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеі. Аб гэтых падзеях падрабязна напісана ў кнізе ўспамінаў Н.З.Кадырава “ От Минска до Вены”. М.,1985.

Увечары 12 ліпеня 1941 года гітлераўцы ўварваліся ў Горкі. Дарагой цаной далася ім гэта перамога, што прызнаў нават нямецкі генерал Гудэрыян. У сваёй кнізе "Воспоминания солдата" ён пісаў: “10-я танкавая дывізія дасягнула населеных пунктаў Горкі і Мсціслаў, несучы ў цяжкіх баях вялікія страты…"

Захапіўшы горад, фашысты знішчылі помнікі К.Марксу і У.І.Леніну, разрабавалі лабараторыі і бібліятэку сельскагаспадарчага інстытута.

Ужо ў канцы ліпеня 1941 года ў Горках на сценах дамоў з'явіліся загады нямецкіх акупантаў, згодна якіх яўрэі выключаліся з жыцця яшчэ задоўга да смерці. Ім забаранялася выкарыстоўваць тратуары, грамадскі транспарт, наведваць школы, бібліятэкі і займацца амаль усімі відамі прафесійнай дзейнасці. На левым баку адзення і пасярэдзіне спіны трэба было заўсёды насіць шасціканечную зорку.

У першыя дні акупацыі яўрэйскае насельніцтва было сабрана ў межах вуліц Мсціслаўская, часткі Інтэрнацыянальнай, дзе і ўтварылася горацкае гета. Нярэдка ў адным пакоі жыло па 2-3 сям'і. Голад, цяжкая праца, пабоі рабілі невыносным жыццё тых, хто знаходзіўся ў гета. Сведкі ўспамінаюць, што, каб паздзекавацца з людзей, фашысты і паліцэйскія запрагалі іх у конскую збрую і вазілі на іх бруд.

...Наступіла 7 кастрычніка 1941 года. Жудасны дзень у гісторыі Горак. Яшчэ за дзень да гэтага фашысты адабралі шаснаццаць мужчын і павялі іх у раён вёскі Задарожжа, дзе захаваліся  дзве ямы з пад сіласу, і загадалі гэтыя ямы раскопваць і паглыбляць.Сведкі тых трагічных падзей успамінаюць:”З раніцы 7 кастрычніка па гораду хадзілі фашысты і паліцэйскія, якія збіралі яўрэяў. Ім было загадана збірацца ў раёне былога клуба акадэміі, узяўшы каштоўнасці. Было сабрана больш 2500 чалавек, якіх групамі па 100 чалавек падводзілі да ямы, загадвалі распранацца, а затым ставілі на край ямы. Калі хто застаўся жывы, то паліцэйскія дабівалі іх з аўтаматаў”.

Былі ў Горках змешаныя сем'і. Так, у М.К.Нізаўцова, які працаваў землеўпарадчыкам у райзо, была яўрэйкай жонка Лізавета і дзве дачкі: Вера ( 6 гадоў) і Эла ( тры гады). У час расстрэлу фашысты прапанавалі М.К.Нізаўцову пакінуць сям'ю, але ён адмовіўся і адказаў: “Куды мая сям'я,туды і я”.

У 1995 годзе Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеем з дапамогай былых жыхароў Горак, якія ў той час жылі ў Санкт-Пецярбургу, Маскве, Горках, Ізраілі, была выдадзена брашура “Ішло ў бяссмерце Горацкае гета...”, дзе змешчана больш за 300 імёнаў загінуўшых. У гэтай брашуры член Саюза пісьменнікаў Беларусі паэтэса Ніна Кавалёва напісала верш, дзе ёсць такія словы:

Недалёка здарылася гэта,–
Апаліла ліха родны кут.
Ішло ў бяссмерце Горацкае гета
Па дарозе, чорнай ад пакут.

Яўрэйскае насельніцтва знішчана было таксама ў вёсках Леніна, Горы, Рудкаўшчына, Напраснаўка і Верашчакі. Апошняя вёска пасля вайны так і не адрадзілася.

Трэба адзначыць, што гібель яўрэйскага насельніцтва адбылася ў сувязі з тым, што кіраўніцтва краіны не давяло да мясцовых партыйных і савецкіх органаў, а тыя да яўрэйскага насельніцтва неабходнасць эвакуацыі. Хаця яму было вядома аб тым, што рабілі фашысты з яўрэямі ў Польшчы і іншых акупіраваных краінах. З другога боку, многія яўрэі, асабліва ў сталым узросце, не хацелі пакідаць свае сядзібы і казалі, што немцы нічога з імі дрэннага не зробяць ( яны ўспаміналі немцаў, якія акупіравалі частку Беларусі ў 1918 годзе).На жаль, яны вельмі памыляліся. Гэта былі ўжо не тыя немцы, а фашысты, якія ставілі мэту знішчыць усё яўрэйскае насельніцтва.

У вучэбных карпусах інстытута размясціліся гестапа і жандармерыя. Аўдыторыя № 81 першага корпуса ператварылася ў камеру смерці. Ніхто са зняволеных адтуль не вяртаўся. На сценах яе пасля вайны былі знойдзены надпісы савецкіх людзей, замучаных фашысцкімі катамі.

У клубе інстытута знаходзіўся лагер для савецкіх ваеннапалонных. Кожны дзень ад пакут, голаду, хвароб там памірала да 20 чалавек. Цяпер на месцы пахавання ахвяр устаноўлены помнік. На ім надпіс: ”Здесь, на этом месте, в годы Великой Отечественной войны в фашистском лагере смерти были зверски замучены более 300 советских граждан”.

Як вядома, акупанты знішчылі дзяржаўную самастойнасць беларускага народа і тэрытарыяльную цэласнасць рэспублікі. Тэрыторыя Магілёўскай вобласці і Горацкі раён былі ўключаны ў зону армейскага тылу групы армій “Цэнтр”.

Кантроль над акупіраванай тэрыторыяй раёна забяспечваўся сістэмай нямецкіх гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў. У горадзе акупанты стварылі камендатуру, магістрат.

Уся паўната ўлады належала фашысцкім ваенным і цывільным уладам. Насельніцтва было пазбаўлена элементарных грамадзянскіх правоў, былі ўведзены надзвычайнае становішча, сістэма заложнікаў.

Разам з тым акупацыйныя ўлады ў інтарэсах Германіі арганізавалі работу некаторых прадпрыемстваў горада– льнозавода, хлебазавода, цагельнага, масларобчага заводаў. Некаторыя гараджане працавалі ў нямецкіх ваенных установах, магістраце, што месціліся ў будынках сельскагаспадарчай акадэміі. Пры гэтым значная частка рабочых працавала ў прымусовым парадку, праз абавязковую рэгістрацыю на біржах працы. Працоўны дзень доўжыўся 10-12 гадзін. Адміністрацыя мела права павялічваць яго працяглась, а таксама караць рабочых за розныя правіннасці. Як успамінаюць сведкі, зарплата складала мізэрную суму – 30 марак у месяц. Кошт жа сціплага абеду ў чайной каштаваў 3-5 марак. Некаторым рабочым замест заробку выдавалі прадуктовыя карткі на харчаванне. Яны складалі 200 г хлеба і 10 г солі на дзень.

Асноўная маса жыхароў Горак была беспрацоўнай. Жылі з таго, што вырошчвалі на агародах, многім дапамагалі родныя, якія жылі ў вёсках.

Да пачатку 1942 года акупанты захоўвалі калгасную сістэму і хацелі пераўтварыць калгасы ў “абшчынныя гаспадаркі”, а саўгасы – у дзяржаўныя маёнткі. У чэрвені 1943 года гітлераўцы дазволілі перадачу зямлі ў валоданне сялянам. Але гэта рашэнне так і не было выканана.

У горадзе і раёне працавала некалькі пачатковых школ. Настаўнікам прадпісвалася, як сведчыла акупацыйная “Менская газэта”, кожны ўрок у школе пачынаць з гутаркі

аб “новым парадку” ў Еўропе на чале з Гітлерам (Гісторыя Беларусі.ч.2. Мн.,1998.С.240).

Што такое “ новы парадак”, жыхары Горак і раёна хутка пазналі на сабе. Фашысты адразу ж устанавілі рэжым крывавага тэрору, грабяжу і насілля над савецкімі грамадзянамі.

Былая настаўніца СШ №1 М.Я.Капілевіч успамінала, што ”…свой прыход у Горкі гітлераўцы адзначылі вялізным пажарам. Потым раз’юшаныя бандыты пачалі расправу з моладдзю. Першай іх ахвярай стаў Лёва Леўшуноў, вучань. Убачыўшы, што полымя ахапіла родную школу, ён прыбег на пажар і быў застрэлены як “падпальшчык”.

Яшчэ нядаўна шумныя і жыццярадасныя Горкі былі ператвораны ў горад смерці і пакут. Сімвалам яго сталі чатыры шыбеніцы, збудаваныя ў скверы каля былога адміністрацыйнага корпуса. Акупанты зганялі сюды людзей, каб запалохаць іх відовішчамі пакарання смерцю савецкіх патрыётаў. На ўскраіне горада, у садзе навукова-даследчай гаспадаркі, былі вырыты равы, якія сталі брацкімі магіламі для тысяч савецкіх грамадзян. Гітлераўцы ўчынілі жудаснае зверства – расстралялі 150 дзяцей з дзіцячага дома. Зараз на тым месцы ўстаноўлены помнік.

У кнізе ”Памяць. Горацкі раён” змешчаны спісы партызан, мірных жыхароў, якія загінулі ў гады вайны. Усяго загінула некалькі тысяч чалавек амаль ва ўсіх вёсках раёна.

У дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці знаходзіцца “Акт раённай камісіі па ўстанаўленні і расследванні нямецкіх злачынстваў у гады Вялікай Айчыннай вайны”, з якога бачна, што “...в д. Тудоровка Маслаковского сельского Совета 25 мая 1943 г. в 5 часов утра приехали немецкие части численностью 300 человек, арестовали 19 человек мирных жителей деревни – мужчин и женщин, после зверских издевательств, побоев, пыток и надругательств всех их расстреляли на опушке леса в 100 м севернее д. Тудоровка и прикрыли еловыми ветками, приказав под страхом смерти никому не подходить близко к лесу”.

Масавымі рэпрэсіямі нямецкія акупанты імкнуліся зламаць волю савецкіх людзей. Але народ не скарыўся.

Любоў да Радзімы, нянавісць да ворагаў, імкненне адстаяць свабоду і незалежнасць сваёй Айчыны падымалі людзей на барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Ужо ў першыя месяцы акупацыі супраціўленне немцам аказвалі патрыёты-камуністы, якія ў канцы 1941 года стварылі Горацкае падполле. 17 снежня 1941 года ў доме А.П.Кузняцова сабраліся С.І.Вераб'ёў, П.Н.Савінаў, П.І.Яцун і П.Х. Кажура і размеркавалі абавязкі. Арганізаваць падпольную групу на ільнозаводзе даручылі П.Н.Савінаву, на цагельным – А.І.Трэмбе, у майстэрнях былой МТС – С.І.Вераб'ёву.

Праз некаторы час горацкія патрыёты ўстанавілі сувязь з падпольнымі групамі ў вёсках Добрая (кіраўнік Д.Ф.Вайстрова), Альхоўка (В.В.Быкаў),Палёнка (Ф.М.Дзям'янаў), Чапялінка (Е.Г.Ленчыкаў),Рэкатка (Я.Е.Дзмітрыеў), Аўсянка (В.К.Асюцін), Губіна (М.Ф.Сапетаў).

Раённая падпольная арганізацыя налічвала 78 чалавек, аб'яднаных у 12 груп.

На пачатковым этапе дзейнасці падполля першараднае значэнне надавалася масава-палітычнай рабоце сярод насельніцтва. Неўзабаве на агароджах, слупах і будынках з'явіліся лістоўкі, якія заклікалі да барацьбы з ненавісным ворагам.

У студзені 1942 года на кватэры П.Н.Савінава адбылася нарада. Было вырашана пашырыць падпольны цэнтр і ўвесці ў яго састаў А.І.Трэмбу, пачаць збор зброі і распачаць дыверсіі.

Праз некалькі тыдняў горацкая падпольная арганізацыя налічвала ўжо больш за 60 чалавек. Патрыёты збіралі зброю і боепрыпасы для партызанскіх атрадаў.

У студзені 1942 года падпольшчыкі правялі першую дыверсію: замарозілі на чыгуначнай станцыі адабраную фашыстамі ў насельніцтва бульбу, вывелі са строю тэлефонную сувязь і электрасетку.

Акупанты развесілі па ўсяму гораду аб'явы, у якіх абяцалі вялікую ўзнагароду таму, хто паведаміць імёны дыверсантаў. Але ніхто не выдаў падпольшчыкаў. Праз

месяц патрыёты спалілі электратурбіны і ўзарвалі паравыя катлы электрастанцыі. На Горацкім цагельным заводзе ў сакавіку 1942 года было выведзена са строю абсталяванне, а на льнозаводзе спалена 800 тон трасты.

Вясной 1942 года кіраўніцтва Горацкага падполля прыняло рашэнне вывесці частку патрыётаў у лес і стварыць партызанскі атрад. У Горацкім гістарычна-этнаграфічным музеі экспануецца карціна мастачкі В.І.Юрковай “Пасяджэнне Горацкага падпольнага цэнтра”, у час якога ішло абмеркаванне гэтага важнага пытання.

Пасля гэтага пасяджэння П.І. Яцун дастаў тапаграфічныя карты Горацкага і іншых раёнаў вобласці, 2 біноклі, компасы. А.І.Трэмба, М.К. Дурнеў і В.П.Махлаёў арганізавалі рамонт зброі ў кузні цагельнага завода. Камсамолкі Еўдакія і Вольга Вераб'ёвы, якія працавалі ў шпіталі, здабылі медыкаменты.

У пачатку мая невялікімі групамі падпольшчыкі пайшлі ў лес і далучыліся да ўжо існуючага з сакавіка 1942 года атрада А.В.Шульгіна і Д.Ф. Вайстрова.

У Горках засталіся члены партыйнага цэнтра П.І. Яцун і А.П. Кузняцоў. Раззлаваныя дыверсіямі, акупанты кінулі ўсе сілы на пошук падпольшчыкаў. І хутка яны напалі на след патрыётаў. А.П.Кузняцоў быў арыштаваны. Жорсткія катаванні не зламалі камуніста. Нічога не дабіўшыся, фашысты расстралялі героя. А праз некалькі дзён гітлераўцы схапілі П.І.Яцуна, А.С.Магазіншчыкава, І.С.Марчанка, В.П.Махлаева. Іх білі гумавымі дубінкамі, катавалі электрычным токам. Але патрыёты маўчалі.

12 ліпеня 1942 года гітлераўцы сагналі народ да былога адміністрацыйнага корпуса інстытута, дзе былі падрыхтаваны 4 шыбеніцы. Арыштаваныя, шчыльна акружаныя канвоем, ішлі босыя, акрываўленае аддзенне звісала шматкамі. Рукі вязняў былі скручаны калючым дротам, і толькі галовы, гордыя і нескароныя, высока падняты.

"Таварышы! Біце фашыстаў! Перамога будзе за намі!"– гэта апошнія словы Паўла Іванавіча Яцуна.

У той дзень немцы расстралялі больш за 50 падпольшчыкаў і іх сваякоў. Сярод іх былі В.І.Вераб'ёва, С.І.Дзені-

сенка, В.А.Асюцін, А.П.Грыгор'еў, М.І.Грамакоўскі і інш. Патрыёты, што засталіся ў жывых, пайшлі ў партызаны.

Пад уплывам гераічных перамог Чырвонай Арміі на тэрыторыі раёна пашыраўся партызанскі рух. У жніўні 1942 года горацкі партызанскі атрад быў пераўтвораны ў брыгаду "Звязда". Яна складалася з трох атрадаў, у якіх налічвалася 370 чалавек. Толькі ў жніўні – верасні лясныя байцы падарвалі 9 эшалонаў, вывелі са строю тэлефонную лінію Горкі – Шклоў, знішчылі 17 аўтамашын ворага.

Палітмасавую работу сярод насельніцтва праводзіў агіткалектыў у складзе 14 чалавек.

Для барацьбы з партызанамі восенню 1942 года фашысты накіравалі спецыяльны ахоўны полк. Аднак лясныя салдаты, умела манеўруючы, наносілі ўдары па карніках. Злосць за свае няўдачы гітлераўцы спаганялі на мірным насельніцтве.

17 кастрычніка 1942 года насельніцтву вёсак Машкова, Рэкатка і Добрая гітлераўцы "абвясцілі" загад наступнага зместу: "…Вядома, што жыхары вашай вёскі кармілі бандытаў (так фашысты называлі партызан – У.Л.) і дапамагалі ім. …Недалёка ад Рэкаткі знаходзіўся лагер, у будаўніцтве якога бралі ўдзел жыхары вёскі, і таму размяшчэнне яго, безумоўна, вядома вам.

Ваша вёска, нягледзячы на распараджэнне нямецкіх улад, да гэтага часу не выканала пастаўкі жывёлы і зерня…"

І далей новыя ўлады загадвалі забраць у сялян кароў і расстрэльваць усіх, хто дапамагае партызанам. Заканчваўся дакумент пагрозай: "…калі тут з'явяцца новыя члены банд, вёска будзе спалена і яе насельніцтва – расстраляна".

Аднак ні пагрозы, ні зверствы акупантаў не змаглі спыніць нарастаючае супраціўленне народа. Узаемадзеянне насельніцтва з партызанамі станавілася ўсё больш цесным.

1943 год азнаменаваўся новымі перамогамі Чырвонай Арміі над ворагам. Разгром гітлераўскіх войск пад Сталінградам азначыў карэнны пералом у ходзе вайны. Як і

ўсюды на захопленай ворагам тэрыторыі, партызанскі рух у Горацкім раёне яшчэ больш актывізаваўся. Гэтаму ў значнай меры садзейнічала арганізатарская дзейнасць Горацкага падпольнага камітэта КП(б)Б, створанага ў жніўні 1943 года. Яго сакратаром быў П.А.Цішкоў, членамі райкама – П.С.Рэвякоў, А.В.Шульгін, А.В.Аўсяннікаў, М.Ф.Коршунаў.

У снежні 1943 года ў Зубраўскім лесе сабралася партыйная канферэнцыя, якая абмеркавала пытанні ўмацавання партыйна-палітычнай работы сярод мясцовага насельніцтва. Вялікае значэнне надавалася друкаванай прапагандзе. Сістэматычна выдаваліся і распаўсюджваліся лістоўкі і звароты да насельніцтва, якія заклікалі савецкіх людзей да барацьбы з ворагам.

Самаадданa змагаліся з захопнікамі камсамольцы і моладзь. Да стварэння падпольнага райкама камсамольскай работай са жніўня 1942 года кіраваў упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ С.Я.Янчанка (у пасляваенны час доктар эканамічных навук, прафесар, працаваў загадчыкам кафедры палітэканоміі БДУ).

Падпольны райкам камсамола быў арганізаваны ў студзені 1943 года і базіраваўся ў 17-й, а затым у 35-й партызанскай брыгадзе. Сакратарамі яго са студзеня па снежань 1943 года выбіраліся С.Я.Янчанка, Б.П.Чарнякоў, М.Н. Маракоў, членамі райкома – А.З. Васільеў, З.Ф. Хаўранкова, В.Ф. Мацюшэнка, Ю.А. Бабруйскі, Г.Я. Глекаў, Е.Е. Дзмітрыеў.

Падпольны райкам ЛКСМБ накіроўваў дзеянні камсамольскіх арганізацый у партызанскіх атрадах і антыфашысцкіх падпольных групах. Апошнія былі ў вёсках Альхоўка, Напраснаўка, Аўсянка, Губіна, Рэкатка. У барацьбе з ворагам камсамольцы раёна праявілі мужнасць, адвагу і стойкасць.

Восенню 1942 года ў баі была схоплена параненая камсамолка Паша Ільюшына. Фашысты жорстка здзекваліся над васемнаццацігадовай дзяўчынай, выразалі ёй зорку на грудзях, зламалі рукі, ногі, а потым кінулі ў лесе. У маі

1943 года каля вёскі Тудараўка гітлераўцы па-зверску забілі 25 юнакоў, якія скрываліся ад адпраўкі ў Германію.

Побач з дарослымі гераічна змагаліся і юныя мсціўцы. Піянерам уступіў у партызанскі атрад Яўген Вераб'ёў з Рэкаткі. У атрадзе стаў камсамольцам. Удзельнічаў у баявых дзеяннях лясных салдат, быў узнагароджаны медалём "За адвагу". 1 ліпеня 1944 года разам з групай партызан папаў у засаду. Завязаўся бой. Яўген быў паранены разрыўной куляй у жывот. Калі фашысты падыйшлі да яго блізка, ён падарваў сябе проціватанкавай гранатай. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

У другім атрадзе 35-й партызанскай брыгады добрым разведчыкам быў піянер Коля Васільеў, якога партызаны звалі Коля Малы. Яму прысвечаны нарыс у кнізе "Піянеры-героі"(Мн., 1983). Гераічна загінуў у 1943 годзе піянер-партызан Пеця Шыцікаў. Яго імя насіў цеплаход - сухагруз, прыпісаны да порта горада Ізмаіла Адэскай вобласці.

На тэрыторыі Горацкага раёна ў гады вайны ў розны час дзейнічалі партызанскія брыгады "Звезда", "Победа", 14-я Цёмналесская, 17-я, 115-я Горацкая, атрады 2-і, 3-і, 112-ы Горацкі, П.Е.Казанкова, М.Д.Кохава, ініцыятыўныя групы брыгады "Чекист".

Толькі партызаны 124-га атрада 17-й брыгады за 1942–1943 гады ўзарвалі 18 эшалонаў і вывелі са строю 16 паравозаў і 244 вагоны, 5 чыгуначных мастоў, 11 кіламетраў тэлеграфна-тэлефоннай сувязі. Народныя мсціўцы гэтага атрада спалілі 8 маслазаводаў, знішчылі 300 афіцэраў, 4237 фашысцкіх салдат і 349 паліцэйскіх.

Да сярэдзіны 1943 года партызаны кантралявалі амаль палову тэрыторыі Горацкага раёна. Збываліся словы народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, сказаныя ім яшчэ ў пачатку вайны: "Я ведаю, што будзе рабіць мой народ. У захопленых ворагам раёнах узнікнуць партызанскія атрады… Паляцяць у паветры масты, склады, абозы… Пакуль будзе жывы хоць адзін беларус, не будзе на беларускай зямлі спакою фашысцкім захопнікам".

У кастрычніку 1943 года Горкі пачулі гул баёў пад Леніна. 23 кастрычніка газета "Правда" паведаміла: "Выконваючы баявое заданне савецкага камандавання, польскія пехацінцы дывізіі імені Тадэвуша Касцюшкі і танкісты воінскай часці імені герояў Вестэрплаттэ ў раёне Леніна прарвалі абарону немцаў і імклівай атакай выбілі іх з некалькіх населеных пунктаў. Праціўніку нанесены вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. Каля 300 гітлераўцаў, у тым ліку 13 нямецкіх афіцэраў, здаліся ў палон палякам".

За праяўлены ў бітве пад Леніна гераізм сотні савецкіх і польскіх воінаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі. А камандзіру батарэі лейтэнанту Г.Р. Лахіну, капітанам Войска Польскага В.Высоцкаму і Ю. Гюбнеру, радавой А. Кжывонь прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У канцы 1943 года Чырвоная Армія вызваліла ўсходнюю частку Горацкага раёна. Лінія фронту праходзіла па рубяжы Леніна – Горы – Дрыбін і далей па рацэ Проня. Яна заставалася нязменнай на працягу дзевяці месяцаў, аж да самага пачатку аперацыі "Багратион".

У вёсцы Горы Горацкага раёна быў арганізаваны райвыканкам і РК КПБ, іншыя раённыя ўстановы, якія на тэрыторыі двух сельскіх Саветаў: Горскага і Каменскага– пачалі праводзіць работы па аднаўленню мірнага жыцця.

Як раз у гэты час у Горы прыехаў вядомы пісьменнік, паэт, публіцыст і грамадскі дзеяч Ілля  Эрэнбург.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ён, з’яўляючыся вайсковым карэспандэнтам, надрукаваў больш за 1300 артыкулаў, нататкаў і фельетонаў у савецкім і замежным друку.

У час знаходжання на фронце Ілля Эрэнбург разам з пісьменнікам Васілем Гросманам збіраў матэрыялы аб знішчэнні фашыстамі насельніцтва. Потым гэтыя матэрыялы, ужо пасля смерці пісьменніка, былі надрукаваны ў “Черной книге” (О злодейском повсеместном убийстве евреев немецко-фашистскими захватчиками во временно оккупированных районах Советского Союза и в лагерях Польши во время войны 1941-1945гг). Адна са старонак гэтай кнігі прысвечана падзеям, што адбыліся ў вёсцы Горы Горацкага раёна.

У артыкуле “В местечке Горы” ён пісаў: “У мястэчку Горы жыло шмат яўрэяў: рабочыя лесазавода (ён памыляўся, у Гарах быў ільнозавод — У.Л.), рамеснікі – саматужнікі, калгаснікі "Чырвонага сцяга", кавалі, шаўцы і краўцы... Хто не ведаў каваля Абрама Альтшулера? Былі ў Гарах дзесяцігодка, бібліятэка, вялікі клуб, бальніца, парк культуры і адпачынку...

Прыйшлі немцы. Афіцэр убачыў на бруку шасцігадовага хлопчыка і застрэліў яго. Гэта было пачаткам.

Зранку 19 кастрычніка 1941 года немцы акружылі мястэчка. У хату васьмідзесяцігадовага Эфраса ўварваўся немец. Стары маліўся. Немец схапіў яго за руку: "Ідзі!" Эфрас адказаў: "Не чапай! У мяне хопіць сілы дайсці да магілы". З суседняга дома немцы выцягнулі інваліда Гурэвіча: яго жонка Міра плакала. Гурэвіч гаварыў: "Міра, не трэба плакаць". Яўрэяў павялі да завода. Там была выкапана вялізная магіла. Старая Рахлеў крычала: "Вам не забудуць кроў гэтых немаўлятак ! Вы адкажаце за ўсё..." Яе забілі першай. Яўрэяў распранулі. "Холадна", - крычалі маленькія дзеці. Хана Гурэвіч закрычала: "Не дам гадам здзекавацца над маім дзіцяці", апошнім забілі старога Эфраса.

21 сакавіка 1944 года (пісьменнік памыляўся, гэта адбылося 29 верасня 1943 года - У. Л.) Чырвоная Армія вызваліла мястэчка Горы. Адкапалі магілу каля завода і ўбачылі страшэннае відовішча: жанчына з дзіцём на руках, немаўлятка, які абхапіў рукамі шыю старой, напэўна, сваёй бабулі, сотні трупаў.

Над раскапанай магілай адбыўся мітынг воінскай часці. Афіцэр Конішчаў сказаў: "Запомніце, таварышы, гэту магілу! Паклянёмся адпомсціць немцам за кроў нявінных савецкіх людзей". Радавы Троцкі сказаў: "Ідучы у бой, я буду вечна памятаць аб гэтай магіле".

Як вядома, пасля гэтага адбылося складанне “Акта о зверствах немцев в местечке Горы Могилёвской области БССР 16 марта 1944г.”, дзе апавядаецца аб тым, што было расстраляна больш за 200 чалавек. Акт знаходзіцца ў

фондзе 49-й арміі (Дзяржаўны архіў Міністэрства абароны Расіі, вопіс 9733, справа 120, ліст 69).

Раніцай 23 чэрвеня 1944 года шквал артылерыйскага агню і бомбавых удараў  абрушыўся на ворага. Пачалося магутнае наступленне Чырвонай Арміі. Абарона праціўніка была прарвана.

К вечару 26 чэрвеня 1944 года ў Горкі ўступіў 329-ы стралковы полк пад камандаваннем падпалкоўніка В.А. Гусева.

Уся краіна з паведамлення савецкага інфармбюро пачула такія словы: ”На Могилевском направлении наши войска, успешно продвигаясь вперед, с боем овладели районным центром Могилевской области городом Горки…»

У баях за вызваленне Горацкага раёна загінула нямала савецкіх воінаў. Яны спяць вечным  сном у брацкіх магілах у горадзе Горкі, вёсках Леніна, Старына, Сафонава, Паршына, Стараселле, Горы і іншых вёсках раёна.

У гісторыю Вялікай Айчыннай вайны залатымі  літарамі ўпісаны імёны 40 Герояў Савецкага Саюза, якія ваявалі на горацкай зямлі.

У гады вайны некалькі тысяч нашых землякоў актыўна ўдзельнічала ў барацьбе з фашыстамі. Многія з іх гераічна загінулі. Іх імёны ўнесены ў раённую кнігу “Памяць”.Сярод іх шэсць братоў Цыганковых з вёскі Горы – Аляксандр, Арсеній, Кірыл, Мацвей, Фядосій, Васіль. Трагічнаму лёсу братоў прысвечаны нарыс “Буслы над Запруддзем” журналіста Горацкай раённай газеты “ Ленінскі шлях” Пятра Дзетліковіча.

На жаль, гэты спіс не зусім поўны. Ужо пасля выхаду кнігі “Памяць”стала вядома, што ў гады вайны загінулі два браты Цімошчанкі – Рыгор і Ануфрый з вёскі Андзекалава Горацкага раёна, якія да вайны жылі і вучыліся ў Горках. Як успамінае іх родная сястра, якая жыве зараз у Горках, Цімошчанка Марыя Трыфанаўна,”...старшы сяржант Рыгор Трыфанавіч, 1918 года нараджэння, прапаў без звестак у верасні 1944 года, лейтэнант Ануфрый Трыфанавіч, 1919 года нараджэння, загінуў 16 ліпеня 1941 года”.

Тысячы ўраджэнцаў раёна ўзнагароджаны баявымі ордэнамі, а 4 з іх удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза.

Іван Ігнатавіч Якубоўскі ўдастоены гэтага звання двойчы. Біяграфія палкаводца пачалася на беларускай зямлі. ”Радзіма мая — зямля беларуская. Год нараджэння – 1912. Дзяцінства, маленства і юнацтва непарыўна звязаны з вёскай Зайцава Горацкага раёна, што на Магілёўшчыне, — пісаў у адным са сваіх біяграфічных артыкулаў Іван Ігнатавіч.– Сям'я наша была вялікая. Жылі надзвычай бедна, нярэдка галадна, апраналіся ў зрэбнае палатно, насілі лапці. У сям'ю рана прыйшло гора: у 1917 годзе памерла маці, Акуліна Андрэеўна”.

Пачатковую школу ён скончыў у вёсцы Куртасы, сямігодку – у Горках. "Аб сваіх школьных гадах я ўспамінаю як аб нялёгкіх", – пісаў маршал.

"Нялёгкіх", – сказана занадта мякка. Кожны дзень дваццаць кіламетраў ішоў ён у асенняе бездарожжа і зімовую сцюжу ў зрэбных штанах, даматканай світцы і лапцях.

З вялікай удзячнасцю ў кнізе "Зямля ў агні" І.І.Якубоўскі ўспамінае дырэктара сямігодкі Зянкевіча, настаўнікаў Мажайскую, Кіслякова, Ксенджука, Старашыцкага і іншых.

Пасля заканчэння школы некаторы час працуе ў Горках на цагельным заводзе, а затым па камсамольскай пуцёўцы паступае ў Аршанскі педагагічны тэхнікум.

З мая 1932 года – курсант аб'яднанай беларускай ваеннай школы імя ЦВК БССР. З гэтага часу пачынаецца яго служба ў радах Чырвонай Арміі.

Вялікую Айчынную вайну капітан Якубоўскі сустрэў пад Мінскам, дзе камандаваў танкавым батальёнам, і першы свой ордэн Баявога Чырвонага Сцяга атрымаў за абарончыя баі ў Беларусі.

Бачачы здзек, гвалт, якія чынілі ў роднай краіне прышэльцы, Іван Ігнатавіч пісаў жонцы, Зінаідзе Фёдараўне, ў кастрычніку 1941 года: "Як сын нашай партыі і патрыёт зямлі рускай, добра помню нашых продкаў – Суворава і Кутузава. За рускі народ, за нашу зямлю, за слёзы нашых братоў і сясцёр без літасці буду граміць подлых бандытаў".

Ён стрымаў сваю клятву. За 1418 дзён вайны ўдзельнічаў у сотнях бітваў, з баямі прайшоў каля пяці тысяч кіламетраў.

Вясной 1943 г. І. І. Якубоўскі фарміруе 91-ю асобную танкавую брыгаду, з якой прайшоў шлях ад Сталінграда да Прагі. Брыгада была ўзнагароджана ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Суворава і Багдана Хмяльніцкага. 18 яе выхаванцаў удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Танкавая брыгада асабліва вызначылася 7 лістапада пры вызваленні г. Фастава, за што ёй было прысвоена найменне Фастаўская. А камандзіру брыгады І. І. Якубоўскаму за ўмелае кіраўніцтва, асабістую мужнасць і гераізм было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго прызначаюць намеснікам камандзіра 6-га гвардзейскага танкавага корпуса.

Мужнасць і бясстрашнасць маладога камандзіра, а часам і пагарда да небяспекі здзіўлялі многіх. Былы воін 6-га гвардзейскага танкавага корпуса Б. Разумаў успамінаў: «Багата на вачах прайшло камандзіраў у розных званнях, але Якубоўскі запомніўся адразу. Крочыць палкоўнік, высокі, стройны, мужны, валявы твар, Герой Савецкага Саюза. А мы, салдаты, ведалі, што Герояў на вайне давалі толькі героям і толькі за подзвіг. Ну, думаем, цяпер наш корпус папрэ, дадзім нямецкім ваякам дыхту. Уяўляеце, нейкі новы прыліў храбрасці і бязбоязнасці невядома адкуль з'явіўся, бо вынослівыя камандзіры, смелыя, валявыя і рашучыя натхняюць на вайне нават без заклікаў, каманд».

Як адзначае ў кнізе «Часовые стоят на посту» пісьменнік А. Первенцаў, “...у бітвах лета 44-га Якубоўскі знаходзіцца ў росквіце сваіх сіл. І гэтыя сілы ён не траціць упустую. Падначаленае яму аб'яднанне становіцца таранным. Хтосьці назваў яго сталёвым таранам генерала Рыбалкі... “

У канцы ліпеня 1944 г. пад яго кіраўніцтвам частка корпуса, без пантоннага маста, фарсіравала раку Віслу і захапіла плацдарм на левым яе беразе, што дазволіла паспяхова фарсіраваць раку ўсяму злучэнню. У гэтай

аперацыі ў поўнай меры раскрыўся палкаводчы талент Якубоўскага. 23 верасня 1944 г. яму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза паўторна.

Пасля вайны І. І. Якубоўскі займаў адказныя пасады ў войсках. З 1957г. ён – першы намеснік Галоўнакамандуючага і Галоўнакамандуючы групы войск у Германіі. З 1956 г. – камандуючы войск Кіеўскай ваеннай акругі, з 1967 г. – першы намеснік міністра абароны СССР і Галоўнакамандуючы Аб'яднаных узброенных сіл краін Варшаўскага Дагавору. Маршал Савецкага Саюза І.І.Якубоўскі ўзнагароджаны 4 ордэнамі Леніна, 8 іншымі ордэнамі, медалямі, 11 ордэнамі і медалямі замежных краін. Памёр 30.11.1976 г. У г. Горках у 1953 годзе ўстаноўлены бюст маршалу.

Яго жонка, Зінаіда Фёдараўна, успамінала: "Вельмі любіў Іван Ігнатавіч сваю родную Беларусь. У памяць аб сваёй зямлі ён, дзе б ні жыў, – у Германіі, Львове ці ў Падмаскоўі, высаджваў побач з домам тры беластвольныя бярозкі: такія бярозкі раслі ля парога яго роднага дома.

У свой час – ужо генералам — ён марыў вярнуцца ў Беларусь служыць і працаваць... Але лёс распарадзіўся інакш. Ён быў салдатам Айчыны".

Невялічкая вёска Сахараўка Добраўскага сельскага Савета Горацкага раёна. Тут 8 мая 1921 г. у сялянскай сям'і нарадзіўся Рыгор Усцінавіч Дольнікаў.

Вучыўся ў Панкратаўскай васьмігодцы, у 1936 — 40 гг. у ФЗВ, працаваў слесарам на вагонарамонтным заводзе ў Мінску. Тут займаўся ў аэраклубе, а потым вучыўся ў Батайскай авіяцыйнай школе. Скончыў яе на "выдатна". У службовай характарыстыцы курсанта было запісана: "лятаць любіць, у палёце вынослівы. Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім і палітычным жыцці падраздзялення. Мэтазгодна выкарыстоўваць у знішчальнай авіяцыі... "

Аднак трапіць у знішчальнікі Дольнікаву адразу не ўдалося. Спачатку служыў у 25-м запасным авіяцыйным палку, што базіраваўся ў Азербайджане. Толькі вясной 1943 г. ён накіроўваецца на фронт, у 100-ы гвардзейскі знішчальны авіяцыйны полк, дзе ваявалі знакамітыя

лётчыкі: двойчы Герой Савецкага Саюза Д. Глінка і яго брат Б.Глінка.

За жнівень 1943 г. Р. Дольнікаў збіў тры варожыя самалёты. Аднак не мог ведаць ён, якое выпрабаванне рыхтаваў лёс у пяцьдзесят шосты вылет.

30 верасня 1943 г. эскадрылля атрымала загад – не прапусціць ніводнага самалёта да нашых пазіцый у раёне Вялікага Такмака. Шэсць знішчальнікаў падняліся ў паветра і сустрэліся з больш як 60 нямецкімі штурмавікамі Ю-87. Разгарэўся бой. Р. Дольнікаў наблізіўся да вядучага нямецкай групы і збіў яго. Толькі выйшаў з атакі – у прыцэле яшчэ адзін варожы самалёт. Палец націснуў на гашэтку, але пушка маўчала: скончыліся боепрыпасы. Р. Дольнікаў вырашае пайсці на таран, але ў гэты час фашысцкія лётчыкі падпалілі яго самалёт, і ён ледзь паспеў выкінуцца з парашутам.

Што было з ім потым, можна прачытаць у кнізе Р. У. Дольнікава «Летит стальная эскадрилья». Пасля працяглых допытаў Р. У. Дольнікава кінулі ў канцлагер. Але і тут ён не скарыўся. Увайшоў у падпольны камітэт. Двойчы арганізоўваў уцёкі. Аднак удалося збегчы толькі ў трэці раз — 2 снежня 1943 г.

А праз некаторы час ён апынуўся ў партызанскім атрадзе «За савецкую Радзіму». Ваяваў радавым, потым быў прызначаны начальнікам узбраення.

Вясной 1944 г., калі партызанскі атрад далучыўся да часцей Чырвонай Арміі, Р.У. Дольнікаў вярнуўся ў свой полк. А там верылі, што ён вернецца – нават лётную кніжку ў архіў не здалі.

Зноў пачаў ваяваць і збіў яшчэ 12 варожых самалётаў, зрабіўшы за вайну 160 баявых вылетаў. Фактычна ён заслугоўваў вышэйшай узнагароды – звання Героя Савецкага Саюза, але ў біяграфіі быў палон...

На працягу многіх пасляваенных гадоў Р. У. Дольнікаву прыйшлося прайсці некалькі праверак НКУС на надзейнасць. У артыкуле Б. Мацкевіча «Пасля першай не закусваю», надрукаваным у «Настаўніцкай газеце», пісалася, што былі і такія моманты ў жыцці Р. Дольнікава,

калі карцела “...прыставіць рэвальвер да скроні...”

У літаратуразнаўцаў ёсць версія, што прататыпам твора М.Шолахава “Судьба человека” быў менавіта Р.У.Дольнікаў.

Нягледзячы на жыццёвыя цяжкасці, ён усё вытрымаў і застаўся ў арміі. Служыў вельмі добра, воінскія званні маёр і палкоўнік яму былі прысвоены датэрмінова.

У 1955 г. Р. У. Дольнікаў скончыў Ваенна-паветраную акадэмію, у 1965 г. яму было прысвоена званне «Заслужаны ваенны лётчык СССР». Стаў кандыдатам гістарычных навук.

За асабістую мужнасць і адвагу, праяўленыя ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікай Айчыннай вайне, поспехі ў баявой падрыхтоўцы войск, авалодванні складанай баявой тэхнікай і ў сувязі з 60-годдзем Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту Р. У. Дольнікаву 21 лютага 1978 г. было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

31 мая 1994 г. рашэннем прэзідыума Горацкага гарадскога Савета дэпутатаў Р. У. Дольнікаву прысвоена званне «Ганаровы грамадзянін г. Горкі».

Стаяў зімовы халодны дзень. Воіны Чырвонай Арміі, зламаўшы ўпартае супраціўленне праціўніка, выйшлі на рубеж ракі Одэр. Сярод наступаючых былі воіны 1052-га палка 301-й стралковай дывізіі 1-га Беларускага фронту.

Перад узводам, якім камандаваў малодшы лейтэнант Шорнікаў і дзе служыў старшынёй Фёдар Антонавіч Угначоў, была пастаўлена задача — фарсіраваць раку і замацавацца на супрацьлеглым беразе.

Доўгія, пакутлівыя гадзіны перад наступленнем. Успамінаў Угначоў сваю родную вёску Слабада, што размясцілася каля чыгуначнай станцыі Зубры Горацкага раёна. Тут 2 студзеня 1913 г. нарадзіўся ён у сям’і селяніна, скончыў школу і спачатку працаваў у калгасе, потым дзесятнікам у Горацкім леспрамгасе. У 1935 - 1937 г.г. служба ў Чырвонай Арміі. Калі вярнуўся ў родную вёску,

то спачатку ўзначальваў паляводчую брыгаду, а затым кіраваў жывёлагадоўчай фермай. Марыў паступіць у Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Але пачалася вайна.

З першых дзён на фронце, быў двойчы паранены і кантужаны, узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны І-й ступені, трыма медалямі. І вось зноў на перадавой...

З задумення Фёдара Угначова вывела чырвоная ракета. Па гэтаму ўмоўнаму сігналу байцы падняліся ў атаку. Фашысты абрушылі шквал кулямётна-аўтаматнага агню. Але спыніць байцоў было ўжо немагчыма, і яны хутка ўварваліся ў варожыя траншэі. Кідаючы зброю, гітлераўцы ў паніцы пабеглі.

У момант схваткі гераічна загінуў камандзір узвода. І таму прыйшлося Фёдару Антонавічу, як старшыне, узяць камандаванне на сябе.

Пачало світаць. І гітлераўцы, апрытомнеўшы, зноў пачалі наступаць. Першую атаку праціўніка адбілі хутка, і тады пачала біць варожая артылерыя. Зноў атака, – і так некалькі разоў.

Па рацыі Угначоў папрасіў падтрымкі. У адказ паступіў загад: пратрымацца яшчэ некалькі гадзін. Пазней, калі скончыўся гэты бой, ён даведаўся, што яго падраздзяленне адцягвала ўвагу ворага ў той час, калі асноўныя сілы дывізіі фарсіравалі раку Одэр у другім месцы і занялі населены пункт Ортвых.

Сем гадзін змагаўся з ворагам, сцякаючы крывёю, узвод. У ходзе баёў за плацдарм былі знішчаны тры танкі і бронетранспарцёр, звыш 50 гітлераўцаў.

6 красавіка 1945 г. Фёдару Антонавічу Угначову было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

Пасля вайны ён вярнуўся дадому, на родную Беларусь. Потым працаваў у Сотрынскім леспрамгасе Свярдлоўскай вобласці. Апошнія гады жыў і працаваў у гарадскім пасёлку Слабадзея, што ў Малдове. Памёр у 1978 годзе.

Зараз педагагічны атрад Горацкага педагагічнага каледжа, які знаходзіцца ў в. Леніна, носіць імя Ф.А. Угначова.

Мікалай Фаміч Шындзікаў нарадзіўся 30 кастрычніка

1925 г. у вёсцы Любіж.

Скончыў пяць класаў Цімохаўскай сямігадовай школы. У 1939 г. сям'я пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў сяло Тэнгулы Марыінскага раёна Кемераўскай вобласці.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, бацька Фама Іванавіч пайшоў на фронт, і Мікалаю, старэйшаму з пяці дзяцей, давялося ўзяць на сябе ўсе клопаты аб сям'і. Пасля заканчэння сямі класаў ён працаваў у калгасе "Перамога", затым вучыўся ў школе механізатараў пры Благавешчанскай МТС, стаў трактарыстам.

29 снежня 1943 г. Мікалай быў прызваны ў Чырвоную Армію. Неўзабаве ён стаў механікам-вадзіцелем танка Т-34.

Ішоў ліпень 1944 г., войскі 1-га Беларускага фронту, зламаўшы жорсткае супраціўленне ворага, пачалі вызваленне Беларусі. І сярод тых, хто па-геройску змагаўся з фашыстамі, быў Мікалай Шындзікаў.

Палкоўнік запасу М. Махаў у газеце "Камсамолец Кузбаса" пісаў: "У адным з баёў танк гвардыі малодшага лейтэнанта Паўла Махава, дзе механікам-вадзіцелем быў гвардыі сяржант Мікалай Шындзікаў, першым вырваўся ўперад. Змяў кулямёт, супрацьтанкавую гармату і падышоў да лесу, дзе знаходзіўся дзот, які сваім агнём перашкаджаў наступленню стралковага падраздзялення. Калі разнеслі на кавалкі дзот ворага і рассеяўся пыл, праз вузкую назіральную шчыліну Шындзікаў убачыў сілуэты нямецкіх "тыграў".

– Лейтэнант, "тыгры"! - крыкнуў ён камандзіру танка.

– Бачу... Коля, жмі,- адказаў камандзір.

Яны ўступілі ў паядынак з двума "тыграмі" і пасля гарачай схваткі падбілі іх. Раптам нечаканы моцны ўдар. Прамым пападаннем варожага снарада танк быў выведзены з бою. Кантужаны, пераадольваючы боль, Шындзікаў адкрыў люк танка, дапамог выбрацца з ахопленай полымем машыны параненаму камандзіру.

У гэты час гітлераўцы беглі да падбітага танка. Мікалай укрыў лейтэнанта, лёг каля танка і з аўтамата даў доўгую чаргу. Свінцовы струмень знішчыў некалькі фашыстаў.

Другая, трэцяя і чацвёртая спробы захапіць танкістаў у палон дорага абышліся ворагу.

...Расстраляны апошні магазін. Вораг зразумеў гэта і зноў кінуўся на танкістаў. Гітлераўцы зусім побач. Вось ранены афіцэр падпоўз да сяржанта, падаў яму свой аўтамат і крыкнуў:

– Я дрэнна бачу... Страляй. А мне дай гранату.

– Рус, здавайся!

– На, вазьмі — крыкнуў лейтэнант і кінуў гранату ў гітлераўцаў. У гэты час зусім блізка раздалося роднае ”ура! ”

Праз некалькі дзён механік-вадзіцель гвардыіі сяржант Мікалай Шындзікаў апрабаваў новы танк, на якім з баямі прайшоў звыш 500 кіламетраў. Але асабліва цяжкімі былі кіламетры, пройдзеныя воінамі ў Польшчы. Вораг чапляўся за кожны метр зямлі.

16 студзеня 1945 г. М. Ф. Шындзікаў на сваім танку імкліва ўварваўся ў горад Сахачоў. Экіпаж танка знішчыў у тым баі 35 адступаючых аўтамашын з рознымі грузамі, дзве гарматы разам з артылерыйскай прыслугай, 25 павозак з боепрыпасамі і прадуктамі харчавання, 46 салдат і афіцэраў.

19 студзеня ў баях за горад Любань гусеніцамі танка была знішчана гармата. Затым, імкліва ўварваўшыся на аэрадром, экіпаж танка знішчыў тры самалёты, якія імкнуліся ўзняцца ў паветра.

У ноч на 22 студзеня батальёну была пастаўлена задача авалодаць горадам Інаўрацлаў. Група ў складзе чатырох танкаў, у якой была і машына Мікалая Шындзікава, першай уварвалася ў горад, захапіла чыгуначную станцыю, тэлеграф, радыёвузел і аэрадром праціўніка. Працягваючы наступленне, танкі перарэзалі дарогу ў заходняй частцы горада і закрылі шлях для адыходу праціўніка. Экіпажам былі знішчаны 41 аўтамашына,4 самалёты і 56 фашыстаў.

У гэтым баі гвардыі сяржант М. Ф. Шындзікаў загінуў. За ўзорнае выкананне заданняў камандавання і праяўленыя пры гэтым адвагу і гераізм 27 лютага 1945 г. яму бы-

ло пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Адважны танкіст быў пахаваны з воінскімі шанаваннямі ў брацкай магіле горада Сахачоў.

Імя Мікалая Фаміча Шындзікава прысвоена школе сяла Тэнгулы Марыінскага раёна Кемераўскай вобласці. У 2006 годзе на будынку Аўсянкаўскай сярэдняй школы Горацкага раёна ў гонар героя была ўстаноўлена мармуровая дошка.

У гады вайны праславіліся нашы зямлякі – генералы. Сярод іх быў Ф.І. Кузняцоў. Ён нарадзіўся 29 верасня 1898 года ў вёсцы Балбечына Горацкага павета ў сям'і малазямельнага селяніна. Скончыўшы царкоўна-прыхадскую школу, працаваў з бацькам па гаспадарцы. А калі пачалася першая імперыялістычная вайна, Фёдара прызываюць на службу ў царскую армію. Храбрага хлопца прыкмецілі і залічылі ў школу прапаршчыкаў. Але хутка смелы камандзір выбыў са строю. Ён быў кантужаны снарадам, які разарваўся паблізу, і быў эвакуіраваны ў ваенны шпіталь г. Оршы. Лячэнне праходзіла даволі паспяхова. Малады арганізм браў сваё, і хутка Кузняцоў зноў быў на фронце. Яго прызначылі камандаваць разведчыкамі палка.

Пасля дэмабілізацыі з царскай арміі вярнуўся ў родную вёску, дзе яго выбралі сакратаром валаснога Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў.

З архіўных дакументаў бачна, што ў гэты час у Горацкім павеце ў Чырвоную Армію запісалася 156 добраахвотнікаў. З іх 51 чалавек, найбольш падрыхтаваных, адразу пачалі службу. Сярод іх быў і Ф.І. Кузняцоў.

У экспазіцыі Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея, прысвечанай Ф.І.Кузняцову, ёсць цікавы дакумент. Гэта газета "Известия Горецкого уездного Совета рабочих, крестьянских и солдатских депутатов". У ёй змешчаны спіс кандыдатур для выбару на пасаду камандзіра Горацкага атрада. З дзевяці кандыдатур байцы выбіраюць Кузняцова.

Вогненные віхуры грамадзянскай вайны звялі яго ў тыя дні з 8-й Мінскай Чырвонасцяжнай дывізіяй. Ф.І.Кузняцоў

камандаваў батальёнам. У 1920 - 1921 гадах ён актыўна ўдзельнічаў у барацьбе з бандамі ў Слуцкім і Бабруйскім паветах. За баявыя заслугі ў змаганні з ворагамі Савецкай ўлады Фёдар Ісідоравіч быў узнагароджаны двума ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга.

Пасля грамадзянскай вайны малады камандзір застаўся ў арміі. У 1923 годзе паступае ў Ваенную акадэмію імя Фрунзе. Паспяхова скончыўшы яе, камандуе палком.

У 1930 годзе яго прызначаюць начальнікам вучэбнага аддзела Маскоўскай Чырвонасцяжнай пяхотнай школы. Праз два гады ён ужо начальнік гэтай праслаўленай школы, у якой вучыліся многія камандзіры, у далейшым вядомыя ваеначальнікі. Затым кіруе кафедрай тактыкі Ваеннай Акадэміі імя Фрунзе. У гэты час у розных ваенных газетах і часопісах з'яўляюцца яго артыкулы па пытаннях тактыкі.

З ліпеня 1938 па 1940 год Ф.І.Кузняцоў быў намеснікам камандуючага войскамі Беларускай ваеннай акругі. Ён аддаваў шмат часу баявой і палітычнай падрыхтоўцы злучэнняў і часцей. Тады Фёдар Ісідоравіч працаваў разам з Г.К.Жукавым, які быў намеснікам па конніцы і бранятанкавых войсках.

У снежні 1940 года ён прызначаецца камандуючым войскамі Прыбалтыйскай асобай акругі. Новы раён, параўнаўча невялікія сілы, якія былі ў распараджэнні камандавання акругі (кожная дывізія прыкрывала ўчастак граніцы працягласцю звыш 40 км) патрабавалі шэрагу мер па інжынернаму абсталяванню тэатра ваенных дзеянняў, па падрыхтоўцы войск і вядзенню аперацый абмежаванымі сіламі. У лютым 1941 года Фёдару Ісідоравічу было прысвоена званне генерал-палкоўніка.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, пастаўленыя раптоўным нападзеннем ворага ў выключна цяжкае становішча, малакалькасныя войскі акругі не змаглі адбіць удар агрэсара і адступілі.

Ф.І. Кузняцову было даручана ўзначаліць войскі 21-й арміі. У перыяд бітвы за Смаленск армія нанесла нечаканы для фашыстаў контрудар на бабруйскім напрамку. 13

ліпеня яе злучэнні фарсіравалі Днепр і імклівым ударам вызвалілі Рагачоў і Жлобін. Поспех нашых войск, якія з захаду абыходзілі магілёўскую групоўку праціўніка, сур'ёзна ўстрывожыў гітлераўскае камандаванне. На гэты ўчастак былі перакінуты новыя сілы. Наступаючыя войскі 21-й арміі скавалі восем пяхотных дывізій ворага і нанеслі ім значны ўрон.

У ліпені 1941 года па рашэнню Стаўкі быў створаны новы фронт – Цэнтральны на чале з камандуючым Ф.І. Кузняцовым.

Неўзабаве генерал-палкоўнік Ф.І.Кузняцоў быў прызначаны камандуючым войскамі асобнай 51-й арміі ў Крыме. Нягледзячы на недахоп узбраення і няпоўную ўкамплектаванасць, армія гераічна змагалася з фашыстамі, што перашкодзіла ім хутка прасоўвацца ў Крым і з ходу захапіць Севастопаль.

У красавіку 1942 года пасля цяжкай кантузіі на фронце Ф.І.Кузняцоў прызначаецца начальнікам Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба. А ў жніўні 1943 года ён зноў на фронце – намеснік камандуючага войскамі Волхаўскага фронту. 14 студзеня 1944 года пачалося наступленне савецкіх войск пад Ленінградам і Ноўгарадам, якое завяршылася разгромам буйной групоўкі гітлераўцаў. У выніку больш чым паўтарамесячных баёў Савецкая Армія нанесла цяжкае паражэнне нямецка-фашысцкай групе армій "Поўнач". У ходзе баёў былі разбіты 26 варожых дывізій. За актыўны удзел у гэтай аперацыі ў сакавіку 1944 года генерал-палкоўнік Ф.І.Кузняцоў быў узнагароджаны ордэнам Суворава 2-й ступені, а напрыканцы вайны – двума ордэнамі Леніна, трэцім ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга, многімі медалямі.

У сувязі з хваробай, якая ўскладняла яго знаходжанне на фронце, Ф.І.Кузняцоў прызначаецца камандуючым войскамі Уральскай ваеннай акругі. На гэтым пасту ён аддаваў усе сілы справе падрыхтоўкі рэзерваў фронту.

Хвароба ўсё часцей непакоіла генерала. Трыццаць гадоў жыцця аддаў ён служэнню Радзіме. Памёр Фёдар Ісідоравіч Кузняцоў у сакавіку 1964 года. Як ужо ад-

значалася ў кнізе, адна з вуліц нашага горада носіць яго імя.

"Лётчик от Бога: в пургу, слякоть и туман он сажал боевые машины с оторванными хвостами и обломанными крыльями", - так пра Мікалая Міхайлавіча Кідалінскага казалі лётчыкі, якім давялося ваяваць разам.

Наш зямляк Мікалай Міхайлавіч нарадзіўся ў Горках ў маі 1907 года. Калі бацька пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны, васьмігадовы Мікалай пасвіў скаціну па найму, потым працаваў на заводзе сельскагаспадарчых машын.

У 1926 годзе ён паступае ў артылерыйскае вучылішча, пасля якога служыць у другім Беларускім артылерыйскім палку ў якасці камандзіра ўзвода. Далей за плячыма засталіся школы ваенных лётчыкаў у г. Ленінградзе і ў г. Барысаглебску.

З 1932 года пачалася ў Мікалая Міхайлавіча ваенная кар'ера лётчыка, якой ён прысвяціў дваццаць год свайго жыцця. У пачатку 1933 года ён добраахвотнікам быў накіраваны ў Кітай для аказання дапамогі кітайскаму народу ў барацьбе з японскімі акупантамі.

Уся яго далейшая служба была засакрэчана, вядома толькі, што былі камандзіроўкі ў Іспанію, Італію, Польшчу і Германію.

Потым, працуючы інспектарам па тэхніцы пілатавання 2-га бамбардзіровачнага авіяпалка ў Варонежы ў 1938-1940 гг. ён ўстанавіў некалькі рэкордаў палёту ноччу па замкнутай лініі.

Мікалай Міхайлавіч быў удзельнікам савецка-фінскай вайны 1939-40 гг, калі камандаваў палком цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў.

Вялікую Айчынную вайну ён сустрэў камандзірам першага знішчальнага палка, які ўваходзіў у склад 51 асобнай арміі. Яна абараняла г. Ленінград. Потым ён – камандзір 134-й авіяцыйнай дывізіі Архангельскай ваеннай акругі, намеснік камандуючага ўдарнай авіягрупай Стаўкі Вярхоўнага Галоўнага Камандавання Ваенна-паветраных сіл Карэльскага фронту, камандзір 5-ай бамбардзіровачнай авія-

брыгады Ваенна-паветраных сіл Паўночнага флоту. У выніку баявой дзейнасці гэтай авіябрыгады было патоплена 29 транспартаў, адзін вартавы і два дазорныя караблі.У паветраных баях было збіта 11 самалётаў праціўніка. За баявые поспехі брыгада пад камандаваннем Кідалінскага была ўзнагароджана ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга.

У канцы 1944 г Кідалінскі быў накіраваны ў г. Севастопаль на пасаду начальніка берагавой абароны Чарнаморскага флоту. Там ён і сустрэў Дзень Перамогі. У час службы ён вучыцца на вышэйшых курсах удасканалення ВПС пры ваеннай акадэміі.

А праз тры гады быў прызначаны камандзірам авіяцыйнага корпуса ў г. Чарнігаве, ў 1952 годзе – камандуючым 2-ой паветранай арміі .

15 кастрычніка 1952 года генерал-маёр М.М.Кідалінскі загінуў пры выкананні службовых абавязкаў. Яму было ўсяго 45 гадоў.

Пахаваны М. М. Кідалінскі ў Горках у скверы па вуліцы Савецкай. У Горацкім гістарычна - этнаграфічным музеі ёсць стэнд, які апавядае пра славутага земляка, яго асабістыя рэчы. У канцы 90-х гг. быў створаны тэлефільм "Торпедоносцы", дзе паказана жыццё і баявыя дзеянні 5-ай бамбардзіровачнай авіябрыгады, якой камандаваў Кідалінскі. Пра Мікалая Міхайлавіча напісана ў кнізе "Адмиралы земли белорусской", выдадзенай у Мінску.

М.М.Кідалінскі быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам СССР – ордэнам Леніна, ордэнам Ушакова 2 ступені, а таксама чатырма ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга і двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалямі "За оборону Ленинграда", "За оборону Советского Заполярья", "За оборону Севастополя" і іншымі.

У сакавіку 1943 года камандуючаму Ваенна-паветранымі Сіламі Закаўказскага фронту Н. Э.Глушанкову, нашаму земляку, паведамілі, што ў раёне Туапсэ фашысцкі лётчык скінуў вымпел. У запісцы было сказана, што нямецкі ас выклікае на паядынак рускага аса — адзін на адзін. Паведамляўся і дакладны час — раніца наступнага дня над Туапсэ. Камандуючы задумаўся і, як бы

разважаючы ўслых, сказаў: “Думаю, жадаючых даць бой фашыстам будзе дастаткова. Адзін ужо ёсць, Вы не забылі, што ў 1936 годзе я скончыў школу вышэйшага пілатажу?”

– Гэта немагчыма,- запярэчыў начальнік штаба.

– Як камандуючы, вы не маеце права рызыкаваць сваім жыццём. І потым, раптам паражэнне?

– А вось на гэта я сапраўды не маю права, – сказаў Нічыпар Эмануілавіч. – Фашысты вельмі самаўпэўнена лічаць, што мы не прымем выклік...

Фашысцкі "мессер" з'явіўся нават раней вызначанага часу. Ён куражыўся ў небе, быццам смяяўся: ну, дзе ж ваш храбрэц? Савецкі знішчальнік з'явіўся дакладна ў тэрмін, Н. Э. Глушанкоў зайшоў з боку сонца, вынырнуў з яго асляпляльных промняў. Атака была імклівай, і фашысцкі ас так і не паспеў зрабіць ніводнага выстрала. "Мессер" задыміў... Фашыст выскачыў з самалёта, не вытрымаўшы атакі, прызямліўся на нашай тэрыторыі і быў узяты ў палон. У зямлянку, дзе знаходзіўся ад'ютант камандуючага і перакладчык, прывялі палоннага аса, на мундзіры якога віселі два жалезныя крыжы.

У зямлянку ўвайшоў камандуючы. Убачыўшы залатыя пагоны, фашысцкі ас выцягнуўся ў струну і сказаў:

– Пан генерал, пакажыце мне лётчыка, які мяне збіў.

– Пакажыце яму, – дазволіў камандуючы.

– Ён перад вамі, – сказаў перакладчык.

– Як? Генерал? Але адкуль такая практыка ?

– Іспанія, – коратка адказаў камандуючы. Перакладу не спатрэбілася...

Наш зямляк Нічыпар Эмануілавіч Глушанкоў нарадзіўся 14 сакавіка 1902 года ў в. Зубры. У 1921 годзе скончыў пяхотную школу, а ў 1929 — школу лётчыкаў. Стаў ваенным пілотам.

У 1936 годзе Нічыпар Эмануілавіч скончыў школу вышэйшага пілатажу. Веды, атрыманыя ў гэтай школе, вельмі дапамаглі яму ў час вайны ў Іспаніі, дзе ён змагаўся ў якасці добраахвотніка. У Вялікую Айчынную вайну ваяваў на Крымскім і Закаўказскім франтах: намеснікам

камандуючага, а затым камандуючым Ваенна-Паветранымі Сіламі фронту.

Пасля вайны Нічыпар Эмануілавіч займаў пасаду камандуючага Ваенна-Паветранымі Сіламі Закаўказскай ваеннай акругі. Затым да 1958 года працаваў выкладчыкам у ваенных навучальных установах. Памёр 20 снежня 1959 года.

Наш зямляк быў узнагароджаны ордэнам Леніна, двума ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга, шматлікімі медалямі.

Генерал-маёр Парфірый Андрэевіч Сталяроў нарадзіўся 23.2.1900 года ў в. Ходараўка Горацкага павета. Вучыўся ў Горацкім рамесным вучылішчы, з канца 1918 года служыў у Чырвонай Арміі. У 1928 годзе скончыў ваеннае аддзяленне пры Ленінградскім электратэхнічным інстытуце і служыў інжынерам па радыё ў авіяцыі Чарнаморскага флоту. З 1940 года ён служыў у штабе ВПС і потым стаў першым начальнікам службы зямнога забеспячэння самалётаваджэння ВПС Чырвонай Арміі.

У час Вялікай Айчыннай вайны кіраваў гэтай службай і быў узнагароджаны ордэнам Леніна і іншымі ордэнамі і медалямі. Пасля вайны ўзначальваў радыётэхнічны факультэт Ваенна-паветранай акадэміі.

У 2006 годзе на будынку Палаца культуры в. Аўсянка Горацкага раёна ў гонар генерала была ўстаноўлена мармуровая дошка.

Генерал-маёр артылерыі Павел Ананьевіч Піліпенка нарадзіўся 16.12.1897 года ў в. Анікавічы Горацкага павета. З 1918 года ў Чырвонай Арміі. У 1932 годзе скончыў акадэмічныя курсы ўдасканалення камсаставу Чырвонай Арміі. З 1941 года ваяваў на Закаўказскім, Сцяпным, 1-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах – начальнікам штаба і намеснікам камандуючага артылерыі арміі, камандуючым артылерыі корпуса.Узнагароджан ордэнам Леніна, 8 іншымі ордэнамі, медалямі.

Генерал-маёр Анісім Сцяфанавіч Люхцікаў нарадзіўся ў 1898 годзе ў в. Кузавіна Горацкага павета. З 1918 года ў Чырвонай Арміі. Скончыў Ваенную акадэмію, быў начальнікам вучылішча ў Арэнбургу. У 1941 годзе камандаваў

стралковай дывізіяй. Удзельнічаў у бітве пад Масквой, у вызваленні Беларусі, Літвы, Усходняй Прусіі. Узнагароджаны дзесяццю ордэнамі, многімі медалямі.

Гераічна змагаліся з фашыстамі не толькі прафесійныя ваенныя.Так, праславіўся былы выхаванец сельскагаспадарчага інстытута, работнік Горацкага райвыканкама Лекам Ізрайлевіч Шапіра. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ён на фронце. І за два гады прайшоў шлях ад камандзіра ўзвода да камандзіра палка.

За ўдзел у баявых дзеяннях ён быў узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі і медаллю ” За баявыя заслугі”. Восенню 1943 года ён камандаваў 507-м стралковым палком 148-й стралковай дывізіі.У ходзе паспяховага наступлення на Украіне яго полк адарваўся ад асноўных сіл дывізіі і аказаўся ў тыле ворага. Аднак камандзір не разгубіўся, і полк сумесна з атрадамі партызанскага злучэння ўкраінскіх партызан (камандзір М.Г.Салай) правёў шэраг удалых аперацый у раёне Аўруча на тэрыторыі, занятай ворагамі, у выніку чаго немцы панеслі вялікія страты.

За дзеянні ў тыле ворага Л.І.Шапіра быў прадстаўлены камандаваннем да вышэйшай палкаводчай узнагароды "Ордэна Суворава". Так атрымалася, што гэта быў ордэн трэцяй ступені нумар 1.

У гады вайны праславіліся нашы землякі, якія ваявалі не толькі зброяй, а таксама пяром и пэнзлем. Так, вясной 1944 года ў атрад горацкіх партызан трапіла газета "Звязда", якая выдавалася падпольна на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Партызаны, асабліва адна з іх - Вера Міхайлаўна Шчарбатава - з радасцю чыталі ў газеце артыкул, аўтарам якога быў яе брат Георгій Шчарбатаў. Вось ужо некалькі гадоў Вера не чула пра свайго брата, і тут раптам гэта газета...

Больш за шэсцьдзесят гадоў прайшло з той памятнай падзеі. Зараз Вера Міхайлаўна Шчарбатава (па мужу - Фомчанка) на пенсіі.

Пра жыццёвы шлях свайго брата яна ўспамінала: "Георгій нарадзіўся 7 мая 1919 года ў вёсцы Рэкатка...Ён рана

навучыўся чытаць і чытаў вельмі многа. З дзяцінства марыў стаць настаўнікам. Вучыўся спачатку ў вёсцы, а потым у Горацкай беларускай школе. У 1936 годзе ён паступіў у Магілёўскае педвучылішча, пачаў пісаць свае першыя вершы і апавяданні. Потым працаваў настаўнікам, журналістам у абласным і рэспубліканскім друку”.

11 жніўня 1942 года па заданню ЦК КПБ у якасці карэспандэнта газеты “Савецкая Беларусь” быў накіраваны ў штаб Мінскага партызанскага злучэння, якім камандаваў Герой Савецкага Саюза Р.Н. Мачульскі. Потым пачынае працаваць у рэдакцыі газеты “Звязда”, удзельнічаў у баявых аперацыях партызан. Зімой 1944 года пад яго кіраўніцтвам было выпушчана чатырнаццаць нумароў гэтай газеты.

За гераізм і адвагу быў узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга і медалямі. Пасля вайны працаваў у газеце “Звязда”, “Известия”, рэдактарам часопіса “Маладосць”. У гэты час напісаў некалькі кніг аб партызанскім руху ў Беларусі. Памёр у 1957 годзе.

Мастак Ф.К. Яўмененка нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Леніна Горацкага раёна. Вучыўся ў Горках на рабфаку акадэміі. Потым паступіў у Маскоўскае  мастацкае вучылішча. У час вайны на фронце стварыў серыю малюнкаў аб гэтых гераічных гадах. Мастак рабіў замалёўкі пад абстрэлам, на маршы, на прывалах. Калекцыю сваіх твораў падарыў Ленінскай СШ Горацкага раёна, а серыю франтавых малюнкаў – Горацкаму гістарычна-этнаграфічнаму музею. У Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі ёсць яго калекцыя са 150 карцін. Памёр у 1978 годзе.

Стала бессмяротным імя нашага земляка, адважнага разведчыка Івана Ермалаевіча Чэрнікава. Будучы камандзірам разведвальнага атрада на тэрыторыі Польшчы, ён праявіў мужнасць і гераізм пры выкананні баявых заданняў і пасмяротна ўдастоены ордэна Айчыннай вайны І-й ступені і польскага ордэна "Віртуці Мілітары". Імем І.Е.Чэрнікава названы вуліцы ў гарадах Горкі і Млава ( Польшча), вёсцы Сава Горацкага раёна.

Удзячныя жыхары Горак свята захоўваюць памяць пра тых, хто цаной свайго жыцця наблізіў дзень Перамогі. У гонар вызваліцеляў Горак на цэнтральнай вуліцы горада ўстаноўлены артылерыйская гармата і мемарыяльная дошка. Свяшчэннае месца для кожнага жыхара – помнікі, устаноўленыя на тэрыторыі гарадскога стадыёна і акадэміі, дзе ў Вялікую Айчынную вайну фашысты знішчылі некалькі тысяч савецкіх грамадзян.

Сімвалам мужнасці і гераізму стаў мемарыяльны комплекс на тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У цэнтры яго – тры фігуры воінаў, якія ідуць на вайну, – выкладчыка, студэнта і рабочага. Больш за 200 імёнаў на мемарыяльных плітах. Салдаты і афіцэры, партызаны і падпольшчыкі… Яны жылі ў нашым горадзе, хадзілі па яго вуліцах, сядзелі ў студэнцкіх аўдыторыях, а калі надышоў час, не пахіснуліся і аддалі свае жыцці за свабоду і незалежнасць Радзімы.

Былы студэнт акадэміі І.М.Міхайлаў здзейсніў подзвіг на тэрыторыі Польшчы. На адной з вуліц горада Грундзёндза стаіць дом, на сцяне якога ўстаноўлена мемарыяльная дошка з надпісам: "Тут 3 сакавіка 1945 года ў цяжкім баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі за вызваленне нашага горада Грундзёндза загінуў смерцю храбрых воін Савецкай арміі лейтэнант Міхайлаў. Вечная памяць герою".

Гераічныя справы нашых землякоў у гады Вялікай Айчыннай – багаты матэрыял для ваенна-патрыятычнага выхавання падрастаючага пакалення. Частыя госці ў школах і працоўных калектывах ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

На гэтых сустрэчах часта гучыць "Песня 70-й дывізіі":

70-я – моя армейская семья,
70-я – в ней воевали ты и я.
Давайте вспомним взвод и полк, и первый бой,
И командиров, кто водил нас за собой…

Был путь наш нелёгким. И ночью и днём
На запад, вперёд под смертельным огнём,

Калугу и Горки запомним навек,
Днепровские волны, Шклов, Минск,
Кенигсберг…

У ліпені 1984 года ў дні святкавання 40-годдзя вызвалення Горак Героям Савецкага Саюза І.Л.Грыгор'еву, М.І.Грыбкову і лётчыцы А.І.Мішынай, якія вызвалялі горад і раён, прысвоена званне "Ганаровы грамадзянін горада Горкі".

У 17 кіламетрах ад Горак ёсць месца, якое стала свяшчэнным для рускага, беларускага і польскага народаў. Тут, пад Леніна, крывёю змацавана непарушнае баявое братэрства.

15 кастрычніка 1968 года ў Леніна адкрыты Музей савецка-польскай баявой садружнасці. Купалападобнае збудаванне са шкла і бетону нагадвае салдацкую каску.

Недалёка ад музея, на схіле вышыні, знаходзяцца дзве магілы савецкіх і польскіх воінаў. Над імі ўзвышаецца кавалак прабітай брані – сімвал небывалай стойкасці і мужнасці савецкіх і польскіх воінаў.

На цэнтральнай плошчы Леніна ўстаноўлены абеліск з цёмна-чырвонага граніту ў выглядзе зоркі. Надпіс на ім гаворыць: "Бессмяротны твой подзвіг, вечная слава табе, савецкі салдат!"

У маляўнічым скверы на беразе возера збудаваны помнік польскім воінам, на якім на беларускай і польскай мовах напісана: "Польскім воінам 1-й дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі ў баях з нямецкім фашызмам за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, вечная слава!"

З Горак у Леніна вядзе аўтамагістраль – Алея сяброўства. Гэта таксама адзін з помнікаў. Дрэвы пасадзілі польскія і савецкія леснікі. Ім дапамагалі кубінскія, в'етнамскія, мангольскія студэнты, якія вучыліся ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

Едуць і едуць людзі ў Леніна.

# ЗАГОЙВАЮЧЫ РАНЫ ВАЙНЫ



**Я**шчэ ішлі баі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а Горацкі райкам партыі і выканкам раённага Савета дэпутатаў, якія працавалі ў вёсцы Горы, прымалі неадкладныя меры для аднаўлення жыцця ў вызваленай частцы раёна. Раённую партыйную арганізацыю ў тыя гады ўзначальваў А.Б.Лабанок, выканкам райсавета – Д.І.Бычкоў.

У Дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці захоўваецца пратакол № 1 аб'яднанага пасяджэння выканаўчага камітэта Горацкага раённага Савета дэпутатаў працоўных і РК КПБ(б) ад 18 студзеня 1944 года. З яго бачна, што з 20 студзеня планавалася адкрыць пачатковыя школы ў вёсках Валынцава, Першына, Быстрая і Альхавец. Пачалі працаваць некаторыя класы ў школе вёскі Каменка. Было вырашана аднавіць працу двух хат-чытален у Гарскім і Каменскім сельскіх Саветах.

...Наступіў чэрвень 1944 года. Горкі і раён былі вызвалены. Аднак горад знаходзіўся ў руінах. Усюды на спаленых вуліцах – кучы цэглы і пакаробленага металу. Разбураны ўсе прамысловыя і адміністрацыйныя пабудовы і ўстановы. Гітлераўцы ўзарвалі і спалілі 166 са 170 дамоў камунальнага фонду.

Але як можна змераць незаменныя людскія страты, мацярынскія і сіроцкія слёзы. За тры гады акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі і па-зверску замучылі больш за дзве тысячы мірных жыхароў. 1375 чалавек загналі ў Германію. Вялікі ўрон нанеслі гітлераўцы гаспадарцы раёна, разрабавалі ўсе калгасы і саўгасы, 2 тысячы гаспадарчых пабудоў, знішчылі 110 вёсак, 5746 жылых дамоў, 50 калгасных клубаў, 2 бальніцы і 19 медпунктаў, усе бібліятэкі.

Здавалася, спатрэбяцца дзесяцігоддзі, каб адрадзіць горад і раён. Але небывалы працоўны гераізм людзей, вялікая дапамога ўсёй краіны дазволілі хутка аднавіць Горкі, падняць раён.

У Дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці захоўваецца пратакол пасяджэння Горацкага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных ад 20 жніўня 1944 года, на якім выра-шалася пытанне аб аднаўленні разбуранага горада.І перш за ўсё гарсавет займаўся пытаннямі забеспячэння насельніцтва горада ежай. Выступаючы на пасяджэнні, загадчык харчгандлю Цершычны казаў, што ў горадзе былі адкрыты сталовая, два магазіны, пякарня пачала працаваць два дні ў тыдзень. Аднак былі цяжкасці з мукой. Гарсавет звярнуўся з заклікам да ўсіх жыхароў прыняць актыўны ўдзел у аднаўленчых работах, і людзі горача адгукнуліся.

Шырокі размах атрымаў рух чаркасаўцаў (паводле прозвішча А.Чаркасавай, брыгада якой добраахвотна і бясплатна ў свабодны час працавала на аднаўленні Сталінграда). Ініцыятарамі стварэння такіх фарміраванняў у Горках выступілі рабочыя арцелі "Прагрэс", якія ўзялі за абавязак адпрацаваць на аднаўленні горада па 10 дзён кожны. Чаркасаўскія брыгады ачысцілі ад руін усе вуліцы і двары горада, сабралі 180 тысяч штук цэглы.

У час расчысткі руін былі знойдзены міны, пакінутыя ворагам. Размініраваннем тэрыторыі займалася спецыяльная група. Не абышлося і без ахвяр. Загінулі інжынер-маёр К.І.Цыбульскі, радавыя В.А.Скварцоў і І.К.Сукач. Яны пахаваны на могілках, што знаходзяцца па дарозе ў Дрыбін.

Былая настаўніца, завуч сярэдняй школы №1 М.Капілевіч у верасні 1944 года вярнулася ў родныя Горкі. Яна ўспаміналі: "Пустэча і бур'ян панавалі там, дзе былі вуліцы і стаялі дамы. Толькі на ўскраінах уцалела частка дамоў. Ні машын, ні коней, ні людзей, ні руху.

Войск у горадзе ўжо не было, але напружана працавалі атрады мінёраў. Нялёгка было зрабіць прыгоднай для жыцця былую лінію фронту. Райкам КПБ, які размяшчаўся ў адным з дамоў акадэміі, стаў цэтрам аднаўленчых работ. У невялікіх хатах размясціліся ўстановы".

У лютым 1945 года быў зацверджаны першы пасляваенны бюджэт гарадскога Савета на 1945 год. Планавалася, што даходаў будзе 572 042 рублі. Расходаў 2 312 689 рублёў. З архіўных дакументаў бачна, што да гэтага часу ў горадзе працавалі тры школы: руская, зарэчанская і Пагодзінская, гасцініца, лазня, дзіцячыя садкі і яслі.

Для будаўніцтва горада патрабавалася вялікая колькасць цэглы і лесу. У верасні 1945 года на цагельным заводзе былі адноўлены 2 печы і абпалена 48 тысяч штук цэглы. На далейшае пашырэнне вытворчасці дзяржава выдзеліла прадпрыемству 317 тысяч рублёў.

У першыя пасляваенныя гады ставілася задача ўзнавіць Горацкі льнозавод, які да вайны быў буйнейшым на Магілёўшчыне.

– Ведаеце, з чаго мы пачыналі ўздымаць свой завод ? – успамінаў ветэран прадпрыемства Аляксей Свірыдэнка.– З нарыхтоўкі дроў для цагельнага завода. Дырэктар паслаў мяне, Ціхана Журава і Івана Міхасёва ў лес. Там мы нарыхтоўвалі дровы і везлі іх на санях у Горкі на цагельны завод. Адтуль на свой завод везлі яшчэ цёпленькую цэглу, з якой клалі сцены галоўнага корпуса.

Былы машыніст лакамабіля І.М.Медзвядзёў, які адпрацаваў на льнозаводзе больш за 30 гадоў, успамінаў, што будаўнікі працавалі па спрошчанаму праекту Ленінградскага праектнага інстытута з прывязкай новага корпуса да былога будынка завода.

У Магілёўскім абласным архіве грамадскіх арганізацый захаваўся пратакол № 6 Горацкай партарганізацыі. З выступлення на ім дырэктара льнозавода М. К. Несцерава бачна, што ў 1944 годзе на аднаўленне завода было выкарыстана 12 тысяч рублёў. У 1945 годзе было асігнавана больш за 900000 рублёў. Планавалася, акрамя вытворчага цэха, пабудаваць 4 жылыя дамы для рабочых. Цікава, што на сходзе дырэктар казаў, што работы ідуць на будоўлі марудна з-за таго, што завод мае ўсяго 2-х коней для подвозкі будаўнічых матэрыялаў. Аднак, нягледзячы на гэтыя цяжкасці, у 1946 годзе цэх завода па вытворчасці

льновалакна пачаў працаваць.У ім было ўстаноўлена трафейнае абсталяванне маркі ” Бильдер”.

У канцы таго ж года ўступілі ў строй прамкамбінат, малочны завод, арцелі "Прагрэс", "Харчавік", раённая друкарня і электрастанцыя, пачала працаваць бальніца, паліклініка, Дом сацыялістычнай культуры. Улічваючы, што ў час вайны шмат дзяцей не вучылася, пры беларускай школе пачала працаваць вячэрняя школа працоўнай моладзі.

У кастрычніку 1945 года адкрыўся дзіцячы дом на 130 чалавек. Жыхары горада сабралі для дзяцей-сірот прадукты харчавання і цёплае адзенне. А работнікі Горацкага райкама партыі ў снежні вырашылі 10 працэнтаў зарплаты пералічыць у фонд дзіцячага дома.

Прымаліся меры і для хуткага пад'ёму сельскай гаспадаркі раёна. У першыя месяцы пасля вызвалення было арганізавана 160 калгасаў і саўгасаў, машынна-трактарная станцыя. У МТС да чэрвеня 1945 года дзейнічалі майстэрні, гараж, кузня, было 22 трактары і дзве грузавыя машыны. Адкрыліся курсы па падрыхтоўцы трактарыстаў.

У верасні 1945 года камсамольцы раёна адпрацавалі ўдарную пяцідзёнку ў гонар юбілею камсамола Беларусі. 93 камсамольска - маладзёжныя брыгады, 112 камсамольскіх пастоў па ахове ўраджаю выйшлі ў поле. Прыклад у працы паказалі камсамолец, трактарыст Горацкай МТС Тарас Ларковіч (узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ЛКСМБ) і вучаніца 7-га класа Панкратаўскай школы Ганна Капусціна, якая зжынала штодзень па 0,25 гектара жыта.

Камсамольцы азелянялі двары і вуліцы, будавалі клубы, бібліятэкі, дамы для тых, хто жыў у зямлянках. Моладзь вёскі Хамянічы сваімі рукамі пабудавала пасёлак і назвала яго Камсамольскі. За актыўны ўдзел у аднаўленні раёна ў 1945 годзе ЦК УЛКСМ узнагародзіў камсамольскую раённую арганізацыю Ганаровай граматай.

У пачатку 1946 года важнай палітычнай з'явай у жыцці народа сталі першыя пасляваенныя выбары ў Вярхоўны Савет СССР. У гэтыя гады на прадпрыемствах і будоўлях

Горак разгарнулася сацыялістычнае спаборніцтва пад дэвізам: "Выканаць пяцігодку за чатыры гады!"

Па закліку райкамаў партыі і камсамола 26 мая 1946 года на будоўлях горада адбыўся масавы суботнік, на якім працавала 3337 чалавек. 7 ліпеня адбыўся суботнік па аднаўленню і пашырэнню цагельнага завода.

Вынікі двух гадоў пяцігодкі падвяла 2-я раённая партыйная канферэнцыя (да гэтага часу ў раёне налічвалася 715 членаў і кандыдатаў у члены партыі), якая адбылася 1 лютага 1948 года. Аб'ём прамысловай вытворчасці ў параўнанні з даваенным узроўнем узрос на 30,2 працэнта. Было адноўлена 5 прамысловых арцелей, 2 льнозаводы, лесазавод, 9 цэхаў райпрамкамбіната.

Важнай падзеяй было ўвядзенне ў строй 1 студзеня 1948 года новай пякарні, якая ў суткі выпякала каля 10 тон хлеба.

Раён выканаў план нарыхтовак хлеба на 110 працэнтаў, бульбы – на 105, льносемя – на 160 працэнтаў. Да 30-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі былі адноўлены 161 калгас і саўгас, пабудавана 216 грамадскіх устаноў, 85 школ і 153 будынкі культуры, 1088 дамоў для калгаснікаў. Гэта дало магчымасць поўнасцю закончыць перасяленне сельскіх працаўнікоў з зямлянак ва ўласныя дамы.

У горадзе шырокі размах атрымала сацыялістычнае спаборніцтва. Сярод лепшых работнікаў вытворчасці былі рабочыя прамарцелі "3-ці год пяцігодкі" М.І.Кастроў, З.П.Краўчанка, камсамольцы Л.Латушкін, П.Малышава, Ф.Чабатарэўская, О.Рыжанкова.

Значных вынікаў у працы дабіліся брыгады С.І.Пронцішавай і В.А.Смалякова Горацкага льнозавода. А змена майстра Л.І.Максімава ў 1948 годзе паспяхова справілася з двума гадавымі нормамі. На цагельным заводзе фармоўшчыца камсамолка Вера Гладкая з двухмясцовай фармовачнай машыны перайшла на чатырохмясцовую. Яе пачын перанялі іншыя рабочыя. На 200–250 працэнтаў перавыканала план работніца прамкамбіната М.Ф.Бальцава.

Пашыраўся ў горадзе і рацыяналізатарскі рух. Яго ініцыятарамі ў Горках сталі працаўнікі льнозавода. Пад кіраў-

ніцтвам галоўнага механіка А.Ф.Іванова яны ўдасканальвалі канвеерную падачу льнотрасты. У выніку завод выканаў гадавы план 1948 года да 15 жніўня.

Аднак трэба адзначыць, што эканамічнае становішча рабочых, сялян і інтэлігенцыі было даволі цяжкім. На прамысловых прадпрыемствах горада была нізкай заработная плата, шмат ручной працы.У горадзе не хапала жылля, многія ўстановы – школы, бальніца, паліклініка месціліся ў прыстасаваных памяшканнях.

Электраэнергія круглыя суткі падавалася на тэрыторыі акадэмічнага гарадка, у райцэнтры – толькі на 2-3 гадзіны вечарам ( электрарухавік працаваў на прамкамбінаце). Адсутнічаў аўтобусны рух па горадзе і вялікай праблемай для гараджан было дабрацца да чыгуначнага вакзала. У дрэнным стане знаходзілася шаша на Оршу.

На раённай сельскагаспадарчай выставе, якая адкрылася 15 кастрычніка 1950 года, ў рабоце якой прынялі ўдзел 40 калгасаў і 4 МТС, а таксама Шышаўская сямігадовая школа, былі падведзены вынікі развіцця сельскай гаспадаркі за гады чацвёртай пяцігодкі. Адзначалася, што ў выніку павялічэння пасяўных плошчаў і росту ўраджайнасці валавы збор збожжавых культур у 1950 годзе дасягнуў 277, 7 працэнта да ўзроўню 1945 года. Пагалоўе буйной рагатай жывёлы ў параўнанні з 1940 годам вырасла на 65 працэнтаў, свіней – на 166, авечак – на 146 працэнтаў. Лепшымі з 59 буйных калгасаў былі прызнаны калгасы "Шлях сацыялізму"– старшыня М.Генькін ( ён працаваў у Горках), "Культура", імя С.М. Кірава, імя С.М. Будзённага.

Разам з тым, у большасці калгасаў раёна аплата працы калгаснікаў была вельмі нізкая. На кожны працадзень яны атрымлівалі ад 50 да 100 г збожжа, у асобных калгасах выдавалася невялікая колькасць бульбы, часам корм для жывёлы. У самых адсталых калгасах не давалі і гэтага, і калгаснікі, як тады казалі, працавалі за “палачкі” – гэта значыць за адзнаку, што выходзілі на працу. Галоўнай крыніцай добрабыту для іх у гэты час з’яўляліся пры-

сядзібныя ўчасткі. Але яны ў тыя гады скарачаліся, бо прыходзілася плаціць падаткі за кожную жывёлу і дрэва.

Пастановай СНК БССР на базе Горацкай МТС ў 1947 годзе была створана рэспубліканская апорна-паказальная машынна-трактарная станцыя з мэтай укаранення травапольнай сістэмы ў сельскую гаспадарку.

Разам з уздымам прамысловасці і сельскай гаспадаркі актыўна вялося будаўніцтва жылля, школ, медыцынскіх і культурных устаноў. 19 жніўня 1950 года ўсе будаўнічыя арганізацыі горада былі аб'яднаны ў будаўнічы ўчастак – БУ-61.

У 1950 годзе ў раёне ўжо налічвалася 88 школ, працавалі 444 настаўнікі, 18 урачоў, 22 фельчары, 48 медыцынскіх сясцёр. Было 110 бібліятэк, 15 хат-чытальняў, 14 калгасных клубаў, раённы Дом культуры, кінатэатр, 5 кінаперасовак. Сотні кватэр працоўных былі радыёфікаваны і электрыфікаваны. У 1952 годзе ў Горках упершыню было праведзена свята песні.

Усё гэта сведчыла аб тым, што горад Горкі і раён поўнасцю адрадзіліся.

Але ў першыя пасляваенныя гады на Беларусь прыйшла новая хваля рэпрэсій – арышты, ссылкі людзей на спецпасяленні, абмежаванні на некаторыя віды дзейнасці і г.д. Захапілі гэтыя падзеі і Горацкі раён. Аб гэтым сведчыць спіс ”Вернутыя імёны”, які надрукаваны ў раённай кнізе “ Памяць”. Улады з недаверам адносіліся і да тых, хто не па сваім жаданні апынуўся на працы ў Германіі ў гады акупацыі, хто жыў на акупіраванай тэрыторыі. Напрыклад, П.І Мартулёва 24 чэрвеня 1945 года безпадстаўна была выслана на 10 год ў Нарыльск, а яе дзяцей адправілі ў дзічячы дом. У 1955 годзе яна была рэабілітавана. Зараз яе дзеці жывуць ў г. Віхарэўка Іркуцкай вобласці.

У гэтыя гады пачалася барацьба з так званым касмапалітызмам, нізкапаклонствам перад Захадам. У сельскагаспадарчым інстытуце былі ашальмаваны многія вучоныя-генетыкі.

Усё гэта стрымлівала развіццё інстытута, горада, і раёна.

## *Аднаўленне інстытута*



**У** першы пасляваенны год карпусы, лабараторыі і жылыя пабудовы сельскагаспадарчага інстытута былі ў руінах. Лепшыя кнігі бібліятэкі фашысты вывезлі ў Германію. Матэрыяльны ўрон, нанесены толькі інстытуту, склаў 146 мільёнаў рублёў ( у цэнах 1940 года).

"Ашаламляльную карціну разгрому і запусцення ўяўляў сабой інстытут у пачатку ліпеня 1944 года, – успамінаў прафесар М.М. Каўцэвіч, які быў назначаны пасля вайны яго дырэктарам. – На працягу трох гадоў палі не апрацоўваліся і не засяваліся. Яны зараслі, пакрыліся пустазеллем. На ўсёй іх прасторы суцэльным дыванам бялелі рамонкі. Тэрыторыя і палі інстытута былі парэзаны акопамі, ямамі, бліндажамі. Будынкі, што засталіся, былі прыведзены ў непрыгодны стан".

Як вядома, рашэнне аб узнаўленні інстытута было прынята ЦК КП(б) і СНК БССР яшчэ 22 чэрвеня 1943 года. Планавалася, што інстытут адродзіць свае факультэты – агранамічны і заатэхнічны на базе Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К.А. Ціміразева, а землеўпарадкавальны факультэт – на базе Маскоўскага землеўпарадкавальнага інстытута. Аднак жыццё ўнесла карэктывы ў гэтыя планы.

У канцы 1944 года ў Горкі вярнулася група былых выкладчыкаў інстытута – прафесар М.М. Каўцэвіч, дацэнты Р.Т. Вільдфлуш, І.Ф. Гаркуша, І.Ф. Грыдзін, А.Г. Мядведзёў, С.С. Захараў, М.У. Сабіла, старшыя выкладчыкі П.Н. Пратасевіч, Э.М. Томсан, Е.Н. Успенскі і іншыя.

З членаў ініцыятыўнай групы ўрадам Беларусі было створана кіраўніцтва інстытута. Дырэктарам ВНУ быў прызначаны М.М. Каўцэвіч, намеснікам дырэктара па ву-

чэбнай рабоце зацверджаны дацэнт Р.Т. Вільдфлуш, па навуковай – дацэнт І. Ф. Гаркуша.

Перад кіраўніцтвам інстытута была пастаўлена задача аднавіць ВНУ, пачаць работу пяці факультэтаў – агранамічнага, пладова-агародніцкага, аграхімічнага, заатэхнічнага і інжынерна-земляробчага.

Задача ставілася вельмі цяжкая. Карпусы, якія засталіся, былі часткова разрабаваны (ні дзвярэй, ні вокнаў). Адсутнічала неабходная мэбля і абсталяванне. У інстытуцкім гарадку не было электрычнасці, не працавалі водаправод і каналізацыя.

Частка ўцалелых будынкаў была занята раённымі арганізацыямі і ўстановамі, бо ў Горках значная колькасць пабудоў была разбурана. У дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці знаходзіцца дакумент, з якога бачна, што раённыя ўстановы (школа, бальніца, банк, дзіцячы садок, раённы клуб) займалі ў будынках інстытута амаль 2,5 тыс. кв. метраў плошчы.

Таксама неабходна было сабраць выкладчыцкі калектыў у складзе не менш як з 30 чалавек.

Інстытут адчуваў востры недахоп школьнай моладзі, бо ў гады вайны школы фактычна не працавалі.

Вялікую дапамогу інстытуту аказвала дзяржава. Так, 30 чэрвеня 1945 года было прынята рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Беларускага сельскагаспадарчага інстытута. Урад Беларускай ССР вызначыў канкрэтныя меры ў гэтым напрамку. Дзяржава выдзеліла 2 мільёны рублёў, за якія былі набыты прыборы, машыны і падручнікі. У канцы 1945 года на першы курс прыйшло 105 чалавек і 100 вярнулася для працягу вучобы. Большасць з іх за мужнасць і гераізм, праяўленыя ў час вайны, была ўзнагароджана ўрадавымі ўзнагародамі.

Студэнты, выкладчыкі, абслугоўваючы персанал рамантавалі карпусы, інтэрнаты, выраблялі мэблю, вучэбнае абсталяванне. Толькі дзякуючы іх гераічнай працы, заняткі ў інстытуце пачаліся 1 студзеня 1945 года.

Як ужо адзначалася, першым пасляваенным дырэктарам (так у тыя гады называлася пасада кіраўніка інстыту-

та) быў прызначаны прафесар М.М. Каўцэвіч, выхаванец Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Ён з 1925 года працаваў асістэнтам, дацэнтам, прафесарам, загадчыкам кафедры фізікі, быў дэканам агранамічнага факультэта. У 1949 годзе ён атрымаў ганаровае званне "Заслужаны дзеяч навукі БССР".

У дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці знаходзяцца дакументы акадэміі перыяду 1945–1948 гадоў, якія раскрываюць шматгранную дзейнасць дырэктара ў справе аднаўлення інстытута. Так, з пратакола закрытага партыйнага сходу інстытута ад 29 жніўня 1945 года бачна, што новаму  кіраўніку прыходзілася вырашаць складаныя задачы адраджэння інстытута ў Маскве – у Дзяржаўным камітэце па справах вышэйшай школы СССР, у Мінску – у ЦК КПБ і Савеце Міністраў БССР.

М.М. Каўцэвіч ставіў задачу пачаць работу ВНУ ў снежні 1945 года. І задача была выканана.1 снежня 1945 года 206 студэнтаў пачалі навучальны год. Важна адзначыць, што з іх 185 чалавек былі салдатамі, афіцэрамі, партызанамі Вялікай Айчыннай вайны.

І што цікава, М.М. Каўцэвіч асабіста шукаў былых студэнтаў. Так А.М. Багамолаў, які потым стаў заслужаным аграномам БССР, кандыдатам сельскагаспадарчых навук, дацэнтам,ганаровым прафесарам БДСГА ўспамінаў што "…демобилизовавшись из армии, не будучи уверенным в скором восстановлении академии, я стал студентом "Тимирязевки" в Москве. В декабре 1945 года получил от Николая Николаевича предложение вернуться для окончания учёбы в академии".

Важна адзначыць, што асаблівасцю першага пасляваеннага навучальнага года было тое, што вучоба вялася разам з работамі па аднаўленню інстытута.

Былая студэнтка факультэта аграхіміі і глебазнаўства першага пасляваеннага набору, а затым кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт кафедры хіміі Т.В. Сталярова ўспамінае, што па ініцыятыве рэктара ў акадэміі шырокае распаўсюджванне атрымаў рух чаркасаўцаў. Такія брыгады былі створаны на кожным факультэце.

Дзякуючы дапамозе дзяржавы, самаадданай рабоце калектыва акадэміі, ужо ў 1947 годзе быў поўнасцю адноўлены новы вучэбны корпус (цяпер корпус №1) і частка студэнцкага інтэрната №1, куды размясцілі больш за 600 студэнтаў. Пачала працаваць студэнцкая сталовая, спартыўная зала, цяпліца. Для выкладчыкаў было пабудавана некалькі дамоў.

Першы пасляваенны выпуск інстытута налічваў усяго 7 чалавек. Сярод іх быў А.А.Калікінскі, потым доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, загадчык кафедры, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР.

У 1947 годзе інстытут скончыла ўжо 71 чалавек, з іх 15 атрымалі дыпломы з адзнакай.

У 1946 годзе быў распрацаваны пяцігадовы план развіцця ВНУ. Планавалася, што ў 1950 годзе ў інстытуце будзе вучыцца не менш за 1500 студэнтаў. Акрамя факультэтаў, якія існавалі, у інстытуце павінны былі адкрыцца факультэты механізацыі сельскай гаспадаркі, аграмеліярацыі, а таксама аддзяленне тэхнічных культур і птушкагадоўлі. Асаблівая ўвага ўдзялялася развіццю навуковай базы. Планавалася, што на працягу 5 гадоў будуць адкрыты 5 навукова-даследчых станцый – палявадства, заатэхніі, прыкладной батанікі, пладаводства і пчалярства.

Пастаўленыя перад калектывам навуковай установы задачы ў асноўным былі выкананы. Ужо ў 1947–1948 гадах былі адкрыты факультэты: гідрамеліярацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі. А Маскоўскім аэрагеадэзічным прадпрыемствам пры Савеце Міністраў СССР былі адкрыты на базе інстытута курсы малодшых геадэзістаў. Колькасць студэнтаў на стацыянары за пяцігодку ўзрасла з 206 да 1650 чалавек, 140 чалавек вучыліся на трох факультэтах завочнага аддзялення.

У гэтыя гады значна ўзрос прафесарска-выкладчыцкі склад: з 30 чалавек у 1946 годзе – да 121 у 1950. На работу ў Горкі прыехалі вядомыя вучоныя: Б.А. Вакар, Ю.Л. Паморскі, Н.М. Замяцін, А.Б. Трэйвас, К.І. Навумаў.

А бібліятэка інстытута сваім адраджэннем абавязана была дырэктару Дз.Р.Новікаву.

Яшчэ знаходзячыся ў радах Чырвонай Арміі, ён пачаў адшукваць кнігі бібліятэкі, якія фашысты вывезлі ў Германію.

Калі полк, у якім ваяваў Дз. Р. Новікаў, змагаўся на нямецкай зямлі, Дзям'яну Раманавічу паведамілі, што ў падвале аднаго буйнога маёнтка знайшлі шмат скрыняў з кнігамі і іншымі каштоўнасцямі, вывезенымі фашыстамі з Беларусі. Ён з салдатамі знайшоў гэты маёнтак. Вялізны падвал быў запоўнены скрынямі. Хва-люючыся, раскрыў адну з іх і дастаў кнігу. Знаёмы штамп «Бібліятэка Беларускага сельгасінстытута». Узяў яшчэ ад-ну, потым яшчэ — усе кнігі былі з яго бібліятэкі.

На працягу 1944–1945 гадоў яму ўдалося знайсці і вярнуць у Горкі звыш тысячы выданняў. Дз.Р.Новікаў звяртаўся ў многія франтавыя газеты з просьбай да савецкіх салдат прысылаць знойдзеныя кнігі інстытуцкай бібліятэкі ў Горкі. Некалькі дзесяткаў пасылак прыйшло ў адказ на яго просьбу. Адразу ж пасля дэмабілізацыі Дз.Р.Новікаў вярнуўся ў Горкі. Шмат хто памятае, як каля ўзарванага фашыстамі будынка бібліятэкі стаяў малады афіцэр і плакаў. Тут жа ён даў клятву адрадзіць бібліятэку. Дзякуючы яго настойлівасці і стаpанню, ужо праз год будынак бібліятэкі быў адноўлены, і ў ім да 7 лістапада 1947 года налічвалася ўжо каля 100 тысяч тамоў кніг. Пра Дзям'яна Раманавіча Новікава балгарскі паэт Стэфан Пантонеў, які прыязджаў у Горкі ў 1975 годзе, у вершы "Бібліятэкар" напісаў:

Дывізіі і арміі, франты ступалі
на Захад – на Берлін,
ішлі ў Дзевяты май…
А бібліятэкар радавы
згубіў спакой і сон:
Шукаў сляды палоненай бібліятэкі,
Яму даручанай саветам навуковым
той сур'ёзнай акадэміі,
што дбала пра засекі…

У верасні 1948 года калектыву акадэміі і яго рэктару прыйшлося перажыць драматычныя падзеі. Яны былі звязаны з сумна вядомай жнівеньскай сесіяй УАСГНІЛ 1948 года, дзе з разгромным дакладам выступіў прэзідэнт УАСГНІЛ Т.Д. Лысенка і генетыка была аб'яўлена лжэнавукай, заснаванай на ідэалізме і метафізіцы.

Беларускі сельскагаспадарчы інстытут на жнівеньскай сесіі быў названы ў ліку ВНУ, дзе шырока развіваліся і прапагандаваліся "рэакцыйныя ідэі марганізму-вейсманізму".

11 верасня 1948 года адбылося пашыранае пасяджэнне Вучонага савета інстытута, дзе ставілася задача разграміць "гнездо морганистов-вейсманистов в БСХИ". На ім прысутнічала 80 выкладчыкаў і больш за 250 студэнтаў інстытута.

У дзяржаўным архіве Магілёўскай вобласці захоўваецца стэнаграма гэтага пасяджэння, з якой бачна, якія недапушчальныя формы і метады выкарыстоўваліся тады ў навуцы.

Асноўны ўдар наносіўся па загадчыку кафедры батанікі Б.А. Вакару, яго дачцэ, асістэнту гэтай кафедры Т.Б. Вакар, загадчыку кафедры развядзення сельскагаспадарчых жывёл П.Р. Лепперу і іншых вучоных.

Для гэтага з Масквы спецыяльна прыехалі работнікі агітацыі і прапаганды ЦК ВКП (б), Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР І.Г. Грыгор'еў і М.І. Ермакоў, з Мінска – віцэ-прэзідэнт АН БССР І.С. Лупіновіч, з Магілёва – сакратар Магілёўскага абкама КП (б) Б Ф. А. Новікава.

Былы студэнт акадэміі, а потым кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт Б.Ларыёненка ўспамінаў:"…пасяджэнне адбывалася ў аўдыторыі імя М. Фрунзе. Туды і запрасілі студэнтаў старэйшых курсаў, каб яны падтрымалі барацьбу з рэакцыйнымі ідэямі. Аднак студэнты, наадварот, апладзіравалі ў час выступлення прафесара Б.Вакара. Праўда, рукі пры гэтым трымалі пад сталамі…"

У выніку абмяркавання прафесар Б.А. Вакар, асістэнт Т.Б. Вакар і дацэнт П.Р. Леппер былі выгнаны з інстытута.

У снежні 1948 года ЦК КПБ прыняў рашэнне аб вызваленні з займаемай пасады першага пасляваеннага рэктара

М.М. Каўцэвіча, які ў хуткім часе ад перажыванняў памёр.У гонар М.М.Каўцэвіча на корпусе №10 акадэміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка і выдадзена брашура "Первый послевоенный ректор академии".

У лістападзе 1948 года сельскагаспадарчы інстытут быў пераўтвораны ў акадэмію. Тым самым ВНУ была вернута былая назва, якую яна атрымала яшчэ ў 1925 годзе.

## *ПРАЦОЎНЫЯ РЫТМЫ*



***П***яцідзесятыя гады для Горак сталі новым этапам у эканамічным і культурным развіцці. Расла працоўная актыўнасць людзей, набірала сілу сацыялістычнае спаборніцтва, ініцыятарам якога выступіў калектыў кансервавага завода. У 1953 годзе гэта прадпрыемства выканала гадавы план да 1 снежня і дало звыш плана прадукцыі на 200 тысяч рублёў.

У тыя гады прамысловыя прадпрыемствы бралі шэфства над гаспадаркамі раёна. У наступныя гады адбылося ўзбуйненне калгасаў і саўгасаў. Па закліку партыі многія камуністы ішлі працаваць старшынямі калгасаў.

У 1954 годзе, калі пачалося асваенне цалінных і аблажных зямель, моладзь раёна не засталася ў баку ад гэтай важнай усенароднай справы. Так, трактарыст Горацкай МТС камсамолец Віктар Ларковіч пісаў у сваёй заяве: "Прашу райкам камсамола накіраваць мяне туды, дзе партыя лічыць неабходным асвоіць новыя землі... Хачу ўнесці свой працоўны ўклад у выкананне грандыёзнай задачы…" З такімі ж заявамі звярнуліся ў райкам камсамола трактарысты А.Бліндзераў, Л.Ільін, В.Сталбанаў, А.Харужэнка і многія іншыя.

Лепшыя з пасланцаў Горацкага раёна за асваенне цалінных зямель былі адзначаны высокімі ўзнагародамі

Радзімы. Механізатар І.Л.Крупскі быў удастоены высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы. Ордэнам Леніна адзначана самаадданая праца Б.І.Латушкіна, які працаваў 10 гадоў дырэктарам саўгаса ў Кустанайскай вобласці.

40-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі працоўныя Горак сустрэлі новымі працоўнымі дасягненнямі. Яшчэ ў пачатку 1957 года калектыў прамкамбіната вырашыў выканаць гадавы план да 1 лістапада і сваё слова стрымаў. Пераможцамі сацыялістычнага спаборніцтва сталі рабочыя цэху па вырабу люстэркаў. Яны далі прадукцыі звыш плана на 200 тысяч рублёў.

Масласырзавод за 9 месяцаў 1957 года выдаў прадукцыі ў 2,2 разы больш, чым за ўвесь 1953 год. Прадпрыемства ў гэты перыяд значна пашырыла свой асартымент і вырабляла масла, сыр, казеін.

Развівалася ў Горках і капітальнае будаўніцтва. Былі ўзведзены будынкі ўнівермага, гасцініцы, канторы дзяржбанка, сярэдняй школы №2, раённага камітэта КПБ, вучэбнага корпуса факультэта механізацыі і інтэрната на 427 чалавек сельскагаспадарчай акадэміі. У горадзе адкрылася некалькі новых магазінаў, з'явіліся шматпавярховыя жылыя дамы, развівалася індывідуальная забудова. У 1957 годзе ў Горках з’явілася дзевяць новых вуліц.

У той юбілейны год будаўнікі здалі 18 аб'ектаў. Добра працавала брыгада муляроў В.Н.Шукальскага. Пераможцамі сацыялістычнага спаборніцтва сярод тынкоўшчыкаў сталі брыгада А.Т.Еўдакімава, сярод комплексных калектываў – Я.І.Чыканоўскага.

У 1957 годзе ў раёне працавалі 82 агульнаадукацыйныя школы і музычная школа. Яна была адкрыта 1 верасня 1954 года з двума аддзяленнямі: фартэп’янным і народных інструментаў. У школах вучылася 6980 навучэнцаў і выкладала больш за 500 настаўнікаў.

У гэтым жа годзе адкрыўся раённы Дом піянераў (працавалі гурткі: харавы, рукадзелля, выпілоўвання, сталярны, краязнаўчы і фота). У горадзе было 2 бібліятэкі, у вёсках – сорак. У іх фондах налічвалася каля 100 тысяч кніг.

Жыхары Горак атрымалі добры падарунак – кінатэатр "Мір". Усяго ў раёне тады працавала 6 стацыянарных і 10 перасоўных кінаўстановак.

3 верасня 1957 года жыхары Горак упершыню змаглі ўбачыць блакітны экран тэлевізара “Рубін”, які быў устаноўлены ў акадэміі ў аудыторыі №34 першага корпуса. Для гэтага прышлося пабудаваць антэну вышынёй 48 метраў.

У 50-я гады прыкметна вырас дабрабыт жыхароў горада і раёна, палепшылася забеспячэнне харчовымі і прамысловымі таварамі. Былі адкрыты новыя магазіны “Кнігі” на вуліцы Бруцара-Ерафееўскай, “Продовольственный“ на вуліцы Кірава, сталовая № 1 на 152 месцы з магазінам паўфабрыкатаў.

З добрымі паказчыкамі прыйшлі да 40-годдзя Кастрычніка працаўнікі сельскай гаспадаркі раёна. Даход калгасаў у 1957 годзе ўзрос у параўнанні з 1953 годам у 3,3 разы. У раёне працавала 213 трактароў, 102 зернеўборачныя камбайны, 140 аўтамабіляў.

Горацкая МТС выйшла пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва сярод іншых машына-трактарных станцый. Да 10 лістапада 1957 года яна выканала гадавы план на 110, 5 працэнта. У зоне МТС у гэтым годзе ўраджайнасць збожжавых у параўнанні з 1953 годам павялічылася на 4,1, ільноваласкна – на 2,9, бульбы – на 73,5 цэнтнера з гектара.

У 1957 годзе было заснавана Горацкае дарожна-рамонтна-будаўнічае ўпраўленне № 127 і ўстанова УЖ №15/9 на базе Горацкага цагельнага завода.

Важнай падзеяй для горада і раёна стала пабудова высокавольтнай лініі электраперадачы ад Оршы да Горак. Была атрымана электраэнергія Белдрэса.

15 студзеня 1959 года адбыўся ўсесаюзны перапіс насельніцтва. У Горках у гэты час налічвалася 12,5 тысяч жыхароў.

У 1959 годзе планавалася актыўнае будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы. У сувязі з гэтым было вырашана стварыць дзве новыя будаўнічыя арганізацыі – міжкалгасную будаўнічую і Горацкі рамонтны прарабскі ўчастак ( з сака-

віка 1978 года – рамонтна-будаўнічае ўпраўленне, зараз – УКВП “Коммунальник”).

У гэты год водгук у сэрцах працоўных раёна знайшла ініцыятыва працоўных лакаматыўнага дэпо Масква – Сартавальная – змагацца за званне калектываў камуністычнай працы. Ужо праз год на прадпрыемствах горада 20 цэхаў, участкаў і змен адстойвалі права насіць гэты высокі тытул.

У 1960 годзе гэта званне было прысвоена 14 калектывам – пераможцам сацыялістычнага спаборніцтва. У 1964 годзе яго аспрэчвалі ўжо 247 калектываў. Ударнікамі камуністычнай працы сталі 189 лепшых працаўнікоў калгасаў, саўгасаў і прадпрыемстваў раёна.

План 1964 года па выпуску валавай прадукцыі прамысловыя прадпрыемствы раёна выканалі на 111 працэнтаў. Высокай прадукцыйнасці працы дабілася брыгада М.І.Корабавай Горацкага хлебазавода. У ліку перадавікоў былі работніцы камбіната бытавога абслугоўвання Н.С. Грышчанка, Л.В.Чабатарэўская, Р.Я. Елісеенка.

У гэтыя гады быў створаны Горацкі камбінат бытавога абслугоўвання на базе прамысловай арцелі “Прогресс“, Горацкі кансервавы завод перайшоў у новае памяшканне з сучасным абсталяваннем, а ў старым корпусе пачалі выпрабляць экстракты, кісялі і напіткі.

Значна палепшыліся аўтобусныя і паветраныя зносіны з гарадамі вобласці і рэспублікі, вёскамі раёна. У 1960 годзе была арганізавана аўтамабільная база № 17 Міністэрства аўтамабільнага транспарту БССР, пачаў дзейнічаць аэрапорт, з якога рабіліся рэгулярныя рэйсы з Горак у Магілёў ( у выхадныя і святочныя дні было 10 -12 рэйсаў).

Актыўна развівалася культурнае жыццё города і раёна. Гэтаму садзейнічала тое, што ў 1960 годзе быў здадзены ў эксплуатацыю раённы Дом культуры. У ім 10 сакавіка 1960 года адбыўся спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы “Востраў Афрадзіты”. У спектаклі былі заняты народная артыстка СССР Л. Ржэцкая, народная артыстка БССР С.Бірыла, З.Браварская, М.Яроменка.

Горад наведала і сустрэлася з працоўнымі райцэнтра і студэнтамі акадэміі група паэтаў і пісьменнікаў з Расіі і Беларусі. Сярод іх былі С.Вікулаў, У. Гардзеічаў, В. Аляксееў, М. Калачынскі, Е. Лось і іншыя.

У красавіку 1962 года ў Горкі да сваёй сястры Ксеніі Канстанцінаўны Шарснёвай прыехаў пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Загадзя ён не тэлефанаваў, таму і дабіраўся разам з маці пешшу з аўтастанцыі да пасёлка вучгаса Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, дзе жыла сям'я сястры. У гэты час яе муж, Петр Меркур'евіч Шарснёў (затым кандыдат сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР), працаваў галоўным аграномам гэтай гаспадаркі.

Ксенія Канстанцінаўна ўспамінала, што "... прыйшлі яны ў кватэру ўсе перапэцканыя ў гразі. Як раз у гэты час рамантавалі грэблю праз акадэмічнае возера. І Уладзімір з гумарам апавядаў, як ён знайшоў некалькі дошак і імі масціў дарогу, каб магла прайсці маці.

Гасцявалі яны некалькі дзён. І калі мы ішлі на працу, Уладзімір даставаў свае рукапісы і працаваў.

Увечары, калі ўсе збіраліся, мой муж вёў з Уладзімірам гутаркі аб стане сельскай гаспадаркі, яе праблемах. Ён запрашаў прыехаць Караткевіча ўвосень, калі па палях працавалі камбайны. Раіў яму напісаць аб праблемах сельскай гаспадаркі.

Але я ведала, што брата больш хвалюе мінулае нашай краіны. Некалькі разоў мы гулялі з ім па тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, дэндралагічнаму парку. Ён цікавіўся гісторыяй гэтай навучальнай установы. Некалькі разоў праглядаў кнігу С.Г.Цітовіча "Горы-Горецкий земледельческий институт", якая была надрукавана ў Горках у 1960 годзе. Асабліва ўважліва вывучаў раздзел з гэтай кнігі аб падзеях, прысвечаных удзелу студэнтаў інстытута ў паўстанні 1863 года.

Цікава адзначыць, што Горы-Горацкі земляробчы інстытут некалькі разоў узгадваецца ў яго творы "Каласы пад сярпом тваім". А кіраўнік горацкіх паўстанцаў Людвік Звяждоўскі стаў адным з персанажаў гэтага твора.

У лістападзе 1962 года адбыўся другі прыезд Уладзіміра Караткевіча ў Горкі. Ён прыехаў з маці на кастрычніцкія святы. З гэтай нагоды для спецыялістаў і кіраўнікоў вучгаса сельскагаспадарчай акадэміі быў наладжаны ў сталовай святочны вечар. "Запрасілі мы з сабой , – успамінае Ксенія Канстанцінаўна,– майго брата. Ён згадзіўся, але прасіў, каб не казалі нікому, што ён Караткевіч. І так сталася, што ў час вячэры насупраць Уладзіміра сядзеў дырэктар вучгаса Леанід Барысавіч Наймарк (затым доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар кафедры раслінаводства – У. Л.). Яны шмат гутарылі за сталом і ў час перапынку на розныя тэмы, у тым ліку і літаратурныя. Чамусьці прыгадалі дзеда Шчукара з "Поднятой целины" М. Шолахава.

А на другі дзёнь Л. Б. Наймарк спытаў у майго мужа:

– Хто ж гэта за чалавек, што быў учора з вамі?

– Стрыечны брат Ксаны – адказаў Петр Меркур'евіч.

– Вельмі здольны і разумны чалавек. Каб яму трохі падвучыцца, то выйшаў бы з яго толк...

Прыйшлося Пятру Меркур'евічу адказаць, што гэта быў пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

Л. Б. Наймарку стала няёмка, і ён потым доўга дакараў мужа, што той не пазнаёміў яго з вядомым пісьменнікам. Аказалася, што ён чытаў амаль усе яго творы, і яму яны вельмі падабаліся.

У новым Доме культуры 9 студзеня 1962 года адбылося ўрачыстае пасяджэнне гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, прысвечанае 100 - годдзю з дня атрымання Горкамі статуса  горада.

У 1963 годзе была здадзена ў эксплуатацыю раённая бальніца на 200 ложкаў, а паліклініка размясцілася ў памяшканні былой бальніцы. Ганаровыя званні "Заслужаны ўрач БССР" былі прысвоены ўрачам Т. Я. Крывіцкай ( 1960г.), Я. Ф. Клімавай ( 1965г.), У.Ф.Клімаву ( 1968 г.).

Добра ў Горках развіваўся спорт. Гэтаму садзейнічала здача ў эксплуатацыю спартыўнага корпуса Беларускай

сельскагаспадарчай акадэміі, дзе была адкрыта гарадская дзіцяча-спартыўная школа.

Важнай падзеяй было стварэнне ў Горках конна-спартыўнай школы. Тады яна была адзінай у Магілёўскай вобласці. Ужо на першых спаборніцтвах, якія адбыліся паміж спартсменамі двух конна-спартыўных школ – Горацкай і Гомельскай – прыз сустрэчы заваявалі горацкія коннікі.

У гэтыя гады ў Горках працаваў на кафедры фізічнага выхавання Р.І.Клім, які потым стаў алімпійскім чэмпіёнам у Токіо, неаднаразовым чэмпіенам свету і Еўропы, СССР, БССР па кіданню молата. Праславілі Горкі А.Л.Лабачоў – сярэбраны прызёр чэмпіяната СССР па цяжкай атлетыцы, Г.І.Качаткоў – чэмпіён сельскагаспадарчых ВНУ ў бегу на 100 метраў, А.Лісіцкі на абласных спаборніцтвах авіямадэлістаў-школьнікаў заваяваў званне чэмпіёна вобласці па паветранаму бою.

Вялікія тэмпы развіцця набірала сельская гаспадарка. За поспехі ў павелічэнні вытворчасці малака за трэці квартал 1964 года Горацкі раён атрымаў пераходны Чырвоны сцяг ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР. Імёны лепшых даярак А.І Глуздовай і К.І. Абложнай з калгаса "Праўда", В.Г.Малішэўскай і М.С.Анюхоўскай з саўгаса "Леніна" былі занесены на абласную Дошку гонару.

У 1960 годзе А.Д.Каліва, якая адпрацавала больш за трыццаць гадоў механізатарам калгаса "50 гадоў БССР", была ўдастоена звання Героя Сацыялістычнай Працы. У 1966 годзе гэтай высокай узнагародай былі адзначаны працоўныя дасягненні льнавода А.К.Балабавай з калгаса імя У.І.Леніна, даяркі А.А.Анюхоўскай з калгаса "Камуніст", брыгадзіра П.І.Афіцэрава з калгаса "Шлях Леніна".

З годнасцю сустрэлі працоўныя Горак 50-годдзе Кастрычніка. 14 студзеня 1967 года сесія раённага Савета дэпутатаў працоўных, падводзячы вынікі работы, адзначала, што за 12 месяцаў года прамысловыя прадпрыемствы раёна выканалі план па выпуску валавай прадукцыі на 105 працэнтаў. Звышпланавай прадукцыі было атрымана на 620 тысяч рублёў. Заданне па павышэнню прадукцыйнасці

працы прамысловыя прадпрыемствы выканалі на 107 працэнтаў.

Добра папрацавалі рабочыя масласырзавода. Пад кіраўніцтвам механіка М.М. Мончыкава было зманціравана новае абсталяванне, што дазволіла значна павялічыць вытворчыя магутнасці прадпрыемства.

Рабочыя раённага аб'яднання "Сельгастэхніка" раўняліся на передавікоў вытворчасці: слесара В.І.Рыжаеўскага, токара В.М.Панамарова, шафёраў В.С.Макаранка і С.І.Бацагіна, якія карысталіся заслужаным аўтарытэтам у калектыве. Гэта дзякуючы іх самаадданай працы вытворчасць у аб'яднанні вырасла на 15 працэнтаў.

У 60-я гады Горкі працягвалі добраўпарадкоўвацца. У 1967 годзе было закончана асфальтаванне цэнтральных вуліц горада, пасаджана 24 тысячы кустоў і дрэваў, пабудавана 20 шматпавярховых жылых дамоў і многа іншых аб'ектаў. Ударна працавалі будаўнікі: Г.Ф.Малады, А.А.Кардзюкова, А.Н.Гулісава, О.М.Бондарава.

У канцы 60-х гадоў былі пракладзены асфальтаваныя дарогі на Оршу і Магілёў, добраўпарадкаваны на Мсціслаў, Дрыбін і іншыя населеныя пункты. Збывалася тое, аб чым марыў беларускі паэт К.Кірыенка, які неаднаразова наведваў наш горад, раён і сустракаўся, як дэпутат Вярхоўнага Савету БССР па Горацкаму выбарчай акрузе са сваімі выбаршчыкамі.

Ад звону піл аж стогне палясоўшчына,
Для шчырай працы зніклі перашкоды,
Зямля маёй цудоўнай Магілёўшчыны,
Я чую тваёй будучыні подых.
А між палёў дарогі лягуць новыя –
Ад Крычава да Горак і Мсціслаўля.
І буду шчасны я, калі вясноваю
Я песняй тваё шчасце шчыра ўслаўлю.

У юбілейным 1967 годзе за поспехі ў працы 10 медыцынскіх работнікаў раёна былі ўдастоены знака "Выдатнік аховы здароўя СССР". 106 прадстаўнікам службы здароўя прысвоена ганаровае званне ўдарніка камуністычнай працы.

У гэтым годзе ў Горках пачаў працаваць філіял Карачаўскага завода “Электродеталь”. З цягам часу гэта прадпрыемства атрымала назву “Горацкі машынабудаўнічы завод”, а зараз гэта ААТ “Према”. У тыя гады яно было самым вялікім прадпрыемствам горада.

У юбілейным годзе ў Горках жыло 20,5 тысяч жыхароў.

12 кастрычніка 1968 года Горкі і раён у сувязі з адкрыццём у в. Леніна мемарыяльнага комплексу і музея савецка-польскай садружнасці наведала ўрадавая дэлегацыя БССР на чале з П.М.Машэравым, Першым сакратаром ЦК КПБ Ц.Я.Кісялёвым, Старшынёй Савета Міністраў БССР, І.І.Якубоўскім, першым намеснікам міністра абароны СССР, маршалам Савецкага Саюза.

У гэтым годзе ў горадзе было шмат чаго зроблена па добраўпарадкаванню. Гэта праца была адзначана Магілеўскім аблвыканкамам, які прысудзіў гораду першае месца ў вобласці і Пераходны Чырвоны Сцяг за высокую санітарную культуры ў быце і на вытворчасці.

У 1969 – 1975 гадах ў горадзе актыўна працягвалася будаўніцтва. Была пабудавана аўтабаза на 200 аўтамабіляў, хлебазавод з вытворчай магутнасцю 30 тон у суткі, новы вытворчы корпус ільнозавода, новы цэх па вырабу тлуста-малочнай прадукцыі на масласырзаводзе, першая чарга элеватара ( на 25 тыс. тон збожжа). Былі здадзены ў эксплуатацыю будынак аўтавакзала, новы будынак універмага (зараз магазін “Адзенне”), адкрыта кафэ “Адпачынак”.

Працоўныя Горак падтрымалі прызыў ЦК КПСС працоўнымі поспехамі сустрэць 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Прамысловыя прадпрыемствы райцэнтра актыўна разгарнулі сацыялістычнае спаборніцтва. Пераможцам у ім выйшаў калектыў прамкамбіната, які быў узнагароджаны пераходным Чырвоным Сцягам РК КПБ. Каля 3 тысяч працаўнікоў раёна ў 1970 годзе былі ўзнагароджаны юбілейным медалём "За доблесную працу. У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У.І.Леніна.”

У 1973 годзе ў Горках жыло 24 тыс. жыхароў. Многія з іх карысталіся паслугамі Горацкага бюро падарожжаў і экс-

курсій.У гасцей Горак вялікай папулярнасцю карысталіся экскурсіі ў вёску Леніна, па гораду Горкі і акадэміі. У гэты час у Горках з’явілася шмат новых памятных месц. Быў адкрыты помнік С. Дз. Пагодзіну на чыгуначным вакзале, адкрыта мемарыяльная дошка міліцыянеру М.Я.Каробкіну, які загінуў у 1946 годзе, у акадэміі адкрыты помнік навуковым супрацоўнікам, студэнтам і служачым, што загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і мемарыял “Смуткуючая маці”.

Вуліца С. М. Кірава была перайменавана ў вуліцу імя Ф. А. Сурганава, адна з вуліц у раёне чыгуначнага вакзала атрымала імя разведчыка І.Е.Чэрнікава, вуліца Калгасная была перайменавана ў вуліцу імя Ф.І.Кузняцова.

У тыя гады частыя госці Горак – воіны-ветэраны 70 і 42 стралковых дывізій, якія вызвалялі раён. Сярод іх былі Героі Савецкага Саюза І.Л. Грыгор’еў, М.І. Грыбкоў і А.І. Мішына.

У 1977 годзе шырока адзначалі 60-гадовы юбілей Кастрычніцкай рэвалюцыіі. У юбілейным годзе быў адкрыты новы Дом быту на вуліцы Заслонава, на вуліцы Бруцара-Ерафееўскай устаноўлены мемарыяльны знак у гонар П.Бруцара і Ф. Ерафеева, што загінулі ў 1905 годзе.

У той час лепшым таварам прысвойваліся дзяржаўныя знакі якасці. У снежні 1978 года такія знакі атрымалі два віды прадукцыі Горацкага масласырзавода – масла “Аматарскае” і сыр “ Стэпавы”.

У студзені 1980 года рабочыя хлебазавода ўзялі павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы датэрмінова, да 10 студзеня 1980 года, завяршыць праграму 10-й пяцігодкі. З пастаўленай задачай яны справіліся. Асабліва вылучыўся кандытарскі цэх, дзе пяцігадовы план быў выкананы да 62-й гадавіны Кастрычніка. Сярод кандытараў наперадзе былі брыгады А.Г.Маланачкінай і Т.М.Кандрацэнка.

У працоўных дасягненнях калектыву льнозавода ў гады 10-й пяцігодкі вялікі ўклад быў майстра змены І.В.Гуцікавай, закладчыцы Н.Е.Цыркуновай, токара А.П.Сачанкі, майстра па рамонту электраабсталявання А.М.Свірыдзен-

ка, качагара С.Р.Міхайлава. Гэтыя людзі дабіліся добрых паказчыкаў на працоўнай вахце, прысвечанай 60-годдзю ўтварэння СССР. У ліку правафланговых была змена №1 майстра М.І.Вараноўскага, а таксама рабочыя Т.Е.Ермалаева, Р.Я. Гаваркова і Е.Н. Якубоўская.

Завод жалезабетонных вырабаў яшчэ 25 лістапада 1980 года завяршыў вытворчую праграму 10-й пяцігодкі па ўсіх тэхніка-эканамічных паказчыках. Гэта вынік шырока разгорнутага сацыялістычнага спаборніцтва паміж брыгадамі і асобнымі работнікамі. Калі ў год адкрыцця завод выраблаў 3,4 тыс куб. м. жалезабетону, то ў 1980 годзе больш як 22 тыс куб. м.

Будаўнікамі горада ў дзесятай пяцігодцы было асвоена больш за 5 мільёнаў капітальных укладанняў, што на 34,8 працэнта больш, чым у папярэдняй. У горадзе і раёне было ўведзена ў строй каля 100 аб'ектаў вытворчага і культурна-бытавога прызначэння. Здадзены ў эксплуатацыю 3 школы, дашкольныя ўстановы на 975 месц, 78 тысяч квадратных метраў жылля. Перадавой будаўнічай арганізацыяй горада з'яўлялася ПМК-44. Кіраваў ёю тады вядомы на ўсю воблаць будаўнік У.С.Казлоў. Калектыў калоны выканаў заданні 10-й пяцігодкі да 1 верасня 1980 года. Пабудавана было 45,5 квадратных метраў жылля, 2 свінаводчыя комплексы, 20 аб'ектаў вытворчага прызначэння, школа, дзіцячы сад, камбінат бытавога абслугоўвання, раённая інфармацыйна-вылічальная станцыя.

Адзінаццаць брыгад ПМК-44 працавалі па метаду брыгаднага падраду. Адну з іх узначальвала кавалер ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга М.П Шабусава. Члены гэтай брыгады выканалі пяцігодку за чатыры гады і атрымалі каля трыццаці тысяч рублёў прыбытку.

Вялікая работа праводзілася будаўнікамі па ўладкаванню сёл у калгасах "Шлях Леніна", "XVII партз'езд", імя Свярдлова. Вялося эксперыментальнае будаўніцтва ў саўгасе "Леніна".

На ўсесаюзных аглядах-конкурсах на лепшую пабудову сельскіх населеных пунктаў вёскі Леніна і Маслакі былі

прызнаны пераможцамі і ўзнагароджаны дыпломамі ВДНГ СССР.

У гэтыя гады новых поспехаў дасягнула сацыяльная сфера. Раённая бальніца ў красавіку 1980 года выйшла пераможцай рэспубліканскага спаборніцтва сярод лячэбных установаў БССР. Яе калектыў быў узнагароджаны пераходным сцягам Міністэрства аховы здароўя галіновага камітэта прафсаюзаў. Была адкрыта новая стаматалагічная паліклініка, якая размясцілася ў былым будынку райвыканкама (помніку архітэктуры першай паловы XIX стагоддзя). Былі пабудаваны і адкрыты школы № 3 і 4, дзіцячы сад-яслі №5.

Ганаровае званне “ Народны” было прысвоена духавому аркестру Горацкага раённага Дома культуры пад кіраўніцтвам Б.Д.Круглікава.

Адбыліся творчыя сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі Беларусі – Н.Гілевічам, В. Віткам, М. Аўрамчыкам, Р. Барадуліным, І. Чыгрынавым і В. Зуёнкам.

Упершыню былі праведзены святы вуліц Леніна і Якубоўскага.

У тыя гады нашы землякі прымалі ўдзел у інтэрнацыянальных аперацыях Савецкай Арміі ў Афганістане і Чэхаславакіі. Воіны В.М. Абасаў, С.В. Арлоўскіх, У.М. Даміканаў, М.І. Казлоў, М.В.Крышнёў, А.Р.Салаўёў, А.А. Янусаў загінулі ў баявых аперацыях. Яны пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі.

Вялікія дасягненні былі ў горацкіх спартсменаў. А.Г.Ерухімовіч, суддзя Усесаюзнай катэгорыі, быў суддзёй XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве па ручному мячу. У.Марчанка заваяваў два залатыя медалі на першынстве СССР сярод сельскіх спартсменаў па веласпорту, М. Старавойтаў стаў чэмпіёнам VII спартакіяды народаў СССР у эстафетным бегу 4 па 800 метраў, атрымаў перамогу ў міжнародных лёгкаатлетычных спаборніцтвах у г. Рэйк’явік у бегу на 800 метраў, І. Сапсай стаў чэмпіёнам сельскагаспадарчых ВНУ СССР у шматбор’і і ГПА, С. Свірыдовіч – бронзавым прызёрам чэмпіяната СССР па

коннаму спорту, С.Паўлаў – сярэбраным прызёрам кубка СССР па цяжкай атлетыцы.

Значныя поспехі былі ў працаўнікоў сяла. У дзесятай пяцігодцы заданне па вырошчванню і нарыхтоўках бульбы раён выканаў на 109, агародніны – на 220 працэнтаў. Асноўныя фонды гаспадаркі раёна павялічыліся на 39, а энергетычная магутнасць – на 26 працэнтаў.

За 1976 – 1980 гады значна павялічыўся машынна-трактарны парк калгасаў і саўгасаў. Гаспадаркі раёна атрымалі 698 трактараў, 208 грузавых аўтамабіляў, 144 зернеўборачных камбайна і шмат іншай сельскагаспадарчай тэхнікі.

Крапатлівая работа па павелічэнню вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, прафесіянальнае майстэрства працаўнікоў атрымалі высокую ацэнку ўрада. Звыш тысячы работнікаў раёна ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза. Высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы ў 1971 годзе было прысвоена Р.В. Бельскаму – старшыні калгаса “Запаветы Ільіча”, у 1982 годзе Залатой Зоркі Героя Сацыялістычнай Працы ўдастоены звеннявы па вырошчванню бульбы калгаса "Праўда" І.Я. Галухін.

29 кастрычніка 1982 года ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Горкі аднесены да катэгорыі гарадоў абласнога падпарадкавання. У горадзе ў гэты год жыло 30,2 тыс. жыхароў.

Вядома, што ў гэты час былі, як тады казалі, “часовыя цяжкасці”. Аўтар кнігі памятае, як у канцы 1963 года жыхары горада з начы займалі чэргі за хлебам. У 70-я гады не хапала розных відаў прадуктаў і асабліва мяса, каўбасных вырабаў, якія гараджане прывозілі з іншых гарадоў СССР і нават з Масквы. Цяжка тады было набыць добрыя рэчы і асабліва абутак. Не кажучы ўжо пра аўтамабіль, на які трэба было стаяць у чарзе некалькі гадоў. У лексікон увайшло паняцце “дэфіцыт”.

Нягледзячы на тое, што ў Горках і на вёсцы ішло вялікае будаўніцтва, існавала вялікая чарга на атрыманне

кватэры. Пабудаваць кааператыўную кватэру было такса-ма вельмі цяжка.

У гэтыя гады ўсё больш выразна сталі праяўляцца за-ганы адміністрацыйна-каманднай сістэмы і мадэлі дзяр-жаўнага сацыялізму, калі радавыя члены грамадства былі фактычна адхілены ад рэальнага ўплыву на ўладу. Зні-жалася роля Саветаў, прафсаюзаў і іншых грамадскіх ар-ганізацый у жыцці грамадства.

Разам з тым, трэба адзначыць, што гэтыя гады зас-таліся ў памяці большасці насельніцтва як гады стабіль-насці і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

У 80-90–ыя гады ў аблічча раённага цэнтра таксама адбыліся значныя змены.

Змянілася галоўная магістраль горада – вуліца І.І.Яку-боўскага. У самым пачатку яе перасякала рака Парасіца, якую перакрылі плацінай. І тут разлілося вялікае прыго-жае возера – любімае месца адпачынку гараджан.

Быў пабудаваны новы мост праз раку Капылка, цэн-тральная вуліца злучана з Вакзальнай, а на месцы былога базару сфарміраваўся адміністрацыйны цэнтр горада – плошча імя У.І.Леніна, дзе ўзведзены помнік правадыру.

У цэнтральнай частцы Горак былі сканцэнтраваны ад-міністрацыйныя, грамадскія, культурна-бытавыя і відовішч-ныя ўстановы, а таксама шматпавярховыя жылыя дамы. Тут размясціўся Дом Саветаў, інфармацыйна-вылічальная станцыя, гастраном, бюро падарожжаў і экскурсій, магазін "Маладзёжны", Дом абрадаў.

Побач з плошчай У.І.Леніна быў пабудаваны аўта-вакзал. Горкі ў тыя гады былі ажыўленым транспартным вузлом. Адсюль рэйсавыя аўтобусы накіроўваліся на Мін-ск, Магілёў, Віцебск, Гомель, Бабруйск, Оршу, Асіповічы, Мсціслаў. Рэгулярны аўтобусны рух быў наладжаны з вёс-камі Леніна, Горы, Дрыбін, Расна і іншымі населенымі пун-ктамі раёна.

З чыгуначнага вакзала Пагодзіна ішлі цягнікі ў Оршу, Крычаў і Данецк.

Уздоўж вуліцы Вакзальнай, якая вяла да чыгуначнага вакзала, раскінулася прыгожая алея Перамогі, пасаджаная

яшчэ 9 мая 1946 года. Па правым баку вуліцы ў тыя гады вырас новы мікрараён. Здаецца, зусім нядаўна здаваўся першы жылы дом. А вось ужо сотні людзей сталі навасёламі.

Раслі Горкі, павялічвалася і колькасць жыхароў. На 1 студзеня 1991 года тут пражывала 32,4 тысячы чалавек.

…Працоўныя Горкі прачыналіся рана. Па чатырох гарадскіх маршрутах развозілі аўтобусы людзей да месца іх работы."Прыпынак “Хлебазавод!"– аб'яўляў кандуктар, і група рабочых выходзіла, каб заступіць на месца таварышаў, якія адстаялі начную змену.

У тыя гады прадпрыемства выпускала каля 12 тысяч тон хлебабулачных вырабаў у год. Пастаянна пашыраўся асартымент і паляпшалася якасць прадукцыі. Была асвоена вытворчасць хлеба "Раменскі", "Беларускі малочны", "Дамашні", булкі "Дачная" і кекса "Новы". На прадпрыемстве была распрацавана і дзейнічала праграма "Інтэнсіфікацыя", якая прадугледжвала скарачэнне долі ручной працы. Толькі ў 1986 годзе было ўстаноўлена 14 адзінак новага абсталявання, укаранялася комплексная сістэма кіравання якасцю.

У раёне чыгуначнай станцыі Пагодзіна яшчэ ў гады першых пяцігодак сфарміравалася прамысловая зона. Там быў пабудаваны льнозавод – адзін з буйнейшых у вобласці. На яго базе было створана ААТ “Горкілён”. У тыя гады ён істотна змяніўся: былі ўзведзены новыя карпусы, устаноўлена сучаснае абсталяванне. У 1982 годзе пачаў працаваць цэх прамысловай падрыхтоўкі трасты з ільносаломкі, дзейнічала сістэма аўтаматычнага кіравання працэсам вытворчасці.

На прадпрыемстве раслі вопытныя кадры, былі і ветэраны працы, і працоўныя дынастыі. Людзі раслі разам з заводам. Пераможцам спаборніцтва ў гонар дастойнай сустрэчы XXVII з'езда КПСС была змена № 7, якую ўзначальвала Н.М. Лахондзікава.

У 1986 годзе заводскія ўмельцы ўкаранілі 13 вынаходніцтваў. Сярод актывістаў навукова-тэхнічнага прагрэсу

былі М.С.Сугак, А.П.Саўчанка, Н.Н. Гусакоў, Б.С.Вераб'ёў і інш.

Масла, малако, кефір, тварог, сыр – усё гэта выраблялася на Горацкім масласырзаводзе, які ў тыя гады стаў ААТ “Горацкі масларобна - сыраробны завод”. Сваю прадукцыю прадпрыемства пастаўляла ў Маскву, Ленінград, Мінск і іншыя гарады Савецкага Саюза. Высокім майстэрствам у калектыве вылучалася тэхнолаг цэха М.І.Валюжэніч, якая адпрацавала тут больш за 30 гадоў. Многіх навучыла яна прафесіі сыраробa.

Адна з яе вучаніц – О.М.Барэйша – сама стала настаўніцай, а яе выхаванка Л.І.Цімашэнка за добрасумленную працу была ўзнагароджана ордэнам Працоўнай славы III-й ступені.

Большасць завадчан былі жанчыны, занятыя пераважна ручной працай. Таму механізацыя вытворчых працэсаў стала адной з галоўных праблем, якую вырашалі ў тыя гады. Да 12-й пяцігодкі планавалася ўкараніць 50 адзінак новага абсталявання. Гэтай работай займаўся галоўны інжынер завода В.А. Ягораў.

Больш за восем назваў напіткаў выпускаў Горацкі ўчастак вытворчага аб'яднання "Магілёўхарчпрам": "Дзюшэс”, "Мандарынавы","Бураціна", "Усходні","Тархун" і інш.

У тыя гады ўчастак займаўся вырабам цукерак, развядзеннем рыбы, вырошчваннем грыбоў, адкрыў фірменную краму.

А выраблялі гэтую прадукцыю сапраўдныя майстры сваёй справы. Многа гадоў на прыгатаванні сіропу працавала М.В.Шалаева. Яна дасканала авалодала “ сакрэтамі” вытворчасці гэтага асноўнага кампанента напіткаў. Спецыялістамі высокай кваліфікацыі з'яўляліся В.І.Сакалова, якая працавала на разлівачным аўтамаце, аператар бутэлькамыечнай машыны І.В.Васілеўская і многія іншыя.

Значнае месца ў эканоміцы горада займаў завод жалезабетонных вырабаў, прадукцыя якога ішла на будоўлі ўсёй Магілёўскай вобласці.

У кастрычніку 1984 года на базе Горацкага ўчастка Шклоўскага мэблевага аб'яднання быў створаны камбінат

будаўнічых матэрыялаў. Ён выпускаў цэглу, аконныя і дзвярныя блокі, тару, камплектуючыя дэталі для аршанскага завода "Легмаш", тавары шырокага ўжытку.

Калектыў камбіната складалі ў асноўным вопытныя рабочыя, настаўнікі моладзі, якія аддалі прадпрыемству многія гады жыцця. Сярод іх  А. А. Касьян, Н.Ф. Куляшоў, Ф.М. Куляшоў, В.М.Старавойтава, П.Ф.Напрэенка, Б.Ф.Маслоўскі, Н.Т.Антоненка. 40 гадоў працаваў тут наладчыкам абсталявання М.П.Цімашэнка. Ордэн "Знак пашаны", медаль "Ветэран працы", шматлікія граматы – сведчанне таго, што самаадданая праца, стараннасць, добрасумленнасць простага працаўніка  не засталіся незаўважанымі. У 1987 годзе імя М.П.Цімашэнка было занесена ў Кнігу гонару прадпрыемства.

У 1986 – 1990 гады шпарка расла індустрыя Горак. За гады 11-й пяцігодкі аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся на 47,2%, вытворчасць вырасла на 15,5%, на тэхнічнае перааснашчэнне прамысловых прадпрыемстваў горада планавалася выдзеліць 7,5 мільёнаў рублёў капітальных укладанняў.

У прамысловасці і гандлі пачалі стварацца акцыянерныя таварыствы, кааператывы, малыя і арэндныя прадпрыемствы. Узнікла каля сотні прыватных крам і ларкоў.

У Горках пачалі працаваць філіялы “Беларусбанка”, “Белбізнесбанка”,“Прамбудбанка”,“Аграпрамбанка”, “Дукат” і “Прыорбанка”.

Зладжана працавалі будаўнікі горада. У 11-й пяцігодцы былі здадзены ў эксплуатацыю кінатэатр "Крыніца" на 420 месц, Дом быту па вуліцы Калініна, камбінат грамадскага харчавання, гарадскі стадыён. Значна вырас жылы фонд Горак. Ён складаў 300 тыс. квадратных метраў жылля.

У 1986 годзе ўсе будаўнічыя арганізацыі былі аб’яднаны ў МПМК-251 Магілеўскага “Аблсельгасбуда”. Трыццаць гадоў назад прыехалі ў Горкі зусім маладыя будаўнікі М.П.Шабусава, В.М.Паўгодкіна, Л.М.Бабылёва, Р.І.Сідлерава. Прыехалі ў камандзіроўку, каб дапамагаць горацкім калегам, а засталіся тут назаўсёды. Гэта былі пава-

жаныя ўсімі ветэраны працы, брыгадзіры перадавых брыгад.

Побач з вопытнымі будаўнікамі працавалі маладыя, здольныя, ініцыятыўныя. Тынкоўшчык І. Бычкова была выбрана дэпутатам абласнога Савета. Брыгадзір Л. Голубеў па выніках работы ў 12-й пяцігодцы быў узнагароджаны ордэнам Працоўнай славы III-й ступені.

Дзесяткі шафёраў, слесараў, кандуктараў спяшаліся кожную раніцу да прахадной аўтабазы № 17 , каб вывесці ў міжгароднія рэйсы аўтобусы, грузавыя аўтамабілі. Працаўнікі аўтапрадпрыемства пасяхова справіліся з выкананнем плана дзевяці месяцаў 1987 года. План грузавых перавозак быў выкананы на 117,6 , пасажырскіх – на 106,6 %.

Сярод перадавікоў і наватараў вытворчасці былі калектывы брыгады №1 М.І. Яцкова, брыгады №7 В.В. Закурдаева, вадзіцелі В.Б.Каспяровіч, В.В.Баркулаў, В.С.Жураў, М.В.Салодкі.

Вялікім аўтарытэтам на аўтабазе карыстаўся брыгадзір вадзіцеляў Е.А.Белкін. Чвэрць веку працаваў ён за рулём і за ўвесь час не дапусціў ніводнага парушэння правілаў дарожнага руху. Ён выдатнік Міністэрства аўтатранспарту БССР, адзначаны ордэнам Працоўнай славы III ступені і медалём "За працоўную доблесць". Разам з ім працавалі яго жонка і сын.

З кожным годам паляпшалася работа жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Пачала дзейнічаць магутная кацельня, якая абагравала амаль увесь горад.

На добраўпарадкаванне вуліц горада ў 11-й пяцігодцы было расходавана 2,5 млн. рублёў. З 52 км транспартных і пешаходных ніцей горада 39 мелі ўдасканаленае пакрыццё.

У тыя гады былі здадзены ў строй сярэдняя школа №5 (зараз гэта гімназія №1) на 1726 месц, гасцініца, станцыя абезжалезвання вады, 280 кватэр, пачалося будаўніцтва хірургічнага корпуса райбальніцы і гандлёвага цэнтра.

У горадзе і раёне далейшае развіццё атрымала паштовая сувязь. У сярэднім за дзень работнікі службы апра-

цоўвалі больш чым 25 тыс. адзінак пісьмовай карэспандэнцыі, адрасатам дастаўлялася каля 40 тыс. пісьмаў і газет, ажыццяўлялася каля 2,5 тыс. міжгародніх тэлефонных размоў. Для ўдасканальвання тэлефоннай сувязі ў новым будынку пошты была зманціравана АТС на 4 тыс. нумароў. А пасля ўвядзення ў строй у Магілёве квазіэлектроннай станцыі "Кварц" усе абаненты Горак атрымалі магчымасць званіць у іншыя гарады нашай краіны па аўтаматычнай тэлефоннай сувязі.

За 1981–1985 гады значна пашырылася гандлёвая сетка раёна, плошча магазінаў павялічылася больш чым на 1000 кв м. Горад упрыгожыў новы комплекс "Парнас", які ўключае рэстаран, кафэ і магазін кулінарыі.

У Горках і раёне  была створана стройная сістэма аховы здароўя. Раён абслугоўвалі 122 ўрачы, больш за 400 фельчараў і медсясцёр. У 1981 годзе званне заслужанага ўрача БССР было прысвоена галоўнаму ўрачу амбулаторыі Горацкага льнозавода, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны Р.У.Фомчанку.

У 11-й пяцігодцы прыкметна палепшылася матэрыяльная база аховы здароўя. Была пабудавана новая раённая паліклініка на 375 наведванняў у дзень, адкрыта аддзяленне прафілактыкі. Усеагульнай дыспансерызацыяй было ахоплена каля 90% насельніцтва горада і раёна.

У бібліятэках горада і раёна налічвалася 1825 тыс. кніг. Імі карысталася больш за 60 тыс. чытачоў. Працавала 53 клубы і Дамы культуры, 6 музычных школ, 55 кінаўстановак.

Укараняліся новыя, прагрэсіўныя формы абслугоўвання насельніцтва.  У горадзе і амаль ва ўсіх сельскіх Саветах былі адкрыты культурна-спартыўныя комплексы. Для тых, хто сябруе з фізкультурай,  былі абсталяваны стадыён, 15 спартыўных залаў, два плавальныя басейны, 16 стралковых  ціраў, 125 спартыўных пляцовак.

Горкі і раён заўсёды былі багаты талентамі: у 250 гуртках мастацкай самадзейнасці займаліся артысты-аматары. Гонарам з'яўляліся тры народныя калектывы.

Як вядома, поспех усёй культурна-асветніцкай работы ў значнай меры залежыць ад таго, хто яе вядзе. У клубах, Дамах культуры, бібліятэках раёна тады працавала шмат сапраўдных энтузіястаў. Гэта К.М. Галушкоў, А.М. Шчэрба, А.А. Александровіч, М.Я. Гладкая, З.П. Рабцава.

Дзякуючы намаганням першага сакратара РК КПБ Г.С. Яскевіча, сакратара РК КПБ Н.Г. Ануфрыевай, старшыні Горацкага гарвыканкама В.Я.Рэндава, загадчыка аддзела культуры райвыканкама Р.Я. Макеева і яго намесніка А. Дз. Храмянкова, кіраўніка будаўнічай арганізацыі РБУ М.М. Нікіценкі, краязнаўцаў І.М.Стэльмашонка, В.Т.Гулевіч і іншых у канцы 1988 года ў Горках быў адкрыты гістарычна-этнаграфічны музей, а побач у 1989 годзе ў былым магазіне – карцінная галерэя.

Папулярнымі ў горадзе і раёне сталі святы вёсак і вуліц, кірмашы і тэатралізаваныя прадстаўленні. Запомнілася жыхарам Горак свята горада, якое адбылося ў маі 1987 года на стадыёне. Масавыя гулянні прайшлі на плошчах Леніна і Якубоўскага, дзе былі разгорнуты выставы дасягненняў прадпрыемстваў горада. У яго арганізацыю шмат намаганняў уклала сакратар РК КПБ Н.Г. Ануфрыева.

Завяршылася святкаванне карнавалам і фейерверкам. У гэты дзень рашэннем гарадскога Савета народных дэпутатаў званне "Ганаровы грамадзянін горада Горкі" было прысвоена ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, медыцынскай сястры раённай бальніцы А.С.Макаравай.

Жыхары раёна ў свабодны час маглі карыстацца паслугамі Горацкага бюро падарожжаў і экскурсій. Штогод бюро абслугоўвала да 80 тыс. чалавек, даючы ім магчымасць наведаць памятныя мясціны нашай краіны і цікава адпачыць.

У горадзе і раёне працавала 19 сярэдніх, 12 васьмігадовых і 26 пачатковых школ. Педагагічны калектыў раёна складалі вопытныя педагогі. Самаадданая праца многіх з іх была высока ацэнена: 60 настаўнікаў былі ўзнагароджаны знакам "Выдатнік народнай асветы".

Многа цікавых мерапрыемстваў для школьнікаў праводзіў гарадскі Дом піянераў, станцыя юных натураліс-таў і дзіцяча-юнацкая конна-спартыўная школа.

У 1985 годзе ў Горках адкрыўся дзіцячы парк. Там пра-цавалі атракцыёны, арэлі і ціp.

У пачатку 90-х гадоў у раёне былі зроблены першыя крокі на шляху шматпартыйнасці – тут працавалі рэгі-янальныя аддзяленні партыі камуністаў Беларусі, Бела-рускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Аграрнай партыі, Беларускага народнага фронту. З’явіліся і грамадскія ар-ганізацыіі – гарадскі клуб выбаршчыкаў, гарадское яўрэйскае культурна-асветніцкае таварыства імя Б.Іофе і іншыя.

Пасля ўтварэння суседняга Дрыбінскага раёна (1989) ў Горацкім засталося 11 калгасаў і 6 саўгасаў. На працягу 1993-1995 гг. раён з’яўляўся лідэрам рэспублікі па выт-ворчасці малака, многіх сельскагаспадарчых культур. Па выніках 1995 года раёну было прысуджана тры першыя месцы ў Магілёўскай вобласці.

У тыя гады далёка за межы Магілёўшчыны разнеслася слава пра некаторыя гаспадаркі Горацкага раёна. Калгас "XVII партз'езд"– адна з іх. Па многіх паказчыках ён займаў вядучае месца ў раёне.

У 1958 годзе старшынёй яго быў абраны І.І. Мельнік – выпускнік Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Бед-ная спадчына дасталася новаму кіраўніку: ураджай збож-жавых у гаспадарцы не перавышаў 5 – 6 цэнтнераў з гек-тара, а надоі – 620 кілаграмаў малака ад каровы.

Узначалены І. І. Мельнікам калгас паступова набіраў сі-лу, нарошчваў свае дасягненні.У1986 годзе ўраджай збож-жавых у гаспадарцы ўжо складаў 26,4 цэнтнера з гектара, надоі на фуражную карову павялічыліся да 3103 кілаг-рамаў. Штогод калгас атрымоўваў амаль 3 мільёны рублёў чыстага прыбытку. І калі ў 1963 годзе чалавека-дзень ап-лочваўся ў памеры 2 рублёў 06 капеек, то ў 1987 годзе – звыш 10 рублёў.

У калгасе вялося вялікае будаўніцтва. Былі здадзены ў эксплуатацыю сучасны механізаваны комплекс па выт-

ворчасці свініны на прамысловай аснове, які разлічаны на 15 тысяч галоў. Сяло Аўсянка ператварылася ў пасёлак з комплексам культурна-бытавых устаноў. Было пабудавана каля ста новых кватэр, гандлёвы цэнтр, сталовая, гасцініца, сад-яслі, інтэрнат для моладзі, сярэдняя школа з закрытым плавальным басейнам, а таксама Палац культуры і іншыя аб'екты культурна-бытавога прызначэння.

Старанная праца калгаснікаў гаспадаркі была адзначана высокімі ўзнагародамі і медалямі. Лепшыя з іх – А.А. Сойкіна, М.Ф. Пруднікава, Л.І. Яцаў – былі ўдастоены ордэна Леніна. А старшыні калгаса І.І. Мельніку ў 1985 годзе было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Вядомымі камандзірамі сельскагаспадарчай вытворчасці былі А.П. Герасімаў і М.М. Ларковіч. Ім былі прысвоены ганаровыя званні заслужанага работніка сельскай гаспа-даркі Рэспублікі Беларусь.

Цікава, што ў раёне вёўся пошук новых форм гаспадарання, якія больш адпавядалі перыяду пераходу да рыначных адносін. Вучоныя БСГА Э.А. Пятровіч, М.З. Фрэйдзін, А.М. Каган разам са старшынёй калгаса імя Свярдлова А.П. Герасімавым распрацавалі праект рэфармавання гаспадаркі. На яе базе ў 1990 годзе было створана сельскагаспадарчае аб'яднанне, куды ўвайшло пяць сельскагаспадарчых кааператываў, а працаўнікі гаспадаркі сталі акцыянерамі.

У гады 11-й пяцігодкі капіталаўкладанні 24 калгасаў і саўгасаў раёна складалі звыш 70 мільёнаў рублёў. На палях раёна працавала 1640 трактароў, 700 аўтамабіляў, 723 камбайны на ўборцы зерня, бульбы, ільну і сіласу.

За 1981–1985 гады на 26 працэнтаў павялічыўся аб'ём вытворчасці прадукцыі палёў і ферм раёна. Так, у параўнанні з 1981 годам продаж зерня дзяржаве ў 1985 годзе ўзрос на 36 працэнтаў, мяса – на 32, малака – на 47 працэнтаў.

У 1987 годзе ў раёне ў сярэднім з кожнага гектара было сабрана па 32 цэнтнеры зерня. Рэкордны ўраджай – 45

цэнтнераў вырасцілі хлебаробы калгаса "Шлях Леніна" і племсаўгаса імя Чкалава.

Было чым ганарыцца і жывёлаводам раёна, праца якіх па выніках зімоўкі 1986 – 1987 гадоў была ўдастоена Ганаровай граматы ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і УЛКСМ. Такую ж узнагароду атрымалі і працаўнікі калгаса "Праўда".

У тыя гады павялічылася колькасць фермерскіх гаспадарак. У 1995 годзе іх стала 33 і апрацоўвалі яны больш за 1000 га зямлі.

У красавіку 1986 года адбылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Больш за 100 жыхароў раёна прынялі актыўны ўдзел у ліквідацыі аварыі. Некаторыя з іх былі ўдастоены ўрадавых узнагарод. Але, на жаль, некаторыя сталі потым інвалідамі, а супрацоўнік Горацкага ГРАУС Л.П. Азаранка памёр у росквіце сіл. На тэрыторыі раёна для перасяленцаў былі пабудаваны два пасёлкі каля вёсак Мацюты і Ходараўка, у якія пераехалі жыхары з Краснапольскага і іншых раёнаў адсялення.

Сацыяльна-палітычнае і эканамічнае становішча ў гэты перыяд насіла складаны і супярэчлівы характар. Ён увайшоў у гісторыю краіны як перыяд перабудовы. Адбыліся вялікія сацыяльна-палітычныя змены: былі ліквідаваны СССР і КПСС, абвешчана суверэннасць Рэспублікі Беларусь. Жыхары Горак и раёна, як і ўсе грамадзяне Беларусі, у поўнай меры спазналі, што такое інфляцыя, талоны і візітныя карткі спажыўцоў, беспрацоўе. Некалі паспяховыя для Горак прадпрыемствы, такія як Горацкі завод напіткаў, спынілі сваю дзейнасць і каля 90 работнікаў аказаліся беспрацоўнымі.

Аднак людзі жылі з надзеяй, што ўсе гэтыя цяжкасці будуць пераадолены.

# АКАДЭМІЧНЫЯ БУДНІ




**У** першыя пасляваенныя пяцігодкі ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбыліся значныя змены.

Ужо ў пачатку 50-ых гадоў у акадэміі налічвалася 8 факультэтаў, на якіх рыхтавалі спецыялістаў па 11 спецыяльнасцях. У 1950-1951 навучальным годзе навучалася 1650 студэнтаў, працавала 3 прафесары, 34 да-цэнты, 33 старшыя выкладчыкі і 50 асістэнтаў.

Аднак далейшае развіццё акадэміі сур'ёзна затрымлівала адставанне яе вучэбна-вытворчай базы. Не хапала вучэбнай плошчы і жылля. Не хапала клуба, фізкультурнага комплексу, камбіната бытавых паслуг. Вуліцы акадэмічнага гарадка ў пачатку 50-ых гадоў не былі замошчаны, тратуары не заасфальтаваны. Не хапала электраэнергіі, і святло падавалі толькі ўвечары.

У 1949 годзе рэктарам БСГА быў прызначаны член-карэспандэнт Акадэміі Навук БССР В.І.Шэмпель, які скончыў у 1929 годзе агранамічны факультэт. Ён працаваў у якасці рэктара да 1952 года.

У фондах дзяржаўнага архіву Магілёўскай вобласці захоўваюцца пратаколы пасяджэнняў рэктарата, Вучонага Савету акадэміі, з якіх бачна вялікая роля, якую адыграў Віктар Іванавіч на пасадзе рэктара. Менавіта дзякуючы яго актыўнай дзейнасці ў гэтыя гады беларускім урадам было выдзелена 10,5 мільёнаў рублёў на аднаўленне акадэміі. У 1952 годзе быў поўнасцю адноўлены галоўны вучэбны корпус (зараз корпус №4).

Як успамінаюць ветэраны акадэміі, менавіта па ініцыятыве рэктара пры аднаўленні будынка фасад быў увенчаны шматлікімі калонамі, і таму корпус зараз з'яўляецца самым прыгожым будынкам акадэміі.

Разумеючы важную ролю электрыфікацыі ў аднаўленні ВНУ, В.І.Шэмпель дабіўся выдзялення сродкаў на будаў-

ніцтва электрастанцыі для акадэміі на Чапялінскім балотным масіве.

У гэты час калектыў акадэміі папоўніўся новымі, высокакваліфікаванымі выкладчыкамі. Гэта прафесары, член-карэспандэнты АН БССР А.М.Іпацьеў, М.М.Замяцін, А.Б.Трэйвас, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР, прафесар А.М.Брагін, прафесары К.І.Навумаў і Б.Г.Турбін. Шэраг вядомых вучоных прыязджалі і чыталі лекцыі на ўмовах сумяшчальніцтва.

Віктар Іванавіч удзяляў шмат увагі адраджэнню акадэмічная бібліятэкі. У гады яго работы рэктарам бібліятэка адрадзілася і ў 1951 годзе мела 200 тысяч кніг.

Вядома, што ён вёў перагаворы з сям'ёй пакойнага акадэміка Д.Н.Пранішнікава аб перадачы яго асабістай бібліятэкі акадэміі. У 1950 годзе бібліятэка ў колькасці 8 тысяч тамоў, дзе шырока была прадстаўлена літаратура па раслінаводству, аграхіміі, глебазнаўству і іншых сельскагаспадарчых дысцыплінах, была бязвыплатна перададзена ВНУ.

У верасні 1952 года рэктарам БСГА быў назначаны І.Ф.Гаркуша, які раней быў прарэктарам па вучэбнай рабоце. У далейшым ён – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, аўтар многіх навуковых прац і падручнікаў па глебазнаўству, заслужаны дзеяч навукі БССР, акадэмік Акадэміі Навук БССР.

У 1953 – 1954 навучальным годзе ў акадэміі навучалася 3384 студэнты; 2688 – на стацыянары, 546 – на завочным аддзяленні. Такім чынам, колькасць студэнтаў у акадэміі ў параўнанні з даваенным перыядам узрасла ў чатыры разы. Узрасла і колькасць выкладчыкаў: з 95 чалавек у 1941 навучальным годзе – да 210 у 1954 годзе.

Аднак далейшае развіццё акадэміі і рост яе навукова-педагагічных кадраў стрымліваліся адставаннем яе вучэбна-вытворчай базы. У 1953 – 1954 навучальным годзе акадэмія мела ўсяго чатыры вучэбныя карпусы. Прычым усё заходняе крыло корпуса №1 было занята пад студэнцкі інтэрнат, а галоўны вучэбны корпус (зараз корпус №4) эксплуатаваўся да канца не адноўлены. Частка ву-

чэбных аўдыторый была занята пад жыллё выкладчыкаў. Таму ўрадам рэспублікі былі прыняты дадатковыя меры па будаўніцтву акадэміі.

Гісторык Л. Чарняўская ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі знайшла цікавыя дакументы, прысвечаныя гэтаму перыяду. З іх бачна, што ў 1953 г. у інстытуце "Белдзяржпраект" Д. Саннікаў пад кіраўніцтвам Г. Парсаданава распрацаваў генеральны план Беларускай сельскагаспадарчай акадэмі. Генплан ахопліваў поўны комплекс вучэбных, жылых і гаспадарчых пабудоў, устройства агароджы, азеляненне, каналізацыю, электраасвятленне, тэлефанізацыю, радыёфікацыю тэрыторыі. Таксама праектыроўшчыкі рашалі задачу ўвязкі ўсіх пад'ездаў, праходаў і самой тэрыторыі акадэміі ў адно цэлае з цэнтрам і планіроўкай горада. Генпланам была ўлічана існуючая забудова, вызначаны праектуемыя будынкі, адпаведна 1-я і 2-я чэргі будаўніцтва, прычым новае будаўніцтва планавалася весці як на тэрыторыі акадэміі, так і ў горадзе. Генплан уключаў таксама праект чырвоных ліній асноўных вуліц на тэрыторыі акадэміі.

У 1953 г. у адпаведнасці з генпланам быў распрацаваны праект корпуса механізацыі. Аўтарам праекта быў Г. Сысоеў, яго сааўтарамі былі архітэктары С. Бяляеў і С. Мусінскі, канструктар – Г. Ідэльчык. Праектаванне адбывалася ў некалькі этапаў. Корпус механізацыі заслугоўвае ўвагі як прыклад савецкай архітэктуры 50-х гг. з выкарыстаннем архітэктурных дэталяў класічнай спадчыны (порцік, аконныя абрамленні, руст, ляпніна, карніз з дэнтыкуламі). Аўтары так тлумачылі прынятае імі архітэктурнае рашэнне:"...архітэктурнае рашэнне даецца як маляўнічае спалучэнне аб'ёмаў з формамі рускай класічнай архітэктуры, перапрацаванымі для новага ідэйнага і мастацкага зместу". Будынак размешчаны на перакрыжаванні вул. Мічурына і Студэнцкай з водступам ад чырвонай лініі для захавання паласы шматгадовых дрэў. Галоўны фасад арыентаваны на вул. Мічурына. Асноўнае крыло па вул. Мічурына двухпавярховае, дадатковае па вул. Студэнцкай – аднапавярховае. Першапачаткова па

праектнаму заданню на галоўным фасадзе ўваход афармляўся шасцікалонным порцікам дарычнага ордэра ў выглядзе паўратонды. У рабочым праекце рашэнне фасадаў было спрошчана, зменены ўваходны порцік на чатырохкалонны з трохвугольным франтонам. Завершана будаўніцтва было ў 1955 г.

Адначасова з корпусам механізацыі ў 1953-54 гг. быў распрацаваны праект агароджы і брамы галоўнага ўвахода. Над праектам працавалі С. Бяляеў і М. Кавалеўскі. Галоўны ўваход па генплану быў запраектаваны з боку горада з вул. Савецкай па восі вул. Сурганава. На перакрыжаванні восі ўвахода з вул. Савецкай была запланавана плошча, па перыметры забудаваная студэнцкімі інтэрнатамі. Брама рашалася ў выглядзе двух пілонаў са спараннымі калонамі дарычнага ордэра.

У 1956-57 гг. на тэрыторыі акадэміі і ў горадзе па тыпавому праекту былі пабудаваны студэнцкія інтэрнаты № 2 па вул. Студэнцкай, № 3 і № 4 па вул. Сурганава.

У чэрвені 1957 года Савет Міністраў БССР прыняў спецыяльную пастанову “О Белорусской сельскохозяйственной академии”, у адпаведнасці з якой быў распрацаваны новы генеральны план будаўніцтва акадэміі.

З лета 1958 года фронт будаўнічых работ у акадэміі рэзка пашырыўся: будаваліся новыя вучэбныя карпусы, студэнцкія інтэрнаты, новы будынак сталовай, трохзальны спартыўны корпус.

У 1958 годзе для прафесарска-выкладчыцкага складу быў пабудаваны новы 48-кватэрны дом па вуліцы Кірава (зараз вуліца Сурганава).

На тэрыторыі акадэміі будаваўся дзіцячы сад на 100 месц, сталовая на 500 месцаў, магазін і камбінат бытавога абслугоўвання. З мэтай паляпшэння транспартнай сувязі з акадэміяй пачалося будаўніцтва асфальтаванай дарогі Орша – Горкі. У выніку завяршэння будаўніцтва высакавольтнай лініі Горкі-Орша акадэмія была надзейна забяспечана электраэнергіяй.

Работы па будаўніцтву і добраўпарадкаванню акадэміі яшчэ больш пашырыліся ў пачатку 60-ых гадоў у сувязі з

падрыхтоўкай да 125-годдзя ВНУ. Калі ў 1959 годзе яна мела шэсць вучэбных карпусоў, то ў 1965 годзе іх налічвалася ўжо дзесяць. У 1960 годзе студэнты атрымалі адзін з лепшых у рэспубліцы спартыўны корпус. У 1961 годзе была пабудавана сталовая на 500 пасадачных месцаў. Колькасць студэнцкіх інтэрнатаў павялічылася да сямі. У 1965 годзе было завершана будаўніцтва новага галоўнага вучэбнага корпуса (корпус №10) з актавай залай. Пабудаваны цэлы комплекс жылых дамоў, атрымаўшых папулярную тады назву "Черёмушки", будавалася акадэмічная цеплацэнтраль, адбылася поўная газіфікацыя акадэмічнага гарадка, а яго вуліцы заасфальтаваны.

У верасні 1960 года ў акадэміі быў адкрыты факультэт біялогіі і асноў сельскагаспадарчай вытворчасці, які стаў рыхтаваць выкладчыкаў для сярэдніх школ і сельскагаспадарчых тэхнікумаў.

З 1962 года акадэмія стала рыхтаваць спецыялістаў для замежных краін.

Добрым памочнікам кіраўніцтва акадэміі стала шматтыражная газета "Советский студент", першы нумар якой выйшаў 5 снежня 1954 года. Газета выдавалася адзін раз у тыдзень на чатырох палосах тыражом 2500 экзэмпляраў.

У акадэміі стаў рэгулярна працаваць радыёвузел. Перад яго мікрафонам выступалі кіраўнікі партыйных і грамадскіх арганізацый, выдатнікі вучобы, передавікі сельскагаспадарчай вытворчасці.

У гэтыя гады актыўна вялася работа па павышэнню кваліфікацыі прафесарска-выкладчыцкага складу. У акадэміі была пашырана аспірантура. У 1960-1963 гадах выкладчыкамі былі абаронены 3 доктарскія і 20 кандыдацкіх дысертацый. Колькасць аспірантаў на 15 кафедрах павялічалася да 37 чалавек на стацыянары і 24 навучаліся без адрыву ад вытворчасці. У 1964-1965 навучальным годзе на 45 кафедрах працавалі 365 прафесараў і выкладчыкаў.

Працягвала развівацца бібліятэка акадэміі. Акрамя цэнтральнага будынка з пяццю заламі было арганізавана 6 філіялаў бібліятэкі ў студэнцкіх інтэрнатах і тры пры кафедрах грамадскіх навук. Да пачатку 1965 года ў

кніжным фондзе бібліятэкі налічвалася 535 тысяч тамоў. Яна вяла абмен з 585 навуковымі і вучэбнымі ўстановамі СССР і са 146 замежнымі ўстановамі. Быў складзены спецыяльны кніжна-абменны фонд для студэнтаў-завочнікаў.

З 1956 года выдатнай школай працоўнага выхавання студэнцкай моладзі сталі цалінныя землі. Камсамол акадэміі штогод накіроўваў на ўборку ўраджаю ў Казахстан да 500 студэнтаў. На працягу двух-трох месяцаў года яны збіралі хлеб, будавалі дамы і інтэрнаты, вытворчыя памяшканні. Пасля працоўнага дня студэнты арганізоўвалі спартыўныя спаборніцтвы, канцэрты, вечары адпачынку, афармлялі наглядную агітацыю.

На ўборцы цаліннага ўраджаю асабліва вылучыліся студэнты В.Палзоўскі, А Драбышэўскі, В.Афонькін, І.Кавалёў, В.Рымараў, С.Жулега і іншыя. Яны, стаўшы за штурвал камбайнаў, скошвалі па 410-600 гектараў хлеба, а ў 1958 годзе – ад 800 да 1090 гектараў. За самаадданую працу 11 студэнтаў-камсамольцаў акадэміі ў 1958 годзе былі ўзнагароджаны медалямі “За освоение целинных земель”. Шмат хто быў узнагароджаны знакамі ЦК УЛКСМ “За освоение целинных и залежных земель”, Ганаровымі граматамі ЦК УЛКСМ і ЦК ЛКСМ Казахстана.

З верасня 1960 года ў акадэміі стала працаваць студэнцкая народная дружына, якая адыграла важную ролю ў навядзенні належнага парадку на тэрыторыі ВНУ і горада.

Навыкі грамадскай работы студэнты набывалі, займаючыся на факультэце грамадскіх прафесій (ФГП), які быў створаны ў акадэміі ў 1962 годзе. Тут яны атрымлівалі кваліфікацыю лектара-прапагандыста, карэспандэнта газеты, інструктара і суддзі па некалькіх відах спорту. У 1964 – 1965 навучальным годзе на ФГП займалася 320 студэнтаў, у тым ліку 51 – на лектарскім аддзяленні.

З мэтай паляпшэння эстэтычнага выхавання студэнтаў і супрацоўнікаў акадэміі ў 1957 годзе быў створаны універсітэт музычнай культуры, дзе заняткі праводзілі вядомыя артысты і музыканты Мінска, Ленінграда, Масквы. У 1959 годзе быў створаны універсітэт мастацкага выхавання, на якім выступалі вядомыя майстры мастацтва.

У гэтыя гады працягваліся актыўныя навуковыя даследаванні. Так, у 1954 – 1956 гадах вучонымі акадэміі быў надрукаваны шэраг буйных прац. Кафедрай глебазнаўства, якой з 1945 года кіраваў прафесар Р.Т.Вільдфлуш, была выдадзена кніга “Окультуривание почв как современный этап почвообразования”. Рашэннем вучонага савета Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі гэта кніга была ўдастоена прэміі імя акадэміка В.Р.Вільямса.

Для развіцця навукі па механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі шмат зрабілі прафесар А.Б.Трэйвас, дацэнт Б.Г.Турбін і іншыя. Кніга Б.Г.Турбіна “Механизация и электрификация сельского хозяйства” выйшла некалькімі выданнямі ў СССР і ў іншых сацыялістычных краінах. Пад рэдакцыяй загадчыка кафедры пладаводства і гароднітва А.М.Іпацьева выданы на рускай і беларускай мовах выбраныя творы М.В.Рытава, падрыхтаваны кнігі “Овощные растения” і “Помология БССР”. Важную працу ў галіне тэорыі торфастварэння вёў прафесар І.М.Курбатаў. Прафесар Н.М.Замяцін актыўна працаваў у галіне вывядзення новых пародзістых чорна-стракатых свіней.

Навуковыя даследаванні сталі бліжэй да вытворчасці. Так, сіламі агранамічнага факультэта ў 1957 годзе было даследавана 43 000 гектараў земляў калгасаў Магілёўскай вобласці, складзены картаграмы з рэкамендацыямі вапнавання кіслай глебы.

Пасля вераснёўскага (1953 г.) Пленума ЦК КПСС партбюро і рэктарам з мэтай аказання дапамогі калгасам раёна былі арганізаваны чатыры пастаянныя брыгады навуковых супрацоўнікаў. Брыгады ўзначалілі загадчыкі кафедрамі дацэнты Р.Т.Вільдфлуш, І.Ш.Гарфінкель, С.С.Захараў, Б.Г.Турбін. Была таксама створана асобная брыгада для аказання дапамогі калгасам па пытаннях будаўніцтва. Дзесяць выкладчыкаў было выдзелена для правядзення агракурсаў у калгасах.

Вучоныя акадэміі прымалі актыўны ўдзел у распрацоўцы вытворчых і перспектыўных планаў развіцця гаспадарак Горацкага раёна, давалі каштоўныя прапановы па механізацыі працаёмкіх сельскагаспадарчых работ. Так,

працаўнікі сельскагаспадарчай меліярацыі распрацавалі для калгасаў 30 праектаў асушэння торфабалот. Кафедра анатоміі і фізіялогіі жывёл праводзіла кансультацыі па прафілактыцы хвароб жывёл і аказвала дапамогу ў іх лячэнні. Кафедра землеўпарадкавальнага праектавання склала для калгасаў 50 праектаў унутрыгаспадарчага землеўпарадкавання. Даследчая праца ўсё цясней звязвалася з непасрэднымі патрэбамі калгасаў і саўгасаў рэспублікі. Вывучаліся пытанні прадуктыўнасці і параўнаўчай эфектыўнасці правільных севазваротаў (прафесар С.С.Захараў), сістэмы апрацоўкі дзярнова-падзолістых суглiністых глебаў (дацэнт Н.К.Трыма), эфектыўнага прымянення арганічных і мінеральных угнаенняў на суглiністых глебах (прафесар Р.Т.Вільдфлуш). Былі распрацаваны навукова абгрунтаваныя рэкамендацыі па спецыялізацыі сельскай гаспадаркі Магілёўскай вобласці, па арганізацыі племяннной работы з пародамі буйной рагатай жывёлы.

Было выведзена азімае жыта “Партызанскае палепшанае”. Яго ўраджайнасць у вучгасе акадэміі перавышала 40 цэнтнераў з гектара. Укараняўся новы сорт кармавога лубіну БСГА-1 селекцыі дацэнта В.Н.Кавалёва. На тэрыторыі вучэбна-доследнай гаспадаркі была пабудавана адна з першых у рэспубліцы дажджавальная ўстаноўка для вырошчвання высокіх ураджаяў гароднінных культур, закладзены поліэтыленавы дрэнаж.

Вынікі шматгадовых даследаванняў кафедры аграхіміі па рацыянальнаму выкарыстанню ўгнаенняў былі абагульнены ў “Справочнике по минеральным удобрениям”, выдадзеным у 1964 годзе. Гэты даведнік з’явіўся каштоўным практычным дапаможнікам не толькі для працаўнікоў сельскай гаспадаркі Беларусі, але і для вялікай тэрыторыі Нечарназёмнай зоны Расійскай Федэрацыі.

У 1964 годзе акадэмію ўзначаліў К.М.Сонцаў. А праз год, у верасні 1965, ВНУ адзначыла сваё 125-годдзе.

Да свайго 125-гадовага юбілею акадэмія мела магутную навукова-вытворчую базу. Вучэбны працэс вялі 365 прафесараў, дацэнтаў і выкладчыкаў 49 кафедраў, было 200 лабараторый і кабінетаў, аснашчаных сучасным

абсталяваннем. Юбілейная навуковая канферэнцыя прадэманстравала плённасць даследаванняў вучоных ВНУ, умацавала сувязі навукі з вытворчасцю. Не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі шырокае прызнанне атрымалі дасягненні вучоных-заатэхнікаў, якія ўзначальваў рэктар акадэміі, член-карэспандэнт УАСГНІЛ, доктар сельскагаспадарчых навук прафесар К.М.Сонцаў. Да юбілею акадэміі прафесарам Р.Т.Вільдфлушу, С.С.Захараву, І.М.Курбатаву, А.І.Новікаву і М.С.Савіцкаму было прысвоена ганаровае званне “Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР”, а дырэктару бібліятэкі Д.Р.Новікаву – “Заслужаны дзеяч культуры БССР”. На тэрыторыі акадэміі былі ўстаноўлены бюсты знакамітых вучоных: І.А.Сцебута, А.В.Саветава, М.В.Рытава, М.Ф.Іванова.

У дні святкавання 100-годдзя з дня нараджэння У.І.Леніна акадэмія была ўзнагароджана Ленінскай юбілейнай Ганаровай граматай ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР і УЦСПС.

У 1966 годзе акадэмія перайшла з Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР у распараджэнне Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР. Перад ВНУ была пастаўлена задача павялічыць выпуск спецыялістаў, на новы ўзровень падняць навукова-даследчую працу. Быў пашыраны прыём на факультэты, адкрыты факультэты бухгалтарскага ўліку і механізацыі гідратэхнічных работ.

У 1966 – 1975 гадах акадэміі было выдзелена больш за 10 мільёнаў рублёў на капітальнае будаўніцтва. У 1974-1975 навучальным годзе быў здадзены ў эксплуатацыю корпус №11 для студэнтаў гідрамеліярацыйнага факультэта. Да 1975 года выраслі два студэнцкія інтэрнаты на 1000 месцаў, завяршылася будаўніцтва 106-кватэрнага дома, збудаваны два вучэбныя гаражы і гаспадарчыя майстэрні. Пачата будаўніцтва студэнцкага Палаца культуры. Ствараліся сучасныя лабараторыі, абсталяваныя новай тэхнікай, прыборамі, абнаўляліся старыя.

Павялічыўся і выкладчыцкі калектыў – з 395 чалавек у 1965 годзе да 543 чалавек у 1975 годзе. У гэты год у акадэміі навучалася каля 10 тысяч студэнтаў, на першы курс

было прынята 1128 чалавек, 93,5% з іх раней жыло ў вёсцы.

Пашыраўся прыём замежных студэнтаў. Калі ў 1967 годзе ў акадэміі навучалася 56 студэнтаў з замежных краін, то ў 1975-76 годзе – 173 замежныя студэнты і аспіранты амаль з 30 краін свету.

Удасканальванню вучэбнай работы ў БСГА істотна садзейнічала пашырэнне маштабаў навуковых даследаванняў. У галіне агранаміі асноўныя намаганні накіроўваліся на навуковую распрацоўку і практычнае вырашэнне праблем, звязаных з інтэнсіфікацыяй земляробства, у заатэхніі – на абгрунтаванне прыёмаў развядзення і кармлення жывёл, далейшае ўдасканаленне племянной справы і практыкі прымянення кармавых антыбіётыкаў. У галіне механізацыі сельскай гаспадаркі распрацоўваліся навуковыя асновы паскарэння сельскагаспадарчых працэсаў, тэхналогіі апрацоўкі сельскагаспадарчых культур. У гідрамеліярацыі ўдасканальваліся спосабы асушэння і арашэння земляў.

Навукова-даследчай працай займаліся 263 выкладчыкі, 80 аспірантаў, звыш 300 студэнтаў. Калектыў кафедры земляробства (загадчык С.С.Захараў) пасяхова працаваў над вывучэннем прадукцыйнасці і параўнаўчай эфектыўнасці севазваротаў з прымяненнем хімічных метадаў барацьбы з пустазеллем. Дацэнт Г.І.Тарануха вывеў новы гатунак жоўтага кармавога лубіну "Акадэмічны І". На кафедры аграхіміі пад кіраўніцтвам прафесара Р.Т.Вільдфлуша вялася праца па ўдасканаленню форм і спосабаў унясення ўгнаенняў на дзярнова-падзолістых глебах.

З 1967 года ў акадэміі стала выкарыстоўвацца новая форма арганізацыі навукова-даследчай работы – навукова-даследчая станцыя на грамадскіх пачатках. Першая такая станцыя была арганізавана кафедрай селекцыі і насенневодства, у яе склад увайшлі навуковыя супрацоўнікі, спецыялісты аддзелу насенневодства вучгаса, аспіранты, студэнты.

Важкі ўклад у распрацоўку навуковых і вытворчых праблем зрабілі А.М.Багамолаў, А.З.Латыпаў, Л.Б.Наймарк, Д.І.

Мельнічук, В.Г.Стралкоў, А.А.Калікінскі, П.М.Шарснёў, К.А.Шуін, Г.П.Солапаў, К.М.Сонцаў, Ю.М.Максімаў, В.Г.Яравая, Ф.К.Курапаценка, І.Ш.Гарфінкель, К.К.Курыловіч, М.М.Дабралюбаў і іншыя. Укараненне навуковых дасягненняў акадэміі ў вытворчасць за гады дзевятай пяцігодкі дало эканамічны эфект звыш 20 мільёнаў рублёў, што амаль у сем разоў больш, чым у восьмай пяцігодцы.

Больш увагі стала ўдзяляцца ў 1971 – 1975 гадах доследна-канструктарскім працам. Калі ў 1965 – 1970 гадах у БСГА было выканана 5 распрацовак на ўзроўні вынаходніцтваў, то ў дзевятай пяцігодцы ў Камітэт па справах вынаходніцтва і адкрыццяў СССР пададзена 92 заяўкі на вынаходніцтвы, атрымана 18 аўтарскіх пасведчанняў і тры станоўчыя рашэнні.

З 1975 па 1979 гады акадэмію ўзначальваў яе выпускнік, доктар сельскагаспадарчых навук, член-карэспандэнт АН БССР В.Е.Борматаў.

У 1976 годзе акадэмія была ўзнагароджана ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У 1980 годзе рэктарам акадэміі быў прызначаны С.І. Назараў, таксама выпускнік акадэміі, доктар тэхнічных навук, прафесар, акадэмік УАСГНІЛ, заслужаны дзеяч навукі БССР, які працаваў на гэтай пасадзе да 1992 года.Яго змяніў выпускнік акадэміі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь В.А.Шаршуноў (працаваў рэктарам да 1995 года).

У гэтыя гады ў акадэміі займалася больш за 10 тысяч студэнтаў (на 1.10.1985 г. – на стацыянары 5228, на завочным аддзяленні – 6714 чалавек).

Рэзка ўзрасла колькасць (да 393) замежных студэнтаў і аспірантаў з 53 краін свету.

У акадэміі з’явіліся новыя спецыялізацыі: “Селекцыя і насенневодства”, “Кормавытворчасць”, “Аграмеліярацыя”, на зааінжынерным – “Вытворчасць мяса і малака на прамысловай аснове”, на факультэце бухгалтарскага ўліку –“Рэвізія і кантроль”, на гідрамеліяратыўным – “Эксплуатацыя арашальнай і асушальнай сістэм”.

Навукова-даследчая праца вучоных акадэміі была скіравана на распрацоўку праблем інтэнсіфікацыі, канцэнтрацыі і спецыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Намаганні вучоных агранамічнага факультэта і факультэта агранаміі і глебазнаўства накіроўваліся на стварэнне і ўкараненне ў вытворчасць новых гатункаў збожжавых і зернебабовых культур, абароны іх ад хвароб, павышэнне ўрадлівасці глебы. Пад кіраўніцтвам прафесараў А.М.Багамолава, А.З.Латыпава і Г.І.Таранухі вялася праца па стварэнню новых гатункаў азімага жыта і пшаніцы, яравога ячменю, кармавога лубіну.

Распрацаваныя пад кіраўніцтвам прафесараў А.А. Калікінскага і А.І. Гарбылёвай сістэмы лакальнага (лентачнага) і запаснога ўнясення ўгнаенняў забяспечвалі значнае павышэнне ўраджайнасці збожжавых культур і бульбы.

Супрацоўнікі кафедры гароднінаводства пад кіраўніцтвам прафесара К.А.Шуіна распрацавалі прагрэсіўныя тэхналогіі апрацоўкі гародніны ў закрытым грунце з выкарыстаннем перасоўных плёначных цяпліц.

Прагрэсіўныя тэхналогіі апрацоўкі збожжавых, зернебабовых і аднагадовых бабовых культур, жытнепалосны спосаб вырошчвання грэчкі былі распрацаваны і пасяхова асвойваліся пад кіраўніцтвам прафесара Л.Б.Наймарка і дацэнта М.Я.Мікалаева.

На зааінжынерным факультэце пад кіраўніцтвам прафесараў Ю.Л.Максімава і В.Г.Яравой, дацэнтаў П.І. Шумскага, М.У. Шалака,С.С. Васільчанка, М.В.Серавусава і Н.І.Скрылёва праводзіліся вялікія даследаванні па стварэнню высокапрадукцыйнай буйной рагатай жывёлы і свіней, выкарыстанню мінеральна-вітамінных дадаткаў у кармленні жывёл. У выніку шматгадовай селекцыйнай працы выведзена шэсць новых сямействаў і створана новая лінія ў чорна-стракатай пародзе кароў прадукцыйнасцю да 6 тысяч кілаграмаў малака і тлустасцю 4,1%.

У галіне механізацыі сельскай гаспадаркі калектыў вучоных пад кіраўніцтвам рэктара акадэміі С.І.Назарава канцэнтраваў даследаванні на распрацоўцы індустрыяльных тэхналогій апрацоўкі глебы камбінаванымі агрэгатамі, уня-

сення мінеральных угнаенняў лентачным спосабам. Вёўся пошук новых спосабаў пасеву і безадыходных усепагодных энергазберагаючых тэхналогій уборкі насення канюшыны, лубіну, злакавых траў і семеннікоў караняплодаў. Для гэтага ствараліся спецыяльныя машыны і прыстасаванні.

Паспяхова прайшла гаспадарчыя і папярэднія выпрабаванні на Заходняй машына-выпрабавальнай станцы пнеўматычная сеялка для пасеву канюшыны і іншых дробнасемянных культур.

Вучоныя-меліяратары абгрунтавалі біялагічна аптымальныя нормы воданеабходнасці для арашэння сельскагаспадарчых культур на дзярнова-падзолістых глебах Беларусі, даследавалі эфектыўнасць сінхроннага імпульснага дажджавання.

Пад кіраўніцтвам прафесара Ф.К.Курапаценкі ажыццяўлялася меліяратыўная рэканструкцыя раллі з западзінным рэльефам (блюдцамі). Сутнасць прапанаванага метада заключалася ў тым, што сцёк талай вады не скідваўся ў гідралагічную сетку, як гэта прадугледжана па класічнай схеме, а акумуліраваўся ў створаных на палях вадаёмах - накапіцелях.

Вучоныя–эканамісты распрацоўвалі шляхі павышэння эканамічнай эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

Выкладчыкі кафедраў грамадскіх навук акадэміі пад кіраўніцтвам прафесара Н.А.Шытава, дацэнтаў Н.П. Дземях, Р.М.Грынберга працавалі над комплекснай тэмай “Сацыяльна-эканамічнае развіццё сяла” на матэрыялах рэспублікі, праводзілі сацыялагічныя даследаванні.

У 1990 годзе калектыў акадэміі ўрачыста адсвяткаваў 150-годдзе з дня адкрыцця ВНУ. У акадэміі тады навучалася больш за 11 тысяч студэнтаў, працавала 680 выкладчыкаў, а ўсяго працавала больш за 2500 чалавек.

Званне “Заслужаны дзеяч навукі БССР” прысвоена Г.І.Тарануху, “Заслужаны работнік народнай асветы” прысвоена прафесару М.Г.Голчанка, дацэнтам М.М.Дабралюбаву, М.П.Савунову, Л.І.Сцешыцу, “Заслужаны ра-

ботнік сельскай гаспадаркі БССР”– дацэнтам Л.А.Дазорцаву, В.А.Папкову, Э.А.Пятровічу, “Заслужаны эканаміст БССР” – дацэнту М.З.Фрэйдзіну.

У лютым 1993 года ў аудыторыі імя М.Гарэцкага вучэбнага корпуса №4 акадэміі адбыліся 2-я Гарэцкія чытанні, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння М.І.Гарэцкага.

На корпусе №4 сельскагаспадарчай акадэміі адкрыта мемарыяльная дошка М.І.Гарэцкаму. Аўтар – В.Янушкевіч.

У актавай зале Палаца культуры сельскагаспадарчай акадэміі адбылася рэспубліканская вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння М.І.Гарэцкага.

У 1995 годзе рэктарам акадэміі прызначаны А.Р.Цыганаў, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, акадэмік РАСН, член-карэспандэнт НАН Беларусі, лаурэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

У гэтым жа годзе адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 155-годдзю БДСГА.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь званне “Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь” прысвоена дацэнту К.К.Курыловічу, “Заслужаны работнік асветы Рэспублікі Беларусь”– прафесару А.З.Латыпаву, “Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь” – Ю.Л.Максімаву.

У 1995-2005 гадах адбываўся далейшы рост матэрыяльна-тэхнічнай базы акадэміі. Быў здадзены ў эксплуатацыю 16 корпус ( плошчай больш за 7 тыс. кв.м.), дзе размясціліся два факультэты: павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў і аграбізнесу. Былі капітальна адрамантаваны: спартыўны корпус і плавальны басейн, некалькі студэнцкіх інтэрнатаў. Тратуары акадэмічнага гарадка “апрануліся” у сучасную плітку. Асабліва вялікая праца па добраўпарадкаванню на тэрыторыі акадэміі была праведзена ў 2004 годзе ў час падрыхтоўкі да правядзення Рэспубліканскага экалагічнага форуму.

У гэтыя гады ў структуры акадэміі з’явіліся тры новыя факультэты: аграэкалагічны, аграбізнесу і педагагічны– для падрыхтоўкі выкладчыкаў для аграрных вузаў і

тэхнікумаў.З 1998 года пачала працаваць Вышэйшая школа аграбізнесу, дзе спецыялісты з вышэйшай адукацыяй змаглі атрымаць другую вышэйшую адукацыю.

У 1997 годзе загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь акадэміі быў надазены статус вядучай ВНУ у галіне падрыхтоўкі кадраў для сельскай гаспадаркі.

4 сакавіка 1998 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову “О мерах по социальной поддержке работников, студентов и аспирантов Белорусской сельскохозяйственной академии и развитии материально-технической базы академии”. У выніку яе рэалізацыі быў падняты ўзровень заработнай платы выкладчыкаў, стыпендыі студэнтаў і аспірантаў.

У 1999 годзе акадэмія прайшла акрэдытацыю Міністэрства вышэйшай адукацыі Расійскай Федэрацыі і атрымала права выдаваць дыпломы аб вышэйшай адукацыі Расійскай Федэрацыі.

У 2000 годзе Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія адсвяткавала свой 160 - гадовы юбілей. У ВНУ тады навучалася 9379 студэнтаў, на 60 кафедрах працавала 670 выкладчыкаў. Сярод іх было 38 дактароў і прафесароў, 327 кандыдатаў і дацэнтаў. У юбілейным годзе ўрадам рэспублікі была прынята пастанова “О выделении денежных средств Белорусской сельскохозяйственной академии». ВНУ было выдзелена 245 млн. рублёў на правядзенне рамонта вучэбных будынкаў, інтэрнатаў і іншых будынкаў.

Вялікая работа ў гэты час праводзілася па стварэнню ўмоў для роста навукова-педагагічнага патэнцыяла акадэміі. Пачала працаваць магістратура. З 2003 года стаў выходзіць навукова-метадычны часопіс “ Вестник БГСХА», які пастановай ВАК Беларусі быў уключаны ў спіс часопісаў, дзе рэкамендуецца друкаваць асноўныя палажэнні кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Упершыню ў гісторыі акадэміі пачалі працаваць вучоныя Саветы па абароне доктарскіх дысертацый па агранаміі, заатэхніі і механізацыі сельскай гаспадаркі.

У 2003 годзе выкладчыкам акадэміі: доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, член-карэспандэнту НАН Беларусі, рэктару акадэміі А.Р.Цыганаву, дактарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам І.Р.Вільдфлушу, С.П.Кукрашу і кандыдату сельскагаспадарчых навук, дацэнту В.А.Іонасу была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь в галіне навукі і тэхнікі.

У 2000 годзе А.В.Кальчэўскі, доктар біялагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, загадчык кафедры сельскагаспадарчай біятэхналогіі і экалогіі, быў узнагароджан прэміяй НАН Беларусі за лепшую навуковую працу, а доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару А.І.Гарбылёвай у 2005 годзе  за навуковыя даследаванні была прысуджана прэмія імя Дз.М.Пранішнікава.

Вялікія дасягненні ў навуковай дзейнасці былі ў гэтыя гады ў рэктара акадэміі А.Р.Цыганава. Яны ацэнены навуковай грамадскасцю  свету, Расіі і краін СНД. Ён абраны акадэмікам Расійскай акадэміі аграрных навук, узнагароджаны залатой ганаровай адзнакай Расійскага дзяржаўнага універсітэта па земляўпарадкаванню і залатой мядаллю ім. К.А.Ціміразева, абраны ганаровым доктарам шматлікіх сельскагаспадарчых акадэмій Еўропы і краін СНД. У 1998 годзе біяграфічны цэнтр Кэмбрыджа (Англія) прысвоіў яму званне “Міжнародны Чалавек года 1997-1998 гг.).

Узрос міжнародны аўтарытэт акадэміі. У 1998 годзе ВНУ атрымала грант міжнароднай праграмы “Tasis” па ўдасканаленню сістэмы аграрнай адукацыі ва ўмовах рыначных адносін. Былі падпісаны дамовы аб супрацоўніцтве са многімі ВНУ Еўропы і краін СНД. У 2005 годзе на базе акадэміі адбыўся семінар-нарада Савету рэктароў вядучых аграрных універсітэтаў – краін СНД.

У гэтыя гады шмат чаго рабілася па ўшанаванню  вучоных, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё ВНУ і сельскагаспадарчай навукі і адукацыі. На будынках акадэміі былі ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі: доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі БССР Р.Т.Вільдфлушу, доктару сельскагаспадарчых

навук, прафесару, заслужанаму работніку вышэйшай школы БССР А.А.Калікінскаму, прафесару, заслужанаму работніку вышэйшай школы БССР Ф.К.Курапаценка, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі БССР М.М. Каўцэвічу, доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі БССР, акадэміку АН БССР В.І. Шэмпелю, доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі БССР, акадэміку УАСГНІЛ К.М.Сонцаву, доктару тэхнічных навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі і тэхнікі БССР, акадэміку УАСГНІЛ С.І.Назараву і многім іншым.

Імёнамі вядомых вучоных акадэміі былі названы вучэбныя аўдыторыі: № 541 (корпус№10) – К.М.Сонцава, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР акадэміка УАСГНІЛ, вучэбны кабінет кафедры гісторыі Беларусі ( корпус 16) – доктара гістарычных навук, прафесара, заслужанага работніка вышэйшай школы БССР М. А. Шытава, № 164 (корпус № 4) – кандыдата тэхнічных навук, прафесара І.В.Зубрыцкага, № 225 (корпус № 5) – доктара сельска-гаспадарчых навук, прафесара, член-карэспандэнта АН БССР А.Н. Іпацьева, № 1004 (корпус №1) – доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі БССР С.С.Захарава, вучэбна-метадычны кабінет кафедры бухгалтарскага ўліку ( корпус №1) – кандыдата эканамічных навук, прафесара Г.І. Грынмана і многіх іншых.

У сувязі са 120-годдзем Я.Купалы і Я.Коласа на тэрыторыі акадэміі былі ўстаноўлены: памятны знак на гары “Парнас” і мемарыяльная дошка на корпусе №3 акадэміі.

Вялікія дасягненні былі ў спартсменаў акадэміі.Так, у 1999 годзе футбольная каманда “Акадэмік” стала чэмпіёнам Магілёўскай вобласці. У 2002 годзе акадэмія заняла першае месца па спартыўнай рабоце сярод аграрных ВНУ рэспублікі.

У 2005 годзе акадэмія адсвяткавала свой чарговый юбілей – 165 годдзе з дня адкрыцця. Аб тым, што гэта

навучальная ўстанову ўяўляе сёння, мы раскажам у раздзеле “Гонар нашага горада”.

## *Горкі: дзень сённяшні*



**Г**орад Горкі бачны яшчэ здалёк, калі едзеш па дарозе з Оршы. Ужо каля Горацкага цэнтра па гідраметэаралогіі і маніторынгу навакольнага прыроднага асяроддзя (кіраўнік А.І.Смалякоў, кандыдат сельскагаспадарчых навук), якому ў 2006 годзе споўнілася 165 год і які з’яўляецца старэйшым у Беларусі, адкрываецца велічная панарама шматпавярховых дамоў у раёне сельскагаспадарчай акадэміі і вуліцы Будаўнікоў. Дарэчы, калектыў гэтай установы ў 2006 годзе быў прызнаны лепшым у Беларусі і на 4-ым Рэспубліканскім экалагічным форуме, які адбыўся ў 2006 годзе ў Мядзелі Мінскай вобласці, атрымаў дыплом першай ступені.

Запрашаем чытачоў у невялічкае падарожжа па Горках. А пачнём мы яго з галоўнай магістралі горада – вуліцы імя І.І. Якубоўскага. У самым пачатку яе мы бачым прыдарожны знак “Горкі”, тут жа знаходзіцца новая газанапаўняльная станцыя і аўтобусны прыпынак “Аэрапорт”.

Госці нашага горада, якія бачаць шыльды на аўтобусах “Чыгуначная станцыя – Аэрапорт”, заўсёды пытаюцца, куды з Горак ляцяць самалёты? І вельмі здзіўляюцца, калі чуюць у адказ, што нікуды. З аэрадрома, які з’явіўся ў Горках у пачатку 60-х, ляцелі самалёты ў Магілёў. Усё падарожжа займала 20 хвілін. Але калі ў 1969 годзе была пабудавана аўтамабільная дарога Горкі-Магілёў праз Гарадзішча, а ў Магілёве аэрапорт вынеслі далёка за горад, то лятаць на самалёце стала нязручна, і таму ў Горках аэрапорт закрылі. Ён застаўся толькі як тапонім. Тапонімам засталася і назва галоўнай вуліцы горада –

Аршанка. Яе назва звязана з тым, што дарога па ёй вяла ў Оршу.

Пад’язджаючы непасрэдна да горада, з правага боку мы бачым гарадскія могілкі. Яны носяць назву “Шыманоўка”. У кнізе ўжо адзначалася, што калісьці гэта было асобнае населенае месца. Але з цягам часу яно злілося з горадам.

На могілках пахаваны знакамітыя людзі горада і раёна. Гэта І.М. Стэльмашонак, Г.С. Гусеў – ганаровыя грамадзяне горада Горкі; Дз.Р. Новікаў – заслужаны дзеяч культуры БССР; М.А. Шытоў – доктар гістарычных навук, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР; Р.Т.Вільдфлуш – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР; С.С.Захараў – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР; Ю.Л.Максімаў – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР; М.П. Савуноў – кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, заслужаны работнік народнай адукацыі БССР; М.В. Рэдзько – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар; Л.Б. Наймарк – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар; М.І. Пратасаў – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар; В.А. Папкоў – кандыдат эканамічных навук, дацэнт, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР; А.А. Ключароў – доктар медыцынскіх навук, прафесар, былы рэктар Мінскага медыцынскага інстытута; А.М. Конанаў – доктар тэхнічных навук, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР; У.К. Кільчэўскі – кандыдат эканамічных навук, дацэнт, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР; І.М. Курбатаў – доктар біялагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР; Ф.І. Лішчанка – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар; Э.М. Мухаметаў – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар; П.М. Шарснёў – кандыдат сельскагаспадарчых навук,прафесар, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР; У.Ф.Клімаў, – заслужаны ўрач БССР, А.А.Калікінскі – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР; І.А.Капусцін – заслужаны юрыст БССР; А.М.Брагін – доктар сельска-

гаспадарчых навук, прафессар, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР; А.М.Аляксееў – заслужаны настаўнік БССР; А.Н. Іпацьеў – доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР і многія іншыя.

Створаны пры музеі гісторыі БДСГА студэнцкі клуб “Клио” даглядае за могілкамі тых, у каго ў Горках няма родных і блізкіх.

За возерам злева – яўрэйскія могілкі, якія ўзніклі ў тыя гады, калі яўрэі пачалі сяліцца ў Горках. Нядаўна, дзякуючы намаганням раённых улад, тут была адноўлена агароджа, а з дапамогай Рэспубліканскага іўдзейскага рэлігійнага аб’яднання і Горацкай іўдзейскай абшчыны ўсе помнікі прыведзены ў парадак, сфатаграфаваны і змешчаны ў Інтэрнэце.

Да вуліцы І. І. Якубоўскага прымыкае вуліца Будаўнікоў. Яшчэ нядаўна тут быў калгасны сад, а зараз пабудаваны цэлы мікрараён: шматпавярховыя дамы, крамы, дзіцячы садок і сярэдняя школа № 4.

У школе (кіраўнік І.М. Жук), якая адкрылася ў 1976 годзе, ёсць профільны клас па спецыяльнасці ”Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций», працуе шмат гурткоў і секцый.

На працягу апошніх гадоў тэрыторыя школы стала своеасаблівым аазісам на карце нашага горада. Гэта ў 2004 годзе адзначыла дэлегацыя ўдзельнікаў рэспубліканскага экалагічнага форуму на чале з міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь Л.І.Харунжыкам.

Зараз калектыў школы ўкараняе ў практыку мульцідпрофільную сістэму адукацыі, якая дазваляе вучням больш эфектыўна развіваць свае здольнасці. З першага класа вучні вывучаюць замежныя мовы і разам з агульнаадукацыйнымі прадметамі атрымліваюць музычна-эстэтычную адукацыю.

Школа ганарыцца сваімі выхаванцамі – А.Я. Дайнекам і У. Л. Іназемцавым, дактарамі эканамічных навук, прафесарамі.

Вучні школы неаднаразова былі пераможцамі рэспубліканскіх і абласных прадметных алімпіяд.

Далей на вуліцы І. І. Якубоўскага знаходзіцца школа №2 – старэйшая школа горада (кіраўнік С.І.Пруднікаў). Яна заснавана ў 1846 годзе. Размяшчалася ў розных будынках і толькі ў 1954 годзе пераехала ў цяперашнюю тыпавую школу. Тут працавалі заслужаныя настаўнікі БССР М.П. Дылянок, П.С. Лубяка, Л.Ф. Знаменская, А.М.Аляксееў.

За апошнія гады школа была капітальна адрамантавана, а яе тэрыторыя стала сапраўдным зялёным аазісам. Нездарма ў 2006 годзе яна заваявала другое месца ў Беларусі па азеляненню і добраўпарадкаванню.

У апошнія гады ў школе былі арганізаваны профільныя класы і групы па геаграфіі і біялогіі, біялогіі і хіміі, англійскай мове і матэматыцы. Гэта дазваляе вывучаць прадметы на павышаным ўзроўні. Школа дала пуцёўку ў жыццё акадэміку РАСГН, член-карэспандэнту НАН Беларусі, доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, рэктару БДСГА А.Р. Цыганаву; доктару геаграфічных навук, прафесару Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта А.Я. Слуку; доктару эканамічных навук, прафесару, дэкану Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных зносін У. М. Шытову; доктару біялагічных навук, прафесару, член-карэспандэнту НАН Беларусі, дырэктару Інстытута генетыкі НАН Беларусі А.У. Кільчэўскаму; доктару тэхнічных навук, прафесару А.В. Цішкевічу; доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару Л.Б. Наймарку; доктару тэхнічных навук, прафесару У.І. Кумачову; доктару гістарычных навук, прафесару, члену-карэспандэнту Акадэміі педагагічных навук СССР Л.С. Абецэдарскаму; доктару эканамічных навук В.В. Валуеву; доктару сельскагаспадарчых навук, прафесару, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь І.Р. Вільдфлушу; доктару тэхнічных навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі і тэхнікі БССР І.І. Купчынаву; доктару тэхнічных навук, прафесару І. І. Півуноўскаму; кандыдату эканамічных навук, прафесару, заслужанаму эканамісту БССР М.З. Фрэйдзіну; заслужанаму трэнеру

СССР М.І. Цэйціну; доктару біялагічных навук, прафесару М.Ц. Чайка; доктару фізіка-матэматычных навук, прафесару, лаўрэату Ленінскай прэміі Г. Д. Куляшову; доктару тэхнічных навук, кандыдатам навук, лаўрэатам дзяржаўных прэмій БССР У.А.Конанаву і Р.І.Бельскай; доктару медыцынскіх навук, прафесару А.А.Арцішэўскаму; доктару ветэрынарных навук, прафесару А.М. Вільнеру; доктару гістарычных навук, прафесару, лаўрэату дзяржаўнай прэміі СССР С.Э. Разгону; доктару тэхнічных навук, прафесару, заслужанаму дзеячу навукі і тэхнікі БССР І.С. Цітовічу; пісьменніку Л. Э. Разгону, пісьменніку – літаратуразнаўцу Б.І. Іофе і многім іншым.

Вучні школы неаднаразова былі пераможцамі абласных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд і конкурсаў. Напрыклад, праца вучаніц школы О.Война і Р. Бакланавай (кіраўнік – кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт Н.М.Пятрова) у 2005 годзе заняла першае месца ў рэспубліканскім конкурсе навуковых вучнёўскіх работ па біятэхналогіі. У 2006-2007 гадах вучаніца Н.Бортнік (настаўнік У.М.Пірожнік) і С.Самадзедаў (настаўнік С.М.Харламава) сталі прызёрамі абласных алімпіяд па фізіцы і геаграфіі.

На рагу вуліц І.І Якубоўскага і У.І.Леніна размешчаны будынак былой павятовай управы – помнік архітэктуры. Тут знаходзіцца стаматалагічная паліклініка (кіраўнік М.К.Сядун) з сучасным абсталяваннем, а ўрачы прымяняюць самыя перадавыя тэхналогіі ў лячэнні хворых. У калектыве працуе Л.М.Купчанка – адзіны ў раёне ўрач вышэйшай катэгорыі. Урач-стаматолаг І.Д.Якаўлеў у 2006 годзе стаў лаўрэатам сацыяльнай прэміі Магілёўскага аблвыканкама “ Лепшы па прафесіі”.

Насупраць паліклінікі – плошча імя І.І. Якубоўскага. Тут двойчы Герою Савецкага Саюза І.І.Якубоўскаму яшчэ пры жыцці быў устаноўлены помнік (аўтар М.Кошкін).

Плошчу акаймляе комплекс будынкаў. У цэнтральным з іх знаходзіцца раённая падатковая інспекцыя ( кіраўнік В.У. Генералава). Да 1990 года ў Горках было дзве інспекцыі – гарадская і раённая. Зараз існуе аб’яднаная, у якой працуюць тры аддзелы: па кантролю за дзейнасцю юрыдыч-

ных асоб, уліку , аналізу і спагнаннях і падаткаабкладання фізічных асоб, юрыдычная служба. Кіраўнік інспекцыі ў 2005 годзе была пераможцай рэспубліканскага конкурсу “Лепшы работнік падатковых органаў Беларусі”.

Побач з падатковай інспекцыяй знаходзіцца Горацкая раённая бібліятэка імя М.Гарэцкага. Яна была адкрыта ў 1918 годзе на базе прыватнай бібліятэкі і, як успамінае Л. Разгон, яна была змешчана ў памяшканні Народнага Дома. Аснову яе складалі кнігі, прывезеныя з маёнтка Дандукова-Корсакава з мястэчка Леніна. Захаваліся імёны яе першых арганізатараў – братоў А. М. і Б. М. Вільнараў. У 1930 годзе яе фонд налічваў 11 тысяч экзэмпляраў. Кіравала ёй Р.Я. Вольная. У час вайны фонд бібліятэкі быў разрабаваны, будынак спалены. У 1991 годзе бібліятэка пераехала ў новы будынак, а ў 1993 годзе ёй было прысвоена імя М.І. Гарэцкага. У сучасны момант Горацкая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма ( кіраўнік Н.М. Кулагіна) складаецца з цэнтральнай бібліятэкі, 15 сельскіх бібліятэк, 6 аб'яднаных са школьнымі бібліятэкамі, 4 бібліятэк-клубаў, раённай дзіцячай бібліятэкі, бібліятэкі сямейнага чытання.

Кніжны фонд усёй сістэмы складае больш за 400 000 экзэмпляраў кніг, яна абслугоўвае больш 15 тысяч чытачоў. Пры бібліятэках працуе 10 клубаў па інтарэсах і аматарскіх аб'яднанняў.

Горацкая ЦБС у 1996 годзе была ўзнагароджана дыпломам 1-й ступені ВДНГ за стварэнне нагляднай агітацыі і адраджэнне культурна-гістарычнай спадчыны. У 1999 годзе яна стала пераможцай рэспубліканскага конкурсу Беларускага фонда культуры «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры».

Дзіцячая школа мастацтваў была створана ў 1954 годзе як музычная школа (кіраўнік У.В. Воранаў). Першым яе дырэктарам быў М.С. Зуеў, а з 1956 па 1995 год ёю кіраваў Б.Д. Круглікаў. За 50 год школу скончыла каля 1500 выхаванцаў. 156 з іх пайшлі па шляху сваіх педагогаў: скончылі ўстановы музыкі і культуры, працуюць выкладчыкамі музыкі.

Зараз школа мае аддзяленні: фартэпіяна, духавых, струнных і народных інструментаў, тэатральнае, мастацкае, харэаграфіі, а таксама філіялы: у Аўсянцы і Рэкце, класы ў вёсках Буды і Нікуліна. У ёй працуюць каля 50 выкладчыкаў, большасць з іх – выхаванцы гэтай школы. Усяго ў школе займаецца больш 300 навучэнцаў.

Школа ганарыцца сваімі выхаванцамі, якія сталі прафесійнымі музыкантамі, а таксама дыпламантамі і лаўрэатамі абласных і рэспубліканскіх, міжнародных конкурсаў

12 навучэнцаў школы з'яўляліся стыпендыятамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Задавальненню духоўных патрэб жыхароў раёна, развіццю іх эстэтычных і мастацкіх здольнасцей служыць сетка клубных установ. Раённы цэнтр культуры (кіраўнік С.Г. Міхалькова.) знаходзіцца побач з плошчай І.І. Якубоўскага.

Яго будынак пабудаваны ў 1960 годзе. РЦК каардынуе працу 4 сельскіх Дамоў культуры, 16 клубаў, 2 цэнтраў культуры, 13 народных калектываў (уключаючы 5, што працуюць пры Палацы культуры БДСГА), каля 100 аматарскіх аб'яднанняў, гурткоў самадзейнасці, клубаў па інтарэсах.

На ўсю рэспубліку вядомы народны духавы аркестр (яго стварыў і больш за 40 гадоў кіраваў Б.Д. Круглікаў, зараз кіраўнік – А.А.Шэлепаў). Калектыў аркестра з'яўляецца лаўрэатам і дыпламантам абласных і рэспубліканскіх аглядаў- конкурсаў духавых музычных калектываў.

Фальклорны ансамбль ”Верасень” (кіраўнік А.А. Бялясаў) з'яўляецца дыпламантам абласнога фестывалю “Беларусь – мая песня” (2005г.), фестывалю народной песні ў г.Радзівілы ( Украіна), міжнароднага фестывалю “ Лейся, песня” ( Расія), фестывалю мастацтва ў г. Рокішкіс (Літва), фестывалю “Песні над Бугам” (Польшча), міжнароднага фестывалю “Звіняць цымбалы і гармонік” ( г. Паставы Віцебскай вобласці).

Народны хор ветэранаў ”Спадчына” (кіраўнік І. І. Шаўчук) таксама з’яўляецца дыпламантам шматлікіх абласных і рэспубліканскіх фестываляў, у тым ліку “Беларусь – мая песня”, ”Не старэюць душой ветэраны”.

У склад народнага аркестра народных інструментаў (кіраўнік С. Г. Зайцава) уваходзяць выкладчыкі Горацкай школы мастацтваў і гімназіі №1. Ён з’яўляецца дыпламантам абласнога агляду-конкурсу аркестраў “З крыніц народных”.

Народны эстрадны гурт (кіраўнік А.Г.Раманаў ) вось ужо больш за дваццаць год радуе сваіх гледачоў і прыхільнікаў. Яго сустракалі апладысментамі на фестывалях у Магілеве, Слаўгарадзе, Салігорску, г. Краснае (Расія), Мсціславе. Штогод ён арганізуе фестываль маладзёжных рок-гуртоў ” Рок-каляды”, які праходзіць на базе РЦК.

Другі год працуе дзіцячая вакальна-харавая школа (кіраўнік А.П. Запявалава). Нягледзячы на такі малы ўзрост, навучэнцы школы ўжо з’яўляюцца дыпламантамі розных абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестывалей.

Побач з РЦК, на вуліцы М. Горкага, знаходзіцца комплекс будынкаў раённай паштовай сувязі і раённай электрычнай сувязі. Раней гэта была адзіная арганізацыя. Але, згодна з рэкамендацыяй Міжнароднага паштовага саюза, яны былі раз'яднаны.

У будынку раённай паштовай сувязі (кіраўнік У.Э.Путнікаў), 3 гарадскіх і 19 раённых аддзяленняў сувязі, дзе працуе больш за 180 чалавек, ажыццяўляецца 14 розных відаў паслуг. Тут можна паслаць пісьмы, бандэролі, пасылкі, паштовыя і электронныя грашовыя пераводы. У апошні час з'явіліся новыя віды паслуг – аддзел падпіскі і фірменны магазін. Вядома, што ў апошнія гады колькасць падпісчыкаў газет і часопісаў рэзка скарацілася. Але па-ранейшаму самымі папулярнымі сярод падпісчыкаў з'яўляюцца раённая газета «Ленінскі шлях»,«Советская Белоруссия», «Могилёвские ведомости».

Зараз пошта аказвае больш 40 няпрофільных паслуг, такія як страхаванне, ксеракапіраванне, дастаўка пада-

рункаў, продаж латарэйных білетаў і іншае. У апошні час укаранёны: адпраўлення EMS, паскораная міжнародная пошта “Экспресс”.

У галоўным офісе раённай электрычнай сувязі (кіраўнік М.У. Маркоўскі, заслужаны сувязіст Рэспублікі Беларусь) нядаўна быў зроблены капітальны рамонт. У вялікай зале абсталяваны кабінкі для тэлефонных перамоў, ёсць асобная зала, дзе ўстаноўлена 8 камп'ютараў, на якіх можна праз Інтэрнэт звязацца ў лічаныя хвіліны з любым кутком свету, зазірнуць на любы сайт у сусветнай павуціне. Тут аказваюць больш за 70 відаў паслуг, сярод якіх міжгародняя, міжнародная тэлефонная і факсімільная сувязь, паслугі праз сервісную тэлефонную карту і многае іншае.

У раёне і горадзе працуе некалькі тэлефонных станцый, з іх тры ў горадзе (звыш 10 тысяч абанентаў) і 18 на вёсцы (звыш 3 тысяч абанентаў). У апошнія гады жыхары горада і раёна могуць карыстацца мабільнай сувяззю – MTS і Velkom.

Нягледзячы на рост карыстальнікаў тэлебачання, захоўваецца і сетка радыёвяшчання, у якую ўключана больш за 14 тысяч радыёкропак.

З 1960 года пра сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё насельніцтва інфармуе раённае радыёвяшчанне «Голас Горацкага краю» (кіраўнік М.М. Ісаеў), рэдакцыя якога размяшчаецца ў памяшканні будынка электрычнай сувязі.

Далей на галоўнай вуліцы цэлы гандлёвы комплекс. Гэта магазіны, пабудаваныя ў 50–60-я гады: “Адзенне“, “Абутак“, “Гаспадарчыя тавары“, і новыя прыватныя “Каскад“, “Альбатрос“,“Лиана“,“Семейный“,“Перекрёсток“,“Уют“,“Каприз“ “Экспресс-шоп“ і многія іншыя.

На другім паверсе магазіна “Гаспадарчыя тавары” знаходзяцца службы ”аднаго акна” – раённы натарыят (кіраўнік Зайцава С.А.), горацкі філіял РУП ”Магілёўскае агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельнаму кадастру” (кіраўнік А.М.Тоічкін), зямельнаўпарадчая і геадэзічная служба райвыканкама (кіраўнік М.М.Багданец).

У 2006 годзе ўвайшоў у строй супермаркет “Малая Европа» (кіраўнік Л.М.Астапчык), дзе размясціўся цэлы гандлёвы комплекс харчовых і прамысловых магазінаў, аптэка, цырульня і іншыя бытавыя паслугі ( усяго больш за 300 працоўных месц).

Цешыць вока капітальна перабудаваны дзіцячы парк. Тут вельмі прыгожа, асабліва летам, калі расцвітаюць кветкі. Для дзяцей на цэнтральнай пляцоўцы ладзяцца канцэрты і гульні, ёсць арэлі і карусель. Для дарослых – більярд, камп’ютарная зала, стралковы цір.

Побач з паркам знаходзіцца Горацкі гістарычна-этнаграфічны музей і карцінная галерэя (кіраўнік С.С.Скаромная). Як успамінаў Л. Разгон, першы музей у Горках узнік у 1918 годзе, а адрадзіўся ў 1988 годзе. Музей мае 11 экспазіцыйных залаў агульнай плошчай 890 квадратных метраў, фонды налічваюць больш за 4,5 тысяч адзінак.

У гістарычным раздзеле прадстаўлены археалагічныя знаходкі, дакументы і матэрыялы, прысвечаныя падзеям Паўночнай вайны 1700 – 1721 гг., Айчыннай вайны 1812 г., паўстанню 1863 г. Адлюстроўвае музей і гісторыю Горы-Горацкага земляробчага інстытута – першай у Расіі вышэйшай сельскагаспадарчай навучальнай установы.

Шмат матэрыялаў, асабістых рэчаў расказваюць аб актыўных ўдзельніках першай рускай рэвалюцыі 1905–1907 гг., Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г.

У экспазіцыі знайшлі адлюстраванне і першыя пераўтварэнні пасля Кастрычніка 1917 г., расказваецца аб удзеле ўраджэнцаў Горацкага раёна ў грамадзянскай вайне, калектывізацыі і індустрыялізацыі. Асобны стэнд прысвечаны тым, хто быў рэпрэсіраваны ў час культу асобы Сталіна.

Комплекс матэрыялаў і дыярама прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Сярод іх значнае месца займаюць экспанаты, якія расказваюць аб жыцці і подзвігах Героеў Савецкага Саюза, ураджэнцаў Горацкага раёна. Дзве залы апавядаюць аб аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі і культуры раёна ў пасляваенны час.

У мастацкім аддзеле музея, які знаходзіцца ў асобным памяшканні, экспануюцца творы, падараваныя мастакамі-ураджэнцамі краю – В.І. Васільевым, Я.Л. Сімкіным, Ф.К. Яўмененкам, самадзейнымі мастакамі горада і раёна. Тут перыядычна экспануюцца карціны самадзейных мастакоў, з фондаў рэспубліканскіх і абласных музеяў Беларусі.

У 1991 г. адкрыўся філіял музея ў вёсцы Маслакі, у 1992 – у Аўсянцы, у 1996 г. – музей-кабінет М. Гарэцкага.

Жыхары Горак і раёна ганарацца сваімі землякамі: Героямі Сацыялістычнай працы Я.Я.Сакаловым і М.Т.Клімавым, вядомымі вучонымі (імёны некаторых упамінаюцца, калі апавяданне ідзе пра школы горада і пра тых, хто пахаваны ў Горках); доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнтам НАН Беларусі Л.П. Цітовым; доктарам тэхнічных навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі і тэхнікі БССР, акадэмікам АН БССР Я.Р. Канавалавым; доктарам фізіка-матэматычных навук, заслужаным дзеячам навукі БССР, член-карэспандэнтам АН БССР Б.Б. Бойка; доктарам філалагічных навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі БССР М.Г. Булахавым; доктарам сельскагаспадарчых навук А.М. Веньдзіктавым; доктарам медыцынскіх навук, прафесарам Г.Ф. Івановым; доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам, член-карэспандэнтам АН БССР, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі БССР С.Н. Івановым; кандыдатам філалагічных навук, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі БССР А.Ф.Каршуновым; доктарам ветэрынарных навук, прафесарам А.С.Ястрабавым; доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі БССР, акадэмікам АН БССР В.Н. Лубяка; доктарам біялагічных навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі СССР Д.М. Міхліным; доктарам геолага-мінералагічных навук, прафесарам Д.І. Пагуляевым; доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам , заслужаным дзеячам навукі і тэхнікі БССР У.С. Чатыркіным; доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам І.С. Сераковым; доктарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам Н.К. Капусціным; док-

тарам сельскагаспадарчых навук, прафесарам П.С. Жукавай; доктарам тэхнічных навук, прафесарам В.М. Ларковым; доктарам тэхнічных навук, прафесарам А.С.Добышавым; доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, заслужаным работнікам вышэйшай школы Расіі А.І. Леўшанковым; доктарам медыцынскіх навук, прафесарам І.Д. Касачовым; доктарам медыцынскіх навук, прафесарам А.А. Кажэкіным; доктарам хімічных навук, прафесарам Д.У. Жаркоўскім; доктарам тэхнічных навук, прафесарам Р.А. Цыркуновым; доктарам біялагічных навук, прафесарам Т.М. Міхеевай; доктарам біялагічных навук, прафесарам У.М. Кавалёвым; мастакамі В.І. Васільевым,Я.Л. Сімкіным,Ф.К. Яўмененкам,М.З. Савіцкай, Б. Зільбертам, пісьменнікамі Л. Разгонам, Г. Шчарбатавым, Н. Кавалёвай, А. Прохаравым, М. Уласенкам, І. Зевіным, І. Каганавым, С. Лібіным, генераламі П.А. Сталяровым, П.А.Піліпенка, А.С. Люхцікавым, Н.Э. Глушанковым, А.К. Лявонавым, заслужаным дзеячам культуры БССР В.Ц. Гарбатоўскім і многімі іншымі.

Пры музеі працуюць два народныя аматарскія калектывы – “Мастацтва” і “ Роднае слова”. Першым кіруюць В. В. Белавусава і Т. А. Караеўская. У яго ўваходзяць больш за 30 мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія шмат гадоў працуюць у аб'яднанні, удзельнічаюць у рэспубліканскіх і абласных выставах, наладжваюць персанальныя выставы ў мастацкім аддзеле – карціннай галерэі.

Тыя, хто цікавіцца літаратурай і спрабуе свае сілы ў мастацкім слове, працуюць ў аб'яднанні «Роднае слова». Яно заснавана ў 1985 годзе, і першымі кіраўнікамі яго былі В.П. Зяньковіч, М. М. Студнева, С.С. Скаромная (зараз кіраўнік Л.М. Дзеружкова). Яно налічвае больш за 30 чалавек, сярод якіх тры члены Саюза пісьменнікаў Беларусі (Н. Кавалёва, М. Уласенка і аўтар гэтай кнігі).

Побач з музеем, на вуліцы Куйбышава, пабудаваны будынак Горацкага філіяла “Беларусбанка” (кіраўнік Н.Я. Астапчык), які аказвае цэлы комплекс банкаўскіх паслуг арганізацыям і грамадзянам горада і вёскі. Тут з’явіўся

першы ў горадзе грашовы банкамат (у 2007 г. іх працавала ўжо чатыры).

У гэтым жа будынку працуюць прыватныя магазіны, паліграфічны цэнтр "Печатник".

Тыя дзеці, якія цікавяцца мастацтвам, маюць магчымасць наведваць дзіцячую школу мастацкіх рамёстваў (кіраўнік Т.Л. Янчанка), якая таксама знаходзіцца каля дзіцячага парку. Яна была заснавана ў 1995 годзе С.І. і Н.В. Квачамі, сапраўднымі энтузіястамі адраджэння рамёстваў на горацкай зямлі.

Школа мае філіялы ў вёсках Стан, Сава, Шышава, Маслакі, Аўсянка, Паршына і вучыць дзяцей па сямі спецыяльнасцях: мастацкая саломка, мастацкая разьба па дрэве, мастацкая кераміка, мастацкая вышыўка, роспіс па тканіне (батык), лозапляценне, мастацкі роспіс. Зараз у школе навучаецца больш за 350 дзяцей. Навучэнцы школы – пастаянныя лаўрэаты міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці «Залатая пчолка» (Клімавічы). На міжнароднай выставе дызайну (Мінск, 2002) яны выступілі са сваёй эксклюзіўнай калекцыяй касцюмаў «Вясенні звон». Школа была ўзнагароджана Ганаровым дыпломам за самую арыгінальную калекцыю ў дызайне адзення. Летам 2006 года навучэнкі школы ўдзельнічалі ў Першым міжнародным дзіцячым фестывалі-конкурсе "Радуга звезд" і сталі пераможцамі.

Нельга расказаць пра ўсіх пераможцаў шматлікіх конкурсаў. Раскажам пра Марыну Фаміну. Яна вучыцца ў школе чатыры гады ў выкладчыка А.С.Шаўцова і ў 2004 годзе стала стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, а ў канцы снежня 2006 года заняла першае месца ў абласным мастацкім конкурсе ў намінацыі "Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва".

Многія навучэнцы школы былі пераможцамі Першага фестывалю дзіцячай творчасці "Славянскі карагод ", які па ініцыятыве адзела культуры Горацкага райвыканкама ў маі 2006 і 2007 гадоў прайшоў у Горках.

Далей, на скрыжаванні вуліц І. І. Якубоўскага і Ф.А. Сурганава, знаходзяцца студэнцкія інтэрнаты №3, 4, 6, а таксама жылы дом выкладчыкаў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

На першым паверсе гэтага дома знаходзяцца магазіны «Ника», «Перекрёсток» і фірменны магазін Магілёўскага мясакамбіната. Апошні магазін у свой час атрымаў назву «Магазін пад брылямі».

Брылямі звалі выкладчыкаў акадэміі, якія любілі насіць саламяныя капелюшы. Адлюстроўвала гэта назва і сацыяльную няроўнасць, бо ў 50—60-я гады мінулага стагоддзя выкладчыкі акадэміі атрымлівалі ў некалькі разоў большую заработную плату, чым калгаснікі і рабочыя. У 70–80-я гады выкладчыкі ўжо не насілі брылі, заработная плата таксама выраўнялася, а тапонім «Пад брылямі» застаўся.

Вуліца Ф.А. Сурганава названа ў гонар партыйнага і савецкага дзеяча, аднаго з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1934-1938 гг. ён вучыўся ў акадэміі, а ў 1939 годзе быў абраны першым сакратаром Горацкага райкома камсамола. Гэта вуліца вядзе на гістарычную частку горада – Слабаду, дзе знаходзіцца раён індывідуальнай забудовы. Там яшчэ ў 1850 годзе пабудавана царква Ушэсця, якая з’яўляецца помнікам архітэктуры.

Да рэвалюцыі вуліцы на Слабадзе не мелі назваў. І толькі ў канцы 20-х гадоў там з’явіліся вуліцы Шасейная, Магілёўская, Крэстовая, Крывы завулак і іншыя. У 1931 годзе рашэннем Горацкага гарсавета вуліцы атрымалі новыя імёны: Калгасная, Першамайская, Камсамольская, Працоўная. Ужо ў пасляваенны час з’явілася вуліца імя Ф.І. Кузняцова.

На вуліцы Сурганава знаходзіцца сярэдняя школа №1 (кіраўнік С.М. Браніцкая). Гэта школа вядзе свой летапіс з 1847 года.

У школе працавалі заслужаныя настаўнікі БССР Н.В. Маскалёва і Е.А.Трошына. Зараз ў школе працуе Л.А.Бараноўская, якая ў 2006 годзе на рэспубліканскім

конкурсе настаўнікаў-арганізатараў была ўзнагароджана дыпломам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь “За вклад в теорию и практику развития детского движения”.

Вучні школы разам з агульнаадукацыйнымі прадметамі атрымліваюць музычна-эстэтычную адукацыю (яны маюць магчымасць навучацца на аддзяленнях: вакальным, тэатральным, інструментальным і харэаграфічным). У 2005 годзе студыя эстраднай песні школы "Ліра" (кіраўнік А.П. Запявалава) была ўдастоена звання "узорны самадзейны калектыў". У школе працуе некалькі клубаў, студый, секцый і гурткоў.

У школе былі арганізаваны профільныя класы па замежнай мове, біялогіі і хіміі, інфарматыцы і матэматыцы, праву і эканоміцы ( заняткі вядзе кандыдат эканамічных навук, дацэнт А.М.Арцёменка), справаводству.

Школа ганарыцца сваімі выхаванцамі – славутым палкаводцам, двойчы Героем Савецкага Саюза, маршалам І. І.Якубоўскім, пісьменнікам Г. Шчарбатавым, заслужаным работнікам сельскай гаспадаркі БССР, кандыдатам сельскагаспадарчых навук, дацэнтам Л.А Дазорцавым, дактарамі навук– С.Касьяненка і Е. Янусавай.

Неаднаразова вучні школы станавіліся пераможцамі абласных прадметных алімпіяд.

Побач са школай будынак, дзе знаходзіцца раённая пракуратура (кіраўнік І.У. Жалевіч) і раённы суд ( кіраўнік А.А Зайцаў).

Насупраць школы знаходзіцца кантора ААТ “Горацкі камбінат грамадскага харчавання” (кіраўнік М.І. Макарэвіч), прыватныя і дзяржаўныя магазіны. У 2007 годзе грамадскае харчаванне было прадстаўлена 63 прадпрыемствамі, дзе адразу маглі харчавацца больш за 2600 чалавек.

Далей да цэнтральнай вуліцы прымыкае вуліца Н. К. Крупскай, дзе захаваўся помнік архітэктуры канца XIX стагоддзя «Дом Падзерскага». У пасляваенны час тут знаходзіўся аддзел унутраных спраў Горацкага райвыканкама (кіраўнік У. М. Зайцаў). На доме мемарыяльная дошка, прысвечаная М.Е.Каробкіну, супрацоўніку міліцыі,

які загінуў у 1946 годзе. Побач з гэтым будынкам у 2007 годзе пабудаваны новы, трохпавярховы будынак аддзела ўнутранных спраў. У гэтым будынку знаходзіцца дзяржаўная аўтамабільная інспекцыя (кіраўнік В.І. Фёдараў ). Аддзяленне ДАІ па выніках 2002 года было прызнана лепшым у вобласці і ўзнагароджана дыпломам І ступені. На другім баку вуліцы будынак дэпартамента МУС Рэспублікі Беларусь “Ахова” (кіраўнік С.В.Лазічны).

Насупраць гэтай установы знаходзіцца аддзел тэхнічнай творчасці Цэнтра пазашкольнай работы Горацкага РАА (кіраўнік В.Д. Жураўлёў). Тут дзеці і падлеткі спасцігаюць азы навукова-тэхнічнай творчасці, удзельнічаюць ў розных спаборніцтвах і конкурсах.

Па масту ўзойдзем на ўзгорак. Злева мы ўбачым рэстаранны комплекс “Парнас”, а справа ў 80-я гады была пабудавана магутная кацельня, якая спачатку працавала на вадкім паліве, а зараз на газе. Яна ацяпляе амаль увесь горад. Тут жа знаходзіцца кіраўніцтва аб’яднання УКП “Цеплавая энергетыка” (кіраўнік В.Ф. Трухан), якое некалькі гадоў назад аб’ядналася з УКП “Водаканал” і займаецца зараз не толькі цеплазабеспячэннем, але і забяспечвае гараджан і жыхароў раёна вадой, падтрымлівае ў парадку каналізацыйныя сістэмы.

Да рэвалюцыі гэтая частка Горак мела назву “Зарэчча”, бо знаходзілася за ракой Капылкай. Зараз рака выглядае як ручай, але калісьці была мнагаводнай. Пра Зарэчча ўпершыню ўзгадваецца ў інвентары 1583 года. А калі ў Горках у 1708 годзе былі войскі пад камандаваннем Пятра Першага, то займалі яны менавіта ўсё Зарэчча. Аб гэтым сведчыць карта-схема, што была знойдзена ў Ваенна-гістарычным архіве Расіі. У 1924 годзе ў Зарэччы было 208 двароў і жыло 1611 жыхароў. У час калектывізацыі быў створаны калгас “Чырвоны ўсход”.

Зараз тут знаходзіцца вуліца імя Заслонава. На ёй змешчаны будынак Дома быту, дзе знаходзяцца службы і кіраўніцтва УКП “Бытпаслугі” (кіраўнік В.І. Сівохіна). Бытавое абслугоўванне раёна прадстаўлена 3 Дамамі быту, 16 комплекснымі пунктамі (з іх 15 стацыянараў і 1 перасоўны).

Яны аказваюць насельніцтву 11 відаў паслуг. У 2006 годзе насельніцтву раёна было аказана бытавых паслуг на 3,4 млр. рублёў. Па асноўных паказчыках горацкія бытавікі ўпэўнена трымаюцца на другім-трэцім месцах у Магілёўскай вобласці.

Побач з Домам быту – невялікая плошча з фантанам. Тут у 1993 годзе быў установлены помнік "Працаўніку сяла".

Насупраць – кінатэатр "Крыніца", які пабудаваны ў 1986 годзе. Горацкі філіял КУП "Могилеввидеопрокат" (кіраўнік В.М. Дарковіч) аб'ядноўвае 27 кінавідэаустановак па раёне.

На плошчы У.І.Леніна сканцэнтраваны адміністрацыйныя і жылыя дамы. У цэнтры плошчы – помнік У.І.Леніну, будынак Горацкага раённага выканаўчага камітэта і раённага Савета дэпутатаў.

Як вядома, Горацкі раен як адміністрацыйная адзінка ўзнік 17 ліпеня 1924 года. 29 снежня 1989 года ад Горацкага раёна да створанага Дрыбінскага адышлі Дрыбінскі, Кароўчынскі, Першамайскі, Раснянскі і Цемналескі сельскія Саветы.

У 1998 годзе адбылося аб'яднанне Горацкага раёна і г.Горкі ў адну адміністрацыйную адзінку і гарадскі выканкам быў скасаваны. У сучасны момант у раёне 170 населеных пунктаў. Раён падзелены на 11 сельскіх Саветаў: Аўсянкаўскі, Гарскі, Добраўскі, Копцеўскі, Ленінскі, Маслакоўскі, Паршынскі, Рудкаўшчынскі, Ракцянскі, Саўскі і Ходараўскі.

Дзейнасць райвыканкама (кіраўнік М.М. Анікееў, кандыдат сельскагаспадарчых навук, дацэнт і яго намеснікі – А.І. Дуцько, А.І. Папытаяў, І. Ц. Шкапцоў, Н.В. Карнеева, кіраўнікі аддзелаў і ўпраўленняў – В.В. Бяляеў, І.А. Белякова, А.В. Бяляцкі, І.С. Булаш, І.В. Воран, І.М. Высоцкі, Д.В. Гатоўчык, В.М. Мацкевіч, В.К. Маслякоў, А.А. Агароднікава) накіравана на стварэнне ўмоў эканамічнага росту, павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Пад кіраўніцтвам райвыканкама праводзіцца мэтанакіраваная работа па рэалізацыі прагнозных паказчыкаў сацыяльна-

эканамічнага развіцця народнагаспадарчага комплексу раёна.

Творча працуе раённы Савет (кіраўнік І.А. Халява), дзе ўтвораны шэсць пастаянных камісій. Пастаянна развіваецца грамадская ініцыятыва і самакіраванне. Створаны 31 дамавы, 24 вулічныя камітэты, у сельскіх населеных пунктах працуюць 70 селькамаў.

У апошнія гады быў афіцыйна зацверджаны герб горада Горкі. За аснову яго ўзяты старажытны герб Горак, а ў верасні 2006 года быў зацверджаны геральдычны сімвал Горак – сцяг. У апісанні сцяга сказана, што ён уяўляе сабой “…прямоугольное полотнище желтого цвета с соотношением сторон 1:2, в центре лицевой стороны которого – изображение герба города Горки».

Вялікая работа райвыканкамам была праведзена ў 2004 годзе, калі ў горадзе і раёне праходзіў рэспубліканскі экалагічны форум, на які прыехалі дэлегацыі з усіх абласцей і шматлікіх навуковых устаноў Беларусі. У ходзе форума ў Горках адбылася вялікая выстава, прысвечаная ахове навакольнага асяроддзя і рэсурсазберагаючым тэхналогіям. Завяршылася мерапрыемства вялікім канцэртам на стадыёне акадэміі і фейерверкам.

У апошнія гады актыўна развіваюцца міжнародныя сувязі з раёнам горада Масквы – Пярова, горадам Гарволін Рэспублікі Польшча, раёнамі Смаленскай вобласці – Красненскім , Манастыршчынскім і Хіславіцкім.

На тэрыторыі раёна дзейнічаюць арганізацыйныя структуры Камуністычнай партыі Беларусі  і некалькіх дзесяткаў грамадскіх арганізацый.

У апошнія гады было шмат зроблена па развіццю добразычлівых адносін органаў улады і рэлігійных арганізацый. У раёне дзейнічае 10 рэлігійных абшчын ( 5 праваслаўных, 3 пратэстанскія, 1 каталіцка-рымская і 1 іўдзейская).

Побач з райвыканкамам у апошнія гады выраслі прыгожыя будынкі фонду сацыяльнай абароны насельніцтва (кіраўнік А.М.Самсонаў) і “Белдзяржстраха” (кіраўнік К.У. Шаурка). Апошні аказвае насельніцтву больш за 50 паслуг.

За будынкам райвыканкама ў 70-я гады быў пабудаваны трохпавярховы будынак інфармацыйна-вылічальнай станцыі. Але камп’ютарная тэхніка зрабіла гэтую станцыю незапатрабаванай. І зараз тут знаходзіцца: аддзел занятасці ўпраўлення па працы і сацыяльнай абароне райвыканкама (кіраўнік Н.В. Новікава), аддзел статыстыкі райвыканкама (кіраўнік І.А. Купрыянава).

А менавіта з дадзеных аддзела статыстыкі можна даведацца, што на пачатак 2007 года ў Горках пражывала 34,6 тысячы жыхароў, а ўсяго ў раёне 51,8 тысяч чалавек.

На плошчы імя Леніна на першых паверхах шматпавярховых дамоў знаходзяцца Бюро падарожжаў і экскурсій (кіраўнік Ц.Э. Копач), аддзел ЗАГС Горацкага райвыканкама (кіраўнік А.В. Бондарава), магазіны і кафэ.

Горацкае бюро падарожжаў і экскурсій – старэйшае ў Магілёўскай вобласці. Яно арганізуе экскурсіі ў Маскву, Санкт-Пецярбург, Мінск, Магілёў і іншыя гарады, па Горках і БДСГА. З дапамогай бюро можна адпачыць на арэндаваных базах на Чорным моры.

Госці горада могуць пасяліцца ў гасцініцы “Проня”, дзе ёсць ахоўваемая аўтастаянка. На першым паверсе гасцініцы месціцца райкам Беларускага рэспубліканскага Саюза моладзі, які аб’ядноўвае каля 2500 членаў (кіраўнік А.Н.Кабышаў).Усяго ў Горацкім раёне моладзь (разам са студэнтамі акадэміі) ва ўзросце да 31 года складае каля 23 тыс.чалавек .

У раёне актыўна вядзецца работа па будаўніцтву жылля для маладых сем’яў. За 2004-2005 гады палепшылі свае жыллёвыя ўмовы 184 маладыя сям’і.

У 2005 годзе ўсімі відамі другаснай занятасці было забяспечана амаль 10 тысяч навучэнцаў і студэнтаў. Узнавіўся студэнцкі будаўнічы рух. У раене існуе спаборніцтва сярод маладзёжных уборачных экіпажаў і маладых вадзіцеляў. На працягу некалькіх гадоў яны заваёўвалі прызавыя месцы на рэспубліканскіх і абласных спаборніцтвах, удзельнічалі ў рэспубліканскіх “Дажынках”. Гэта датычыць моладзі РУП “Вучгас БДСГА”, СПК “Аўсянка” і УКСП “Саўгас-камбінат Горкі”.

На перасячэнні вуліц Якубоўскага і Вакзальнай устаноўлены помнік – гармата на пастаменце ў гонар воінаў, якія 26 чэрвеня 1944 года вызвалілі Горкі.

Побач знаходзіцца аўтавакзал. У апошнія гады рэйсавыя аўтобусы з Горак накіроўваюцца на Мінск, Магілеў, Віцебск, Гомель, Бабруйск, Оршу, Асіповічы і Мсціслаў.

Аўтобусны парк забяспечвае пасажырскія перавозкі па 5-ці гарадскіх маршрутах агульнай працягласцю 35 кіламетраў і 10-ці прыгарадных працягласцю больш 300 кіламетраў.

Штодня ад аўтастанцыі горада адпраўляецца 67 аўтобусных рэйсаў, у тым ліку 19 міжгародніх. Перавозіцца больш за 3,5 млн. пасажыраў у год. У апошнія гады з'явіліся 18 прыватных маршрутных таксі.

Вуліца Вакзальная вядзе на чыгуначны вакзал. Па правым баку вуліцы ў апошні час вырас новы мікраараён па вуліцы Калініна. Тут знаходзіцца некалькі магазінаў, стадыён, гімназія №1 і сярэдняя школа №3.

У СШ №3 (кіраўнік Н.П.Рудашка), якая адкрылася ў 1966 годзе, ёсць профільны клас па спецыяльнасці ”Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций». Працуюць класы з мастацкім, філалагічным, фізіка-матэматычным, эканамічным, фізкультурна-спартыўным і іншымі ўхіламі, некалькі клубаў, студый, секцый і гурткоў.

У 2006 годзе ў школе адкрыўся гісторыка-этнаграфічны музей, а ў будынку школы была адчынена мемарыяльная дошка выхаванцу школы, двойчы лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, кандыдату тэхнічных навук, дацэнту, член-карэспандэнту Беларускай інжынернай акадэміі В. Я. Красніцкаму. У двары школы адкрыты помнік выхаванцу школы Аляксандру Салаўёву, што загінуў у Афганістане.

Калектыў школы ганарыцца сваімі выхаванцамі: У.Н. Цімашэнка – доктарам сельскагаспадарчых навук, М.Г.Кандрацьевым – генерал-маёрам.

Вучні школы неаднаразова былі пераможцамі абласных прадметных алімпіяд.

Недалёка ад школы, у былой станцыіі юнатаў, працуе аддзел экалогіі Цэнтра пазашкольнай работы Горацкага РАА (кіраўнік М.Р. Іванова ). У цэнтры працуе шмат гурткоў, якія фарміруюць экалагічную культуру ў дзяцей і падлеткаў. Цікавую працу праводзіць таксама Цэнтр турызма і краязнаўства (кіраўнік С.І.Церахава).

Гімназія №1 (кіраўнік М. А.Добышаў) была створана ў 1992 годзе. Навучанне ў гімназіі вядзецца па наступных профілях: музычна-харавы, мастацкі, харэаграфічны, тэатральны, філалагічны, фізіка-матэматычны, лінгвістычны, гісторыка-грамадазнаўчы, хіміка-біялагічны, спартыўны. Штогод да 98% навучэнцаў становяцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

У гімназіі працуе 12 клубаў і студый па інтарэсах. Калектыў ганарыцца поспехамі дзіцячага хору “ Камертон” (кіраўнік Л.В.Бальцава), дыпламанта абласнога і рэспубліканскага агляду-конкурсу дзіцячай творчасці ”Добры дзень, свет”; тэатральнай студыяй “Фантазія“– дыпламанта Першага абласнога агляду-конкурсу дзіцячага тэатральнага мастацтва (кіраўнік С.В.Шэкіна); узорнага харэаграфічнага калектыва “Карусель”, дыпламанта Другога абласнога агляду-конкурсу дзіцячага харэаграфічнага мастацтва (кіраўнікі Т.В.Панамарэнка і В.М.Пятроўская).

Вучаніца гімназіі Д.Бялясава (кіраўнік С.Ю.Патупчык) з’яўляецца лаурэатам рэспубліканскага тэлевізійнага конкурса “Сузор’е надзей” ( 2005г.), двойчы лаўрэатам Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці “Золотая пчёлка” (2004-2005 гг.), лаўрэатам Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці ”Окно в Европу” ў Санкт-Пецярбургу (2006 г). Дзяўчынка атрымала стыпендыю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Шырока вядомы поспехі спартсменаў гімназіі. Так, хакейная каманда заваёўвала першыя месцы на рэспубліканскіх і абласных спаборніцтвах “Золотая шайба”.

Вучні гімназіі неаднаразова былі пераможцамі абласных прадметных алімпіяд. У 2000 годзе каманда вучняў, якая займаецца па тэхналогіі развіваючай адукацыі, вярнулася

з Міжнароднай алімпіяды, заваяваўшы першае месца , а ў 2007 годзе каманда вучняў на Міжнароднай алімпіядзе заваявала другое месца сярод 15 каманд з Беларусі, Расіі і Літвы.

На вуліцы Вакзальнай размешчаны гарадскі стадыен з футбольнымі і баскетбольнымі палямі, закрытымі спартыўнымі заламі.

У раёне для правядзення фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай работы з насельніцтвам выкарыстоўваецца 169 спартыўных збудаванняў, у тым ліку 27 залаў, 2 плавальныя басейны, 2 стадыёны.

Да рэгулярных заняткаў фізічнай культурай і спортам прыцягнуты звыш 10 тысяч чалавек, гэтую работу арганізуюць і праводзяць 165 работнікаў фізічнай культуры і спорту.

Актыўна працуюць раённы цэнтр масавай і спартыўнай работы, гандбольны клуб “Колас-Горкі”, падлеткавы клуб па месцы жыхарства “Імпульс”.

Шырокае развіццё ў Горках і раёне атрымалі футбол, хакей, легкая атлетыка, конны спорт, барацьба і іншыя віды спорту. Ёсць і пэўныя поспехі. Так, зборная каманда па хакею з шайбай малодшай узроставай групы школьнікаў – пераможца абласных спаборніцтваў на прыз “Залатая шайба” і прызёр рэспубліканскіх спаборніцтваў у 2001-2002 гг., зборная каманда па футболу – пераможцы абласных спаборніцтваў 2000 года.

У апошнія гады жыхары Горацкага раёна станавіліся пераможцамі і прызёрамі чэмпіянатаў Свету і Еўропы, Беларусі. Сярод іх М.Рыжанкоў і К.Шкуратава – па цяжкай атлетыцы, С.Бярговін у 2001 годзе заняў 4-е месца ў свеце па поліатлону, Р.Аджыеў – 1-е месца на адкрытым рэспубліканскім турніры па вольнай барацьбе (2002 г.), А.Школьнікаў – чэмпіен Беларусі ў штурханні ядра.

У 2007 годзе добрыя вынікі паказалі на адкрытым чэмпіянаце Беларусі А.Казлоўскі і Л. Вяршынін, якія сталі адпаведна чэмпіёнам і сярэбраным прызёрам у бар’ерным бегу на 400 метраў. Яны ў складзе каманды БДСГА атрымалі ”золата” ў эстафеце 4 па 400 метраў. У штурханні

ядра Ю.Бялоў заваяваў сярэбраны медаль, а А. Корзун падняўся на верхнюю ступеньку п’едэстала ў складзе зборнай Беларусі на Кубку Еўропы па лёгкаатлетычнаму дзесяцібор’ю.

Гандбольны клуб “Колас-Горкі” даволі пасняхова прымае ўдзел у чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь вышэйшай лігі.

Актыўна развіваецца ў раёне спорт па месцы жыхарства. Такія спаборніцтвы, як “Горацкая лыжня”, “Асенні крос” і іншыя праходзяць з удзелам многіх тысяч удзельнікаў. Іх арганізуе раённы цэнтр фізкультурна-масавай работы, які па выніках абласнога конкурсу займае лідзіруючыя месцы (у 2004 г.– першае, у 2003г. і 2005 г– другое).

З 1976 года ў Горках працуе дзіцяча-юнацкая коннаспартыўная школа. Першым дырэктарам яе быў майстар спорту В.І. Нежывы. За 30 год школа падрыхтавала 11 майстроў спорту і больш 50-ці кандыдатаў у майстры спорту. Славу школе прыносілі майстры спорту С.Свірыдовіч, Г.Гурыновіч – неаднаразовыя пераможцы і прызёры чэмпіянатаў БССР, удзельнікі 7-й спартакіяды народаў СССР, У.Краеўскі – чэмпіен СССР сярод юніёраў і сярэбраны прызер Кубка Беларусі (2001г.), П.Савіцкі выйграў Кубак Беларусі (1994 г.) і этап Кубка Свету “Вольва”(1994г.), у 1995 годзе – чэмпіянат Беларусі, І.Васільеў стаў чэмпіенам Беларусі (2002 г.) па пераадольванню перашкод (канкур).

Штогод школа праводзіць рэспубліканскі турнір, прысвечаны быломy выхаванцу школы, майстру спорта Аляксандру Зелянку.

Ганарыцца сваімі поспехамі і горацкая дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. Так, М.Барулін стаў у 2000 годзе чэмпіёнам Беларусі па зімоваму шматбор’ю і бронзавым прызёрам першынства Беларусі па біятлону (2000 г.), А.Жук – бронзавым прызёрам чэмпіянату Беларусі па лёгкай атлетыцы (2001 г.), каманда хакеістаў малодшай узроставай групы “Імпульс” стала сярэбраным прызёрам рэспубліканскіх спаборніцтваў “Залатая шайба” (2001).

У 2006 годзе ў 117 спартыўных спаборніцтвах прыняло ўдзел больш за 5 тысяч чалавек.

Шахматны клуб “Гамбіт” (кіраўнік Б.Ф.Баскакаў), што працуе пры Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, штогод праводзіць шахматны турнір памяці П.І. Шумскага і П.К. Белабародава.У 2006 годзе пераможцам турніру стаў студэнт акадэміі А.С.Дзельнік. Ён жа атрымаў і першую прэмію, якую заснавалі сыны П. І. Шумскага.

Буйнейшым прадпрыемствам горада з’яўляецца Горацкі хлебазавод – філіял РУВП “Магілёўхлебпрам” (кіраўнік А.А. Крывянкоў). За суткі прадпрыемства выпускае 6 – 6,5 тон хлеба, 3,5 тоны хлебабулачных вырабаў. Пастаянна пашыраецца асартымент і паляпшаецца якасць прадукцыі. Калі раней тут выпякалі чорны, белы хлеб і батон, то цяпер завод выпускае да 10 гатункаў хлеба, 20 – кандытарскіх і 15 – булачных вырабаў.

Ў 2006 годзе сорт хлеба “Нікольскі” на рэспубліканскім аглядзе якасці быў узнагароджаны сярэбраным медалём. У 2007 годзе на міжнародным аглядзе якасці, дзе ўдзельнічалі Расія, Казахстан, Чэхія, Германія і Беларусь, горацкі батон быў таксама ўзнагароджаны сярэбраным медалём.

У апошнія гады завод перайшоў на прыродны газ, карэнная рэканструкцыя была праведзена ў тэхналагічным працэсе, вынікам чаго стала пашырэнне асартыменту выпускаемай прадукцыі. Былі набыты спецыяльныя машыны, каб зрабіць больш таннай дастаўку хлеба ў гандлёвыя пункты, устаноўлена абсталяванне для нарэзкі гатовай прадукцыі і ўпакоўкі яе ў цэлафан. На тэрыторыі горада былі адкрыты некалькі фірменных магазінаў. Пастаянна праводзяцца выставы-продажы з дэгустацыяй.

Яшчэ нядаўна кандытарскі цэх знаходзіўся на грані закрыцця з-за вялікай канкурэнцыі, а зараз любы жадаючы можа набыць булачкі, піражкі і тарты. І гэта не выпадкова – тут працуюць сапраўдныя майстры, якія ў 2005 годзе на абласным конкурсе кандытараў занялі другое месца.

Калектыў хлебазавода ганарыцца перадавіком вытворчасці, заслужаным работнікам прамысловасці Рэспуб-

лікі Беларусь К.П. Марушка, якая ў 1969-2003 гг. працавала кандытарам завода

Недалёка ад хлебазавода знаходзіцца кантора і склады “Райспажыўтаварыства” (кіраўнік А.А.Ганчароў). Раней у Горках і раёне былі дзве гандлёвыя арганізацыі: “Гархарчгандаль” (яго доўгі час узначальваў заслужаны работнік гандлю і грамадскага харчавання Рэспублікі Беларусь М.В. Мірончыкаў) і “Райспажыўтаварыства”. Зараз яны аб’ядналіся пад дахам апошняй.

Усяго ж гандлёвая сетка раёна прадстаўлена 305 прадпрыемствамі, з іх – 161 магазін, 89 гандлёвых аб’ектаў індывідуальных прадпрымальнікаў, 59 гандлёвых павільёнаў і кіёскаў, 3 аўтамагазіны.

Нягледзячы на вялікую канкурэнцыю, стратнасць некаторых вясковых магазінаў, арганізацыя працуе з прыбыткам. Гэта дасягнута дзякуючы таму, што адкрыліся новыя магазіны, а таксама арганізацыя прапаноўвае новыя паслугі, асабліва сельскаму насельніцтву: ад нарэзкі шкла да распілоўкі дроў.

РСТ займаецца і вытворчасцю тавараў. Працуюць два прадпрыемствы: швейны цэх і жывёлаўбойны.

Зараз РСТ пачало актыўна ажыццяўляць продаж тавараў насельніцтву ў крэдыт: халадзільнікаў, тэлевізараў, пральных машын, мэблі і веласіпедаў. Цікавай формай працы з’яўляецца водпуск харчовых тавараў у крэдыт пенсіянерам тэрмінам на адзін месяц без выплаты працэнтаў. Яна ўжываецца ўжо ў 16-ці магазінах.

Акрамя таго ў студзені 2007 года ў РСТ была рэарганізавана сістэма кіравання. У выніку была скарочана 121 штатная адзінка. Штомесячны эфект ад гэтага склаў 5,8 млн.рублёў.

За дасягнутыя поспехі Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь па выніках работы за 2006 год прысудзіла спажывецкаму таварыству ганаровую ўзнагароду – “Бронзовый Меркурий” у намінацыі “За лепшую арганізацыю гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, забяспячэнне высокага ўзроўню культуры гандлю і вытворчую дзейнасць”. А работніцы РСТ Вікторыя Нябрэева і Людміла Ібрагімава

сталі пераможцамі абласнога конкурсу “Лепшы па прафесіі” сярод маладых прадаўцоў сістэмы кааперацыі.

Побач з райспажыўтаварыствам знаходзіцца аўтапарк №17 (кіраўнік А.Д.Апёкін). Аўтобусны парк забяспечвае пасажыраперавозкі гарадскіх, прыгарадных і міжгародных маршрутаў. Штогод перавозіцца звыш 3-х млн.пасажыраў. Грузавым аўтатранспартам – ад 120 да 140 тысяч тон грузаў.

Аўтапарк аказвае розныя паслугі аўтапрадпрыемствам, прыватным асобам. Для насельніцтва рамантуюцца прыватныя аўтамабілі, перавозяцца грузы. У 2004-2006 гг. значна аднавіўся аўтапарк, набыта 9 аўтобусаў і 4 аўтамабілі маркі “ Маз”.

Па выніках 2006 года АТП-17 увайшоў у пяцёрку лепшых прадпрыемстваў аб’яднання “Магілёўаблаўтатранс».

У апошія гады ў горадзе і раёне з’явілася некалькі прыватных маршрутных таксі.

“Вакзал”... Калі мы так гаворым аб гэтай частцы горада, то маем на ўвазе менавіта раён чыгуначнага вакзала. Ці жылі тут жыхары да пачатку будоўлі чыгункі Орша-Крычаў, невядома. А калі ў 1918 годзе будоўля скончылася, то ўзнікла станцыя Беларускія Горкі. Каля яе, як сведчаць матэрыялы Першага Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 года, жыло ў 334 дварах больш за 1500 чалавек. У 1930 годзе станцыя атрымала імя С.Дз.Пагодзіна. У 20-я гады тут пачалося будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў.

Яшчэ пасля Вялікай Айчыннай вайны раён чыгуначнага вакзала быў асобнай адміністрацыйнай адзінкай і ўваходзіў у склад Горацкага сельскага Савета. І толькі пасля актыўнага будаўніцтва жылых дамоў па вуліцы Калініна ён фактычна зліўся з горадам. Але тапонім “вакзал” так і застаўся.

У 2004 годзе на чыгуначным вакзале (кіраўнік Ю.І.Маткін) быў праведзены капітальны рамонт. Пасажырскія платформы “апрануліся” ў сучасную тратуарную плітку. З’явілася новае асвятленне, дэкаратыўная бетонная агароджа, разбіты новыя клумбы для кветак. Будынак станцыі адрамантаваны і прыняў сучасны выгляд.

Зараз паслугамі чыгуначнага вакзала штогод карыстаюцца больш за 250 тысяч пасажыраў дызель - цягніка Орша-Крычаў. У касе вакзала можна набыць білет на цягнік, які ідзе ў любую кропку Беларусі і СНД.

Пасажыры не адзіныя кліенты чыгуначнай дарогі. Штодня дзесяткі вагонаў розных грузаў адпраўляюцца і прыбываюць для разгрузкі на станцыю Пагодзіна.

Рытмічную і зладжаную работу станцыі забяспечваюць чатыры службы: руху, сігналізацыі і сувязі, пуцявой гаспадаркі і энергазабеспячэння. Усяго на чыгуначнай станцыі працуе 37 чалавек.

Побач з чыгуначнай станцыяй Пагодзіна яшчэ ў 1931 годзе быў пабудаваны льнозавод, зараз ААТ "Горкілён" (кіраўнік В.М. Еўціховіч.). У 80-90-я гады завод перажываў не лепшыя часы. У сувязі з тым, што з-за нізкага прыбытку сельскагаспадарчыя прадпрыемствы скарацілі пасевы льну, калектыў завода пачаў сам займацца яго вырошчваннем. Пачалі ў 2002 годзе са 150 га, а ў 2007 годзе давялі пасяўны клін да 1000 га. Для гэтага завод набыў 17 трактароў і ўвесь прычапны інвентар да іх. У 2006 годзе завадчане вырасцілі больш за 2 тысячы тон трасты. Гэта быў адзін з лепшых паказчыкаў у Магілёўскай вобласці.

У канцы 2006 года калектыў завода адзначыў 75 год з дня заснавання. У юбілейны год на ім працавала ў дзве змены больш за 140 рабочых.

ААТ з дапамогай дзяржавы плануе далейшы рост і развіццё. Так, на 7,5 млр. рублёў плануецца закупіць і ўстанавіць новага тэхналагічнага абсталявання (лінію бельгійскай вытворчасці для атрымання доўгага валакна). Яна дазволіць у 2 разы павысіць прадукцыйнасць працы.

ААТ "Горацкі масларобча-сыраробчы завод" (кіраўнік У.Э. Пятровіч) таксама адно са старэйшых прадпрыемстваў горада. Яно пачало працаваць ў першыя гады Савецкай ўлады.

Зараз прадукцыя завода – малако, смятана, варэнец, масла, кефір, тварог, сыр, казеін з брэндам "Малочныя Горкі" вядома не толькі ў Магілёўскай вобласці , але і да-

лёка за яе межамі. Асабліва гэта датычыць двух відаў галандскіх сыроў “Сливочный“ і “Премиум“.

У 2006 годзе Дзяржкамітэт Рэспублікі Беларусь па стандартызацыі вылучыў лаўрэатаў конкурсу “Лепшыя тавары Рэспублікі Беларусь 2006 года”. У намінацыі “Харчовыя тавары” адзначаны тавары з Горак – масла “Сялянскае”, варэнец “Манастырскі” і смятана “Традыцыйная”.

Дзякуючы высокай якасці тавараў, у апошнія гады вырас экспарт прадукцыіі, асабліва ў Расію ( у 2005 годзе ў параўнанні з 2004 годам – на 143%).

На заводзе была праведзена рэканструкцыя: набылі новае кампрэсійнае абсталяванне, перавялі на газ кацельню, зрабілі капітальны рамонт у цэхах.

У раёне чыгуначнага вакзала знаходзіцца ААТ “Према” (кіраўнік В.А. Рудашка). Калісьці гэта было самае вялікае прадпрыемства Горак. Яно выпускала прадукцыю для абароннага комплексу СССР. Пасля 1991 года прадпрыемства рэзка скараціла аб’ёмы вытворчасці, амаль у дзесяць разоў скараціўся і працоўны калектыў.

Аднак у апошні час справы тут пайшлі ўгору. Для прадпрыемства асабліва плённым стаў 2006 год і пачатак 2007 года, калі аб’ём вытворчасці вырас амаль на 25%.

Вялікія тэмпы росту вытворчасці ў гэты перыяд паказала і ўнітарнае прадпрыемства “ИК-9” Дэпартамента выканання пакарання МУС Рэспублікі Беларусь (кіраўнік А.М. Кавалёў).

Побач з ААТ “Горкілен” знаходзіцца першае прыватнае прадпрыемства з замежным капіталам ТАА “Скайфораст” (кіраўнік А.І. Дранковіч). Яно працуе з 2001 года і займаецца знешнегандлёвай і вытворчай дзейнасцю (вядзе перапрацоўку драўніны ўсохлых ельнікаў). У вытворчым цаху выкарыстоўваецца новая для Беларусі тэхналогія апрацоўкі драўніны з выкарыстаннем лесапільных станкоў, якія даюць менш адходаў. Асноўны від прадукцыі – абразныя піламатэрыялы – адпраўляюцца ў Латвію, Расію і краіны Заходняй Еўропы. Прадпрыемства пачало з перапрацоўкі 70 куб.м. і праз некалькі месяцаў ужо працавала ў тры змены і перапрацоўвала 2200 куб. м лесу.

Аб’ём экспартных паставак з 60 тыс. даляраў ЗША ў 2001 годзе ўзрос да 3,5 млн. ў 2003 годзе.

У апошнія гады вытворчасцю пачалі займацца прыватныя прадпрыемствы ЗАТ “БелРос”,” Витраж”, “ВиА”, “Шанс”, “Ровет-Аква“, “Ремком”, Печатник”, “Прима” і інш. Яны вырабляюць і рамантуюць мэблю, шыюць бялізну і верхняе адзенне, друкуюць кнігі і буклеты, разліваюць мінеральную ваду ”Горецкая”, перапрацоўваюць драўніну ствараюць і рамантаюць сельскагаспадарчую тэхніку.

Вялікіх поспехаў у апошнія гады дабілася ТАА “Ремком” (кіраўнік А.А. Радчанка). Пяць гадоў назад яны пачыналі з 2 чалавек і невялікага офіса. Зараз у таварыстве распрацоўваюць, вырабляюць і рамантуюць сельскагаспадарчыя машыны для аховы раслін. ТАА мае ўласную навуковадаследчую лабараторыю, вытворчыя плошчы (больш за 1500кв.м.) аснашчаныя сучасным абсталяваннем, дзе працуе калектыв з 30 інжынераў і рабочых. Для сэрвіснага абслугоўвання машын ТАА мае філіялы ў Мінску і Лідзе.

Усяго ў 2007 годзе ў недзяржаўным сектары эканомікі працавала 753 індывідуальных прадпрымальніка, 75 юрыдычных асоб. У гэтым сектары працуе 1864 чалавек, што складае 10,7% ад усіх занятых у народнай гаспадарцы. Асноўная частка прадпрымальнікаў занята ў гандлі і грамадскім харчаванні –79,8%, у выкананні бытавых паслуг – 4, і толькі 9% заняты непасрэдна вытворчасцю. У 2006 годзе прадпрымальнікі ўнеслі ў раённы бюджэт 5,7 млр. рублёў, што склала больш як 20%. Па гэтаму паказчыку Горкі займаюць трэцяе месца ў Магілёўскай вобласці.

Па выніках работы за 2006 год два камерцыйныя прадпрыемствы горада сталі лепшымі ў Магілёўскай вобласці. Гэта – ЧВУП “Фабрыка металлопластиковых конструкций” (кіраўнік А.В. Кірсанаў) і ТАА “Верас” (кіраўнік М.Н. Елсукоў).

Развіццё дзяржаўнага і прыватнага сектараў эканомікі дало магчымасць прамысловасці Горацкага раёна, а гэта 11 прадпрыемстваў, выйсці на паказчыкі, вызначаныя прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Горацкага раёна на 2001-2005 гады, і значна іх перавысіць. Так, тэмп

росту аб’ёму прамысловай вытворчасці склаў 171,7% пры прагнозным паказчыку 125-126%, перавышэнне склала 45,7%.

Толькі за 2005 год аб’ём прамысловай прадукцыі склаў 44,4 млр. рублёў, выраблена тавараў народнага спажывання на суму больш за 20 млр.рублёў.

Лепш за ўсіх працавалі ГЛХУ “Горацкі лясгас”, РУПІК №9, філіял “Магілёўхлебпрадукт” “Горацкі хлебазавод”, ААТ “Масларобчы-сыраробчы завод”.

Значная доля ў эканоміцы горада і раёна належыць сямі будаўнічым і дарожна-будаўнічым арганізацыям. Іх вытворчыя базы ў асноўным знаходзяцца ў раёне чыгуначнага вакзала.

У 1989 годзе будаўнічыя арганізацыі горада ўвайшлі ў аб’яднанне “Горкісельбуд”. Яно мела 12 невялікіх структурных падраздзяленняў з гаспадарчай самастойнасцю.

Час паказаў, што выпрабаванне на выжыванне вытрымалі ААТ “Будаўнік” і ПМК-1.

Для будаўнікоў горада быў цяжкі час, калі шукалі работу ў іншых гарадах, раёнах і нават за мяжой. Зараз актыўнае будаўніцтва вядзецца ў БДСГА, у горадзе і раёне.

У 2006 годзе будаўнічымі арганізацыямі ўсіх форм уласнасці выкананы аб’ём падрадных работ на суму 6,3 млр. рублёў. Уведзена ў эксплуатацыю за кошт усіх крыніц фінансавання 2404 кв. метры жылля. У сельскай мясцовасці пабудавана 117 жылых дамоў з агульнай плошчай 1352 кв. метраў жылля. На рэканструкцыю і капітальны рамонт жылля ў раёне выкарыстана больш за 840 млн.рублеў.

Гэтыя поспехі сталі магчымымі дзякуючы рабоце ўсіх будаўнічых арганізацый і перш за ўсё ААТ “Будаўнік” (кіраўнік В.А.Стасько), дзе зараз працуе больш за 450 чалавек.

Шмат поспехаў і ў будаўнікоў ПМК-1 (кіраўнік С.А. Храмянкоў). Яны пабудавалі ў апошнія гады 80-кватэрны дом па вуліцы Вакзальнай, 100-кватэрны – па праспекту Дзімітрава, 30-кватэрны дом па вуліцы Будаўнікоў.

Дзякуючы намаганням будаўнікоў у канцы 2006 года былі ўведзены ў строй ачысныя збудаванні горада, што

дазволіла зняць праблему ўтылізацыі каналізацыйных сцёкаў.

Дзесяць год эфектыўна працуе прыватная будаўнічая арганізацыя “Прометей» (кіраўнік А.І.Федаровіч), якая будуе і рамантуе не толькі ў раёне і горадзе, але і за іх межамі і нават у Расіі.

Вялікі аб’ем работ па рамонту і будаўніцтву дарог у раёне праводзяць дарожна-будаўнічыя арганізацыі ДБУ №27 (кіраўнік А.Р.Чарнамордзік), РУП “Магілеўаўтадор” ДЭУ №75 (кіраўнік М.П. Паваротны), ДРБУ №27 (кіраўнік А.В. Міронаў).

Значная роля ў поспехах Горацкага раёна належыць ААТ “Райаграпрамтэхніка” (кіраўнік М.В. Юрчанка). Акрамя сваіх асноўных заняткаў яна займаецца сельскагаспадарчай дзейнасцю: паспяхова вядзе сельскагаспадарчую вытворчасць ў былым СПК “Сава”, які стаў вытворчым участкам ААТ.

У мэтах рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця вёскі ў 2005-2010 гг. у раёне выкананы вялікі комплекс работ па стварэнню аграгарадкоў у цэнтральных сядзібах гаспадарак – у вёсках Паршына, Добрая, Леніна, Аўсянка і Каменка. У бліжэйшай перспектыве – стварэнне аграгарадкоў у вёсках Горы і Копцеўка.

Вяртаючыся назад у горад па дарозе Дрыбін-Горкі, мы ўбачым велізарныя гмахі ЧУП “Горацкі элеватар” (кіраўнік В.В. Хмуровіч) , яшчэ адно з прадпрыемстваў Горак. Пабудаваны яшчэ ў 70-я гады, ён разлічаны на захаванне і перапрацоўку некалькі тысяч тон зерня.

Па гэтай жа дарозе знаходзіцца Горацкі раён электрычных сетак (кіраўнік А.П. Тачыла), які забяспечвае горад і раён электрычнасцю.

У апошнія гады ўзрастае роля такой арганізацыі, як “Горацкі раён газаспажывання”( кіраўнік А.М. Белкін), якая таксама знаходзіцца на вуліцы Міру.

Працуе там невялікі калектыў, усяго больш за 90 чалавек, але яны праводзяць вялікі аб’ём работы. Гэта забеспячэнне жыхароў горада і раёна балонным газам,

запраўка газам аўтамабіляў, будаўніцтва і эксплуатацыя газаправодаў непасрэдна ў кватэры і дамы жыхароў.

Газ прыйшоў ужо на вуліцы Лазо, Кутузава, Шмідта, Фрунзе, Мандрыкава, Рабочую, Чкалава, Суворава, Астроўскага і іншыя. Падрыхтаваны праекты і заключаны дагаворы яшчэ з 22 вулічнымі таварыствамі.

Не забываюць газавікі і пра вёску. Праведзена газіфікацыя вёсак Леніна, Паршына, Добрая, у праграме 2007 года – Аўсянка і Маслакі, 2008-га – Рэкта і Горы, 2009-га – Стараселле, Каменка, 2010 –га – Рудкаўшчына і Хамінічы.

Вяртаемся зноў у цэнтр горада, але ўжо па другой вуліцы – Савецкай. Да рэвалюцыі яна называлася Мсціслаўскай, бо вяла ў бок Мсціслава.

У самым пачатку вуліцы да яе прымыкае невялікая вуліца Касманаўтаў, дзе знаходзіцца вытворчая база і кантора УКВП “Камунальнік” (кіраўнік М.М. Нікіценка). Пасля далучэння да гэтага прадпрыемства жыллёвага фонду БДСГА і дрэваперапрацоўчага камбіната, “Камунальнік” стаў адным з самых шматлікіх працоўных калектываў.

Яго работнікі абслугоўваюць увесь жыллёвы фонд горада і частку раёна ( гэта больш як 20 тысяч кватэр), займаюцца рамонтам і добраўпарадкаваннем тэрыторый, сочаць за станам дарог і чысцінёй на тратуарах і дварах.

І, як паказваюць вынікі агляду-конкурсу па добраўпарадкаванню сярод райцэнтраў вобласці, працуюць вельмі эфектыўна, бо тры гады запар горад Горкі станавіўся пераможцам ці прызёрам гэтага конкурсу.

Асабліва плённа камунальнікі папрацавалі ў 2004 годзе, рыхтуючыся да Рэспубліканскага экалагічнага форуму. Тады па капітальным рамонце ў горадзе, вёсках Леніна і Аўсянка было выканана аж тры гадавыя планы.

Насупраць аўтавакзала, у двухпавярховым доме, які стаіць побач з інтэрнатам, знаходзіцца некалькі магазінаў, салон сувязі. Сярод іх вылучаюцца магазіны “Бахус” і “Славянский» (кіраўнік ?А. Касцюшкін) у якіх можна набыць якасныя віны з многіх краін свету і разнастайныя харчовыя тавары.

Далей да вуліцы Савецкай прымыкае вуліца Фрунзе, дзе знаходзіцца Горацкі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях (в.а.кіраўніка Г.М.Краўчанка ).

Як ужо адзначалася ў кнізе, пажарная каманда ўзнікла ў Горках больш як 115 год таму назад. І калі гэта быў пажарны абоз на коннай цязе, то зараз аддзел забяспечаны самымі сучаснымі машынамі. І таму іх праца з кожным годам становіцца ўсе больш эфектыўнай. І ўсё ж пажарныя і стыхійныя бедствы здараюцца. У 2004 годзе ратавальнікі больш за 1700 разоў выязджалі на месцы здарэнняў і выратавалі 27 чалавек, 112 будынкаў, 4 адзінкі тэхнікі і матэрыяльных каштоўнасцей на суму 325 млн.рублёў.

Па выніках работы за 2004 год Горацкі аддзел заняў першае месца ў вобласці. Па выніках 2006 года – чацвёртае месца ў вобласці і 14 са 136 ў Рэспубліцы Беларусь.

Побач знаходзіцца кантора ДЛХУ “Горацкі лясгас”( кіраўнік П.П.Чэчат), які быў створаны ў 1936 годзе. Некалькі год назад ён быў адным з лепшых ў Беларусі, а яго былы дырэктар Ю.В. Назараў прызначаны намеснікам міністра лясной гаспадаркі Рэспублікі Беларусь.

Плошча лясгаса – 69,5 тысяч гектараў. У ім працуе больш за 400 чалавек. Гэты калектыў заклапочаны не толькі лесанарыхтоўкамі, але і тым, каб штогод ажыццяўляць новыя лесапасадкі. Для гэтага ёсць у Раснянскім лясніцтве базавы гадавальнік плошчай 24 га, дзе вырошчваюцца саджанцы сасны, елкі, дуба, бярозы і іншых дрэў.

У лясгасе маецца лесапаляўнічая гаспадарка плошчай 114 га, дзе водзяцца ласі, 210 дзікоў, 223 казулі, зайцы, куніцы, бабры і іншыя жывёлы.

Штогод рабочыя лясгаса ўдзельнічаюць у спаборніцтвах лесарубаў. У 2005 годзе каманда з Горак у складзе С.Грыгор’ева, А.Паўлава і В.А.Паўлава заняла на абласных спаборніцтвах другое месца.

Непадалек ад чыгуначнага вакзала знаходзіцца яго лесаперапрацоўчы цэх. Штогод пастаўляецца на экспарт прадукцыі звыш 1 млн.долараў ЗША ў Германію, Бельгію і іншыя краіны.

14 красавіка 2007 года ў Беларусі ўпершыню праводзіўся Дзень леса - 2007 пад дэвізам “Новыя лясы – нашчадкам у спадчыну”. У гэты дзень у лясгасе было пасаджана на 15 гектарах больш як 75 тысяч саджанцаў елкі, сасны, бярозы і іншых дрэў.

Далей па вуліцы Савецкай знаходзіцца прыватнае кафэ “Пельменная” і магазін прамысловых тавараў “Мадэрнстыль”. Іх уладальнікам з’яўляецца Ю.В.Суніцын, які ў 2004 годзе атрымаў званне “Лепшы прадпрымальнік у сферы грамадскага харчавання” Рэспублікі Беларусь і Магілёўскай вобласці.

Да вуліцы Савецкай прымыкае вуліца Кірава, дзе знаходзіцца раённы ваенкамат (кіраўнік А.В. Хітрук), раённая бальніца і паліклініка ( кіраўнік В.А.Кудраўцаў).

Бальніца на 345 ложкаў, пабудавана яшчэ ў 1961 годзе, паліклініка на 447 наведвальнікаў – у 1983 годзе.

Гэтае будаўніцтва ажыццяўлялася ў тыя гады, калі галоўным урачом райбальніцы працаваў заслужаны ўрач БССР У.Ф. Клімаў.

Зараз на варце здароўя працуюць 92 урачы, у тым ліку 1 вышэйшай і 31 першай катэгорый, 402 спецыялісты сярэдняй медыцынскай кваліфікацыі.

У апошні час значна павялічылася фінансаванне аховы здароўя, што дазволіла адрамантаваць некаторыя аддзяленні бальніцы, набыць самае сучаснае абсталяванне: апарат УЗІ для даследавання дзяцей, апарат для штучнай вентыляцыі легкіх, шасціканальны электра-кардыёграф швейцарскай фірмы “Шыллер”, тры аўтамабілі “УАЗ” для хуткай дапамогі.

Вяртаючыся назад па вуліцы Савецкая, мы пройдзем каля гары Мазепы, яшчэ аднаго тапоніма, звязанага з вайной 1700-1721 гг. Зараз на ёй месціцца дзіцячы садок №5.

Зноў па масту перойдзём праз раку Капылку і апынёмся каля галоўнага ўваходу на тэрыторыю Бела-рускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

Гэты ўваход з даўніх часоў завецца “Вароты, што круцяцца”. Такія вароты былі ўсталяваны яшчэ ў часы Горы-

Горацкага земляробчага інстытута, а пасля Вялікай Айчыннай вайны яны зніклі, аднак тапонім застаўся.

Падымаючыся на ўзгорак, мы ўбачым сквер, дзе знаходзяцца помнікі харчатрадаўцам, якія загінулі ў маі 1919 года і генерал-маёру М.М.Кідалінскаму. А побач са скверам ідзе вуліца Сацыялістычная. Раней гэты раён называўся “Салдацкая слабада”. Тут знаходзілася павятовая турма, і салдаты, што пільнавалі зняволеных, сяліліся побач.

Зараз у будынку турмы знаходзіцца раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі (кіраўнік Р.У. Пруднікава), арганізацыя, якая пільна сочыць за санітарным станам горада і вёсак, якасцю вады і грамадскага харчавання, тых тавараў і паслуг, што прапаноўваюць шматлікія кафэ і магазіны.

Шмат намаганняў работнікі цэнтра прыкладаюць да навядзення чысціні і добраўпарадкавання вуліц нашага горада. І тое, што наш горад атрымлівае ўзнагароды Магілёўскага аблвыканкама па добраўпарадкаванню, вялікая заслуга калектыву цэнтра.

У 2004 годзе цэнтр заняў трэцяе месца ў Магілёўскай вобласці па выніках абласнога агляду - конкурсу.

Далей па вуліцы Савецкай знаходзіцца дзіцячая бібліятэка (кіраўнік В.Д. Гайдукова) і рэдакцыя раённай газеты “Ленінскі шлях” (кіраўнік Л.В.Ганчарова). Газета выдаецца з красавіка 1918 года і ўзнагароджана Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Неаднаразова калектыў газеты станавіўся пераможцам творчых конкурсаў, што праводзіліся ў вобласці і рэспубліцы. У 2005 годзе рэдакцыя газеты заваявала другое месца ў конкурсе - аглядзе раённых газет Магілёўскай вобласці,  атрымала Дыплом і была прэміравана прэміяй у памеры 300 базавых адзінак. Рэдактар газеты Л.В. Ганчарова стала пераможцай конкурсу Магілёўскага абласнога аддзялення Беларускага саюза журналістаў, а адказны сакратар газеты П.І.Дзетлікові стаў лаўрэатам прэміі Магілёўскага аблвыканкама.

Побач з рэдакцыяй газеты ў будынку, які з'яўляецца помнікам архітэктуры, знаходзіцца аддзел мастацкай творчасці раённага цэнтра выхаваўчай работы Горацкага РАА (шмат гадоў тут працаваў раённы Дом піянераў). Зараз ў аддзеле (кіраўнік Т. Г. Татарынава) працуе шмат гурткоў, студый, якія вядуць вялікую выхаваўчую работу сярод вучняў горада і раёна. Ёсць і пэўныя поспехі. У пачатку 2007 года ўдзельнікі гуртка па мастацкаму канструяванню адзення (кіраўнік С.І. Дзенісенка) зрабілі калекцыю "Черно-белый БОДИ-АРТ», якая заняла першае месца ў Магілёўскай вобласці.

Вуліцу Савецкая перасякае вуліца Леніна. На ёй у былым будынку гарсавета знаходзяцца службы раённага Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (кіраўнік Т.В. Поклад), раённы Савет ветэранаў вайны і працы (кіраўнік П.М. Маркоўскі), раённае таварыства інвалідаў (кіраўнік К.Ф. Землякова). Гэтымі дзяржаўнамі і грамадскімі арганізацыямі праводзіцца вялікая работа сярод пенсіянераў, інвалідаў горада і раёна, і асабліва сярод адзінокіх і пражываючых асобна ад родных і дзяцей. Усяго ў раёне пражывае каля 12 тыс. пенсіянераў. З іх – 155 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, 86 інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, 83 сям'і загінуйшых воінаў, 637 вязняў фашызму.

На рагу вуліц Савецкая і Леніна знаходзіцца "Отделение № 812 г. Горки Головного филиала по Могилевской области "Белбизнесбанка" (кіраўнік В.М. Таранаў), які прапаноўвае прадпрыемствам, прадпрымальнікам і ўсім жыхарам горада вялікую колькасць банкаўскіх паслуг.

Вуліца Савецкая ўпіраецца ў вуліцу Бруцара-Ерафееўскую, названую ў гонар рэвалюцыянераў П.Бруцара і Ф.Ерафеева, што загінулі 16 студзеня 1905 года. Да Кастрычніка 1917 года вуліца мела назву Смаленская. Мемарыяльны знак у гонар рэвалюцыянераў устаноўлены ў канцы гэтай вуліцы.

На вуліцы ў асноўным прыватныя дамы. Размешчаны тут раённая вячэрняя школа для моладзі (кіраўнік М.М.Грыцук), цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і

рэабілітацыі Горацкага РАА (кіраўнік Н.Л. Якубоўская), міжраённы аддзел дзяржаўнага камітэта фінансавых даследаванняў (кіраўнік У.І. Навумовіч), прадуктовыя магазіны і магазін “Гаспадарчыя тавары”.

А ў завулку Леніна пабудаваны трохпавярховы будынак аддзялення ААТ “Белаграпрамбанк” у г. Горкі (кіраўнік Г.В. Аўрамава). Ён абслугоўвае два раёны – Горацкі і Дрыбінскі, аказвае вялікую колькасць паслуг насельніцтву. У 2005 годзе банк за арганізацыю добрай працы па абслугованню кліентаў заняў другое месца ў Магілёўскай вобласці, а кіраўнік банка ўзнагароджана знакам “Отличник Белагропромбанка».

Побач з будынкам банка знаходзіцца Горацкі раённы Дом рамесстваў (кіраўнік З.У.Чандакова). У свой час яго заснавальнікамі былі С.І. і Н.В. Квачы. Зараз гэтая ўстанова каардынуе работу па адраджэнню дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў раёне. А непасрэдна ў Доме рамёстваў працуе некалькі гурткоў. Самымі славутымі з іх з’яўляюцца народныя аматарскія аб’яднанні “Лазінка” (кіраўнік Т.А. Багдановіч), народны майстар Беларусі, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь” і “Скарбніца” (кіраўнік І. В. Хізанейшвілі).

А далей прадстае каланада. На ей надпіс: “Акадэмія”. Адсюль пачынаецца тэрыторыя гонару нашага горада – Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. Аб ёй у гэтай кнізе ёсць асобны раздзел.

Адзначым толькі, што праз акадэмію вядзе дарога ў аграгарадок Леніна, дзе знаходзіцца музей савецка-польскай баявой садружнасці, комплекс помнікаў загінуўшым савецкім і польскім воінам, Горацкі педагагічны каледж (кіраўнік С.Б. Пянчанскі). Апошні быў адкрыты ў 1976 годзе і за 30 год падрыхтаваў больш за 4 тысячы настаўнікаў. З 2004 года ён увайшоў у структуру Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова і зараз у ім вучыцца больш за 400 навучэнцаў.

Апавяданне пра сённяшнія Горкі не будзе поўным, калі мы не раскажам аб стане развіцця і поспехах працаўнікоў сяла. Вядома, што многія жыхары горада працуюць на вёс-

цы, многія абслуговыя і перапрацоўчыя прадпрыемствы непасрэдна звязаны з сельскай вытворчасцю.

У кнізе ўжо адзначалася, што здаўна славілася Горацкая зямля сваімі працавітымі жыхарамі, якія змаглі вывесці раён у лік вядучых сельскагаспадарчых раёнаў Беларусі.

Восем ураджэнцаў раёна – Г.Д. Каліва, А.К. Балабава, А.А. Анюхоўская, П.І. Афіцэраў, Р.В. Бельскі, Я.І. Галухін, Е.М. Гаўрыленка, І.І. Мельнік за дасягнутыя поспехі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці былі ўдастоены высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы, сотні працаўнікоў былі адзначаны іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі вядзецца ў 13 сельскагаспадарчых прадпрыемствах і ў 23 фермерскіх гаспадарках. У раёне працуюць 2 комплексы па адкорму буйной рагатай жывёлы і 2 свінагадоўчых комплексы.

Творчая праца дазволіла ў 2007 годзе забяспечыць у першыню ў гісторыі Горацкага раёна, вытворчасць больш за 105 тыс.тон зерня, атрымаць ураджайнасць зерня больш па 41,5 ц/га.

Па ўраджайнасці зерня ў 2006 годзе раён заняў першае месца ў вобласці і быў ўзнагароджаны Дыпломам 1 ступені.

Па выніках кормазагатовак у 2006 годзе Міністэрства сельскай гаспадаркі і нарыхтовак Рэспублікі Беларусь адзначыла раён Дыпломам і грашовай прэміяй ў памеры 30 млн. руб.

Героямі “ Дажынак”, што адбыліся ў 2006 годзе ў Бабруйску, сталі маладыя механізатары з вёскі Добрая Горацкага раёна Міхаіл і Руслан Еляневы, якія вярнуліся са свята з машынай “ Жыгулі”.

У 2006 годзе было атрымана больш за 54 тыс. тоны малака і сярэдні ўдой яго ад кожнай каровы ўпершыню за ўсю гісторыю раёна дасягнуў 5000 кг.

Па выніках 2006 года раён заняў першае месца ў Магілёўскай вобласці па вытворчасці і продажы малака і ўзна-

гароджаны Дыпломам I ступені Магілёўскага аблвыканкама

Значна вырасла і вытворчасць мяса. Яна дасягнула 8000 тон. Праца ў гэтым напрамку ў 2006 годзе таксама была адзначана Магілёўскім аблвыканкамам. Горацкі раён быў узнагароджаны дыпломам 2 ступені.

Валавы збор бульбы склаў 3618 т., гародніны –1053 т.

Дзве гаспадаркі раёна дасягнулі шасцітысячных надояў: РУП "Вучгас БДСГА" – 6286 кг, "Горацкая сортавыпрабавальная станцыя" – 6213.

У апошнія гады прыкметна стабілізавалася фінансавае становішча сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. У 2006 годзе рэнтабельнасць склала 20,5% супраць 4,9% ў 2004 годзе.

Прыкладам эфектыўнага вядзення гаспадаркі з'яўляецца калектыў РУП "Вучгас БДСГА", які нядаўна адзначыў 160 год з дня заснавання.

Рашэннем урада Рэспублікі Беларусь гэта гаспадарка ўключана ў лік 60-ці гаспадарак, перад якімі пастаўлена задача за 2-3 гады дасягнуць сусветнага ўзроўню вытворчасці.

Зараз у гаспадарцы 8900 га зямлі, валавая вытворчасць зерня ў межах 14-15 тыс.тон, колькасць буйной рагатай жывёлы – 6000 галоў.

У 2006 годзе надой малака дасягнуў 6000 кг ад адной каровы, а 9 даярак перасягнулі 7000-ы рубеж. 85% малака, што вырабляецца ў вучгасе, накіроўваецца ў Расію, дзе вядомая французкая фірма "Данон" вырабляе дэлікатэсы для маскоўскіх магазінаў. А гэта таму, што ў горацкім малацэ – 4,1% тлушчу, 3,5% бялку і адсутнічаюць антыбіётыкі.

У гаспадарцы актыўна вядзецца будаўніцтва новых дамоў для працаўнікоў, а цэнтральная сядзіба – вёска Паршына – атрымала статус аграгарадка.

У 2005 годзе вучгас занесены на Рэспубліканскую дошку гонару, а яго кіраўнік М.Р. Блахін узнагароджаны ордэнам Айчыны III ступені. Яго імя занесена ў кнігу Славы Магілёўскай вобласці. На "Дажынках-2007" у Рэчыцы М.Р.

Блахін атрымаў другое месца ў рэспубліцы ў намінацыі ”Руководители хозяйств”.

У 2005 годзе на ўборцы зерневых адразу восем механізатараў вучгаса ўбралі больш чым па адной тысячы тон зерня. Адзін з іх, Дзмітрый Цупраў, атрымаў на “Дажынках” у Валкавыску аўтамабіль.

Па выніках 2006 года вучгас стаў пераможцам абласнога спаборніцтва за дасягненне лепшых паказчыкаў на ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых і ўзнагароджаны Дыпломам 1 ступені і прэміяй у памеры 500 базавых велічынь.

Па выніках 2007 года на “Дажынках-2007” у намінацыі “Старшие комбайнеры, комбайнеры и водители” першае месца атрымаў вадзіцель вучгаса Л.М.Савінскі, другое месца ў С.М.Мініна, трэццяе – у старшага камбайнёра М.М.Хмуровіча.

Прыклад эфектыўнага вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці паказваюць СПК "Аўсянка", племзавод "Леніна", СЗАТ "Горы" і іншыя гаспадаркі.

## *ГОНАР НАШАГА ГОРАДА*



***Н***а факультэтах і аддзяленнях Беларускай ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі і ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскагаспадарчай акадэміі вучыцца больш 13,5 тысяч студэнтаў.

Узначальвае ВНУ доктар

сельскагаспадарчых навук, прафесар, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, акадэмік РАСГН, член-карэспандэнт НАН Беларусі А.Р.Цыганаў.

Каля цэнтральнага ўвахода на тэрыторыю акадэміі высяцца дзве калоны. Над імі надпіс: "Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія".На чыгунных узорных варотах герб – сноп жыта, акаймлёны вянком. Студэнты кажуць, што гэтыя вароты асаблівыя – увойдзеш, і не захочацца вяртацца назад, на ўсё жыццё прывяжуць яны сэрца да паху жыта, траў, да смаку яблыкаў, да зямлі, яе багаццяў і таямніц.

Ліпавая алея вядзе да бібліятэкі (кіраўнік Л.І. Кухарава). Побач з ёй на пастаменце, акружаным кветкамі, помнік У. І. Леніну.

Кніжны фонд бібліятэкі налічвае каля мільёна кніг, у тым ліку больш за 50 тысяч тамоў на замежных мовах. Сектар навукова-тэхнічнай інфармацыі сістэматычна арганізуе выставы чарговых паступленняў і бібліяграфічныя агляды, гутаркі, дыспуты, канферэнцыі, віктарыны і тэматычныя вечары. Бібліятэка мае філіялы ў вучэбных карпусах і інтэрнатах. Каля 1300 чалавек могуць адначасова працаваць у яе чытальных залах.

Побач з бібліятэкай – горка "Парнас". Так яе называюць таму, што, на думку некаторых літаратуразнаўцаў, вядомая беларуская паэма "Тарас на Парнасе" напісана ў Горках. Летам 1928 года тут чытаў свае вершы народны паэт Беларусі Янка Купала. На гэтым месцы ўстаноўлены мемарыяльны знак з выявай Я. Купалы.

З "Парнаса" горад як на далоні: стройная магістраль дарогі, акуратныя лініі высокіх дамоў. Паэтэса Н.Тулупава, якая працавала ў акадэмічнай газеце рэдактарам, пісала:

Ёсць мясціны, нібы Швейцарыя,
Ёсць мясціны, нібы Венецыя,
Залатыя пяскі Балгарыі,
Ганарыцца Алімпам Грэцыя,
А ў нас,
Не Алімп, а Парнас,

Тут вясёлыя людзі жывуць.
Студэнтамі іх завуць.

На "Парнас" любяць прыходзіць студэнцкія паэты. Тут нараджаюцца іх лепшыя радкі. У акадэміі працуе народнае аматарскае літаратурнае аб’яднанне “Парнас” (кіраўнік А.М. Пугач), якое праводзіць літаратурныя вечары і сустрэчы, перыядычна выпускае зборнікі твораў.

Недалёка ад "Парнаса" знаходзіцца чацвёрты вучэбны корпус. Пабудаваны яшчэ ў 1840 годзе і разбураны ў Вялікую Айчынную вайну, будынак адноўлены ў 1953 годзе. Цяпер гэты корпус –"візітная картка" акадэміі. Ён адлюстраваны на вокладках кніг, буклетах і значках, прысвечаных ВНУ. Зараз у корпусе знаходзіцца землеўпарадкавальны факультэт, кафедра рускай і беларускай моў. Працуе тут музей-кабінет М.Гарэцкага.

На корпусе ўсталяваны мемарыяльныя дошкі М.Гарэцкаму і вядомым вучоным акадэміі.

Побач размешчаны батанічны сад. Пышны ружоўнік, у калекцыі якога налічваецца звыш 100 сартоў руж. Радуюць вока экспазіцыі лекавых і аранжарэйных раслін.

Далей сцяжынка вядзе ў дэндралагічны парк – помнік прыроды рэспубліканскага значэння, любімае месца адпачынку студэнтаў акадэміі і працоўных Горак (кіраўнік Л.А.Кірыльчык). У парку расце каля 400 відаў дрэваў і кустоў, сярод якіх многа рэліктавых парод.

За дэндрарыем – спуск да Ніжняга возера. Далей – Верхняе возера, бярозавы гай, спартыўны гарадок: дзве спартыўныя залы, плавальны басейн, пляцоўкі для розных гульняў. На старты ўнутрыакадэмічнай спартакіяды, якая праводзіцца па 18 відах спорту, выходзяць студэнты ўсіх факультэтаў. Спаборніцтвы прысвячаюцца памятным датам: ваенізаваная эстафета ў гонар Дня Перамогі, турнір па ручному мячу на прыз двойчы Героя Савецкага Саюза І.І. Якубоўскага, спаборніцтвы па стральбе на прыз М. Маскалёвай (былой студэнткі акадэміі, якая гераічна загінула ў гады Вялікай Айчыннай вайны).

"Чаромушкі"– так называецца мікрараён, які вырас на палях за спартыўным корпусам. У пяці- і дзевяціпавярховых дамах і інтэрнатах жывуць супрацоўнікі і студэнты акадэміі. Побач – Палац культуры, Дом быту, дзіцячы садок, магазіны, пошта, кафэ " Сняжынка" і "Мара".

У Палацы культуры (кіраўнік А.М.Крывянкова) працуюць студыі, студэнцкія клубы, музей гісторыі акадэміі.

Вялікай папулярнасцю ў акадэміі карыстаюцца выступленні народнага тэатральна-мастацкага калектыву "Парадокс" ( кіраўнік А. М. Крывянкова). Калектыў з'яўляецца дыпламантам фестывалю студэнцкіх тэатральных калектываў, які адбыўся ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце, а на фестывалі студэнцкіх тэатральных калектываў у Віцебску быў удастоены дыплома "Гран-пры".

Ніводнае мерапрыемства ў акадэміі не абыходзіцца без народнай эстраднай студыі "Золак" (кіраўнік С.Ю.Патупчык), народнага духавога аркестра ( кіраўнік В. Р. Малочка). Штогод праводзяцца агляды мастацкай самадзейнасці факультэтаў і вакальна-інструментальных ансамбляў, конкурсы палітычнай песні, студэнцкая "юмарына".

За творчыя поспехі, плённую працу па прапагандзе культуры на сяле студэнцкаму ансамблю песні і танца "Радасць" прысвоена ганаровае званне народнага (кіраўнікі: Н.С .Гвоздзікава, Л.А.Чэпікава, С.В. Мяньшова).

Двойчы гэты калектыў удзельнічаў у канцэртах для дэлегатаў Сусветнага кангрэсу лугаводаў і XIII Міжнароднага кангрэсу па мінеральных угнаеннях у Маскве, і ўсюды "Радасці" спадарожнічаў нязменны поспех.

У апошнія гады калектыў запісаў у сваю творчую біяграфію шэраг новых светлых старонак. Ён стаў дыпламантам абласнога тура рэспубліканскага фестывалю студэнцкай мастацкай творчасці "Арт-вакацыя". Калектыў пастаянна ў творчым пошуку.

У цэнтры акадэмічнага гарадка знаходзіцца Рытуальная плошча. У дзень пасвячэння ў студэнты па традыцыі прыходзяць сюды першакурснікі, каб накіравацца ў краіну ведаў. Менавіта сюды, пасталелыя і акрылёныя, пазнаўшыя таямніцы навукі, выпускнікі вязуць успаміны аб

акадэміі, аб непаўторнай прыгажосці гарадка. У тыя дні над плошчай гучыць развітальная песня на словы паэтэсы Н.Тулупавай і былой студэнткі Л.Малашанкавай:

Сыплют золото парки
На ладони озёр.
Разлетаются парни,
Пусть парням повезёт.

Уезжают девчата,
Оставляя нам грусть,
Я к тебе, alma mater,
Звонкой песней вернусь.

Академия, моя белая птица,
Академия, будешь долго мне сниться.
Академия, буду сердцем к тебе я стремиться.

У 2007 годзе акадэміі споўнілася 167 гадоў. З невялікага земляробчага інстытута вырасла буйная вышэйшая сельскагаспадарчая навучальная ўстанова. За сваю гісторыю акадэмія падрыхтавала для аграпрамысловага комплексу і іншых галін народнай гаспадаркі больш за 72000 высокакваліфікаваных спецыялістаў. Яе выхаванцаў можна сустрэць ва ўсіх кутках Рэспублікі Беларусь і далёка за яе межамі. Усюды яны пацвярджаюць высокі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі, атрыманай у БДСГА. Многія з іх сталі вядомымі дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі, кіраўнікамі прадпрыемстваў і ўнеслі вялікі ўклад у развіццё народнай гаспадаркі краіны.

За выдатныя дасягненні, арганізатарскія здольнасці, прафесіяналізм у рабоце 22 выпускнікам акадэміі прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай працы, 16 – заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі, 59 – заслужанага работніка сельскай гаспадаркі.

Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія сёння – гэта як бы горад у горадзе. На тэрыторыі акадэмгарадка агульнай плошчай 50 га размешчаны 16 вучэбных карпусоў, дзе функцыянуе 61 кафедра, 58 вучэбных падраздзяленняў і навуковых лабараторый, камп’ютэрны цэнтр, 12 студэнцкіх інтэрнатаў. У склад акадэміі таксама ўваходзяць вучэбна-доследная гаспадарка, бібліятэка, Палац культуры, сталовая, батанічны

сад, вучэбны палігон, спорткомплекс, каскад вадаёмаў, біятэхналагічны цэнтр і інш.

У цяперашні час у акадэміі працуе больш за 2000 чалавек. Прафесарска-выкладчыцкі састаў налічвае звыш 600 чалавек, у тым ліку: акадэмікаў – 3, членаў-карэспандэнтаў НАН Беларусі – 3, дактароў навук (прафесараў) – 40, кандыдатаў навук (дацэнтаў) – 330.

Калектыў акадэміі ганарыцца такімі супрацоўнікамі, як: доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі БССР, вынаходнік СССР, член-карэспандэнт НАН Беларусі Г.І. Тарануха; доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь А.З. Латыпаў; доктар тэхнічных навук, прафесар, заслужаны работнік народнай адукацыі БССР М.Г. Голчанка; кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, заслужаны работнік народнай адукацыі БССР М.М. Дабралюбаў; кандыдат сельскагаспадарчых навук, прафесар,заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР Э.А. Пятровіч; кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь К.К. Курыловіч; кандыдат эканамічных навук, дацэнт, заслужаны работнік народнай адукацыі БССР Л.І.Сцешыц; кандыдат эканамічных навук, прафесар, заслужаны эканаміст БССР М.З.Фрэйдзін; лаўрэат дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар І.Р. Вільдфлуш; лаўрэат дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар С.П.Кукраш, дактары навук, прафесары: У.У.Быкаў, А.І.Гарбылёва, А.С.Добышаў,У.І.Жалязка, А.М.Карташэвіч, А.В.Клачкоў, П.В.Ковель, В.Ф.Калмыкоў, С.А.Канстанцінаў, П.М.Катуранаў, У.І.Кумачоў, С.У.Лазарэвіч, В.М.Ларкоў, Р.К. Лянькова, Р.Ф.Медвядзёў, Дз. І. Мельнічук, М.М.Мікалаеў, В.С.Абуховіч, Т.Ф.Персікава, У.Р. Петравец, П.У.Раравы, І.С.Серякоў, А.У.Салянік, В.А.Хітрук, М.В.Чайчыц, М.У.Шалак, А.А.Шэлюта.

Намаганні вучоных акадэміі сканцэнтраваны на рашэнні галоўнай задачы – забеспячэнне высокаякаснай падрыхтоўкі спецыялістаў для аграпрамысловага комп-

лексу краіны. Дзякуючы велізарнай працы прафесарска-выкладчыцкага саставу, акадэміяй за апошнія 5 гадоў выдана больш за 170 падручнікаў, навучальных дапаможнікаў і манаграфій. Большасць з навуковых адкрыццяў і вынаходніцтваў выкарыстоўваецца не толькі ў навучальным працэсе, а і ў аграпрамысловым комплексе краіны.

З гонарам можна сказаць, што большая частка прафесарска-выкладчыцкага саставу акадэміі ўдзельнічае ў выкананні розных навуковых праграм і праектаў Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі і Фонда фундаментальных даследаванняў.

Вучоныя акадэміі вядуць даследаванні па галоўных накірунках сучаснай аграрнай навукі. У эканоміцы – распрацоўка навуковай сістэмы рыначных адносін, фарміраванне шматукладнай эканомікі, ліквідацыя діспарытэту цэн, эфектыўнае функцыянаванне і рэфарміраванне АПК, яго структурных падраздзяленняў; у земляробстве – распрацоўка комплексных экалагічных і эканамічна абгрунтаваных сістэм земляробства на аснове біятэхналогіі, пашыранай вытворчасці ўрадлівасці глебы, энергазберагальных тэхналогій, селекцыі, новых высокаўраджайных гатункаў сельскагаспадарчых культур і сродкаў аховы раслін; у жывёлагадоўлі – распрацоўка і ўдасканальванне рэсурсазберагаючых і экалагічна бяспечных тэхналогій вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі, у тым ліку прадукцыі рыбагадоўлі, кармоў і кармлення сельскагаспадарчых жывёл, вывядзенні новых парод, біятэхналогіі трансплантацыі эмбрыёнаў у малочнай жывёлагадоўлі; у механізацыі – распрацоўка і ўдасканальванне тэхналагічных комплексаў машын і абсталявання для механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці; у галіне перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі – стварэнне канкурэнтназдольнай прадукцыі.

За апошнія гады вучонымі акадэміі створана 35 сартоў і гібрыдаў сельскагаспадарчых культур, распрацавана 97 відаў новага абсталявання (машын, рабочых органаў, пры-

бораў) і атрымана 432 аўтарскія пасведчанні і патэнты на вынаходніцтвы, у тым ліку за апошнія 10 гадоў – 102.

Вынікі навуковых даследаванняў маюць высокую актуальнасць і знаходзяць шырокае прымяненне ў гаспадарках рэспублікі.

Падрыхтоўка спецыялістаў на дзённым аддзяленні ажыццяўляецца з адрывам ад вытворчасці на 9 асноўных факультэтах па 26 спецыяльнасцях і спецыялізацыях.

Аграэкалагічны факультэт (кіраўнік Т.Ф. Персікава): аграхімія і глебазнаўства; ахова раслін і каранцін; плодаагародніцтва; экалогія сельскай гаспадаркі; дэкаратыўнае садаводства.

Агранамічны факультэт (кіраўнік А.А. Шэлюта): аграномія; вытворчасць, захоўванне і перапрацоўка прадукцыі раслінаводства; селекцыя і насенняводства; лугаводства.

Зааінжынерны факультэт (кіраўнік А.У. Салянік): заатэхнія; прамысловае рыбаводства; заатэхнія са спецыялізацыяй біятэхналогія і селекцыя; заатэхнія са спецыялізацыяй птушкагадоўля.

Факультэт механізацыі сельскай гаспадаркі (кіраўнік М.Л. Пархоменка): тэхнічнае забеспячэнне працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці; матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне аграпрамысловага комплексу; тэхнічнае забеспячэнне меліярацыйных і вода-гаспадарчых работ.

Меліяратыўна-будаўнічы факультэт (кіраўнік У.І. Жалязка): меліярацыя і водная гаспадарка; сельскае будаўніцтва і добраўпарадкаванне тэрыторый.

Землеўпарадкавальны факультэт (кіраўнік Т.У. Шулякова): землеўпарадкаванне; зямельны кадастр.

Эканамічны факультэт (кіраўнік А.М. Каган): эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве; сусветная эканоміка; эканамічная кібернетыка са спецыялізацыяй эканамічнае мадэляванне; аналіз і прагназаванне; дзелавое адміністраванне.

Факультэт бізнесу і права (кіраўнік Е. П. Каляснева): камерцыйная дзейнасць са спецыялізацыяй камерцыйная дзейнасць у аграпрамыс-ловым комплексе; маркетынг са

спецыялізацыяй марке-тынг у аграпрамысловым комплексе; правазнаўства са спецыялізацыяй прававое забеспячэнне бізнесу.

Факультэт бухгалтарскага ўліку (кіраўнік С.В. Гудкоў): бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт са спецыялізацыяй бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт у аграпрамысловым комплексе; фінансы і крэдыт са спецыялізацыяй фінансы ў аграпрамысловым комплексе.

Па бесперапыннай інтэгрыраванай сістэме прафесійнай адукацыі прыём абітурыентаў праводзіцца па наступных спецыяльнасцях і спецыялізацыях: аграномія; вытворчасць, захоўванне і перапрацоўка прадукцыі раслінаводства; плодаагароднцтва; заатэхнія; тэхнічнае забеспячэнне працэсаў сельскагаспадарчай вытворчасці; тэхнічнае забеспячэнне меліярацыйных і водагаспадарчых работ; меліярацыя і водная гаспадарка; эканоміка і кіраванне на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу; камерцыйная дзейнасць у аграпрамысловым комплексе; бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт у аграпрамысловым комплексе.

Для жадаючых ёсць магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю без адрыву ад вытворчасці на завочным аддзяленні па 16 спецыяльнасцях. Студэнты, якія маюць высокія паказчыкі ў вучобе, пасля заканчэння другога курса маюць магчымасць паралельна навучацца па другой спецыяльнасці на факультэтах завочнага аддзялення ці ў Вышэйшай школе аграбізнесу і атрымаць за час вучобы ў акадэміі два дыпломы. З 2004 года ў БДСГА пачалася падрыхтоўка магістраў.

БДСГА вядзе падрыхтоўку кадраў вышэйшай кваліфікацыі праз аспірантуру па 27 і дактарантуру па 15 спецыяльнасцях. У акадэміі працуе 4 Саветы па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый, на якіх штогод абараняецца каля 25 суіскальнікаў вучонай ступені.

Вялікую ўвагу акадэмія ўдзяляе і перападрыхтоўцы кадраў з ліку асоб з вышэйшай адукацыяй. Гэтую функцыю выконвае факультэт павышэння кваліфікацыі і перапад-

рыхтоўкі кадраў, Вышэйшая школа аграбізнесу і педагагічны факультэт.

Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія займае лідзіруючую пазіцыю ў рэспубліцы і па развіццю міжнародных сувязей, актыўна супрацоўнічаючы з вядучымі ВНУ Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША, Германіі, Бельгіі, Чэхіі, Расіі, Украіны і іншых краін.

У акадэміі вялікая ўвага ўдзяляецца прафесійнай падрыхтоўцы студэнтаў за мяжой. Студэнты выязджаюць у замежныя ВНУ на навучанне, на вытворча-азнаямленчыя практыкі і стажыроўкі ў Вялікабрытанію, Францыю, Германію, Швейцарыю і некаторыя іншыя краіны па такіх праграмах, як HOPS, CONCORDIA (Вялікабрытанія), Нямецкі Сялянскі Саюз, Баварскі Сялянскі Саюз, Дойла-Нінбург, Аграімпульс (Швейцарыя), LOGO, APOLLO, SESAME (Францыя) і іншыя.

На працягу шэрагу гадоў акадэмія займаецца не толькі арганізацыяй вытворчых практык і стажыровак за мяжой, але і прымае ў сябе студэнтаў-стажораў у летні перыяд. Так, за апошнія гады ў БДСГА пабывалі студэнты з Галандыі, Германіі, Францыі, Славакіі, Расіі, Швейцарыі, Бельгіі, Аўстрыі і Швецыі.

Актыўнае шматбаковае супрацоўніцтва вядзецца ў межах Міжнароднай Асацыяцыі студэнтаў сельскагаспадарчых спецыяльнасцей (IAAS), у якую ўваходзяць вышэйшыя навучальныя ўстановы больш чым з 40 краін свету (Заходняй і Усходняй Еўропы, Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі).

Акадэмія мае статут вядучай вну ў нацыянальнай сістэме адукацыі Рэспублікі Беларусь у галіне падрыхтоўкі кадраў для сельскай гаспадаркі, каардынуе вучэбна-метадычную і навукова-даследчую работу ў галіне аграрнай адукацыі.

БДСГА – адзіная вну у Беларусі, якая ў 2003 годзе прайшла паўторна атэстацыю Дзяржаўнай інспекцыі пры Міністэрстве адукацыі Расійскай Федэрацыі на права вядзення адукацыйнай дзейнасці ў сферы прафесійнай адукацыі.

За апошнія гады значна палепшыліся матэрыяльна-тэхнічная база акадэміі, умовы для адукацыі, навуковых даследаванняў, культурнага развіцця і адпачынку.

Калектыў акадэміі з надзеяй і аптымізмам глядзіць у будучыню.

## *Заключэнне*

Вось і завяршыўся наш расказ аб мінулым і сучасным горада Горкі.

А якімі яны бачацца ў будучым, напрыклад, у 2020 годзе?

Аб гэтым ішла размова на пасяджэнні Горацкага райвыканкама ў жніўні 2006 года, дзе абмяркоўваўся праект генплана Горак, падрыхтаваны спецыялістамі УП "БелНІІградабудаўніцтва".

Спецыялісты лічаць, што рост насельніцтва адбудзецца, але не значны і ў 2020 годзе ў Горках будзе жыць 35 тысяч жыхароў.

Да гэтага часу завершыцца будаўніцтва мікраараёнаў Будаўнікоў і Калініна. У раёне гарадскога стадыёна будуць пашыраны спартыўная і зялёная зоны.

Для сядзібнай забудовы асноўным мікрараёнам застанецца Галінка (ён знаходзіцца па дарозе на вёску Кацялёва). Мяркуецца, што прыватнае жыллё будзе будавацца і ў аршанскім накірунку, а дачны масіў увойдзе ў гарадскую мяжу. У кожным з існуючых мікрараёнаў прадугледжана будаўніцтва цэнтраў абслугоўвання насельніцтва.

Прамысловая зона застанецца ў раёне чыгуначнага вакзала, а ўздоўж усіх рэк і вадасховішчаў павінны быць прырода - ахоўныя зоны.

Праект прадугледжвае добраўпарадкаванне прыбярэжнай тэрыторыі Аршанскага вадасховішча і ўсіх вуліц горада.

Такім будзе заўтра нашага горада. А залог таму, што яно ажыццявіцца – самаадданая праца яго жыхароў.

## *Літаратура*

Аферовский А. Свет северного сияния. Минск, 1989.

Адрес-календарь и памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.

Акты литовской метрики. Т.1, в.1-2. Варшава, 1886–1899.

Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т.1-14. Вильна, 1867–1904.

Абецедарский Л.С. Белорусы в Москве XVII в.: Из истории русско-белорусских связей. Минск, 1957.

Бацькаўшчына. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Горкі, 1993.

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Спб., 1855.

Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918–1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т.1-2. Минск, 1968–1971.

Бучанов В.И. Крестьянские войны в России XVII-XVIII вв. Москва, 1976.

Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т.1-2. Минск, 1957.

Всенародное партизанское движение Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 – июль 1944): Документы и материалы. В 3 т. Минск,1967–1973.

Ганчарык М. Шлях ад пачатку стагоддзя. Успаміны. Минск, 2003.

Гудков Н.А. Краткий исторический очерк Горецких учебных заведений. Орша, 1890.

Еременко А.И. В начале войны. Москва,1964.

Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. Репринтное воспроизведение издания 1882 года. Минск,1993.

Индустриализация Белорусской ССР (1926–1941 гг.): Сб. документов и материалов. Минск,1975.

Каминский Н.В. Первые социалистические преобразования в Белоруссии (25 окт. 1917 – июль 1919 г.). Минск,1957.

Комитеты бедноты Белоруссии: Сб. документов и материалов. Минск, 1958.

Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Минск, 1974.

Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. . Минск, 1966.

Лившиц В.М. Горки. Историко-экономический очерк. Минск, 1984;

Лившиц В.М. Набор открыток. Автор текста. Москва.1986.

Лившиц В.М. Белорусская сельскохозяйственная академия. Минск., 1986 ( в соавт).

Лившиц В.М. Горки. Историко-экономический очерк. Минск., ; 2-ое изд., 1989.

Лившиц В.М. Белорусская сельскохозяйственная академи. 150 лет. Краткий очерк истории и деятельности. Минск.,1990 ( в соавт).

Лившиц В.М. Белорусская сельскохозяйственная академия – первое в России высшее сельскохозяйственное учебное заведение. Минск., 1990 ( в соавт).

Лившиц В.М. Белорусская сельскохозяйственная академи. Иллюстрированный буклет. Автор текста. Минск.,1990 ( в соавт).

Лившиц. В.М. Белорусская сельскохозяйственная академия. Памятники и памятные места. Минск, 1990 ( в соавт).

Ліўшыц У.М. Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей. Даведнік. Минск, 1991.

Лившиц В.М.Горки: фотоальбом. Минск., 1991 (автор текста).

Ліўшыц У.М. Раскопкі вакол Горацкага “Парнаса”. Метадычны матэрыял і парады ў дапамогу прапагандыстам кнігі. Магілеў, 1992 (в сааўт.)

Лившиц В.М. Горки и окрестности. Справочник-путеводитель. Орша, 1993.

Ліўшыц У.М. Горацкай зямлі адважныя сыны. Горкі, 1994.

Ліўшыц У.М. Ішло ў бяссмерце Горацкае гета. Горкі, 1995.

Ліўшыц У.М. Летапіс горада Горкі. Горкі, 1995.

Ліўшыц У.М. Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія. Мінск, 1995 (у сааўт.).

Ліўшыц У.М. Летапіс Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Горкі, 1995 (аўт.-скл.).

Лившиц В.М. Белорусская сельскохозяйственная академия. Иллюстрированный буклет. Автор текста. Минск,1995 ( в соавт).

Лившиц В.М. Жизнь, отданная книге. Горки, 1996 (в соавт.).

Ліўшыц У.М. Горкі. Беларуская энцыклапедыя. Т.3.Мінск, 1996.

Ліўшыц У.М. Горы-Горацкая земляробчая школа. Беларуская энцыклапедыя. Т.3. Мінск.

Ліўшыц У.М. Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Беларуская энцыклапедыя. Т.3.Мінск.

Лившиц В.М. Горецкие сельскохозяйственные учебные заведения (1836–1919 гг.). Горки, 1997 (в соавт.).

Ліўшыц. У.М. Літаратурны музей М.Гарэцкага. Кароткі даведнік.1997, Орша.

Лившиц В.М. Горецкий лесхоз. Краткий очерк истории и деятельности. Орша, 1997 (в соавт.).

Лившиц В.М. Горы. К 500-летию первого летописного упоминания. Горки, 1997 (в соавт.).

Лившиц В.М.Четырежды почётный. Горки,1997 (в соавт).

Ліўшыц У.М. Сын вескі. Кароткі нарыс аб жыцці і дзейнасці Васіля Каваля. Орша, 1998.

Лившиц В.М. Первый доктор истории. Горки,1999 ( в соавт).

Лившиц В.М. Тридцать пятый ректор академии. Горки,1999( в соавт).

Лившиц В.М. Герои Советского Союза – уроженцы Горецкого района. Орша, 1999.
Лившиц В.М. Горецкий лесхоз. Краткий очерк истории и деятельности. Орша, 1999 ( в соавт).
Ліўшыц У.М. Даследчык беларускай літаратуры. Орша, 1999.
Лившиц В.М. Горы-Горецкий земледельческий институт. Выдающиеся ученые и профессора. Горки, 1999. (в соавт.)
Лившиц В.М. Горецкий район: история и современность. Горки,1999.
Лившиц В.М. Верность земле. Горки, 1999 ( в соавт).
Лившиц В.М. Горки: история и современность ( к 55-летию освобождения района и г. Горки). Горки,1999.
Ліўшыц У.М. Навечна ў памяці народнай. Горкі, 2000 (у сааўт.).
Лившиц В.М. Летопись Белорусской госу-дарственной сельскохозяйственной академии. Горки, 2000 (авт.-сост.).
Ліўшыц У.М. Раскопкі вакол Горацкага “Парнаса”. Горкі, 2001.
Лившиц В.М.. Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. Горки, 2001. (в соавт).
Лившиц В.М. Кафедра механизации животноводства и электрофикации сельскохозяйственного производства( к 50-летию со дня основания). Горки, 2001 ( в соавт).
Лившиц В.М.Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. Научно-педагогические школы и основные направления научных исследований. Горки, 2001 ( в соавт).
Лившиц В.М. Выдающийся агрохимик Беларуси.Горки, 2003 (в соавт).
Лившиц В.М.Возвращённые из небытия.Горки,2000 ( в соавт).
Лившиц В.М. Инновационные разработки учёных Белорусской государственной сельскохозяйственной академии. Могилёв, 2005 ( в соавт).
Лившиц В.М. История в биографиях. Могилёв, 2005. (в соавт).

Лившиц В.М. Летопись Белорусской государственной сельскохозяйственной академии. Горки, 2005(авт.-сост.).

Ліўшыц У.М. Горкі. // Вялікае княства Літоўскае. Энцыклапедыя ў двух тамах. Т.1.Мінск, 2005.

Лившиц В.М. Открытое акционерное общество ”Горкилён». Горки,2006( в соавт).

Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. Минск, 1974.

Недавец.А. Магілёшчына. Назвы населенных пунктаў паводле легендаў і паданняў.Мінск, 2002.

Памяць. Горацкі раён. Минск, 1996.

Первая русская революция и ее историческое значение: Сб. документов и материалов. Моск-ва,1975.

Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941–1944. Минск, 1965.

Поболь Л.Д. Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников). Минск, 1974.

Разгон Л. Позавчера и сегодня. Тель-Авив – Москва, 1995.

Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль – декабрь 1920): Сб. документов и материалов. Минск, 1957.

Стельмашонок И.М. Освобождение Горецкого района в годы Великой Отечественной войны (сентябрь 1943 – июнь 1944 гг.). Горки, 1994.

Стельмашонок И.М. Защищая Родину (Из истории Горецкого антифашистского подполья и партизанского движения, участия воинов-земляков в борьбе с немецко-фашистскими захватчиками). Горки, 1995.

Столпянский Н. Девять губерний Западно-Русского края в топографическом, географическом, статистическом, экономическом, этнографическом и историческом отношениях. Спб, 1866.

Цытовіч С. 1863 год у Горы-Горках быўш. Магілеўскай губ. (Падзеі паўстання). Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук, 1929. Мінск, Кн.8. Т.3.

Цитович С. Горы-Горецкий земледельческий институт – первая в России высшая сельскохозяйственная школа. Горки, 1960.
Чарняўская Л. Гісторыка-культурная каштоўнасць – комплекс Беларуская дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. Мінск, 2004 ( рукапіс).
Штыхов Г.В. Археологическая карта Белоруссии. В 2 ч. Минск, 1971.

## ГАЗЕТЫ

Могилевские губернские ведомости – 1863-1917 гг.
Горецкий вестник –1917-1918 гг.
Луч Интернационала – 1919-1920 гг.
Магілёўская праўда –1945-2007 гг.
Ленінскі шлях –1930-2007 гг.

## АРХІВЫ

Дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў Расійскай Федарацыі.
Дзяржаўны гістарычны архіў Расійскай Федарацыі.
Дзяржаўны гістарычны ваенна-марскі архіў Расійскай Федарацыі (Санкт-Пецярбург).
Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы.
Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.
Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці.
Архіў грамадскіх арганізацый Магілёўскай вобласці.

# ЗМЕСТ




**Республика Беларусь, Могилёвская обл.,**
**213410 г. Горки, ул. Иванова, д.3.**
**Тел. / факс (02233) 5-59-91, 5-65-55, 5-70-74**
**Web: www.remkom.by**
**E-mail: remkom@mogilev.by**
**Филиалы: г. Минск (тел. 017 201-98-98)**
**г. Лида (тел. 01561 4-52-35).**

ООО «Ремком» - разработчик и производитель комплекса машин для защиты растений

## ПОЛЕВЫЕ ОПРЫСКИВАТЕЛИ СЕРИИ ОП-2500 (ТУ BY 790090821.003–2007)



| | |
|---|---|
| **ОП-2500-12К** | штанга гидрофицированная–12м<br>насос – 120 л/мин<br>производительность – до 14,4 га/ч |
| **ОП-2500-18К** | штанга гидрофицированная –18м<br>насос – 160 л/мин<br>производительность - до 21,6 га/ч |

В состав базовой комплектации входят: компьютерная система автоматического поддержания постоянной нормы внесения рабочей жидкости, бак для промывки системы 120-300 л, пневматическая тормозная система и стояночный тормоз, системы самозаправки пестицидом и водой.

## САДОВЫЕ ОПРЫСКИВАТЕЛИ СЕРИИ ОВС (ТУ BY 790090821.002–2007)



| | |
|---|---|
| **ОВС-600** | **ОВС-1500** |
| **ОВС-600К** | **ОВС-1500К** |
| **ОВС-600С** | **ОВС-1500С** |

В дополнительную комплектацию входит гербицидная штанга для обработки приствольных полос.



Опрыскиватели могут комплектоваться обычной вентиляторной приставкой, а также вентиляторными приставками типа «Полуколонна» и «Спрут».

## ОПРЫСКИВАТЕЛИ СЕРИИ ОТТ ДЛЯ ТЕПЛИЦ (ТУ BY 790090821.001–2007)



| | | |
|---|---|---|
| **ОТТ-400** | бак 400 л | Производительность насоса - 35 л/мин,<br>Рабочее давление - до 4,0 MPa |
| **ОТТ-400К2** | | |
| **ОТТ-120** | бак 120 л | |

Комплектуется пистолетами различных типов и размеров.

## ПРОТРАВЛИВАТЕЛЬ СЕМЯН ПС-20 (ТУ BY 790090821.004–2007)

Протравливатель камерного типа, производительностью до 20 т/ч на пшенице.

- два автоматических режима управления технологическим процессом;
- патентованная система распыла жидкости;
- электропривод и дистанционное управление самоходом и поворотом колес.



Гарантийное и послегарантийное обслуживание!
Бесплатные консультации и научное сопровождение!

Навукова-папулярнае выданне

**Ліўшыц Уладзімір Маісеевіч**

Горкі: старонкі гісторыі




Здадзена ў набор 10. 01.2007. Падпісана ў друк 1.07.2007.
Фармат 60/84 1/16. Выд. друк. 15,3 Друк. акр. 18,48
Заказ 130 Тыраж 550 экз.

Выдавецкае ТАА " Красико-принт". ЛВ № 02330/0133049 от 30.04.2004г. 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, д.15,кв.1

Надрукавана на участку капіравальна-множыльнай тэхнікі паліграфічнага цэнтра «Печатник» ІП Лабанаў С. В.
213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, пр-т Інтэрнацыянальны, 7а, к.12.
Пасв. № 790325245 ад 14 чэрвеня 2006 г. выдадзена Горацкім РВК.